

# Маладосць

9

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(682) ВЕРАСЕНЬ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 12.09.2010. Фармат 84×108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,18. Тыраж 2411 экз. Заказ 2349.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# АМАЛЬ ДЗЁННІКАВАЯ СТАРОНКА

*У нашым часопісе неаднойчы друкаваліся «Дзённікі...» пісьменнікаў, у якіх чыталася штодзённае жыццё з усім тым, што адбывалася, вядома ж, з адпаведным каментарыем і сваім бачаннем жыцця, падзей, ды і творчага люду таксама.*

*Асабіста я ніколі нічога не запісвала ў дзённік — што называецца, усё ў памяці, адкуль, калі нешта трэба, возьмеш і дастанеш!*

*Вось і ў гэтым нумары вельмі карціць згадаць Навума Зіноўевіча Кісліка, і не толькі таму, што ў верасні юбілейная дата яго Дня нараджэння. Помню, калісьці вельмі даўно нехта з маскоўскіх літаратараў запытаўся: «Ну, а хто ж вас, беларусаў, у Беларусі перакладае?» І, калі ў сваім пераліку я дайшла да імя Навума Кісліка, ён міжволі ўскрыкнуў: «О-о, дык Кіслік жа ўваходзіць ці не ў дзясятку лепшых расійскіх паэтаў!» Тая дзясятка на той час магла складацца з Юрыя Левітанскага, Давіда Самойлава, Аляксандра Межырава, Мікалая Старшынава, Яўгена Вінакурава... І гэта ўсё былі імёны! Але я пра Навума Зіноўевіча... Ён жыў у Мінску, пісаў і выдаваў кнігі сваіх цудоўных вершаў, а жыў, у прынцыпе, жыццём нашай беларускай літаратуры з шанаваннем і павагай да яе. Зусім нядаўна, згадваючы ў размове будучы юбілей Уладзіміра Караткевіча, я была нават здзіўлена. Аказваецца, «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» на рускую мову пераклаў Навум Кіслік, як і «Людзі на балоце» Івана Мележа, як і многія аповесці Аляксея Карпюка, а калі ўзяць паэзію, дык і не пералічыць імёнаў... Ён пераклаў і выдаў томік вершаў Янкі Купалы, перакладаў творы Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. А таксама і сваіх сучаснікаў: Рыгора Барадуліна, Пімена Панчанкі, Сяргея Дзяргая, Аляксея Пысіна, Міхася Стральцова і іншых. Гэтыя яго пераклады склалі кнігу беларускай паэзіі «Спелый бор». Які вобраз! Бор — нешта вельмі магутнае... Многія беларускія творцы ўдзячныя Навуму Кісліку і шануюць яго імя ў сваёй памяці. Я таксама пішу гэтыя радкі з удзячнасцю за любоў да нашай літаратуры і плённую працу дзеля яе.*

*І яшчэ пра адно імя. У верасні мог бы адзначыць сваё васьмідзесяцігоддзе Віктар Браніслававіч Дайліда, які прыйшоў у наша прыгожае пісьменства ў 1953 годзе і пісаў пераважна для дзяцей. Гэта і не дзіўна, ён не адзін год аддаў школе, працуючы і настаўнікам, і дырэктарам. А з 1973 года ці не дзесяць гадоў працаваў намеснікам дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР. Гэта якраз тая няпростая дзялянка, якой нам цяпер так не стае! Мы яшчэ не навучыліся сучаснаму менеджменту, да таго ж, каб нешта прапагандаваць, гэтае нешта трэба вельмі і вельмі любіць. Маючы свае кнігі: «Была вайна», «Пяро дзікай качкі», «Буслы над вёскай», «Сустрэча з маленствам», — Віктар Браніслававіч прапагандаваў творчасць іншых, добра ведаў творы выключна ўсіх пісьменнікаў і, магчыма, ахвяруючы чымсьці сваім, здабываў шырокую дарогу для нашай літаратуры, рэкламуючы яе ад школы да рабочага калектыву самых розных прадпрыемстваў. У любові да нечага заўжды ёсць працяг... І вось ужо дачка Віктара Браніслававіча Лада Віктараўна Алейнік — вядомы беларускі крытык — сваімі артыкуламі цярэбіць шлях для нашай літаратуры. Іншымі словамі, імкнецца раскрыць і паказаць чытачу ўсю адметнасць і прыгажосць нашага прыўкраснага беларускага мастацкага Слова.*

*Пішу гэты свой невялічкі допіс, міжволі думаючы пра тое, што наперадзе Свята беларускага пісьменства, але падзяліцца ўражаннямі пра яго, як і пра Маскоўскую міжнародную кніжную выстаўку-ярмарку, якая адбылася на пачатку верасня, ужо давядзецца ў наступным нумары.*

*Як вядома, «Маладосць» — часопіс не толькі для маладых, хаця кожнае імя адкрываецца ў ім з маладосці. І потым ужо нашы аўтары застаюцца ў часопісе надоўга. Неаднойчы на яго старонках друкавалі свае творы адметны празаік Іван Стадольнік і тонкі лірык, паэт Іван Карэнда. Сёлетні верасень для іх — месяц юбілейны.*

*Рэдакцыя «Маладосці» сардэчна віншуе Івана Канстанцінавіча Стадольніка і Івана Арсеньевіча Карэнду з высокімі юбілеямі, жадае здароўя і новых творчых здабыткаў.*

*З пачуццямі павагі
і сардэчнасці—* Ф. Баравікова



*Алесь Вярцейка нарадзіўся ў 1991 годзе ў г. Слаўгарадзе Магілёўскай вобласці. Скончыў Слаўгарадскую сярэднюю школу № 1, цяпер — студэнт філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва». У «Маладосці» — упершыню.*

Алесь ВЯРЦЕЙКА

# «МЫ ЗРАЗУМЕЛІ МАЎЧАННЕ...»

* * *

Дождж — стыхія, раўназначная маёй існасці:
сённяшнія думкі, настрой, характар —
дождж, які лагодна ахінуў Зямлю ў
гэты шэры восеньскі дзень.
Я ж — малое дзіця гэтага вялікага
свету, лаўлю яго буйнакаліберныя
пацалункі, у зняможлівай смазе
раскрыўшы рот.

* * *

Ты маўчала,
І я маўчаў…
Мы чагосьці з табою чакалі,
Ты жадала,
І я жадаў…
Нашы думкі кудысь адляталі,
Ды сустрэліся дзесьці там —
У высозных блакітных нябёсах
Ля святых пазалочаных брам.
Ты маўчала,
І я маўчаў…
Але мы зразумелі маўчанне.
Дзве душы зноў зліліся ў адну
Пасля доўгага развітання.

* * *

Халодна ў маёй душы,
Ды ў гэтай сцюдзёнай цішы
Хутка агонь запалае,
Зашуміць, зайскрыць, зайграе!

* * *

адзінота
дурнота
брыдота
рэчаіснасць
кастрычнік
слота
закавулкі
развагі
маркота
хто ты?

* * *

Кожны крышачку
ў душы філосаф,
Кожны кропельку ў душы паэт,
І ў часы душэўнага імпэту
Ён перамагчы гатовы свет.

* * *

У гэтым дужа дзіўным ранку
Сентыментальнасць абуджае
Ментальна радаснай надзеяй
І верай: будзе шмат падзеяў,
Хай і банальных, але смешных,
Напэўна, крышачку вясёлых,
І, мусіць, зноў твая усмешка
Сарвецца з вуснаў, як заўсёды.

* * *

Маё каханне —
не захапленне,
Не часова...
Маё каханне —
гэта здарэнне
Напажыццёва...
Маё каханне — гэта пакуты
Зняволенага, што ў кайданы закуты,
Знясіленага, што прайшоў дарогу —
Прыпаў да роднага парогу.
Маё каханне —
маё шчасце,
Я задыхаюся ад страсці
І ў тую ж хвілю ажываю.
Які я скарб у свеце маю!
Маё каханне —
маё сонца,
Што зазірнула мне ў аконца,
Паціху ранак абуджае
У цёплым і пяшчотным маі.
Маё каханне —
не захапленне,
Не часова...
Маё каханне —
выключэнне
Напажыццёва...





Вольга Саковіч
нарадзілася
ў вёсцы Індрубка
Астравецкага раёна
Гродзенскай вобласці.
Скончыла Гродзенскі
дзяржаўны ўніверсітэт
імя Я. Купалы,
магістратуру Акадэміі
паслядыпломнай
адукацыі ў Мінску.
Цяпер выкладае беларускую
мову і літаратуру
ў гімназіі № 1
г. п. Астравец.
Друкавалася
ў раённай газеце
«Астравецкая праўда»,
«Настаўніцкай газеце».
У «Маладосці» —
упершыню.

Вольга САКОВІЧ

# ПАДАРЫ МНЕ ПАХІ ТРАВЫ…

## *Апавяданне*

*Летняя ноч* — цудоўная і непаўторная. Шчымліва-салодка пахне трава — халаднаватая на дотык, пакрытая кропелькамі расы. Звонка стракочуць у начной цішыні нябачныя конікі, абвяшчаючы на заўтра такі ж самы спякотны дзень, які быў сёння. Ціха шапочуць на дрэвах лісточкі, і іх размову падслухоўвае толькі цёмна-сіняе таямнічае неба, на якім рассыпаны маленькія бліскучыя зоркі.

Алёна ішла па роднай вёсцы і нібы ўбірала ў сябе і салодкі водар кветак і траў, што даносіўся з садоў і агародчыкаў, і свежае, халаднаватае паветра. Аглядала знаёмыя дамы і радавалася, калі бачыла, што многія пабудовы пафарбаваны па-новаму, па-гаспадарску дагледжаны, засмучалася, калі перад вачыма ўзнікалі закінутыя будынкі з зарослымі дзядоўнікам і крапівой дварамі.

Дзесяць год яна не была тут. Дзесяць год прайшло з таго часу, калі яе бацькі прадалі ў вёсцы дом і купілі кватэру ў горадзе. Яна, магчыма, больш ніколі і не вярнулася б сюды, калі б не вяселле Андрэя.

Алёна разумела: ёй не трэба было прыязджаць. Ад яе прысутнасці ўсё роўна нічога не зменіцца, а тое, што яна будзе бачыць, выкліча шмат непатрэбных перажыванняў.

Але гэта была адзіная магчымасць убачыць Андрэя — чалавека, якога кахала, да каго хадзіла на спатканні і які таксама не быў да яе абыякавы.

Гэта была адзіная магчымасць зноў убачыць родны дом, у якім прайшлі яе дзяцінства і першыя гады юнацтва, і нібы перажыць яшчэ раз хвалюючыя моманты мінулага.

Гэта была адзіная магчымасць паспрабаваць зразумець, чаму Андрэй парваў з ёй адносіны без усякіх тлумачэнняў.

Бацькі хлопца сябравалі з бацькамі Алёны і не маглі не запрасіць іх на вяселле сына. Алёну ніхто не прымушаў ехаць, але яна зрабіла свой выбар і таксама прыехала.

У вясельнай мітусні, сярод шумнага натоўпу гасцей Алёна старалася трымацца непрыкметна. Выконвала, як і ўсе, тое, што патрабавалася рабіць згодна з традыцыямі. Не давала волю сваім адчуванням, калі глядзела на Андрэя. І толькі цяпер, калі моладзь і старэйшыя людзі

павыходзілі на двор, каб патанцаваць, яна захацела пабыць адна і пайшла да свайго былога роднага дома…

Яшчэ здалёк убачыла стары высокі ясень з пышнай раскідзістай кронаю, які рос у самым пачатку двара і заўсёды густа высцілаў яго сваім лісцем. Яна і бабуля часта падмяталі сцяжынку, што вяла да дому, але назаўтра новая лістота зноў ляжала на зямлі.

Спынілася каля пазелянелага ад часу плоту, які даўно ніхто не фарбаваў і не мяняў. Балюча сціснулася сэрца, калі ўбачыла, што жоўтая фарба на аканіцах хаты і зялёная на сценах выцвілі і нават дзе-нідзе аблупіліся. Відаць, новыя гаспадары былі не вельмі дбайнымі і адносіліся абыякава да знешняга выгляду будынка.

Шырокі двор падаўся пустым і непрыветным. За ім былі бачны чорныя абрысы саду, у якім некалі расло шмат яблынь, вішань, сліў, а каля драўлянага плота разрасліся кусты чырвоных парэчак, кісла-салодкага агрэсту, духмянай маліны. Адразу за агароджай вілася сцяжынка, схаваная між густой высокай травы, і Алёна хадзіла па ёй да рэчкі, дзе найчасцей і сустракалася з Андрэем…

На поўныя грудзі яна ўдыхнула пахі свежай зеляніны, вільготнай зямлі і нібы перанеслася ў той далёкі, але не забыты час, калі была яшчэ шаснаццацігадовай дзяўчынай…

*Алёна стаяла на скошанай траве, адчуваючы пяшчоту і цеплыню нагрэтых за дзень тонкіх зялёных сцяблінак, удыхаючы непаўторны пах летняга лугу.*

*Вёска амаль уся была схавана ў густой зяляніне, і толькі дзе-нідзе з яе выглядвалі дахі хат. Пад схіленымі галінамі вербаў працякала вузкая рачулка, берагі якой зараслі аерам. Удалечыні была бачна палявая дарога, што бегла каля залацістага жыта да самага лесу. А вакол рассцілалася шырокая сенажаць, і глядзела на зямлю цёплае блакітнае неба, і грэла твар, рукі доўгачаканае летняе сонца…*

*Алёна назбірала невялікі букет духмяных лугавых кветак: з яго выглядвалі белыя пялёсткі і жоўтыя вочкі рамонкаў, пяшчотныя сінія кветачкі васількоў, бэзавыя далікатныя галоўкі званочкаў. Ёй хацелася паставіць букет у сваім пакоі, каб разам з ім нібы ўзяць з сабой кавалачак летняга лугу і захаваць гэту прыгажосць як найдаўжэй.*

*І сама трава, напоеная зямнымі сокамі, шчодра абагрэтая сонцам, аддавала навакольнаму свету свой водар, і ад яго сэрца Алёны замірала ў прадчуванні чагосьці шчаслівага, што яшчэ адбудзецца наперадзе…*

*Па сцяжынцы, якая спускалася ад Алёнінай хаты ўніз, да рэчкі, ішоў Андрэй. І, як заўсёды, калі дзяўчына бачыла высокую хударлявую постаць хлопца, назірала за яго хуткай хадой, душа быццам напоўнілася цяплом.*

*— Я так і ведаў, што знайду цябе тут! — усміхнуўся Андрэй, падышоўшы. Яго ўсмешка, здаецца, была такой светлай, добрай, што Алёна адчула ўдзячнасць да хлопца.*

*— Люблю летам пабыць на лузе, — вясёлыя іскрынкі ў вачах Алёны паказвалі, што яна рада і гэтай нечаканай сустрэчы не ў акружэнні людзей, і размове з Андрэем. — Люблю памарыць, палюбавацца прыродай… А ты?*

*— Я таксама, — адказаў ён з усё той жа ўсмешкай, але дзяўчына з горыччу адзначыла, што ў гэтай усмешцы мільганула на момант паблажлівасць. — А пра што ты марыш?*

*— Пра будучыню, — у гэтым кароткім слове Алёна аб'яднала ўсе свае думкі, якія хвалявалі яе ў апошні час. Але яна не хацела поўнасцю раскрываць іх нават перад каханым чалавекам. — Думаю аб тым, як буду вучыцца ва ўніверсітэце. Адчуваю сябе шчаслівай, што паступіла туды, вытрымала экзамены, але і сумна ад таго, што прыходзіцца развітвацца са сваімі школьнымі сябрамі, дзяцінствам…*

*— Так, — Андрэй уважліва глядзеў на яе. — Але я лічу, што гэты перыяд нашага жыцця ўжо закончыўся. У нас пачынаецца новы, у якім будзе многа цікавага і жаданага. Ды, магчыма, ты яшчэ вернешся ў родную школу, толькі ўжо ў якасці настаўніцы.*

*— А ты... хацеў бы прыехаць сюды на працу ўрачом? — нясмела спытала Алёна.*

*Андрэй адказаў не адразу:*

*— Не ведаю...*

*І яны замоўклі, з раптоўна ўзніклай трывогай адчуваючы, што надыходзіць час, калі іх жыццёвыя шляхі разыходзяцца, і невядома, ці злучацца яны зноў... Усё ўскладнялася яшчэ і тым, што ехаць вучыцца ім трэба было ў розныя гарады.*

*— Будзем перапісвацца, прыязджаць адно да аднаго, — усміхнулася Алёна. Ёй хацелася верыць у каханне Андрэя, у непадобнасць яго да іншых маладых людзей.*

*Андрэй таксама, відаць, зразумеў гэты давер, яе шчырую адданасць, і ў позірку яго была цеплыня. Ён абняў дзяўчыну, прытуліў да сябе. Цяпер яна не бачыла яго вачэй, твару, але адчувала гарачыню грудзей, дужасць рук...*

*Лёгкі ветрык наляцеў аднекуль з-за густога жыта, прыўзняў яе светлыя валасы, ціха зноў апусціў на плечы...*

*Букет лугавых красак дзяўчына асцярожна трымала ў руцэ, баючыся пашкодзіць хоць адну кветачку, прынесці яе надламанай дадому... Твар Алёны быў прыхінуты да пляча Андрэя, і ёй хацелася стаяць так доўга-доўга, каб ніякая сіла не змагла раз'яднаць іх, каб яны заўсёды заставаліся разам...*

*Андрэй пяшчотна гладзіў яе мяккія, тонкія валасы, туліў за худзенькія плечы, цалаваў вочы, вусны, і Алёне здавалася, што ўвесь свет вакол не існуе. Былі толькі Яна і Ён, і на высокім васільковым небе горача пякло паўдзённае летняе сонца, і кружыў галаву дурманлівы пах разагрэтай на сонцы зеляніны...*

...Алёна ледзь-ледзь усміхаецца сваім успамінам. Сумна і нават крыху іранічна. Што яна ведала тады, наіўная дзяўчынка? Пра Андрэя? Пра тое, што чакае іх наперадзе? Цяпер, калі з таго шчаслівага лета прайшло столькі гадоў, у яе душы ўсё перагарэла, а з памяці Андрэя, напэўна, даўно сцерліся ўсе іх сустрэчы.

Ёй трэба вяртацца назад, да гасцей.

Яна ж моцная, усё вытрымае... І блізкае цяпло цёмна-карых вачэй Андрэя, якое, здаецца, выпальвае, выпаліць сэрца... І знаёмую мяккасць у родным усмешлівым голасе, якая ці патрэбна — той, іншай дзяўчыне?

Алёна была адна тут, сярод маўклівай пустой вуліцы, і ведала, што і гэта густая халодная цемра, і халодная застылая цішыня быццам адгароджваюць яе ад таго рэальнага свету, у які ёй трэба было вярнуцца.

Апошні раз яна кінула позірк на чорныя абрысы вясковых хат, што затоенай нерухомай сцяной выступалі з начы, зноў надоўга затрымала яго на доме, дзе жыла калісьці...

Ёй так хацелася расчыніць знаёмыя драўляныя веснічкі, ступіць на родны бацькоўскі двор — як раней... Але сцішана пазіралі на яе цьмяныя, невідушчыя вачніцы акон, і маўкліваю стаяла яблыня ў самым кутку двара — як некалі, адна, хоць за гэты час вырасла, налілася сілаю і выцягнула свае тонкія галіны далёка-далёка ў неба. Алёна памятала, як вясною яны раскідвалі па зямлі ружаватыя гронкі пялёсткаў, а восенню сыпалі дажджом круглых чырванашчокіх яблыкаў. Побач, у маленькім гародчыку, заўсёды расцвіталі аранжавыя лілеі, і яна любіла прыходзіць туды, каб дакрануцца рукою да халаднаватае зямлі, каб астудзіць разгарачаныя ад работы далоні...

Колькі разоў Алёна сніла іх — гэты дом, гэтую яблыню, гэтыя лілеі? А таксама цёмна-карыя вочы, што глядзелі ўсмешліва, цёпла, што былі зусім-зусім блізка, проста над ёю?

Яна прыпадымалася і сама, здаецца, цягнулася, выцягвалася насустрач ім… І абуджалася — рэзка, раптоўна, задыхнуўшыся цемрай, якая паглынала яе твар…

Была толькі ноч. І слёзы на твары — нечаканыя, нежаданыя… І ўспаміны аб ім, аб Андрэю…

Чаму ў яе памяці заставаўся жыць Ён, нават праз дзесяць гадоў? Чаму не сціхаў гэты боль, сціснуты ў ёй, як камень? Каб выпякаць, выпячы душу тым, што было… І што магло б быць…

Хіба вінавата яна сама, што разам з бацькамі пераехала ў горад, пакінуўшы тут Андрэя са спадзяваннем: ён павінен яе разумець, павінен кахаць, нягледзячы на расстанне?

Андрэй сапраўды прыязджаў у першы год пасля пераезду Алёны ў горад, гаварыў з ёю, як і раней, усё больш і больш прыцягваючы яе сэрца, абпальваючы кожным кінутым позіркам і кожным словам.

Алёне не падабаўся ніхто з тых юнакоў-студэнтаў, з якімі яна разам хадзіла на лекцыі, або з ліку іншых хлопцаў, якія сустракаліся ў яе жыцці. Можа, таму, што адчувала толькі ў ім, Андрэю, дабрыню, якую лічыла найважнейшай каштоўнасцю.

Потым іх сустрэчы сталі рэдкімі і зусім абарваліся. Алёна даведалася ад сваякоў, што ў Андрэя ёсць іншая дзяўчына, з таго ж медыцынскага ўніверсітэта, дзе вучыўся ён.

І не паехала, не напісала ліста, не патэлефанавала — не зрабіла нічога, каб узнавіць адносіны. Вырашыла: калі яна Андрэю не патрэбна — не варта прыніжацца перад ім. Моўчкі перажывала, калі ёй паведамілі, што будзе вяселле і бацькі Андрэя запрашаюць на яго прыехаць.

Пасля гэтага ёй здавалася: яна павольна, раздумліва выціснула са свайго сэрца сабраныя ў ім пачуцці да хлопца. Там цяпер — пустата. Але варта было ўспомніць усё, што адбывалася некалі паміж ёй і Андрэем, — і хацелася яшчэ раз убачыцца з ім, хацелася адрадзіць хаця б маленькую кропельку былых пачуццяў да яе…

Алёна глянула на дом Андрэя — туды, дзе начная цемра была ярка асветлена агнямі. Павярнулася і павольна, адчуваючы, што яшчэ больш пачынае хвалявацца, пайшла ў той бок.

Вялікі двор з упрыгожанай бярозкамі і кветкамі брамай аглушыў Алёну гукамі музыкі, гоманам людзей, і яна адразу адчула сябе не вельмі ўтульна пад цікаўнымі позіркамі. Убачыла, як праз парог Андрэевай хаты пераступае іх былая суседка, цётка Вера. Час непапраўна змяніў аблічча гэтай жанчыны: яна яшчэ больш згорбілася, ішла вельмі павольна, ужо абапіраючыся на кій. Але яе постаць у белай хустцы падалася Алёне такой знаёмай, такой блізкай у адрозненне ад іншых людзей, што яна паспяшалася старой жанчыне насустрач.

Выцвілыя, стомленыя вочы цёткі Веры глянулі на яе з дабрынёй.

— Можа, дапамагчы вам? — павітаўшыся, спытала Алёна і паказала рукой на пакунак, які несла жанчына.

— Дзякую, дзетачка, я сама данясу.

Цётка Вера прыгледзелася да Алёны, быццам хочучы зразумець, хто яна.

— Нешта не пазнаю цябе. Мусіць, прыехала аднекуль?

— Не пазнаяце? — усміхнулася Алёна. — А памятаеце, каля вас некалі жыла сям’я Лясніцкіх? Мы потым пераехалі ў Гродна.

Цётка Вера задумалася, відаць, успамінаючы, а затым яшчэ не вельмі ўпэўнена спытала:

— Дык ты, мусіць, Алёна, дачка Марыны?

— Так! — узрадавалася дзяўчына, што іх былая суседка не забылася пра яе.

— Стала зусім дарослай, — больш уважліва разглядаючы Алёну, сказала цётка Вера. — Дзе ж цябе пазнаеш адразу?

Алёна была згодна: сапраўды, цяжка было пазнаць у ёй, цяперашняй дзяўчыне з прыгожа ўкладзенымі светлымі валасамі, у строгім блакітным касцюме, былую суседскую дзяўчынку.

— Як жа твае бацькі? — спытала цётка Вера. — Маці па-ранейшаму працуе ў бальніцы?

— Так, старэйшай медсястрой. А бацька — на заводзе.

— А ты ўжо закончыла вучыцца?

— Закончыла. Цяпер працую ў школе настаўніцай. А дзе вашы ўнукі? З вамі жывуць ці паехалі куды?

— У Мінску ўсе, — адказала жанчына. — Як прыедуць на выхадныя — у хаце шум, мітусня, людзей поўна. А я ўжо прывыкла да цішыні. Ды і здароўе падводзіць: ціск высокі, галава баліць…

Яна раптоўна закашлялася, і гэты кашаль балюча разануў Алёну: дзяўчына памятала суседку вясёлай і здаровай, і цяпер ёй цяжка было бачыць яе ў такім стане.

— У касцёл вы, мусіць, ужо не ходзіце… — ціха сказала Алёна, маючы на ўвазе, што цётка Вера абапіраецца на кіёк і не можа пайсці ў далёкае адсюль мястэчка.

— Калі прыязджаюць унукі — возяць на машыне. А сама — дзе ж я дайду… — сумна адказала цётка.

Алёна ўспомніла тую пясчаную лясную дарогу, па якой некалі шасцігадовай дзяўчынкай разам са сваёй бабуляй і цёткай Верай спяшалася ў касцёл. Ногі ў басаножках патаналі ў жоўтым сыпучым пяску, уперадзе быў лес з цёмнымі, густымі шатамі дрэў, але незвычайнае пачуццё лёгкасці і прадчуванне чагосьці святочнага пазбаўляла яе стомленасці…

«Цяпер жа, — з горыччу падумала Алёна, — многія не ходзяць у касцёл, нават калі ён знаходзіцца ў тым жа горадзе ці вёсцы».

— Вы ж некалі дружылі з Андрэем… — нечакана для дзяўчыны прамовіла цётка Вера. — Чаму разышліся?

Пагляд яе быў пільны, праніклівы, і Алёна толькі і змагла адказаць:

— Значыць, на тое ў яго былі свае прычыны.

— Кажуць, ён у Мінску хірургам працуе… Ведаеш?

— Ведаю…

— І нявеста яго адтуль…

Алёна прамаўчала.

— Ну, пайду я, — заспяшалася цётка. — А ты заходзь, Алёна, заўтра да мяне разам з бацькамі. Вы ж яшчэ будзеце тут?

— Можа, і будзем… — няўпэўнена адказала яна.

— Заходзь абавязкова, — папрасіла жанчына, і Алёну ўразіла, што ў голасе яе пачуліся слёзы, — а то і пагаварыць няма з кім…

Яна павольна, абапіраючыся на кіёк, цяжка ступаючы, пайшла да выхаду з двара.

Алёна стаяла і доўга глядзела ёй услед.

Як жа балюча было бачыць іх суседку, заўсёды бадзёрую і энергічную жанчыну, з моцным і прыгожым голасам, вось такой — хворай і амаль бездапаможнай…

І як горка было ўсведамляць, што яна папрасіла заходзіць да яе Алёну — маладую дзяўчыну, як быццам побач нікога не было, з кім цётка Вера магла б адчуваць сябе добра…

Алёна ўслед за іншымі гасцямі накіравалася да дому Андрэя: музыканты ўжо запрашалі ўсіх за стол.

Увайшла ў прасторную, прыгожа аздобленую залу.

Андрэй сядзеў за вясельным сталом і схіляў свой твар да твару Ірыны — сваёй нявесты… Штосьці гаварыў ёй… Белы вэлюм дакранаўся да яго пляча, і гэты бялюткі чысты колер нагадаў Алёне тую далёкую майскую вясну, калі яны з Андрэем былі яшчэ дарагімі адно для аднаго людзьмі…

*Белай квеценню расцвіталі сады. Белапенныя, пышныя букеты дрэў раскрывалі перад людзьмі сваё хараство, і Алёна з прыемнасцю аглядала ўпрыгожаную родную вёсачку, прыехаўшы дадому на майскія святы ў першы год навучання ва ўніверсітэце. Само паветра было напоена пахам першай вясновай квецені, і ад дрэў не хацелася адыходзіць, хацелася надоўга затрымацца каля іх і адчуваць асалоду ад мядова-салодкага водару.*

*Алёна стаяла побач са сваёй любімай яблыняй і пяшчотна дакраналася да бела-ружовых духмяных кветак, якія ўсыпалі ўсю галінку. Маленькія, у аздобе светлай зеляніны кветачкі былі мяккімі і прыемнымі на дотык, і іх з любоўю саграквала вясновае сонца…*

*Яно асвятляла сваімі промнямі і высокую шыракаплечую постаць Андрэя, і тоненькую фігурку Алёны.*

*— Якія планы на сёння? — гаварыў Андрэй весела. — Будзеш адпачываць?*

*— Ага, адпачываць! — усміхнулася Алёна. — Працаваць! Хачу за выхадныя дні добра падрыхтавацца да заняткаў па літаратуразнаўстве: выкладчык папрасіў вывучыць на памяць верш сучаснага беларускага паэта, ды і тэарэтычныя пытанні ведаць трэба.*

*Праз момант, вырашыўшы, што Андрэю можна сказаць тое, што так і прасілася быць сказаным, яна дадала:*

*— А ведаеш, наш выкладчык папрасіў паказаць яму сшытак з маімі вершамі. Я гэтага не вельмі хачу, бо лічу, што вершы яшчэ недасканалыя…*

*— Ты перабольшваеш. У цябе ўсё атрымліваецца добра, — упэўнена адказаў Андрэй.*

*Алёна, зразумела, лепш ведала свае магчымасці, але была ўдзячна хлопцу і за дабрыню ў вачах, і за падтрымку словамі, і за ўпэўненасць у яе здольнасцях. Ёй так хацелася пачуць што-небудзь падбадзёрваючае, што надало б натхнення і веры ў свае сілы…*

*— Нам таксама вельмі многа задаюць вучыць, — сказаў Андрэй, — па фізіцы, хіміі, біялогіі, лацінскай мове. Па ўсіх гэтых прадметах мы будзем здаваць у летнюю сесію экзамены, так што прыходзіцца сур'ёзна рыхтавацца. Да таго ж я хачу стаць высокакваліфікаваным урачом, таму вольнага часу амаль не маю.*

*— Ты даб'ешся таго, чаго хочаш. Я перакавана ў гэтым, — праз свае словы, праз свой позірк Алёна хацела перадаць усю сілу кахання да Андрэя, жаданне дапамагаць у дасягненні яго мэт…*

*Хлопец у адказ прытуліў дзяўчыну да сябе, і яна адчула яго цеплыню, адчула, што, няхай на кароткі час, няхай толькі на адведзеную ёй хвіліну, яна патрэбна яму…*

*Магчыма, па невядомай Алёне прычыне яна стала для Андрэя ў гэты момант таксама неабходнай падтрымкай.*

*І яна стаяла, баючыся зрабіць хоць які-небудзь рух, каб парушыць блізкасць, адлучыць Андрэя ад сябе…*

*І нібы раставала ўсё ў душы ад блізкай прысутнасці Андрэя, дотыку яго моцных рук, дакранання жаданых вуснаў…*

Побач з Алёнай гаварылі людзі, гучалі віншавальныя тосты, але яна ні ў чым не прымала ўдзел. Адна з дзяўчат, Святлана, нечакана звярнулася да яе, запытала:

— Аб чым так задумалася, Алёнка?

Яна паглядзела на Святлану з усмешкаю і пажартавала:

— Аб каханні, канечне…

Святлана кінула на яе вясёлы позірк:

— Што, ёсць каго кахаць?

— Ёсць. Толькі ён пра гэта не ведае, — адказала Алёна, не хочучы расказваць дружалюбнай, але малазнаёмай дзяўчыне аб сваіх думках і пачуццях.

Смеючыся, Святлана параіла Алёне:

— Ну дык у чым справа? Скажы яму!

— Аб чым? Аб тым, што кахаю? — Алёна ўсміхнулася ў адказ. Парада, сказаная, магчыма, і не жартам, падалася ёй неразумнай.

«Я загадзя ведаю, што адкажа мне Андрэй: “Ты цудоўная дзяўчына, Алёна. Добрая, разумная, таленавітая. Але, разумееш, я кахаю іншую. Прабач мне. А ты яшчэ сустрэнеш у сваім жыцці добрага хлопца і будзеш з ім шчасліваю”».

Не, яна ніколі не скажа яму пра свае пачуцці. Не прынізіць сябе і не будзе ўскладняць Андрэю жыццё.

І, стараючыся выглядаць абыякавай, Алёна звярнулася да Святланы:

— Давай лепш пойдзем танцаваць. Для каго музыка іграе?

— І то праўда!

Святлана паправіла рукой свае доўгія падкручаныя валасы і ўслед за Алёнай устала з-за стала.

Алёна глянула на музыкантаў — двух маладых гарадскіх хлопцаў. Можа, яны і не ведаюць той песні, якую яна збіраецца папрасіць іх выканаць… Але так хацелася думаць, што памятаюць, змогуць праспяваць — для яе і Андрэя.

Андрэй павінен быў памятаць, што гэта любімая песня Алёны. У ёй спявалася — сумна, тужліва — пра такую ж светлавалосую дзяўчыну, пра жаданне кожнага чалавека мець вернае каханне на ўсё жыццё…

«Зорька алая» — так называлася песня, якую спяваў некалі і сам хлопец, уступаючы настойлівым просьбам Алёны…

Як толькі музыканты скончылі іграць чарговую мелодыю, дзяўчына падышла да іх.

Адзін з музыкантаў, высокі чорнавалосы юнак у моднай камізэльцы, насмешліва запытаў:

— Чаму заказваеш такую старую песню? Табе што, сучасных мала?

— Можа, і мала! — усміхнулася Алёна. — Можа, мне падабаюцца старыя песні!

Яна пастаралася хутчэй забыць пра тыя насмешлівыя позіркі, якімі абмяняліся паміж сабою Святлана і гэты хлопец, і адышла ад іх, села ля стала. Вырашыла, што не будзе глядзець на Андрэя, пакуль не прагучыць яе песня.

І вось ужо першыя гукі любімай да сённяшняга часу, не забытай мелодыі паліліся з музычных калонак, кранаючы душу пяшчотай і тугою па незваротным… Затым загучала песня:

Зорька алая, зорька алая — губы алые.
А в глазах твоих, а в глазах твоих — неба синь.
Ты, любовь моя долгожданная, не покинь меня,
Не покинь меня, не покинь…

Быццам яна зноў вярнулася ў тыя далёкія-далёкія гады… Зноў стала былою Алёнкай — светлакосай летуценніцай… І гэта зноў такі ж самы вечар — адзін з тых, што назаўсёды засталіся ў яе памяці…

Будзе вечаровы змрок, і захад сонца на даляглядзе, і яго барвовае зарыва, якое захопіць яе сваёй велічнасцю і прыгажосцю… І будзе яна — маленькая фігурка пад шэра-блакітным пацямнелым небам, на фоне цёмнага лесу, у таямнічай, загадкавай цішыні…

Калісьці Алёна марыла: вось пройдзе час, і адбудзецца ў яе жыцці тое, чаго яна жадала незабыўнымі летнімі вечарамі… У будучым ёй хацелася атрымаць прафесію, якая абавязкова была б звязана з беларускай мовай і літаратурай, пісаць і друкаваць вершы і апавяданні, жыць побач з каханым чалавекам. Амаль усе гэтыя жаданні ўжо збыліся. А тады яна яшчэ толькі марыла, узіраючыся ў сінюю загадкавую далячынь… І з удзячнасцю слухала песню, якую спяваў Андрэй і якая гучала зараз:

Всех красивее, всех желаннее стала ты.
Даже капелькой своей нежности не остынь.
Через сотни лет, через тысячи не покинь меня,
Не покинь меня, не покинь…

Як ні загадвала сабе не глядзець на Андрэя — усё ж не вытрымала. Паглядзела. Ёй так хацелася ўбачыць на яго твары хоць што-небудзь, што скажа: ён памятае мінулае, па ранейшаму з цеплынёй адносіцца да яе… Хацелася, каб Андрэй усміхнуўся, кіўнуў галавой або проста паглядам паказаў сваю неабыякавасць. Ён жа, як ні ў чым не бывала, як быццам і не гучала цяпер гэта цудоўная песня, як быццам ніколі нічога не звязвала яго і Алёну, працягваў размаўляць з гасцямі. Ён ні разу не паглядзеў на дзяўчыну.

І яна ўстала — каб пайсці адсюль.

Выйшла на вуліцу. Тут было ўжо зусім холадна і цёмна.

Пастаяла ля кустоў маліны, затым бяссэнсава працягнула руку і вырвала адну з халаднаватых ягад. Пакаштавала. І не зразумела адразу, чаму гаркавіць маліна. А пасля здагадалася: гэта слёзы, што выплывалі з вачэй, адбіралі ў маліны слодыч…

*...Малінаю пахнуць вусны, малінаю пахнуць рукі... Духмяныя чырвоныя ягады на далонях…На Андрэевых далонях…*

*І яна глядзіць на іх: мяккія, родныя далоні, да якіх так хочацца дакрануцца, хоць на імгненне адчуць іх знаёмае цяпло… Дакрануцца, прыпасці вуснамі і перадаць ім сваю любоў, сваё цяпло…*

*Андрэй працягвае маліны ёй. Пазірае — з усмешкаю на твары.*

*А сонца слепіць вочы, саграваe Алёну сваімі промнямі, сваёй гарачынёю…*

*Яна асцярожна дакранаецца да моцных хлапечых далоняў, павольна бярэ цёплыя духмяныя ягады. Дотык яго рукі абпальвае, прымушае мацней забіцца яе сэрца... І яна чуе вясёлы Андрэеў голас:*

*— Бяры болей, Алёнка. Вельмі ты нясмелая…*

*Хлопец смяецца, і Алёна бярэ яшчэ крыху ягад і зноў бачыць перад сабою яго рукі.*

*...Калі б можна было зараз упасці перад гэтымі рукамі, гэтымі далонямі і папрасіць Андрэя ніколі не пакідаць яе…*

*...Калі б можна было запыніць гэты вечар, гэтае імгненне…*

*Адбітак сонца ў яе вачах. Салодкасць маліны. І лёгкую чырвань шчок пад усмешлівым Андрэевым позіркам...*

*— Мы хутка паедзем, Андрэй, — гаворыць Алёна ціха, як бы праз сілу, нібы хочучы адцягнуць непрыемную размову або ўвогуле затаіць словы, якія неабходна сказаць, у сабе. — З продажам дома ўжо дамовіліся, засталося толькі перавезці рэчы — і мы пакідаем вёску…*

*Андрэй уважліва паглядзеў на дзяўчыну. З твару знікла ўсмешка, і ён таксама ціха адказаў:*

*— Я чуў… Бацькі гаварылі. Ты шкадуеш аб гэтым?*

*— Шкадую…*

*— А мне здаецца, што не варта, — Андрэй памаўчаў, як бы разважаючы, ці трэба гаварыць тое, аб чым ён думаў, а пасля ўсё ж працягваў: — Памятаеш, ты некалі пыталася ў мяне, ці хацеў бы я працаваць у нашым раёне ўрачом. Цяпер я дакладна ведаю: не. Пагадзіся, што ўмовы працы ў горадзе для ўрачоў намнога лепшыя. Тое ж самае датычыцца і цябе. Ты захапляешся літаратурай, мастацтвам, і табе неабходна наведванне і кнігарняў, і тэатра, і выстаў. А як ты збіраешся жыць без гэтага тут, у вёсцы?*

*— Я з табою згодна, — адказала Алёна. — Я сапраўды мару аб магчымасці кожны тыдзень хадзіць у кнігарні, купляць новыя кнігі, адпачываць душой на спектаклях. Але тут застаецца цудоўная прырода, якая таксама дае мне адчуванне шчасця, застаюцца мясціны і людзі, дарагія для мяне…*

*Ёй хацелася сказаць, што ў вёсцы застаецца жыць ён, Андрэй, і яе трывожыць, як цяпер будуць складвацца ўзаемаадносіны паміж імі. Раней яны бачыліся хаця б на канікулах, а цяпер?*

*Але Андрэй нічога не гаварыў пра іх будучыя сустрэчы, і яна маўчала: не хацела быць назойлівай.*

*Хлопец дакрануўся рукою да рукі Алёны, нібы хочучы сваім цёплым дотыкам надаць дзяўчыне бадзёрасці і ўпэўненасці, мякка сказаў:*

*— Гэта мінулае, Алёна. А ты павінна думаць пра далейшае жыццё і ўладкоўваць яго як можна лепш…*

Ноч стаяла над вёскай. Маўклівая, загадкавая, поўная прывабнага хараства…

Цёмна-сіняе неба над галавою…

Лёгкі дотык ветру…

І бязмежнае адчуванне адзіноты, якое ахапіла яе, калі яна толькі ўспомніла, прыгадала яшчэ адзін малюнак з былога… Таго былога, якое заўсёды будзе жыць у ёй, нягледзячы на знешнія падзеі, на знешні спакой — ім яна прыкрывалася ад людзей, ад іх непатрэбных роспытаў.

Магчыма, яна проста не ўмела гаварыць з людзьмі. І з Андрэем таксама. У той час была вельмі стрыманай па характары, а цяпер многае аддала б, каб усе тыя нявыказаныя словы былі пачуты Андрэем…

Словы, якія яна гаварыла яму ў думках пры кожнай сустрэчы, пры кожным спатканні — іх рук, вачэй, целаў…

Словы, якія шаптала ў цішыні, у цемры тых шматлікіх начэй, калі заставалася адна — са сваімі думкамі і ўспамінамі…

Словы, якія ўсё ж не змагла вымавіць — па прычыне сваёй сарамлівасці або таму, што не была ўпэўнена ў Андрэю, у яго пачуццях…

А можа, ніякіх пачуццяў і не было — яна проста выдумала іх, не адрозніўшы звычайнай сімпатыі ад сапраўднага кахання. Выдумала, таму што хацела любіць. Хацела быць шчаслівай. Не разумеючы, што каханне не заўсёды бывае ўзаемным.

Толькі вось дзіўна: чаму, разумеючы ўсё зараз, яна яшчэ імкнецца да нязбытнага? Чаму глядзіць на вокны дома, дзе знаходзіцца Андрэй, і просіць, каб выйшаў да яе — хоць на кароткі час?

Можа, яна зноў нічога не сказала б яму… Можа, зноў прайшла б міма, толькі ўсміхнуўшыся, заціснуўшы ў сабе самае балючае, што жыло ў ёй гэтыя доўгія гады… Пакінуўшы Андрэя спакойным ад таго, што з яе боку таксама нічога сур'ёзнага не было — так толькі, дзявочая цікаўнасць…

Магчыма, так было б і лепш…

Для яго, бо ён не адчуваў бы віны перад ёю…

Для яе, бо яна таксама засталася б з надзеяй — на тое, што ён хоць крыху яе кахаў…

Тады чаму, навошта яна ўяўляе яго побач з сабою? Чаму вяртаецца да аднаго і таго ж — зноў і зноў? Чаму спрабуе разабрацца ва ўсім спакойна, не абвінавачваючы ні сябе, ні яго, і адчувае, што не можа гэтага зрабіць, што ўсё роўна — вінаваціць Андрэя?

У тым, што ён быў звычайным, што не здолеў разгледзець у ёй за знешняй стрыманасцю і маўклівасцю цеплыню і любоў, імкненне зрабіць яго шчаслівым…

У тым, што не здолеў разгледзець дабрыню, здольнасць зразумець, дапамагчы — у любы момант, любую хвіліну, калі б ні спатрэбілася яе дапамога…

У тым, што аддаў перавагу іншай, а не ёй, Алёнцы, нягледзячы на ўсе іх размовы, позіркі і сустрэчы, якія засталіся ў яе памяці як самае дарагое на зямлі.

Толькі ці ёсць мяжа чалавечаму каханню?

Ці можна любіць — так, як яна?

Ці можна — любіць і прабачаць, любіць і апраўдваць?

Калі сэрца, здавалася, заходзілася ад болю, а яна ўсё прабачала, усё апраўдвала — толькі б не пакрыўдзіць Андрэя сваёй няўвагаю, сваёй абыякавасцю…

Ці можна — слухаць яго голас, адчуваць яго прысутнасць — і ведаць, што ты яму не патрэбна?

Не патрэбныя твая дабрыня, твая павага да людзей, твае ўзнёсла-рамантычныя мары…

Не патрэбна тваё цяпло, якое ты так хацела перадаць Андрэю — праз свае словы, праз нясмелы позірк вачэй, праз выпадковы дотык рукі…

Яно ж угадвалася ў іх — у тваіх вачах, тваім голасе, тваіх дотыках…

Угадвалася, нягледзячы на тое, была ты вясёлай або сур'ёзнай, жартавала або давала падставу для роздуму…

Угадвалася, калі ў тваіх вачах адбіваліся вясёлыя іскрынкі смеху, калі ты глядзела на Андрэя — з ласкаю і пяшчотай…

Угадвалася, калі сонца адсвечвала ў тваіх валасах і ты прыкрывала твар рукою — ад сарамлівасці і ад хвалявання…

Угадвалася, калі ты за штосьці крыўдзілася і праходзіла міма, нават не павітаўшыся, не сказаўшы добрага слова, — Андрэй глядзеў на цябе і не мог зразумець, як ты хочаш бачыць яго ўсмешку, чуць яго родны голас…

І ты можаш стаяць і перабіраць зараз у памяці сто, тысячы разоў эпізоды з мінулага, цешыць сябе імі, як зусім маленькая, наіўная дзяўчынка…

І ты можаш зноў сто, тысячы разоў раздзіраць сабе душу, успамінаючы, цешачыся, па-ранейшаму любячы…

Заўтра ты ўсё роўна паедзеш, і нішто больш не будзе нагадваць аб гэтых мясцінах і аб Андрэю. Трэба толькі перажыць свае ўспаміны, трэба зацiснуць у сваім сэрцы тое, што адбалела і яшчэ баліць зараз. Бо ўсё роўна яно нікога не хвалюе…

А ты перажывеш як-небудзь…

Перажывеш і страту таго, у што верыла і ў каго верыла…

Перажывеш і зноў пачнеш жыць сваім жыццём, з новымі надзеямі на будучае…

І забудзеш, як сціскалася ў маленькі-маленькі камячок, нібы так было лягчэй, нібы з гэтым плачам адыходзілі твае боль і надзеі…

Ты проста хацела зрабіць чалавека родным і не ведала, што гэтага — не можа быць…

На ўсходзе ўжо світала.

Тут, над вёскай, яшчэ панавала цемра, а над лесам неба паступова святлела, набывала блакітны колер.

Здаецца, прайшла толькі ноч.

А можа, цэлая вечнасць?

І гэта ўжо не ты, Алёнка, стаіш тут, пад пасвятлелым начным небам, а нехта іншы. Быццам раптоўна, за адну ноч, ты стала зусім дарослай — той, якая згубіла свае спадзяванні, свае рамантычныя мары і стала разважлівай і сур'ёзнай. І нават тыя думкі, якія былі ў цябе раней, ты адганяеш зараз, не хочучы больш вяртацца ў мінулае…

Усё пройдзе і загоіцца. Бо досыць цешыць сябе выдуманымі словамі, выдуманым каханнем, выдуманым будучым. Нічога ў вас з Андрэем ужо не будзе. І калі сэрца абпаліць болем, калі вочы Андрэя зноў сустрэнуцца з тваімі — ты заўсёды знойдзеш, чым супакоіць сябе, ты не будзеш больш перажываць…

А цяпер ідзі — і паводзь сябе так, быццам нічога не адбылося. Быццам ты ніколі не гаварыла з Андрэем, быццам нічога не звязвала вас у тыя далёкія гады і ты ніколі-ніколі не адчувала сваю блізкасць да яго…

Заўтра будзе раніца, ты павінна яшчэ трошкі паспаць, каб адпачыць і адбыць другі дзень вяселля. Трэба яшчэ пагаварыць з мамаю, пагаварыць з дзяўчатамі — ты ж такая, як і ўсе, вясёлая і бесклапотная…

І няхай нікому не будзе ніякае справы да тваіх думак, тваіх пачуццяў, твайго асабістага жыцця…

Ты будзеш праходзіць міма ўсіх…

Ты будзеш праходзіць міма Андрэя…

І калі ты ўбачыш яго — проста зацісні сваё сэрца і памятай заўсёды, што гэта — чужы чалавек…

Пяшчотна Алёна адпусціла галінку маліны. Нібы ўсё яшчэ не магла павярнуцца і пайсці — у апошні раз дакранулася рукою да халаднаватых буйных ягад, да мяккіх цёмна-зялёных лісточкаў…

«Я быццам развітваюся з усім — з Андрэем, з гэтай вёскаю, са сваімі ўспамінамі… Быццам яны захоўваліся ў маёй памяці заўсёды, і цяпер мне трэба пакінуць іх… Я не магу больш жыць з гэтай вечнай крыўдай у душы, з чаканнем чагосьці, што яшчэ павінна адбыцца… І няхай будзе гэта вёсачка з дарагімі з дзяцінства мясцінамі, няхай усё так жа заходзіць над ёю сонца і ружавее вечаровае неба — я больш ніколі сюды не прыеду…»

Алёна зрабіла крок уперад і пайшла па сцяжынцы між градак.

Баючыся, ласкава трава ахінала яе ногі і нібы не давала ісці… Халаднаватыя лісточкі чапляліся за калені, блыталі ногі і, здавалася, прасілі застацца…

Чаго ж тваё сэрца плача?

Чаго ты клічаш — праз адлегласць гэтай начы, праз свае думкі і ўспаміны — таго, каго трэба забыць і больш ніколі да яго не вяртацца?

Ты хацела ласкі і цяпла?

Ты хацела, каб такія ночы ніколі не канчаліся?

А чаму ж тады ты ідзеш адна па гэтай мяккай траве, і толькі маўклівае неба выслухоўвае тваю душу?

І толькі дрэвы схіляюць свае галінкі да тваіх рук, а затоеная ноч ахінае плечы…

Ці зможаш ты даравацць, калі ў сэрцы няма даравання?

Алёна прытулілася шчакою да шурпатай кары яблыні і нібы застыла, не хочучы больш ісці далей.

Ну вось і ўсё.

Як доўга яна гадала, думала-перадумвала, чым жа ўсё скончыцца, чым завяршыцца яе пакутлівае каханне…

Як дзіўна, што яна яшчэ штосьці адчувае пасля стольких лагічных довадаў і перакананняў, пасля здрады і страты.

І як дзіўна, што нічога ў свеце не змянілася: па-ранейшаму навокал тое ж самае начное маўклівае неба, цёмныя абрысы дрэў, цішыня ў наваколлі.

І як дзіўна, што людзі не паміраюць, што яны застаюцца жыць нават пасля таго, што здараецца з імі.

Дзесьці звіняць у траве конікі. Вецер-свавольнік праносіцца праз верхавіны дрэў і кранае сваім дыханнем твой твар, тваё вусны, тваё сінія васільковыя вочы…

Ты так нічога і не сказала Андрэю.

Ты была і засталася для яго чужой — проста дзяўчынай, якая прыехала ў вёску на яго вяселле і паехала, не пакінуўшы пасля сябе следу.

Ты была і засталася для яго непатрэбнай — той, ад якой можна адмовіцца, не задумваючыся над тым, што пакідаеш у душы другога чалавека…

Ад хаты зноў пачуліся гукі музыкі, і Алёна паспешліва адхіснулася ад яблыні, разумеючы, што зараз двор напоўніцца людзьмі, што многія пойдуць сюды, у сад, і яна ўжо не будзе адна.

Убачыла, як з дому выйшлі музыканты, потым — Андрэй з Ірынаю, пачалі выходзіць госці.

Андрэй спачатку стаяў у акружэнні дзяўчат і хлопцаў, размаўляў з імі — ён заўсёды, дзе б ні з'яўляўся, аб'ядноўваў вакол сябе людзей: усім было прыемна пагаварыць з ім, пасмяяцца, пажартаваць, бо жарты і смех хлопец любіў як ніхто іншы.

Алёна таксама хацела ўжо далучыцца да той жа кампаніі моладзі, але заўважыла, што Андрэй аддзяліўся ад усіх і накіроўваецца ў сад.

І яна павольна пайшла насустрач.

Андрэй ідзе, а ты цяпер будзеш рабіць выгляд, быццам табе няма ніякае справы да яго, быццам ты проста прагульваешся па гэтай сцяжынцы і не маеш намеру сустрэцца, затрымаць яго хоць крыху — сваімі словамі, позіркам, успамінамі…

Андрэй набліжаецца… Запавольвае крок… Спыняецца каля цябе.

— Алёнка?! Ты што тут робіш? — весела пытаецца хлопец.

І вось ужо яго родныя, знаёмыя вочы глядзяць у твой твар, і ад іх позірку і вясёлай усмешкі калоціцца і замірае тваё сэрца…

— Любуюся выглядам начной вёскі.

Твой голас гучыць крыху ганарліва і іранічна.

Андрэй маўчыць, а табе так хочацца сказаць: «Ну, спытай у мяне, Андрэй: "Як ты жыла ўсе гэтыя гады? Ці памятаеш мяне? Ці хочаш вярнуць усё тое, што было некалі паміж намі?"»

Але Андрэй ніколі не скажа гэтага.

Таму табе трэба таксама быць упэўненай у сабе, быць не падобнай на тую, якой ты была раней, паводзіць сябе ганарліва і абыякава. І ты чуеш свой голас:

— Я віншую цябе. Віншую яшчэ раз з Днём твайго вяселля.

— Дзякую,Алёна.

Андрэй глядзіць на цябе вельмі ўважліва, і табе здаецца — толькі на хвілінку! — што ён усё добра разумее, што яму нічога не трэба тлумачыць…

— Жадаю табе ўсяго самага найлепшага!

Так многа хочацца сказаць, укласці ў гэтыя словы ў апошнія хвіліны развітання, але больш чамусьці нічога не прыходзіць на памяць, і ты зноў паўтараеш тыя самыя словы:

— Жадаю самага найлепшага…

Ты глядзіш у яго вочы — родныя, дарагія, любімыя. Ты магла б сказаць яму ўсё, што варта сказаць у такіх выпадках, каб паказацца ветлівай і выхаванай: расказаць яму падрабязна пра сваё жыццё, распытаць у яго пра жыццё без цябе — пра працу і мары, пра бацькоў і вольны час… Можна было б пагаварыць пра што заўгодна, толькі не стаяць і не маўчаць.

Але ты не гаворыш нічога. Ты разумееш, што ўсё, што б ты ні сказала, было б непатрэбным…

Патрэбнымі былі б толькі тыя словы, якія ты павінна сказаць, каб сапраўды не пакінуць пасля сябе крыўды…

— Жадаю, каб ты любіў усё сваё жыццё і цябе любілі…

— Дзякую, Алёна…

Ну вось, а цяпер ідзі і пакінь Андрэя назаўсёды, нягледзячы на тое, як бы ні было табе балюча і як бы ні пазіралі на цябе гэтыя цёплыя, ласкавыя вочы…

Ты паварочваешся і ідзеш да дома. Хуткай і ўпэўненай паходкай.

Раптоўны вецер, які наляцеў аднекуль з-за лесу, студзіць твае разгарачаныя шчокі, прыемным халадком дакранаецца да твару… Ногі патанаюць у сцюдзёнай ад расы траве, а начная цемра ахінае цябе, твае думкі і тваё сэрца…

Ты спыняешся за веснічкамі, там, дзе пачынаецца шырокая вясковая дарога, якая бяжыць уперад у прысадах высокіх цяністых дрэў. Ты глядзіш у той бок, дзе застаўся твой родны дом: тваё дзяцінства, твая маладая маці, вясёлы і малады бацька, любімая бабуля… Ты глядзіш у той бок, дзе застаўся Андрэй — той чалавек, якому ты шчыра пажадала ўсяго самага найлепшага з-за згоды з простай ісцінай: самым вялікім жаданнем для кожнага чалавека павінна быць жаданне бачыць таго, каго кахаеш, шчаслівым. Нават і ў тым выпадку, калі ён не будзе знаходзіцца побач з табою, а звяжа свой лёс з іншым.

А сваю любоў, якой так многа засталося ў тваім сэрцы, ты будзеш аддаваць цяпер людзям…

Дарога прадзімаецца ветрам, і ты сціскаеш сябе ад холаду рукамі, каб не так было сцюдзёна, каб так не пранізваў парывісты начны вецер…

Ты — моцная. Ты ўсё вытрымаеш.

Няхай Бог дае толькі шчаслівую долю Андрэю, а тваё сэрца выпраменьвае толькі цяпло і любоў — для ўсіх тых, з кім будзеш сустракацца ты ў жыцці…

А вобраз роднай вёсачкі няхай назаўсёды застанецца ў тваёй душы — як памяць аб тых мясцінах, дзе ты нарадзілася і жыла, як памяць аб тым чалавеку, якога ты некалі кахала…



Ганна ГАРБУНОВА



Ганна Гарбунова нарадзілася ў 1990 годзе ў Гомелі. Цяпер — студэнтка Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Друкавалася ў газетах «Раніца», «Экологический вестник», «Советский район», часопісе «Маладосць».

# «ПРЫМРОЙ МЯНЕ І ВОСЕНЬ...»

* * *

У вадасцёках вечар
Чакае той хвіліны,
Калі пад парасонам
Ты вернешся дахаты.

Хай кава заструменіць
Свой пах бескафеінны.
Паслужлівая стома,
Дождж за акном, бы краты…

І толькі месяц бледны
Спагады ў неба просіць
Ды пацеры буркочуць
Пад дахам галубы.

Засні пад цёплым пледам,
Прымрой мяне і восень
Хоць гэтай мокрай ноччу,
Праз доўгія гады.

* * *

Праз сотню дажджоў задухмяніцца восень
І рэкі ліхое цячэнне суцішаць.
Хтось зноў паклянецца быць побач сто вёснаў,
Каб некалі кінуць сам-насам і з цішай.

А вечар сароміць да чырвані дрэвы.
І тут крумкачоў — незлічонае мноства.
Вы заўтра не пусціце ў дом у залеву,
А сёння п’яце брударшафт за сяброўства.

* * *

Давай пагутарым, Паэце,
Пашлём маркоту на… Сібір!
Здаецца, спяць усе на свеце,
Мы ж баламуцім гэты вір.

Халодна. Ноч. Цягнік. …Як зорна!
Купэ асветлена ледзь-ледзь.
Не супакоіць дух вандроўны,
Праз змрок густы ляцець, ляцець.

У шклянку кіпень, Lipton, цукар
І бразнуць лыжачкай… Цішэй;
Размовы нашы, спрэчкі, гумар
Не для аўтсайдарскіх вушэй.

Накрэмзай верш мне на сурвэтцы,
Апошнім стрыжнем напішы.
Пра тое, што ў цябе на сэрцы,
Што надакучылі дажджы,

Што Муза зноў кудысь зваліла,
Што хочаш аднаго — тварыць…
…На спіне шнары — то ад крылаў.
Я ведаю: табе баліць.

**НАПОЙ КОЛЕРУ ШЧАСЦЯ**

Навучыцца б праходзіць між кропляў
Лістападаўскіх шэрых залеваў,
Стаць на ўсмешкі лагодныя шчодрым,
Не чаргуючы чорнае з белым,

Не запэцкаўшы шэрым сумневам
Ні чужых і ні ўласных задумаў,
Заспяваць, як захочацца гневу,
Крылы мераць — як хочацца тлуму,

Не заснуць, покуль зоры ірдзяцца,
Абмяркоўваць жыццё з поўняй зноўку
І з сябрамі усмак частавацца
Замест звыклай гарбаты
вясёлкай.

**СВІТАЛЬНЫ ФРЭШ**

Калі забуяе знявер не на жарт,
У бездань пакліча —
Хадзем у світальны заснежаны парк
Па шчэбет сінічы.

Хай сонца складае сінквейны для нас
Аб нечым, аб вечным.
Забудзься, што ўвосень па сцежках не раз
Адзін атумечыў,

Што рытмы цягнік дыктаваў цішыні —
Мінорныя ноты,
І ледзь патыхала ад волкай зямлі
Дажджом і лістотай,

На зорках настоены хвалі былі;
І, мост адштурхнуўшы,
Не раз нырцаваў у халодную глыб
Па нечыя душы…

Хай шчыпле і пальцы, і твар халадок,
Хай шыю казыча.
Хадзем на світанні па шчасця глыток
І шчэбет сінічы.

**ЧЫТАЧ**

Сто год адзіноты — гэта няшмат.
…Старонак пад дзвесце, не болей.
Ты — мегацікаўны, ты — кніжны вар'ят,
Глынуць ўсё за дзве ночы здолеў.

Глынуў, аблізнуўся і хочаш яшчэ —
«Дэсерт, калі ласка, падайце-с!»,
з талеркі тваёй ну ніяк не ўцячэ
Зашмальцаны, змучаны Маркес.

**ПЕРАЗВОН**

А**дзінь** дзень надзеі. Адзін дзень сумневу.
Адзін дзень салодкага, цёплага болю.
Адзін — для нянавісці лютай і гневу,
Адзін — для таго ільдзянога спакою.

Адзін на руплівасць. Адзін на ляноту.
Адзін на блюзнерства. Адзін на адвагу.
Адзін на сяброў і адзін на самоту.
Адзін на ўсе лаўры. Адзін на знявагу.
Адзін на усмешкі. Адзін дзень на кпіны.
Адзін дзень на промні. Адзін дзень
на хмары.
Змяняюцца дні. І, як кадры у фільме,
Змяняемся мы. І пачуцці. І мары.

Валерый ГАПЕЕЎ

# ВАРТАЎНІК
# (Кольцы Одры)

***Міні-аповесць***

## ПРАЛОГ

*У мяне цяпер адзін занятак: завесці генератар, адключыць яго пасля васьмі гадзін працы і даць наўтбуку разрадзіць свае акумулятары. Потым я зноў заводжу генератар. І так — з дня ў дзень. Ужо некалькі месяцаў. У мяне адна мэта, адзін сэнс, і ўсё маё жыццё ў гэтым наўтбуку, які не можа быць спынены.*

*...Ілья Калінін, вялікі, нават трохі няўклюдны, за трыбунай пачуваўся няўтульна. Ён па напісаным падзякаваў Нобелеўскаму камітэту за прэмію і потым, чырванеючы і заікаючыся, нечакана для ўсіх дадаў:*

*— Я ведаю, вы ўсё ўжо назвалі... Але я... мне здаецца, таксама магу... Вось, я жадаю... прашу вас зваць гэта... адкрыццё не кольцамі Калініна, а кольцамі... Одры. Вельмі прашу.*

*У зале прашамацеў ветрык здзіўлення, потым раздаліся нечыя хліпкія воплескі і ўжо авацыя ўслед — пасля таго, калі задуменны сум на твары старшыні змяніўся проста-такі прамяністай усмешкай. Здаецца, толькі ён адзін помніў, што такое Одры.*

*І яшчэ я ведаў. Праўда, гэта было не што такое, а хто такая...*



*Валерый Гапееў нарадзіўся ў 1963 годзе ў в. Восава на Рагачоўшчыне. Пасля заканчэння Мінскага электратэхнікума сувязі працаваў майстрам у вучылішчы (Казахстан), рабочым на заводзе «Інтэграл» у Мінску. Цяпер адказны сакратар раённай газеты «Івацэвіцкі веснік». Друкаваўся ў айчыннай перыёдыцы. Аўтар кнігі «Пастка на рыцара».*

### 1. КОЛЬЦЫ ОДРЫ

…Толькі я адзін з нашай групы бываў у гасцях у Ільі. У першы свой прыход я і пазнаёміўся з Одры Хэпбёрн.

Спачатку трохі асалапеў, але не ад самой галаграмы, а ад гэтай жанчыны. У ёй было нешта незразумелае, няўлоўнае. Так і хочацца сказаць — незямное, але стоячы перад ёй, ясна адчуваў — яна самая што ні на ёсць зямная, яна — самая сапраўдная. Калі першая разгубленасць прайшла, я зразумеў, што ў Одры рабіла яе самай сапраўднай: у ёй усё было цудоўна, і гэта цудоўнае не было штучным. Нашы жанчыны ўжо к пятнаццаці гадам мадэлявалі свае мордачкі, бюсты, тулавы, ногі, рукі, валасы, пазногці, вушы — сло-

вам, усё. Ідзеш па вуліцы — і раптам ловіш сябе на думцы, што ідзеш па велізарнай краме сярод бадзяжных вялікіх лялек.

Одры Хэпбёрн… Каралева прыгажосці ўсіх часоў і народаў. Ледзь раскосыя, велізарныя вочы з туманам, рэзка акрэслены акуратны, правільнай формы нос, невялікі рот з чуллівымі вуснамі, прыгожыя роўныя зубы — усё гэта выпраменьвала цеплыню натуральнасці. Нават з халоднай галаграмы.

— Вось чаму ты на нашых дзяўчат увагі не звяртаеш… — з разуменнем працягнуў я.

— Яны яшчэ і дурніцы да таго ж, — абыякава адказаў Ілья, абышоў галаграму, стаў ля стала.

У гэтым было нешта — ён не прайшоў скрозь галаграму, а абмінуў яе…

— А чаго ты яе не ажывіш? — спытаў я. — Напэўна ў цябе дадзеных досыць. У нашым аддзеле новая версія электроннай галавы ёсць, больш паловы лагічных адказаў…

— Не, — рэзка спыніў мяне Ілья. — Гэта… блюзнерства. Давай зоймемся справай…

Так, нас чакала справа. Учора ля аўтамата з кавай ён быў падышоў да мяне:

— Ты ў механіцы моцны… Разумееш, мне трэба кольца… З электрамагнітамі… І такая сістэма кіравання, якая дазваляла б уключаць магніты па чарзе. Каб па крузе бег згустак магнітнага поля. Разумееш?

— Нескладана, — адказаў я. — З якой хуткасцю каб бег?

— З хуткасцю святла… І хутчэй…

І вось сёння мы прыняліся за работу. З улікам магчымасці элементнай базы наша кольца атрымалася больш за дзесяць метраў у дыяметры — яго мы майстравалі на дачы Ільі, проста пад адкрытым небам.

Пасля ўключэння яно засвяцілася ўсярэдзіне блакітнаватым святлом і — нічога больш. Ніякія прыборы нічога не рэгістравалі. Проста святло. І котка, ахвярна кінутая ўнутр кольца, толькі прынюхвалася ляніва…

Потым я рабіў яшчэ адно кольца, і яшчэ адно. Па формулах Ільі мяняў накірунак і хуткасць магнітнага згустка, фазнасць, палярызацыю хваль поля кожнага кольца… І аднойчы наш піражок з трох кольцаў успыхнуў унутры… чорным святлом. Ілья кінуў туды камень — камень знік. Котку мы пашкадавалі і яе кідаць не сталі.

Так Ілья адкрыў выхад у гіперпрастору. На кольцы накінулася некалькі інстытутаў — вывучалі, спрачаліся, эксперыментавалі. Разабраліся з эфектам тунэля, што стваралі кольцы — у ім прастора сціскалася да неверагодна малых памераў. Прадмет, што трапляў у тунэль, сам па сабе набываў хуткасць у мільёны разоў большую за хуткасць святла.

Сістэму кольцаў звалі кольцамі Калініна, пакуль вось цяпер, на ўручэнні Нобелеўскай прэміі, ён не даў ёй іншае імя — кольцы Одры.

## 2. ЦЕНЬ ОДРЫ

Потым Ілья прыйшоў да мяне.

— Машына часу… яна магчымая. Дапаможаш зрабіць?

— Чаго ж не зрабіць? Расказвай, — ніколькі не здзівіўся я.

— Любая хваля не гасіцца да нуля. Яна жыве вечна. Так?

— Ага, так, — не стаў я аспрэчваць фізічныя пастулаты.

— Вось… Я цяпер крыкну — ты пачуеш. А калі ты ў любы ад мяне бок адбяжыш з хуткасцю вышэйшай за хуткасць гуку, то пачуеш гэты крык яшчэ раз. Потым яшчэ можна адбегчы — і зноў пачуць…

— Стоп, — спыніў я Ілью. — Хочаш Одры з мінулага выкрасці?

Ілья пачырванеў.

— Мінулае ёсць, але яно… нематэрыяльнае. Мы з табой стаім вось тут — і кожную секунду ўся інфармацыя пра нас нясецца ў космас. Мінулае існуе… як кіно. Калі цяпер паляцець на хуткасці вышэй за хуткасць святла ў любы бок — можна паглядзець малюнак нашай з табой гутаркі. Галоўнае — прыняць усе хвалі. Далей паляцім — больш даўні зловім малюнак. Вось…

Я майстраваў па накідах Ільі прыёмнік. Ён задаў такія параметры адчувальнасці і такі дыяпазон хваль, што гэта ў прынцыпе не магло працаваць. Але ў мяне атрымаўся ў выніку сканер на дыскрэтным дыяпазоне. З зададзенай адчувальнасцю.

Ілья да таго часу прымайстраваў свой наўтбук да кольцаў — ён распрацаваў сістэму кіравання, якая, ён спадзяваўся, будзе працаваць.

І спрацавала — і яго сістэма кіравання, і нашы кольцы, і мой прыёмнік.

Праз гадзіну мы глядзелі чорна-белы фільм пра нас саміх, якія рыхтавалі да адпраўкі прыёмнік.

Потым Ілья сказаў, што мы едзем у Англію. Разам з нашымі кольцамі. І новым прыёмнікам, які я павінен зрабіць за тыдзень.

Я зрабіў.

…Мы спыніліся на беразе нейкай ракі — сюды Ілья цягнуў мяне з такой зацятасцю і такой упэўненасцю, быццам нарадзіўся тут і рос да паўналецця.

— Тут…

У гэтым месцы рака рабіла плаўны выгіб, дробячыся на водмелі на мільёны невялікіх бліскавак-хваль. Вербы ля берага крыху далей нізка апускалі свае галіны, здалёк яны здаваліся заслонай сцэны. Сама сцэна — гэта бераг, які збягае да вады золатам пяску.

Тут быў спектакль, тут ішло дзіўнае дзейства! Ледзь калыхаліся пад ветрам галіны вербаў — вось толькі што там, за імі, схавалася прыма. Варта толькі гучна і шчыра крыкнуць: «Біс!» — яна выйдзе на паўторны паклон.

Мы замерлі, аглушаныя цішынёй і адчуваннем чарадзейства.

— Яна… была тут, — прахрыпеў Ілья, потым адкашляўся. — Одры Хэпбёрн была тут, на гэтым беразе. Вербы… тады былі іншыя вербы, гэта выраслі ўжо новыя. Гэтае месца ахоўваецца таемна… Тымі, хто любіць Одры.

## 3. УСМЕШКА ОДРЫ

Увесь дзень пайшоў на падрыхтоўку і праверку, наладку, рэгуляванне. Да ночы мы ўсталявалі прыёмнік у цэнтр кольцаў. Ілья ўключыў праграму запуску і потым хвіліны дзве стаяў, тупа сузіраючы экран манітора.

— Не атрымліваецца? — гэтак жа тупа спытаў я.

— Баюся… — шэптам адказаў Ілья. — Я ведаю яе толькі па кінафільмах, па ролях. А тут… На гэтым беразе яна была адна. Яна была сама сабой. Яна пісала потым, што была шчаслівая тут. І пісала пра гэтыя вербы, іх галіны, што як заслона тэатральнай сцэны. Я баюся ўбачыць… Баюся ўбачыць зусім не тое, што чакаю.

— Ты марыш аб рамантычнай русалцы, а тут мы ўгледзім з табой штосьці зусім іншае, так? Добра, я першы пагляджу, а потым табе пакажу, — гераічна прапанаваў я.

— Не, разам паглядзім, — асуджана адказаў Ілья і націснуў на «энтар» наўтбука.

Прыёмнік знік у чорным тунэлі. Ён з’явіцца тут праз восем гадзін — і павінен прынесці нам запіс таго, што было тут, на гэтым беразе, 247 гадоў назад.

Спалі мы не больш за тры гадзіны. Потым пілі каву, маўчалі.

Віднела.

Я вывернуў змесціва свайго заплечніка, стаў збіраць лазеры.

— Гэта навошта? — здзіўлена спытаў Ілья.

— А, глядзець дык глядзець, — адмахнуўся я. — Кіно адразу глядзець будзем. Галаграфічнае. Чаго нам у манітор сляпіцца ўдвух.

Расставіў лазеры. Стала зусім светла.

Кольцы сталі, тунэль знік. Прыёмнік быў халодны і вільготны навобмацак. Я падключыў яго да наўтбука. Ілья ў гэты час безуважна глядзеў туды — на заслону вярбовых галінак.

Я падышоў да яго, сеў побач — мы цяпер дзелім усё на дваіх (бо і прэмію Нобелеўскую Ілья чэсна падзяліў напалам).

Уключыліся лазеры. Жудасныя перашкоды — цёмная сцяна незразумела чаго. Потым сістэма наладзілася, і на месцы цяперашніх вербаў у паветры намаляваліся іншыя. Вымалеваўся іншы бераг, крышку — але іншы. Рака іншая.

І з ракі выходзіла жанчына. Одры Хэпбёрн.

Па яе вільготнай скуры, якая нагадвала паверхню няспелага персіка, збягалі кропелькі вады. Мяккі круглявы жывот. Несучасныя, недасканалыя па форме, але — дзівосныя сцёгны. Маленькія, амаль дзіцячыя ступні ног.

У мяне перахапіла дыханне. Ілья таксама не дыхаў.

А Одры ішла да нас — прама насустрач сонечным промням, што падалі на яе тонкіх ліній твар.

Яна ледзь прыжмурылася, гледзячы па-над намі, і… усміхнулася.

Ком падступіў да горла. На мяне раптам абрынулася ўсё адразу: ахвярнасць матчынага кахання, безабароннасць прыгожай жанчыны, жарсць закаханай жонкі.

Мне захацелася заплакаць. Малюнак стаў ледзь размазаным. Дзесьці ў падсвядомасці мільганула думка, што мне трэба працерці вочы.

Одры стаяла каля нас, і хоць скрозь яе прасвечваў бераг сапраўднай ракі, яна была жывой. Такой жывой, што нам стала сорамна — мы падглядалі за жанчынай, якая купаецца.

Одры ўсміхнулася яшчэ раз, мяккай, усё разумеючай і даруючай усмешкай, быццам нам усміхнулася, быццам магла ведаць яна пра нашу прысутнасць — і павольна стала адыходзіць пад вярбовую заслону. Яна ледзь калыхала сваімі невялікімі сцёгнамі, прайграючы, ох як прайграючы ў прыгажосці і грацыі нашым сённяшнім жанчынам — як прайграе жывая жанчына ідэальнай гумовай лялькі на подыуме…

Калыхнуліся галінкі вярбы.

Одры знікла.

— Я прыйду за табой, — хрыпла пакляўся сам сабе Ілья.

І тады я спалохаўся.

## 4. ВЯРТАННЕ ОДРЫ

Усмешка Одры не адпускала мяне ўвесь месяц. За гэты час я насыціўся сапраўднай нянавісцю да іншых жанчын: не мог бачыць падцягнутую, гладкую, практычна штучную скуру твараў, аднолькава ідэальныя формы целаў. Але больш за ўсё мяне вар'явалі ўсмешкі, што ўсе як адна паказвалі абсалютна аднолькавыя, ідэальна белыя і ідэальна роўныя зубы…

Одры ўсміхалася мне праз радкі на маніторы, калі я разлічваў новыя ўзмацняльнікі для прыёмніка, яе стан узнікаў у кароткім пыху дымлівай смугі пры паянні чарговай платы. І Одры сустракала мяне дома — цяпер і ў мяне быў яе галаграфічны

малюнак. Калі яна выходзіць з вады. Мне была ўжо знаёмая кожная складачка на яе целе, я ведаў колькасць кропелек вады на яе грудзях, я палічыў, колькі валаскоў у яе вейках. Я любіў замарудзіць моцна-моцна рух галаграмы, стаць блізка-блізка — і ўсмешка Одры, мяккая і далікатная — усмешка сапраўднай жанчыны — раскрывалася, квітнела цэлыя паўгадзіны прама ля маіх вачэй.

Як жа мне хацелася дакрануцца вуснамі — хоць на самае кароткае імгненне! — да гэтых вуснаў.

Зараз я разумеў Ілью. І я здагадваўся — не, я быў упэўнены, што ён гэтак жа застывае перад яе ўсмешкай па вечарах.

Я рабіў новы прыёмнік, Ілья знікаў у Інстытуце Цела — па яго прапановах будавалі новую ўстаноўку ўзнаўлення матэрыі.

— Разумееш, — расказваў мне Ілья, — кожная клетка стала перадае інфармацыю пра сябе звычайнымі электрычнымі імпульсамі. Абмен ідзе таксама гэтымі імпульсамі. У дваццатым стагоддзі людзі ўлоўлівалі імпульсы ў бачнай частцы спектру, у гукавай. Але гэта мізар у параўнанні з тым, што перадае цела чалавека, асабліва яго мозг… Твой прыёмнік павінен сабраць абсалютна ўсе імпульсы. Я скончыў праграму, якая расфарміруе гэты струмень на мільярды раўчукоў. Потым… потым кожны асобны раўчук будзе адказваць за ўзнаўленне матэрыі — у ім ляжыць уся інфармацыя пра гэты мікраўчастак. Мы злучым ужо матэрыяльныя раўчукі ў адзінае цэлае…

— Ты звар’яцеў, — сур’ёзна сказаў я. — Ты хочаш стаць богам?

— Бога няма… Ёсць законы фізікі… І мы іх спазнаем…

— А ты падумаў пра тое, што калі ўсё атрымаецца, калі мы матэрыялізуем Одры — як ёй будзе тут? І… і раптам яна назаўтра пабяжыць у нашы дурныя салоны рабіць сабе вусны пухлейшыя, зубы бялейшыя, вочы шырэйшыя, скуру гладзейшую, грудзі…

— Не трэба… Не трэба так пра Одры… Ты зробіш прыёмнік?

— Зраблю, — амаль злосна адказаў я.

Менавіта гэтага я і баяўся — што Ілья загаворыць пра матэрыялізацыю.

Але я зрабіў прыёмнік.

І мы зноў адправіліся на той бераг ракі.

Сеанс прайшоў нармальна.

Месяц, пакуль ішла расшыфроўка тэрабайтаў атрыманай інфармацыі, я практычна не выходзіў з дому. Добра, быў адпачынак.

Ілья зайшоў увечар, моўчкі прысеў на канапу.

— Заўтра пачынаем працэс. Прыйдзеш?

— Прыйду, — паабяцаў я, хоць мне не хацелася нікуды ісці. Проста сядзець і глядзець на галаграму.

Назаўтра я быў у Інстытуце Цела. Ён быў такі ціхі, што мае крокі аддаваліся рэхам. Усё замерлі — пачынаўся працэс. Ён павінен быў ісці больш за пяць гадзін. Колькі кавы было выпіта за гэты час, я не ведаю. Ва ўсякім разе, я не бачыў ні адной групы або групкі, дзе б хтосьці не трымаў у руках кубак.

У «акварыуме» — у пакоі са шклянымі сценамі — завяршылася дзейства. Сотні вачэй былі прыкаваныя да невысокага ложа, ад якога адзін за адным ад’язджалі робаты.

— Працэс завершаны, — канстатаваў металічны голас робата. — Адно несупадзенне з першаснымі дадзенымі: дэфіцыт масы — шэсць грамаў.

Разгубленасць ад гэтай навіны была кароткай, яе не было калі абдумваць, таму што голая жанчына на ложы варухнулася і — села. Агледзела сябе, пакой з люстранымі сценамі, устала і павольна стала падыходзіць — прама да мяне і Ільі.

Скрозь шкло на нас быў скіраваны роўны, халодны позірк пустых вачэй на абсалютна раўнадушным, мёртвым твары.

Хтосьці сказаў:

— Шэсць грамаў — дэфіцыт масы. Сотню гадоў назад казалі, што гэтулькі важыць душа чалавека.

Ілья абярнуўся на гэты голас — і знайдзі ён поглядам таго, хто казаў, той напэўна мог бы загарэцца.

— Проста ёсць памылка! Проста мы нешта не ўлічылі! Трэба шукаць! Трэба шукаць! — амаль ашалела крычаў ён.

Праз гадзіну жанчына ў «акварыуме» зноў распалася на тэрабайты, якія былі зацёртыя Ільёй.

## 5. КЛІЧ ОДРЫ

Ілья прыйшоў тым жа вечарам, хоць я амаль фізічна не мог выносіць прысутнасці хоць каго.

— Я ведаю, у чым справа, — ціха загаварыў Ілья. — Шэсць грамаў — гэта маса хвалевага існавання…

Мне здалося, што ён трызніць. Мой погляд быў настолькі красамоўны, што Ілья асцярожна ўсміхнуўся.

— Не бойся, я не звар'яцеў. Мінулае існуе ў форме хваль. Але яно не проста існуе — яно жыве. Шэсць грамаў, якія губляе чалавек пры смерці — гэта вызваленне яго хвалевай сутнасці. Да гэтага фізічнае цела жыве разам з хвалевым. Смерць фізічнага азначае волю для хвалевага. Чалавек працягвае жыць — адразу ва ўсім сусвеце. Адразу з усімі, пранікаючы і датыкаючыся.

— І што? — злосна спытаў я.

Злосна — таму што мне не хацелася нічога больш за тое, што ў мяне ўжо было — ведання, што Одры была, і маёй галаграмы. І я не хацеў атрымліваць нешта яшчэ.

— Я думаю, што можна не проста стартаваць-тармазіць кольцамі Одры. Я паспрабую рэгуляваць хуткасць…

— Карацей.

— Карацей… наш прыёмнік перамяшчаўся ў тунэлі менавіта ў хвалевай форме — ніякая іншая форма ў такіх умовах немагчымая. Вось…

— Ідзі да чорта, — папрасіў я шчыра.

— Я… потым цябе папрашу…

Ілья папрасіў мяне праз паўгода — увесь гэты час ён, як пустэльнік, праседзеў у сваёй лабараторыі.

— Я знайшоў магчымасць кіравання хуткасцю ўсярэдзіне тунэля.

— Ды навошта ж, навошта? — амаль закрычаў я. — Ты хочаш яшчэ адзін жудасны эксперымент? Ты хочаш дабіць мяне, выцягваючы і ажыўляючы мярцвячыну?

— Прабач… Прабач, я не думаў… Не падумаў, што табе таксама Одры… не абыякавая. Не, я не буду яе… выцягваць. Разумееш, хвалевае жыццё — яно ёсць. Мы проста не змаглі штучна злучыць разам фізічную і хвалевую… Нешта мы не ўлічылі. Нейкія сігналы ляжаць па-за дыяпазонам прыёмніка. Мы іх наогул не можам пакуль улавіць — нам не ясная іх прырода. Але… я ведаю, як фізічнае жыццё ператварыць у хвалевае.

— А ты вар'ят, — працягнуў я.

— Ну і хай, — бяскрыўдна пагадзіўся Ілья. — У тунэлі цела набывае хвалевую

форму і хуткасць, большую за хуткасць святла. Яно… даганяе тое самае мінулае. А цяпер… цяпер трэба не спыняць цела, а замарудзіць яго хуткасць да светлавой. І цела стане жыць у тым свеце… у мінулым.

— І… ты сам хочаш у тунэль?

— Так…

— А мне ты даверыш сачыць за ўсім гэтым і праз колькі часу выдраць цябе назад?

— Так… уключыць і сачыць…

Вы б спрачаліся з Ільёй? Я таксама не стаў.

На падрыхтоўку мы патрацілі не так і шмат часу — тэхнічных змен у кіраванні кольцамі было мала.

Ілья быў бледны, калі станавіўся ў круг.

— Прывітанне ёй там перадай, — сказаў я.

— Так, так… Я ўсё ёй раскажу.

Я адышоў да наўтбука, запусціў праграму, напісаную Ільёй.

Такім чынам, ён павінен быў апынуцца ў той самы дзень на тым самым беразе. У гэтай кропцы я павінен выставіць хуткасць, роўную хуткасці святла. Ілья сказаў, што яму хопіць пяці хвілін. Пасля гэтага мне трэба змяніць накірунак на зваротны, задаць максімум і выключыць усю гэтую чортаву штуку ў разлічаны час.

Мінула амаль чатыры гадзіны. Разліковы пункт. Я скінуў хуткасць да светлавой.

Цяпер чакаем пяць хвілін.

І тут на маніторы з'явіўся надпіс: «Праграма выканана паспяхова. Рэжым падтрымкі».

Я няўцямна чытаў тэкст, што пабег ніжэй:

«Прабач, дружа — я зманіў табе: усё было пралічана мной сотню разоў: зваротны пераход з хвалевай у фізічную форму жыцця пакуль немагчымы. Я застаюся тут. Не спрабуй мяне выцягнуць: ты вернеш труп, калі вернеш. Але без разліковых праграмных дадзеных (а іх няма, праграма іх не лічыла) ты, вяртаючы мяне назад, прамахнешся абавязкова ў адлегласці. І мой труп апынецца альбо ў тоўшчы зямлі, альбо ў космасе. Я застаюся тут. Не забівай мяне. Ты сам разумееш, што я буду жыць, пакуль працуюць кольцы Одры. Прашу цябе: наглядай за імі. Хоць колькі часу… Усё, што я магу зрабіць для цябе — зраблю: я абавязкова скажу Одры, што ты яе таксама кахаеш».

## ЭПІЛОГ

*У мяне цяпер адзін занятак: завесці генератар, адключыць яго пасля васьмі гадзін працы і даць наўтбуку разрадзіць свае акумулятары. Потым я зноў заводжу генератар. І так — з дня ў дзень. Ужо некалькі месяцаў. У мяне адна мэта, адзін сэнс, і ўсё маё жыццё ў гэтым наўтбуку, які не можа быць спынены…*

*Нельга забіваць сябра, нават калі ён, а не ты, з той, каго ты кахаеш.*



Рагнед Малахоўскі нарадзіўся ў 1984 годзе ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). Скончыў факультэт фінансаў і банкаўскай справы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Працуе рэдактарам аддзела публіцыстыкі, крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя». Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Дзеяслоў», штотыднёвіку «ЛіМ». Аўтар зборніка вершаў «Беражніца».

Рагнед МАЛАХОЎСКІ

# У ДЗЁННАЙ МІТУСНІ

## *Імпрэсіі*

* * *

няспраўджанай надзеяй
ты стаіш
на скрыжаванні
восеньскіх дарог
я стаў лістком кляновым
з-пад каўнера
нашэптваю
нязмушаныя крокі

* * *

у дзённай мітусні
спазніўся на спатканне
са мной
на лавачцы
адпачывае ліст

* * *

стомлены дзень
выцірае
узмакрэлы лоб
горад
сустракае вечар
самотнымі стрэламі
пад’ёмных кранаў

* * *

адпрэчыць рэчаіснасць
уцякаць ад сябе
праз восеньскае кустоўе
голае цела
калючая сутнасць

* * *

будзе цёплай зіма
ля дрывотні
вострыя трэскі
пільнуюць
сякеру ў калодзе

* * *

зімовым ранкам
запаліўшы асвятленне
кіроўца
удыхнуў жыццё
у змерзлы тралейбус

* * *

казачны човен плыве
у вячэрні чарот
асцярожныя вёслы
кладуцца
на ціхае люстра вады
не патрывожыць бы
песні дзяўчат-беражніц

* * *

пацалункі юнацтва
зялёнае лісце
пад сонцам і ветрам
прызнанне згадаў
у горадзе летнім
на беразе жвавай ракі

* * *

душа дзіцяці
зіхаціць
у маладых вачах
кахання разуменне
пачалося з мамы
у татавых абдымках

* * *

сонечны зайчык
апякае ранішнімі
здрадніцкімі пацалункамі
тлее асалода
на пажарышчы
нашае жарсці

* * *

увільваю дарэмна
ад апошніх прамянёў
восеньскага сонца
пад мостам і маім
бессаромным наглядам
віляе халодная Вілія

* * *

пытанні памнажаюцца
шукаюць свае адказы
людзі старэюць
пакуль існуюць
адказы на пытанні

* * *

на магільным крыжы
хтосьці павесіў
пятлю
у цемру начную
кажан праз яе праляцеў
устрывожылася
мёртвая пятля

* * *

у каменнай няволі
бязважкая мара
бездапаможная
сочыць за стагоддзямі
аднавокая сцяна

* * *

з балкона будынка
старога квартала
імкнецца да Бога
і душ гараджанаў

малітва анёла
за ўвесь мегаполіс

* * *

азарт гульні
зачараваў
пры выйгрышы
стаўкі падвойваюцца
пастаўлю на кон
маладосць

* * *

сотні год
настойлівая хваля
каціла на бераг
з прадоння спакою
валун
цяжар адзіноты

* * *

піва разлітага пах
у вагоне метро
ля чаравікаў
віецца тонкі ручаёк
міжволі наваарожыць
спатыкнуцца
на прыступках

* * *

найлепшы ласунак
вясновы туман
затаіўся ў лагчыне
са смакам згрызае
скарынку
зляжалага снегу

* * *

кветак мядовых пылок
на спінцы пухнатай
ласага чмяля
сваё лета

* * *

цябе раўную
да сяброў
да выпадковых
да сябе
навучы каханая
змагацца з самалюбствам

* * *

размова доўжыцца
пакуль
на дрэве праўды
вараннё
шматкроп’ем не паўстане
уваччу

* * *

смелае дрэва
пакінула лес
тварам да ветру
захвалявалася
жытняе поле

* * *

усё міне
і застанецца толькі
смагу наталіць
кіпучай лавай
з грудзей вулкана
нашага жыцця

* * *

забыўся
пад каторым дрэвам
схаваў дзіцячы скарб
калі ўжо
праз магутныя карані
набрыняе
сокамі мудрасці
маё дрэва

Наталля КАСЦЮЧЭНКА



*Наталля Касцючэнка нарадзілася ў 1963 годзе ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава. Працавала інжынерам-азеленяльнікам у Мінскзеляназбудзе, дырэктарам прадпрыемства па фітадызайне і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам фітастудыі «Квецень». З 2005 года працавала рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман». Цяпер — вядучы рэдактар аддзела кнігавыдання РВУ «Літаратура і Мастацтва», намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Аўтар кніг прозы «Таямніцы пачуццяў», «Сугучнасць», «Добро и зло — две половинки любви».*

***ЭСЭ***

# ВАКОЛ МЯНЕ ІСНАЕ

***Я гавару, што існае ёсць вакол мяне; зрэшты, гэта вакол мяне існае можа меці які заўгодна лад; пра тое меркаваць мы не ў стане.***

Г. Ліхтэнберг

***Выразнасць зусім не з'яўляецца непазбежна адзіным і найбольш важным бокам жыцця.***

Р. Тагор

Хто я ёсць на самой справе? Хто мы, людзі, ёсць у сапраўднасці? І якая яна, рэчаіснасць? І тое існае, якое вакол нас? А можа быць, гэта існае зусім не вакол нас? Можа, мы з ім складаем адзінае цэлае? Але праз нейкія духоўныя, разумовыя ці фізічныя асаблівасці нашай чалавечай істоты мы гэтага не ўсведамляем?

Пытанні, яны ўзнікаюць адно за адным… Іх безліч… І хто можа адказаць на іх?

Чым больш разважаеш, чым большыя намаганні прыкладаеш, каб штосьці зразумець, тым больш недаступнай і недасягальнай робіцца для цябе ісціна. А ісціна адна. Яна як далёкая зорачка над светам. Яе, відаць, ведае Зямля, ведае Неба, мажліва, ведаюць дрэвы і нават камяні, але не ведае чалавек, хоць цягам стагоддзяў пакутліва імкнецца адшукаць яе.

Ціха, рытмічна, заспакойваючы і ўлагоджваючы слых, адлічвае час гадзіннік-ходзікі на сцяне. За сцяной — цвыркун. Нягучнае, нібыта далёкае рэха, гаўканне сабакі на другім канцы вёскі… Стракатанне конікаў летняй ноччу… Шамаценне лісця… Ранішні крык пеўня… Усё гэта гукі знаёмыя, мілыя і зразумелыя. Знаёмая нават цішыня. Ты гэтыя гукі слухаеш, ціха радуешся, яны грэюць тваю душу, і ты нават не засяроджваешся на іх. Думкі звычайна занятыя чымсьці іншым, тым, што вымагае нейкіх дзеянняў і ўчынкаў. Але наўрад ці ты думаеш пра кубак малака, якое п'еш, пра той дах над галавой, што дае табе схову ад ветру і холаду, пра сонца, якое свеціць табе. Усё такое натуральнае і звыклае, яно штодзень вакол цябе, ты заўсёды гэта бачыш, мацаеш, і таму, відаць, няма для цябе нічога больш рэальнага за гэты даступны, дакладны, відавочны бок

жыцця. І табе нават не прыйдзе ў галаву назваць гэты бок жыцця ілюзіяй. Тое, да чаго прывыкаеш, з чым сутыкаешся штодзённа — не падлягае аналізу, не выклікае сумненняў, цікаўнасці, нібыта ўсё яно простае і яснае само па сабе.

І я, як і кожны чалавек, штосьці ў жыцці любіла, асабліва непрыкметную старую хату ў вёсцы, тую адзіную хату на свеце, дзе калісьці ў дзяцінстве была сапраўды спакойная і шчаслівая. І ў гэтай хаце натуральна, па завядзёнцы, бяздумна слухала знаёмыя гукі і знаёмую цішыню. А калі глядзела на неба, ведала, што там заўсёды, пры любых абставінах, свеціць і будзе свяціць сонца. І гэта было так проста і зразумела, як і тое, што ёсць на свеце я, мае бацькі, бабуля і дзядуля, людзі, якія вакол мяне.

Але часам штосьці ў паўсядзённым жыцці не стасавалася з тым, да чаго мы прывыклі, звяртала на сябе ўвагу, здзіўляла і палохала. Яно было не тым натуральным, зразумелым, што існавала вакол мяне з першага дня, што я звычайна чула, бачыла і міжволі, не задумваючыся і не сумняваючыся, успрымала як рэальнасць. Яно ўзбуджала свядомасць, вострай стрэмкай уваходзіла ў памяць і заставалася ў маёй душы яскравым уражаннем і адчуваннем незалежна ад таго, колькі часу мінула.

У дзяцінстве гэта «штосьці» ніколі не набывала ні формы, ні вобраза і паўставала ў маім светаадчуванні, а таксама ва ўспрыманні самой сябе, як няяснасць. Тая няяснасць, якая здольная выклікаць толькі пачуццё страху і адчайнага здзіўлення.

Усё відавочнае, звыклае і рэальнае ніколі не палохала, бо яго разумелі і тлумачылі дарослыя. Палохала тое, што яны адпрэчвалі і не тлумачылі.

— Дачушка, гэтага не бывае, — казала мама. — Табе падалося. І абяцай мне нікому пра такое не расказваць, бо з цябе будуць смяяцца.

І я нікому пра тое, чаго, як казала мама, не бывае, не расказвала. Хоць сама ведала: яно існуе, і ведала гэта таму, што чалавеку ўласціва сваім адчуванням верыць.

У дзяцінстве дзівоснае — так-так, на самай справе, дзівоснае — здаралася са мною часцяком. Яно нібыта прыцягвалася маёю інстынктыўнай цікавасцю, варта было толькі мне пра гэта дзівоснае падумаць, хвалюючыся, засяродзіць на ім свае пачуцці. Я ведала, што яно адбудзецца, адгукнецца на кожны заклік маёй устрывожанай свядомасці. Бачыла і адчувала яго так выразна, як можна бачыць ручку, паперу, кнігу, кожны іншы прадмет перад вачыма, адчуваць халоднае і гарачае, мяккае і цвёрдае, грубае і далікатнае.

Сёння, калі я гляджу на неба, ягоная прастора часам нагадвае мне пра тыя бязмежныя здольнасці і магчымасці вялізнага свету дзяцінства. Але цяпер у мяне ўсё менш гэтых здольнасцей і магчымасцей, усё радзей у маім жыцці адбываецца дзівоснае. Відаць, таму і не люблю тыя далёкія ўспаміны, што яны рвуць душу згадкамі пра штосьці страчанае, нерэалізаванае, што так і засталося назаўсёды невядомым.

Ці задумвалася я ў дзяцінстве над сэнсам жыцця? Відаць, не, таму што не сумнявалася — я яго ведаю. Гэтак думалі, відаць, многія. Выразныя ўяўленні пра тое, што такое жыццё, прычым жыццё адзіна правільнае, нам падносілася «на спадачку з блакітнай аблямовачкай», а калі быць шчырай, дык не з блакітнай, а з насычана-чырвонай, і без усялякіх там адценняў. Чырвоны колер быў колерам ідэалогіі, колерам законаў, лозунгаў, колерам дзяржавы. Ён дамінаваў. Усе правілы жыцця былі ўжо загадзя асэнсаваныя іншымі і намаляваныя для нас, дзяцей, як дакладная лінія партыі і грамадства, якое будуе камунізм. Зборы гэтых правілаў, выкладзеныя ў камуністычных і камсамольскіх статутах, былі прызнаныя адзіна годнымі арыенцірамі для жыцця. Сумнявацца было сорамна. Сумненне лічылася маладушшам ці подласцю.

Мне не хацелася б запляміць з’едлівай атрутай зневажальнага цынізму тыя ідэі і тыя правілы, паколькі сярод іх было даволі многа добрых, гуманных і нават сугуч-

ных біблейным ісцінам. Хто, як не мы, людзі, з нашай грэшнай сутнасцю, вінаватыя ў тым, што гэтыя ідэі не ажыццявіліся?

На жаль, тады, у савецкі перыяд, усе правілы і законы падаваліся такім чынам, што прыгняталі розум і пачуцці сваім дагматызмам. Кожны маленькі чалавечак ведаў, што яму трэба добра вучыцца, любіць сваю краіну, свой народ і зрабіцца грамадзянінам, які самаахвярна будзе працаваць на карысць Радзімы.

А яшчэ яго пераконвалі, што Бога не існуе, што матэрыя першасная, а свядомасць другасная, і свет, які перад ім, матэрыяльны.

Мы былі эмпірыкамі… Вялікай краінай эмпірыкаў — людзей, якія ўспрымаюць усё праз грубую матэрыю, навобмацак, на слых, смак і пах.

Што выкінула мяне з дакладна пракладзенай роўнай каляіны, па якой, не думаючы, я разам з іншымі мусіла рухацца ў роўных шэрагах і калонах, след у след, плячо да пляча? І не толькі мяне, але дзесьці, калісьці і яшчэ кагосьці? Але выкідала не так часта і не так багата, каб тыя, хто заставаліся на абочыне ў адзіноце, маглі ўбачыць і пачуць адно аднаго.

Калі ж усё зблыталася ў маім успрыманні рэчаіснасці? І калі ўпершыню ў мяне ўзнікла здагадка, што відавочная агульнапрынятая рэальнасць усё ж такі не рэальнасць?

Я памятаю тую летнюю ноч. У хаце знаёма, рытмічна адстукваў свой рытм гадзіннік на сцяне. У суседнім пакоі, проста за сцяной, ля якой стаяў мой ложак, на ляжанцы спалі бабуля і дзядуля. З другой паловы святліцы чулася ціхае пахрапванне маіх бацькоў, якія прыехалі ў вёску на адпачынак. Побач з імі, на канапцы, спаў брацік Сярожа.

Я ляжала ў сваім любімым старамодным жалезным ложку, што месціўся за грубкай і быў утульна адгароджаны ад святліцы квяцістай паркалёвай фіранкай, і, як звычайна, фантазіравала і марыла пра штосьці перад сном. Мне было восем гадоў.

За акном свяціла поўня, і на фіранцы ля майго ложка адмыслова вымалёўваліся цені дрэў. Я любіла поўню. Яе мяккае святло, якое ствarала прыхаматлівы і дзівосны свет ценяў, нязменна хвалявала і зачароўвала душу. Я паволі шчаслівая засынала ў захапленні ад таямнічасці і прыгажосці ночы, услухоўвалася ў яе ціхія гукі. Але раптам я адчула, што мае вочы нібыта расплюшчваюцца, цені на фіранцы дзіўна расплываюцца і запаўняюць усю прастору.

Я затаіла дыханне і са здзіўленнем назірала, як у гэтым мройлівым паўзмроку ўсе вобразы і гукі незаўважна відазмяняліся — яны ўражвалі мяне сваёй незвычайнай яскравасцю і выразнасцю.

Цяпер я бачыла, што ў пакоі было светла, толькі-толькі закончылася моцная навальніца і за вокнамі блішчэла мокрае лісце дрэў. Мы з Сярожам сядзелі на канапе, гуляючы з кацянятамі, і чакалі, пакуль распагодзіцца на вуліцы. Тата чытаў газету, час ад часу звяртаўся да мамы і штосьці каменціраваў.

Вось бразнула клямка на дзвярах, увайшла ў хату бабуля і накіравалася да нас у святліцу. Мяне ўразіў яе твар, засмучаны, скажоны жахам. І чамусьці я засяродзіла ўвагу на яе яркай, у чырвоныя кветкі, хустцы, якая пакрывала галаву.

— Бяда. Хлопцаў пазабівала. Вох, гора якое!

— Каго пазабівала? Што ты кажаш, маці? — адкінуў газету тата.

— Сашка Кацярынінага і Толіка Сазоненкавых. Хлопцы на Дняпры рыбу лавілі. У навальніцу пад лодку пахаваліся. Там іх і забіла. Вось толечкі іх павезлі канём. Вох, гора, гора! Хлопцы маладыя. Якое гора іхнім маткам! Людзі папужаліся.

Я глядзела на бабулю і адчувала незнаёмы дагэтуль боль і вострую шкадобу да Сашка і Толіка. Гэтых хлопцаў я ведала і часцяком, хоць і па-дзіцячы, але ўжо з

нейкім дзявочым захапленнем, паглядала на іх, калі яны, хударлявыя, але моцныя, жылістыя і загарэлыя, па-заліхвацку, без сёдлаў утрымліваючыся верхам, адганялі па вёсцы на пашу саўгасных коней. Не магло быць праўдай, што іх, жывых, вясёлых, не стала.

Я ўпершыню ўсвядоміла, што існуе смерць. І гэта мяне ашаламіла.

Пасля такой карціны перада мной выразна паўстала карціна іншая: я, Сярожа, мама і тата крочым да Дняпра. Светла, цёпла, сонечна, маркоцяцца вербы. І мы бачым на беразе, на сівым рачным пяску адзінокую, абвугленую, знявечаную навальніцай лодку.

Гэта ўсё прымроілася мне той ноччу. А з раніцы была навальніца. Такая ж, як я сасніла. На канапцы мы з Сярожам гулялі з кацянятамі і чакалі, пакуль на вуліцы распагодзіцца. Гэтаксама чытаў газету тата. А пасля таго, як скончыўся дождж і бабуля выйшла на вуліцу, а вяртаючыся, бразнула жалезнай клямкай, я раптам з жахам зразумела, што ўсё гэта ўжо ведаю і ўсё гэта пераэжыла… Я глядзела на бабулю, на яе яркую, у чырвоныя кветкі хустку, бачыць якую мне было чамусьці асабліва непрыемна, і, ашаломленая ўсім тым, што здарылася і што я сасніла, у здранцвенні слухала пра Сашка і Толіка.

А на наступны дзень мы ўсёй сям'ёй бачылі тую лодку.

І калі я плакала і шчыра пераконвала маму ў феномене свайго сну, які дакладна паўтарыўся, мама мяне супакойвала і сумна-паблажліва гладзіла па галаве.

— Наташачка, гэта ў цябе стрэс, — тлумачыла яна. — Табе толькі здаецца, што ты ўсё гэта загадзя ўбачыла. Такога не бывае. Ты расхвалявалася, і таму табе падалося.

Мая мама, самая разумная, якая заўсёды ўсё ведае, мне не дала веры. І я зразумела, што ніхто іншы мне тым больш не паверыць.

Пасля таго выпадку я час ад часу сніла тое, што пасля адбывалася ў маім ці ў чыімсьці жыцці. І хоць прарочых сноў было багата, але да такіх з'яў я так і не змагла прызвычаіцца. Яны штораз з новай сілай здзіўлялі і ўражвалі мяне.

Калі я вучылася ў школе, ці то з прычыны празмернага жадання быць у пашане, ці то праз сарамлівасць і ўразлівасць маёй натуры мяне вельмі непакоілі мае адзнакі. І, турбуючыся за свае поспехі, я шмат што прадбачыла ў сне.

Памятаю, як пасля хваробы, прапусціўшы некалькі заняткаў, я прыйшла ў школу непадрыхтаваная да ўрокаў і напісала наўздагад лабараторную работу па хіміі. А ўначы, напярэдадні наступнага ўрока хіміі, сасніла сон: на перапынку перад урокам у клас увайшла настаўніца, падышла да вакна і паклала стос сшыткаў з праверанымі работамі не на свой стол, як звычайна, а на першую парту ля вакна.

— Можаце азнаёміцца з вашымі адзнакамі, — сказала настаўніца і выйшла з класа.

Мне мроілася, як я падышла, села за парту, дзе ляжалі правераныя работы, і, нервуючыся, адшукала свой сшытак. Некаторы час я проста трымала сшытак у руках, не асмельваючыся зазірнуць у яго. Тады, адольваючы страх перад невядомым, які ўсё павялічваўся і павялічваўся ад таго, што вось зараз павінна скончыцца пакутлівае чаканне, я адгарнула старонку і ўбачыла ў сваёй рабоце мноства паправак, якія настаўніца зрабіла чырвоным стрыжнем, а ў канцы — адзнаку «чатыры» з ненатуральна доўгім, ледзь не на ўвесь радок, мінусам. Гэта адзнака была незаслужанай, завышанай, і я зразумела: настаўніца мяне пашкадавала.

Тое, што я сасніла ўначы, паўтарылася да драбніц на наступны дзень перад урокам хіміі. Прыгадваючы сон, я прадбачыла, што не на свой стол, а на першую парту ля вакна пакладзе сшыткі з лабараторнымі работамі настаўніца, якая якраз увайшла ў клас. Я перасела за тую парту і адшукала свой сшытак, ужо ведаючы, што ўбачу там.

А праз некалькі дзён я сніла, як раніцай, каб пабудзіць мяне і Сярожу, у наш пакой увайшла мама.

— Пакуль ты спала, я праверыла тваё сачыненне, — сказала мне мама, — і знайшла ў двух словах памылкі.

Яна назвала гэтыя два словы.

Раніцай усё так і адбылося. Мама пабудзіла мяне, а я глядзела на яе і чакала, калі яна паведаміць пра маё сачыненне і якія дзве памылкі назаве.

Мама прамаўляла з той самай інтанацыяй і ў той жа паслядоўнасці, што і ў сне. Яна паўтарала тыя ж самыя рухі, мела такі ж выраз твару і гэтаксама, як я сасніла, прытрымлівала рукой халацік, што расхінаўся на грудзях.

Зноў, узрушаная і ашаломленая ад перажытых падзей, я спрабавала расказаць маме і пра лабараторную работу па хіміі, і пра сон, што сасніла гэтай ноччу. Але мае прызнанні толькі рассмяшылі яе.

— Дурненькая спіць — дурненькае сніць, — зрабіла выснову мама.

З незвычайнымі з'явамі я сутыкалася не толькі праз сны. Часам мне здавалася, што нейкія не зусім добрыя істоты гулялі са мной, як гуляе кот з мышшу, і я чамусьці не абароненая ад іх. І чым большы я адчувала  страх, які часам даходзіў да панікі, тым больш гэтыя істоты выяўлялі сябе.

Я імкнулася не думаць пра прычыну такіх з'яў, таму што баялася іх, ахутаных таямніцай, незразумелых і нікім мне не растлумачаных.

І толькі праз доўгі час я даведалася, што чалавечая думка — гэта вялікая сіла, наймагутнейшая зброя пазітыўнага ўздзеяння і абароны, яна мацнейшая за ўсе цёмныя істоты і здольная як узняць, так і супакоіць не толькі вецер страху, але і якое заўгодна іншае пачуццё і жаданне.

Аднак тады я пра гэта не здагадвалася, не разумела, што сродак самаабароны — у маёй душы. Мне было невядома, што цёмныя істоты як агню баяцца тых чалавечых думак і пачуццяў, якія поўняцца адвагай і верай у сябе. Мае вопыт і веды заставаліся нязначнымі, я адчувала няўпэўненасць, слабасць і ўразлівасць і таму мусіла мірыцца з тым, што менавіта гэткія эмоцыі нейкім чынам і прываблівалі іх.

Гэтыя істоты маглі выявіць сябе ў кожны момант, як уначы, так і ўдзень, але звычайна такое здаралася, калі побач са мной нікога не было, ці то ў доме, ці то паза домам: у полі, у лесе, дзесьці на бязлюднай дарозе. Я чула дзіўныя, асцярожныя гукі і галасы, якія відавочна звярталіся да мяне, часам называючы маё імя. Адчувала лёгкія дотыкі чагосьці падобнага на пругкія паветраныя далонькі. Хтосьці з дапамогай такіх гукаў і дотыкаў рэагаваў на мае эмоцыі, нібыта чытаў мяне знутры, і, відаць, хацеў такім чынам выявіць сябе і пераканаць у сваім існаванні.

Я панічна баялася гэтых незвычайных з'яў. Але часам мая цікавасць усё ж такі на нейкі час перамагала страх, і я засяроджвала на тых з'явах не проста ўвагу, а ўсю сваю сутнасць. І пасля гэтага ў навакольнай прасторы бачыла і чула тое, чаго не магла бачыць і чуць у спакойным стане. Але ў тыя імгненні, калі мой страх дасягаў найвышэйшага накалу і гэта было ўжо небяспечна, я збірала ў адзіны парыў усе свае душэўныя сілы, каб вызваліцца ад чыёйсьці ўлады, якая дзейнічала на мяне, нібыта гіпноз.

Калі б я тады ведала, якія баязлівыя, слабыя і нікчэмныя сваім духам у параўнанні з жывымі людзьмі цёмныя істоты і ў якой ступені мудрыя і справядлівыя светлыя, я без дай прычыны не дазволіла б сабе і сотай часткі былога страху! Але, на жаль, у дзяцінстве, калі штосьці існае для чагосьці так часта і настойліва паведамляла пра сябе, падавала сігналы майму нікчэмнаму розуму і пачуццям, я гэтымі ведамі яшчэ не валодала. Хоць ужо і не сумнявалася: тыя дзіўныя і для большасці

людзей невядомыя з'явы, у рэальнасць якіх так не верыла мая мама, усё ж такі існуюць.

Вярэдзіла душу яшчэ адно: няўжо больш ніхто з падобнымі з'явамі не сутыкаўся? Не верылася, каб у гэткім дзіўным, але ж меўшым адбыцца вопыце я была зусім адна. Аднак у каго ж можна было спытаць пра гэта, не рызыкуючы застацца асмяянай? Я магла задаваць такія пытанні толькі самым блізкім людзям, але з імі нічога падобнага не адбывалася. З усіх, каго я тады ведала, толькі мая бабуля Хрысціна сніла прарочыя сны, але да феномена сваіх сноў яна ставілася проста, як да чагосьці натуральнага, не задумваючыся над гэтым і не тлумачачы.

Мяне падштурхоўвала неўтаймоўная цікаўнасць. І тады я прыйшла да таго, да чаго, відаць, і павінна была ў такой сітуацыі прыйсці: да нездаровых, амаральных захапленняў і ўчынкаў. Я пачала выклікаць незвычайныя і пераважна страшныя з'явы ў прысутнасці Сярожы, а часам і іншых дзяцей. І нават атрымлівала задавальненне, палохаючы іх. Я ўжо ведала, што калі вельмі захачу, засяроджуся, дык незвычайная з'ява абавязкова адбудзецца. Пераканалася, што для гэтага дастаткова было толькі майго жадання. Невядома, да чаго б гэта давяло, але неўзабаве я кінула свае эксперыменты. Мая цікаўнасць спатолілася, бо я яшчэ раз здолела пераканацца ў рэальнасці з'яў, што так зацікавілі мяне: іншыя дзеці ў маёй прысутнасці бачылі і чулі тое, што бачыла і чула я…

Аднак тыя эксперыменты, балазе я была не адна, усё роўна завяршаліся перапалохам. Тады я не разумела, што гэткім чынам уваходзіць у кантакт і адгукацца на агідныя выдумкі маглі толькі цёмныя істоты. Толькі яны сілкуюцца рознымі дурнымі эмоцыямі, якія перажывае чалавек, і асабліва страхам.

Аднойчы, калі бацькі паклалі мяне і Сярожу спаць, а самі пайшлі ў кіно на апошні сеанс, я ўгаварыла брата пайсці са мной у ванны пакой, каб выклікаць туды з адчыненай вентыляцыйнай адтуліны, якая ў выглядзе чорнай дзіркі зеўрала на сцяне пад самай столлю, прывід. Гэта дзірка мне чамусьці надта не падабалася, і я часцяком, калі знаходзілася ў ванным пакоі, пазірала на яе са страхам.

— Вось пабачыш, — абяцала я брату, — я паклічу, і прывід з'явіцца. Ён прыляціць да нас вунь з той чорнай дзіркі!

Сярожа пагадзіўся. І мы пачалі напружана ўзірацца ў цёмнае вентыляцыйнае зеўра.

Спачатку я не баялася, тым больш што побач прысутнічаў Сярожа. Для мяне было важным толькі адно: каб не расчараваць брата. Інакш ён абавязкова скажа: «Наташка — манюка!» — і больш не будзе мне верыць. І таму, засяроджваючы ўсе свае душэўныя сілы на гэтым зеўры, я ў думках прасіла кагосьці нябачнага, невядомага дапамагчы мне.

У мяне атрымалася. Вялізная кудлатая чорная істота, падобная да птушкі, з шумам вылецела з вентыляцыйнай адтуліны і стукнулася аб ванну.

Я не ведаю, што гэта было. Магчыма, вынік гіпнозу — майго палкага жадання даказаць брату існаванне цуду.

Мы перапалохаліся абодва, у жаху закрычалі і ў адных піжамах выбеглі з кватэры ў пад'езд. Суседзі, якія выглянулі на шум, так і не здолелі ўгаварыць нас вярнуцца дамоў. Босыя, у піжамах, мы прасядзелі некалькі гадзін на падаконніку, пакуль не вярнуліся бацькі.

У ванным пакоі, куды яны нас гвалтам уцягнулі за рукі, нікога не было.

Пасля гэтага выпадку я доўга не пакідала ў спакоі Сярожу, яшчэ і яшчэ раз распытваючы, што менавіта ён бачыў. Узрушаны і напалоханы брат не адмаўляўся паўтараць свой расказ. Ён убачыў тое ж, што ўбачыла я.

Магчыма, у гэтым выпадку спрацаваў гіпноз, якім, не ведаючы пра тое, я валодала. А магчыма, сілай свайго ўяўлення і пачуццяў я на нейкі час матэрыялізавала сякія-такія невыяўленыя істоты, надаючы ім жаданую форму і робячы іх бачнымі.

Мінулі гады, перш чым настаў той дзень, калі ў падобныя феномены і з'явы паверылі мае бацькі. Вось так, нечакана і сур'ёзна.

У хуткім часе пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі больш за палову тэрыторыі Брагінскага раёна было адселена. З вёсак, у якіх дазволілі жыць, эвакуіравалі на некаторы час усіх маладых жанчын і дзяцей. У раёне на ліквідацыі наступстваў аварыі працавалі ў асноўным мужчыны: вайскоўцы, міліцыянеры, шафёры. Дзякуй ім, тым, хто рызыкаваў здароўем, каб зрабіць штосьці карыснае на забруджанай радыяцыяй зямлі. Але хадзілі чуткі і пра марадзёрства, і пра напады на жанчын сталага веку, з якіх, здаралася, здзекаваліся і нават гвалцілі. Зямля запаветная раптам ператварылася ў зямлю, дзе не гулялі дзеці, не сустракаліся закаханыя, дзе не было маладых жанчын, а з мясцовых жыхароў заставаліся толькі старыя. Вёска Прудавіца, дзе засталіся жыць мае бабуля і дзядуля, таксама зрабілася такой зямлёй.

Аднойчы вераснёўскім днём бабуля выйшла з дому і знікла. Пра гэта паведаміў дзядуля, патэлефанаваўшы ў Мінск.

Мае бацькі і татаў брат, дзядзька Лёня, адразу ж выехалі ў вёску.

Яны шукалі бабулю восем дзён. Абышлі, як ім здавалася, усё наваколле ад вёскі да Дняпра. Дзядуля надрыўна, да хрыпаты, клікаў яе: «Хрысці-на… Хры-сціна…» — і плакаў. Ён выгнуў зубцы вілак — зрабіў нешта накшталт вялікіх крукоў — і правяраў гэтымі вілкамі кожнае невялікае азярцо і копанку, баючыся, што яна патанула.

Уся вёска шукала бабулю, але яе нідзе не было. Вакол панавала глухая, няўмольная цішыня.

На дзявяты дзень пасля бабулінага знікнення бацькі вярнуліся ў Мінск. Дзядзька Лёня застаўся з дзядулем у Прудавіцы.

Душыў адчай.

— Яе ўжо няма ў жывых, — разважаў тата. — Дзевяць дзён без ежы, лёгка апранутая, а вераснёўскія ночы халодныя. І калі б яна была жывая, дык адгукнулася б, — ён нібыта апраўдваў сябе за спыненне пошукаў. — Толькі страшна, што непахаваная, што няма магілы.

Я плакала і ўвесь час думала пра бабулю. Гэта быў нейкі неверагодны жах. Што здарылася з маім родным, любым чалавекам? Дзе яна магла быць? Мне здавалася, што варта толькі заплюшчыць вочы, і я змагла б дацягнуцца, дакрануцца сваёй рукой да яе знаёмай, шурпатай і цёплай рукі.

А ўначы ў трывожным трызненні я бабулю пабачыла і пачула, але яна не была падобная на сябе і нагадвала прывід з абыякавым позіркам і ледзяным, без адценняў пачуццяў і эмоцый, голасам.

— Я не памерла, я ў балоце ляжу, — выразна і дакладна прамовіла бабуля. І папрасіла дапамогі.

Калі раніцай я паведаміла бацькам пра свае мроі, тата неяк дзіўна паглядзеў на мяне і прыняў рашэнне.

— Вольга, вяртаемся ў вёску, — сказаў ён маёй маме.

І бацькі паехалі.

Што было далей, я чула ад іх неаднойчы.

У чатыры гадзіны раніцы яны ўжо былі ў Прудавіцы і, стаміўшыся з дарогі, пакуль не развіднела, задрамалі.

А на досвітку тата ўсхапіўся з ложка, нібыта яго хтосьці чымсьці надта здзівіў ці нават шакіраваў і, усхваляваны, усім абвясціў:

— Зараз я знайду маці.

Ён упершыню ў жыцці сасніў прарочы сон і ў гэты сон паверыў.

Тата пайшоў за гарод, да вялікай ігрушы-дзічкі ля дарогі, за якой пачыналася балота. Ён убачыў гэту ігрушу ў сне, і пад ёю ў балотнай твані — маці. Гэта было недалёка ад дома.

Бабуля была менавіта там. Яна страціла прытомнасць і ляжала ля самага берага ў бруднай балотнай жыжцы. На ёй была толькі кофтачка і на нагах — гумавыя боты. Парваная, знятая з яе спадніца валялася ўбаку.

Дзядзька Лёня, які пайшоў следам за татам, узрушаны ўбачаным, з лямантам і плачам кінуўся на ферму па трактар. Бабулю адвезлі ў бальніцу.

Мама дапамагала медсёстрам і ўрачу. Працэдуру па выратаванні бабулі было цяжка вытрымаць, усе ледзь не трацілі прытомнасць. Гумавыя боты давялося разрэзаць, іх немагчыма было зняць з распухлых, амярцвелых ног, што зусім пазадыхаліся. Тую частку цела, якая судакранalася з балотнай вадой, смакталі чэрві. Але бабуля была жывая. І яна выжыла.

Неўзабаве я таксама прыехала ў вёску і разам з бацькамі даглядала бабулю, а ўжо праз месяц мы вучылі яе хадзіць.

Бабуля вярнулася дамоў, але з хаты яна больш ніколі не выходзіла.

Пасля гэтага здарэння мы з бацькамі неяк зблізіліся. Цяпер яны не сумняваліся: у гэтым свеце існуе нешта неспасцігальнае для чалавечага розуму.

Ляцелі гады. З розных «мяне» і непадобных адзін на другі перыядаў часу ткалася маё жыццё. Гледзячы на яго з сённяшняга дня, мне шмат што хацелася б у тым жыцці змяніць. Але ніхто яшчэ не здолеў вярнуцца ў мінулае. Ніхто не змог у сваім мінулым штосьці выправіць. Чалавек мае толькі сучаснае і той, хай сабе нават мізэрны, адрэзак часу, які ў яго наперадзе.

Мне было сорак гадоў, я даволі паспяхова ажыццяўляла прыватную дзейнасць — кіравала папулярнай у рэспубліцы фірмай фітадызайну, калі раптам сасніла гэты сон.

У сне я пачула чыйсьці голас і запомніла кожнае слова, звернутае да мяне. Хтосьці нябачны раіў напісаць кнігу, тлумачыў, якой яна маецца быць і пра што. А я зусім не думала пра тое, хто ж са мной гаварыў, нібыта ведала яго даўно. Аднак форма ды ідэя кнігі мяне збянтэжылі. Кнігу-споведзь, кнігу-самааналіз, кнігу-прызнанне пра ўсё тое, што было недасканалым у маіх пачуццях, думках і ўчынках — вось што прапаноўвалі мне напісаць.

Я прачнулася і доўга ляжала, гледзячы ў цемру. Думала. Адчувала: гэты сон — адзін з тых, што сняць не проста так. Але для таго, каб распачаць працу над кнігай, я не мела ні часу, ні сіл. Цягам доўгіх гадоў я не толькі не мела адпачынку, але нават амаль не дазваляла сабе карыстацца выхаднымі днямі! Ды і як можна пісаць гэткую кнігу?! Хіба гэта нармальна — выносіць на людскі суд кепскае ў сваёй душы?

Неўзабаве я супакоілася і паспрабавала забыцца на гэты сон.

Але прамінула паўгода — і той хтосьці зноў загаварыў са мной. І зноў у сне. Ён павольна, з выразнай інтанацыяй, зачытаў урывак з незнаёмага мне тэксту, пацікавіўся, з чым гэты тэкст у мяне асацыіруецца і, калі я адказала, што прачытанае чамусьці нагадвае мне нейкую складаную музыку, паведаміў: «Гэта ты напісала». Але як я магла напісаць тое, што нават не распачынала? І, нібыта ў гэтым не было нічога ненатуральнага і супярэчлівага, ён нагадаў пра тое, што самы час мне пісаць.

ёй ён будзе глядзецца лепш за ўсё». Паклала сарафан на ложак і выцягнула з сумкі сукенку прасцейшую — для сябе.

Ларыса пераапранацца ў сарафан спачатку адмовілася, сказала, што ўзяла з сабой блузку, але калі я ўмольнымі вачыма паглядзела на яе, пагадзілася.

— Толькі для цябе, мая дарагая.

Яна зняла старэнькі світар, расшпіліла на спадніцы «маланку», сцягнула яе праз ногі. Я засаромелася, але не змагла адвесці вачэй ад зграбнай Ларысінай постаці. Хараство збітага, тугога цела, шыі, рук, ног нечакана ўразіла мяне. Ларыса перахапіла мой позірк і ўсміхнулася. Пасля, апрануўшы сарафан, які шчыльна, нібыта панчоха, абхапіў яе фігуру, павярнулася да мяне, схіліла трохі галаву і паглядзела бліскучымі, гулліва-пакорлівымі вачыма. Маўляў, на што не пагодзішся дзеля цябе, сяброўка.

Ларыса падфарбавала вочы і вусны, і ў вечаровым паўзмроку твар яе выглядаў прыгожым.

На вячэру сабраліся дзве сямейныя пары, з якімі Ларыса не была знаёмая, бо яны перасяліліся ў Прудавіцу пасля чарнобыльскай аварыі з забруджанай радыяцыяй вёскі. На дзень нараджэння прыйшла і Надзя, адзіная з гасцей, каго Ларыса ведала і сустрэчы з якой вельмі ўзрадавалася. Разам з Надзяй прыйшоў Сяргей, спакойны, трохі пануры і маўклівы, той самы Сяргей, шчаслівую будучыню з якім калісьці з упэўненасцю напрарочыла закаханай Надзі Ларыса. Бліжэй да вясны ў Сяргея і Надзі планавалася вяселле.

Мой муж радасна і ветліва сустракаў гасцей і запрашаў да стала. Стол Ларыса накрыла з густам. Яна была ў цэнтры ўвагі, бо змагла далучыць да размовы кожнага, закранаючы то адну тэму, то другую. І я бачыла, што ўсім яна падабалася.

Распачалі гаворку і пра тое, якое тут, на Брагіншчыне, становішча пасля чарнобыльскай аварыі. Нехта ўспомніў пра адсяленне з родных мясцін, хтосьці непакоіўся пра тое, наколькі бяспечна ў гэтых умовах, зусім побач з зонай адчужэння, нараджаць і гадаваць дзяцей. Адзін з гасцей, з якім звычайна, прыязджаючы ў вёску, мой муж хадзіў на рыбалку, нервова жэстыкуляваў рукамі і абураўся, што іх, маладыя сем'і, дагэтуль не перасялілі падалей ад гэтых мясцін, у экалагічна чысты раён. Маленькая, прыгожая яго жонка маўкліва згаджалася з мужам, хітаючы галавой і ціха ўздыхаючы.

— Годзе, — жартаўліва і ў той жа час строга спыніла размову Ларыса. І раптам спахмурнела. — Безумоўна, імкнуцца да таго, каб перасяліцца ў незабруджаны раён — гэта правільна і разумна. Але на сённяшні дзень вы жывяце тут. Удумайцеся: жы-вя-це. І яшчэ будзеце жыць у гэтай мясцовасці месяцы, гады, а магчыма, і заўсёды. Можна, я закуру? — Яна прыкурыла, зацягнулася, выпусціла дымнае воблачка і абаперлася рукой, у якой трымала цыгарэту, на стол. — Нам часцей за ўсё шкодзіць страх, — нечакана вочы ў Ларысы гнеўна бліснулі, — нават больш за радыяцыю, нітраты і іншыя атруты! — Гэтак жа нечакана яна памякчэла, павольна, ласкава абвяла позіркам усіх, і вочы яе зрабіліся вільготнымі. — Дарагія мае, расслабцеся. Замест таго, каб баяцца, кахайце, захапляйцеся і са шчырым сэрцам успрымайце тое, што вакол вас. І тады небяспека будзе нашмат меншая. Паверце мне, у гэтым ёсць нейкая таямнічая ісціна.

Ларыса зноў зрабіла зацяжку, ускінула ўверх рукі, прыгожа, нібыта крыламі, павяла імі і ўжо весела прапанавала:

— Дык давайце ж вып'ем за тое, каб не быць баязліўцамі. Баязліўцам больш за ўсіх дастаецца!

Я піла ваду і нічога не ела, бо ўсё яшчэ адчувала сябе блага, не пераносіла нават паху спіртнога і ежы. Але настрой мой быў прыўзняты. Я з задавальненнем назірала за сяброўкай і захаплялася яе прысутнасцю. Такую асалоду можна зведаць, стасую-

чыся з чалавекам неардынарным і непадобным на іншых. Я любавалася гнуткасцю Ларысіных рухаў, ажыўленасцю на яе твары, якая ўгадвалася то ва ўсмешцы, то ў позірку і якой яна нібыта гіпнатызавала прысутных. Бачыла, што кожнаму, хто размаўляў з Ларысай, было лёгка, проста і прыемна, быццам бы яны даўно ведалі яе. І ўжо не толькі не ўзнікалі тыя няёмкія хвіліны, калі трэба было адшукваць тэмы для размовы, а, наадварот, адчувалася, што кожны не паспяваў сказаць тое, што хацеў.

Не падтрымлівалі размову толькі Сяргей і Надзя. Нечакана я зразумела, што ўвесь час па сутнасці не заўважала нікога, акрамя Ларысы. І, нібыта абудзіўшыся ад нейкага гіпнатычнага сну, раптам убачыла, як нервова сціскае ў пабялелых пальцах свой відэлец Надзя. Як Сяргей, нібыта забыўшыся на прысутнасць сваёй нявесты, неадрыўна і збянтэжана глядзеў на Ларысу.

Пасля былі танцы. Ларыса выходзіла танцаваць першая, весела запрашаючы астатніх.

Часта яна разам з жанчынамі выходзіла на двор. Калі я пайшла з імі, то здзівілася, што прыяцелькі, якія дагэтуль, як я ведала, не бралі ў рукі цыгарэт, курылі таксама. За кароткі час яны зблізіліся з Ларысай і нават гаварылі аб патаемным. Нібыта адчувалі патрэбу ў яе спагадзе.

На дварэ было марозна і бязветрана. Пасля хатняга святла нічога нельга было разгледзець у цемры. Я толькі бачыла, як пакалыхваліся, мільгацелі перад тварамі сяброваk цыгарэтныя агеньчыкі.

— Божа, — глыбока выдыхнула Ларыса, і я здагадалася, што сяброўка зараз глядзела на неба, — як хочацца ўзяць і застыць...

Увесь вечар яна была вясёлая і ажыўленая. Шмат піла, спачатку віно, пасля гарэлку, аднак знешне заставалася цвярозай, толькі гаварыць яна пачала гучней, незвычайна высокім голасам і хутка. Госці ўжо не падтрымлівалі яе ў выпіўцы. Сяброўка напаўняла сваю чарку і піла адна.

Я адчувала, як пачала згасаць мая павага да Ларысы. Упершыню ўбачыла ў ёй заганы. І яны выклікалі ў маёй душы нядобрыя, непрыемныя адчуванні. Я заўважыла, што Ларыса пачала ненатуральна сутуліцца. Дзяўчаты пакінулі яе і цяпер сядзелі разам з Надзяй на канапе. Надзя злосна, з непрыемным выразам на твары штосьці казала ім. Мужчыны глядзелі тэлевізар. Мой муж утульна ўладкаваўся на крэсле і спаў. Толькі я і Сяргей заставаліся за сталом разам з Ларысай. Сяргей глядзеў на яе са шкадаваннем і пяшчотай.

— Выпі са мной, Сярожа, — раптам папрасіла Ларыса. — Сядай каля мяне.

Сяргей паслухмяна сеў побач з ёю. Ларыса напоўніла яму чарку.

— Бітая баба, — пачуўся чыйсьці шэпт.

Ларыса абдымала Сяргея за шыю, штосьці ціха казала і глядзела яму ў вочы прываблівым позіркам.

— Гэта ўжо робіцца непрыстойным, — злосна абурылася Надзя. — Яна нікога не паважае.

Ад гэтых слоў мне зрабілася горача. Я раптам востра адчула ўсю няёмкасць і нават трагізм сітуацыі.

Я ўстала і папрасіла Ларысу выйсці са мной у суседні пакой. Там, прымушаючы сябе абняць сяброўку, спытала:

— Што з табой адбываецца, Ларыса? Чаму ты так многа п’еш?

— Я і сама здзіўляюся, — выдыхнула ў адказ яна. — Але я не п’яная.

Ларыса стаяла перада мною нейкая ўзбуджаная і адначасова наструненая і здранцвелая. Яна была нібыта напятая спружына. Я здагадалася, што ўся гэта бачнасць цвярозасці патрабавала ад яе вялікіх намаганняў.

— Ты глядзіш на мяне, — зноў загаварыла Ларыса, — і чакаеш, што мне зробіцца сорамна? Дарэмна. Я для гэтага надта шчаслівая.

— Вось як, — разгубілася я і раптам зразумела, што ўжо наўрад ці змагу хоць неяк паўплываць на сяброўку, якая не захоча і не зможа пачуць і ўбачыць мяне. Але ўсё ж такі папрасіла: — Калі ласка, Ларыса, выслухай мяне. Я вельмі цябе люблю. Люблю такой, якая ты ёсць, але…

— Ты ведаеш, якая я ёсць? — Ларыса насмешліва паглядзела на мяне.

— Не, не ведаю, — я на момант разгубілася. — Але існуюць пэўныя маральныя нормы, якіх трэба прытрымлівацца. Няўжо ты не адчуваеш, што робіш кепска? Мне сорамна за цябе, а паколькі ты мая сяброўка, дык і за сябе.

— Гэта перад кім сорамна? — узбунтавалася Ларыса. — Перад імі? — яна з пагардай паглядзела на мяне.

— Навошта ты так? Яны — людзі сціплыя і прыстойныя, — я ледзь стрымлівала сябе, каб не абурыцца, і зазірнула ў жахлівыя сваёй непранікальнасцю вочы сяброўкі. — Ларыса, ці ты гэта?

— Як бачыш, я, — дзёрзка, жорстка і рашуча адказала Ларыса. — Я, распусная, бессаромная, аднак такая, як ёсць, шчырая. Я не хаваю таго, што ўва мне, ні благога, ні добрага. Не хітрую, не вычвараюся. Не з’ядаю вачыма чужых мужчын, каб пасля глядзець на жонку, нібыта нічога не адбылося, і не пляткару за чыёйсьці спінай, як некаторыя! — вочы Ларысы гнеўна бліснулі.

Я больш не пярэчыла. Раптам мне ўсё падалося няясным, заблытаным. Я адчула стому. Нібыта праз туман, праходзілі праз мой прыгнечаны розум Ларысіны словы, але яны ўжо не закраналі маёй душы, не абуджалі ў ёй, як раней, ні водгуку, ні хвалявання.

— Ты толькі не чапай Сяргея, — папрасіла я. — Ён — жаніх Надзі.

— Але ён не кахае яе.

— Страшна тое, — раптам вырвалася ў мяне, — што ў маёй душы ўсё перавярнулася і замест любові і пяшчоты да цябе цяпер расчараванне і агіда.

— Дарэмна ты так хвалюешся, міленькая. Страшнага нічога няма, — Ларыса прымусіла сябе ўсміхнуцца, адвярнулася ад мяне і рашучымі крокамі пайшла з пакоя.

Праз некалькі хвілін яна вымыла твар, пераапранулася ў сваю спадніčку і світар, накінула старую ватоўку, у якой раніцай хадзіла на прагулку, і падышла да мяне.

— Заўтра паеду. Хачу ўспомніць бабулю, пагуляць па вёсцы. Калі што, кладзіся спаць, не чакай мяне, родная.

Ларыса сумна ўсміхнулася, пасля паглядзела на Сяргея і накіравалася да выхаду. Сяргей устаў з-за стала і няўпэўненымі крокамі выйшаў за ёю.

Вярнулася Ларыса раніцай, у пакамечанай спадніцы, са сцяблінкамі сена ў зблытаных валасах. Паспешліва вымылася, прычасалася, сабрала сумку. Я моўчкі, з нейкім неўсвядомленым яшчэ адчаем назірала за ёю. Трымалася Ларыса незвычайна прама і выглядала спакойнай.

Я разумела, што трэба нешта сказаць.

— Ты не пакрыўдзілася? — спытала я ў Ларысы, але прагучала гэта пытанне неяк няшчыра, ненатуральна.

— Я? Нікольκі. Не пакутуй ад усялякіх думак. Мне ўсё спадабалася, і я вельмі ўдзячная табе.

Ларыса надзела берэтку, апранула паліто, яшчэ раз паглядзела на мяне і хуткай, цвёрдай і лёгкай паходкай зрабіла тыя некалькі крокаў, якія былі паміж намі, паціснула маю руку і сумна пасміхнулася:

— Не перажывай. Можна сказаць, нічога не здарылася. Мы абавязкова сустрэнемся.

Яна пайшла.

Я доўга стаяла ля вакна, глядзела, як аддалялася, паступова памяншаючыся на

фоне пустога восеньскага поля, постаць у яркім клятчастым паліто, і думала, што мы з Ларысай больш не сустрэнемся.

Аднак мы сустрэліся. І неаднойчы.

Апошняя сустрэча з Ларысай адбылася, калі нам ужо было амаль па сорак гадоў. Я адшукала яе ў тым самым горадзе на Няве, толькі перайменаваным з Ленінграда ў Санкт-Пецярбург. Выправілася туды па просьбе яе мамы, ад якой атрымала ліст. Спасылаючыся на нездароўе, беднасць і ўзрост, яна прасіла мяне адшукаць Ларысу і паведаміць, ці ўсё ў парадку з яе дачкой. Ларыса не была ў бацькоў у Запарожжы больш за дзесяць гадоў, яна перастала дасылаць ім лісты і званіць. Паўночныя і паўднёвыя гарады былога Савецкага Саюза цяпер падзяляла не толькі адлегласць, але і межы. Аднак каб не паведамляць пра сябе нават бацькам — тут, бясспрэчна, прычына хавалася толькі ў самой Ларысе.

Яе я адшукала ў бальніцы. У п'яным выглядзе яна трапіла пад машыну, калі вярталася з работы дамоў. Шукаючы Ларысу, я даведалася, што там, дзе калісьці размяшчалася яе фірма, зараз яна гандлявала кветкамі і адтуль яе звальнялі за п'янства то адны, то другія гаспадары.

Ларыса пазнала мяне і, усхваляваная, прытрымліваючы рукой загіпсаваную нагу, рэзка пачала ўставаць з ложка насустрач.

— Натачка, якім чынам? Як ты знайшла мяне?

І я ўпершыню ўбачыла, як Ларыса плача.

— Была на тым месцы, дзе ты звычайна гандлюеш. Там мне і падказалі.

Я глядзела на Ларысу, на яе не па ўзросце састарэлы, пабурэлы ад п'янства твар, і пазнавала і не пазнавала сяброўку. Ларыса плакала, а я плакаць не магла, у мяне нешта знямела ў душы. Я гладзіла яе па галаве, па збітых, у сіняках руках з бруднымі пазногцямі.

Там, у гандлёвых радах, мне расказалі, што Ларысу пазбавілі бацькоўскіх правоў, забралі ў дзіцячы дом яе маленькую дачку. Я з'ездзіла ў гэты дзіцячы дом і там даведалася, што Ларыса не раз абскарджвала рашэнне суда, спрабавала вярнуць дзіця, але нават дзеля гэтага так і не здолела кінуць піць. Дачку Ларысы ўдачарылі.

Я аплаціла дарогу і выправіла па Ларысу яе маці. Але пакінуць паўночны горад, дзе засталася маленькая дачка, якую ўдачарылі невядомыя людзі, Ларыса адмовілася.

Яшчэ праз некалькі гадоў, тэлефануючы ў Санкт-Пецярбург, я дазналася, што Ларыса нідзе не працуе і начуе ў пад'ездах і падвалах жылых дамоў.

— Бамжуе Ларыса, наўрад ці перазімуе, — адказала мне па тэлефоне яе былая сяброўка.

«Не ствары сабе куміра»… Я зноў і зноў думаю над сэнсам таго, што сказана ў Бібліі.

Ці прызнаю я сваёй заганай тое, што некалі стварыла сабе куміра? Не, не прызнаю. Я хутчэй абвінавачваю сябе ў тым, што калісьці кагосьці асуджала, хай нават па заслугах, але толькі не ў тым, што кагосьці незаслужана ўзносіла.

Ларыса па-ранейшаму дарагая для мяне. Часам, калі іду па вуліцы і, сцінаючыся ад холаду, ведаю, што зараз увайду ў цёплы дом, думаю пра Ларысу, пра тое, ці холадна ёй. Успамінаю пра яе, калі прымаю ванну, п'ю гарачую гарбату.

Я не думаю пра яе пастаянна. У мяне сваё жыццё. І я разумею, што кожны чалавек сам абірае свой лёс.

І ўсё-ткі гэта добра, калі ў тваім жыцці былі або ёсць куміры. Адзінае, пра што варта памятаць, што кумір не «звышчалавек». Кумір — гэта той, кім мы ўсяго толькі захапляемся, па-свойму ідэалізуем, а па сутнасці проста любім яго такім, які ён ёсць.

***Пераклад з рускай мовы аўтара.***

Яўген ГУЧОК

# ДЗВЕРЫ ТВАЁЙ ДУШЫ

***(накцюрн)***

***Валянціну Кабецкаму***

* * *

Штодзённасць — агонь, ад якога бяжым;
Вечнасць — агеньчык,
На які са спадзевай імкнёмся.

* * *

Наша зямная штодзённасць —
Гэта й разведка
У вечнасць.

* * *

Штодзённасці пража…
Куды яна йдзе?
У вечнасці клубок, верагодна.

* * *

Нібы на плыце, на штодзённасці
Па моры часоў пераменлівых
Дрэйфуем да вечнасці берагоў.

* * *

А вечнасць, трэ думаць, не поўная
Без рэчаіснасці нашай, —
Пакуль што, вядома, часовай.

* * *

У светлай цішы
Штодзённасці нашай
Нерастуе вечнасць таксама.



*Яўген Гучок нарадзіўся ў 1940 годзе ў Слуцку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру пры ім. Вучыўся ў Маскоўскім паліграфічным інстытуце. Працаваў настаўнікам, рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета». Аўтар кніг паэзіі «Сэрцам і думкай», «Формула травы», «На патрэбу душы» і іншых. Творы друкаваліся ў Расіі, Польшчы, Чэхіі, ЗША. Жыве ў Мінску.*

* * *

Нібы на магніт,
Людское сумленне ціхае
Прыцягненне мае на вечнасць.

* * *

Ты не зрабіў нікому балюча,
Табе не зрабілі тое ж —
Вось і пачатак твой вечнасці.

* * *

Зярняты ад яблыкаў вечнасці,
Не-не ды трапляюць аднекуль
У нашу штодзённасць, сюды.

* * *

Калі ты ад ветру палёгку чуеш,
Ведай: то з вечнасці
Прывітанне табе.

* * *

Дзверы ў вечнасць —
Гэта і дзверы тваёй душы,
І дзверы твайго пакоя.

* * *

Хто любіць светлую штодзённасць,
Ў таго і вечнасць
Закахана.

* * *

І гэты сонечны прамень —
Паміж табой і вечнасцю
Жывая пупавіна.

* * *

Калі вы чуеце, як зоркі
Паміж сабой вядуць размовы,
Ваш слых да вечнасці наблізіўся.

* * *

Вечнасць — гэта не толькі
Калі ты жывеш ў пазачасе,
А й пазачас той калі жыве ў табе.

* * *

І ўсемагутная вечнасць
Бянтэжыцца часам прад душамі, —
Няўлоўна, нібы ртуць.

* * *

Няладнае наша існенне —
Гузік на вечнасці пінжаку,
Які зашпіліць належыць.

* * *

На вечнасць ніхто не хварэе,
А вось на адсутнасць яе —
Падсвядома ўсе.

* * *

О як мы сябе адціскаем,
О як мы сябе выкручваем,
О як выганяем вечнасць з сябе!

* * *

Да таго, што ўжо аджыло,
Фарбы колеру вечнасці
Не прыстаюць… яны абсыпаюцца.

* * *

Не трэба ў імя вечнасці хлусіць,
Бо вечнасць ад штодзённасці
Адвернецца.

* * *

Любая душа мае напуск на вечнасць,
Ды людзі імкнуцца
Заўсёды яго абрэзаць.

* * *

На сувязь з вечнасцю
У час любы ты можаш выйсці,
Але спачатку трэ наладзіць тую сувязь.

* * *

Прапелерам у вечнасці рухавіка
Заўжды была
І наша паўсядзённасць.

* * *

Аб чым задумаўся мураш,
Калі ён штосьці нёс і — раптам
знерухомеў?
Аб вечнасці, вядома.

* * *

Калі на вечнасць наракае чалавек,
Ён разам з ёй
І паўсядзённасць страчвае сваю.

* * *

Паміж штодзённасцю і вечнасцю
Смерць — нібы
Аўтаген або электразварка.

* * *

Яшчэ аб вечнасці нагадваюць
Нам павадкі, і землятрусы,
Ды і вулканаў вывяржэнні.

* * *

Штодзённасці ўдарнікі
Трапляюць вельмі рэдка
На вечнасці абсяг.

* * *

Не будзем забывацца,
Што наша паўсядзённасць —
Суродзіч вечнасці, напэўна?

* * *

Ці мае вечнасць цень?
Вядома!
То сонечнае святло, то зорак мігценне.

* * *

Прынамсі, для смерці
Вечнасць — тугая…
Непранікальна для смерці яна.

* * *

Калі табе абрыдла шэрая
штодзённасць,
Дык паратунку ў вечнасці
Шукай.

* * *

Калі душа твая — свабодная,
Няцяжка патрапіць ёй
На вечнасці парог.

* * *

Ты — і вагон, ты — і счэпшчык;
А вунь і цягнік, што ідзе ў вечнасць…
Там тваё месца — не забывай!

* * *

А вечнасць таму яшчэ — вечнасць,
Што вечных жывых мерцвякоў
Не мае яна.



Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# СІНІ КАЛОДЗЕЖ*

## *Сто беларускіх легенд і паданняў*

***Пераказаў Уладзімір ЯГОЎДЗІК***

**51. Святы калодзеж**

У вёсцы Маргавіцы, што каля Бягомля, жыла-была ўдавіца. З суседзямі яна не зналася, затое ахвотна прывячала маладых дзецюкоў. І захацелася гэтай распусніцы стаць найпершай прыгажуняй. А каб тое збылося, пачула яна ад людзей, трэба павадзіць карагод з чарцямі і незаўважна вярнуцца дахаты.

Апоўначы ўдавіца адчыніла насцеж дзверы. І толькі ступіла на парог — падхапіў яе шалёны віхор. Цэлую ноч гойсала немаведама дзе з нячыстай сілай. А калі праспявалі трэція пеўні, схамянулася: пара дамоў, пакуль не развіднела!

Аж раптам адзін нячысцік свіснуў, што ў карагодзе скача кабета. Удавіца кінулася наўцёкі, але чэрці яе злавілі і завалаклі ў балотную цямніцу.

І па сённяшні дзень удавіца пакутуе ў няволі. Замольвае грахі і заліваецца слязьмі. На балоце прабілася гаючая крыніца, бо слёзы грэшніцы, якая шчыра пакаялася, — святая вадзіца. Потым людзі выкапалі тут калодзеж, які назвалі Святым калодзежам.

**52. Ведзьма ў выглядзе кабылы**

У аднаго гаспадара каровы перасталі даваць малако, быццам іх падаілі на пашы. Пачаў ён распытваць у людзей, што гэта за праява. І дапытаў-такі чалавека, які падказаў, як бараніцца ад паскудства.

Вечарам на веснавога Юр'я, калі бліснулі першыя зоркі, гаспадар загнаў кароў у загараду. Потым абгарэлым кійком правёў каля плота рысу. У адчыненых весніцах паклаў барану з перавітымі свянцонай вярбой зубамі. А сам схаваўся пад паветкай і цікуе, што будзе далей.

У поўнач прыляцела аднекуль кабыліца. Бегае каля плота, як шалёная, ніяк не можа пераскочыць да кароў. Потым сіганула ў весніцы і трапіла нагамі ў барану. Тузаецца, храпе, а не можа вырвацца з жалезных зубоў, перавітых свянцонай вярбой.

Накінуў гаспадар аброць на кабылу, прывязаў да плота.

— Выйдзі, Рыгор! — пабудзіў суседа-каваля. — Паглядзі, каго я злавіў!

Каваль адразу скеміў, што за пташка трапілася. Завялі яны кабылу ў кузню, развялі ў горне агонь і падкавалі на ўсе чатыры капыты. Цвікі знарок як мага глыбей загналі ў жывое мяса. Потым гаспадар зняў аброць, а каваль як жахнуў молатам кабыле па азадку. І паляцела яна ў чыстае поле, задраўшы хвост.

---

* *Заканчэнне. Пачатак у № 8 за 2010 г.*

— Дзякуй табе, браце, за дапамогу, — сказаў гаспадар. — Хадзем у карчму, пасядзім трохі...

Пабудзілі яны карчмара, выпілі па чарцы, узялі яшчэ па адной. Не заўважылі, як ранак пачаўся. Раптам прыбягае маладзіца. І проста з парога да гаспадара:

— Захварэла мая свякруха! Просіць, каб ты прыйшоў.

— А што ёй трэба?

— Ліха яе ведае! — развяла рукамі маладзіца. — Будзь ласкаў, зазірні на хвілінку.

Развітаўся гаспадар з кавалём. Прыходзіць, а ў свякрухі пад пазногцямі цвікі сядзяць.

— Што з табой, цётка?

А яна ў адказ:

— Ой, не пытайся! Сам ведаеш, што вы са мной зрабілі...

І давай прасіць, каб дастаў цвікі. Паклялася, што анікому не будзе чыніць зла. Дараваў ёй гаспадар, дастаў цвікі, а нас навучыў, як бараніцца ад погані.

**53. Як чэрці боб малацілі**

У лесе каля вёскі Літоўцы, што ў Докшыцкім раёне, ляжыць абымшэлы валун. Завуць яго Чортавым каменем. Калісьці тут гаспадарыла нячыстая сіла. Днём яна не паказвалася, затое ноччу тварыла немаведама што. Грукат, стукат, галёканне, віскат... Нават смельчакі здалёк абміналі гэты кірмаш.

Аднойчы вечарам спяшаўся да каханкі малады дзяцюк. Каб скараціць дарогу, ён пайшоў напрасткі, але заблудзіўся. Доўга блукаў па гушчары, пакуль не пачуў: наперадзе хтосьці ляпае жалезам. Дзяцюк убачыў на паляне нячысцікаў. Галоўны чорт сядзеў на валуне і камандаваў:

— Цоп-боб! Цоп-боб!

Адны нячысцікі малацілі на камені бабовыя струкі. А другія — збіралі ў кацёл намалочанае золата і паўтаралі за камандзірам:

— Цоп-боб! Цоп-боб!

Хлопец з перапуду моцна пчыхнуў, ажно пацямнела ўваччу. А калі зноў зірнуў на паляну, чарцей і след прастыў.

З таго дня нячысцікі звяліся ў ваколіцах Літоўцаў, а валун і да сённяшняга дня ляжыць. На яго баках добра бачны ямінкі-выбоіны, дзе чэрці малацілі боб.

**54. Расамаха**

Я на свае вочы бачыў Расамаху. Ніякі гэта не звер, а дзеўка з распушчанымі валасамі, якая забіла дзіця, а сама ўтапілася.

Касілі мы з хлопцамі каля ракі. Раніцай добра касіць — трава расяная, мяккая... Пакуль паднялося сонца, ладную дзялку звалілі. Пайшоў я па квас, каб прамачыць горла. Гляджу — хтосьці нашы торбы пашкуматаў, а біклагу з квасам павесіў на алешыну. Лясны звер на такое штукарства не здатны. Азірнуўся я і пачуў: непадалёку плача дзіця. Я — да яго, а яно — далей; я — за лазовы куст, а дзіця — у траву; шукаю ў траве, а малое ўжо каля ракі... Што за насланнё?..

Павярнуў я нібыта назад, а сам непрыкметна пашыўся да ракі. Падкраўся і бачу: на бабровай хатцы сядзіць дзеўка з дзіцём на руках. Потым кінула малое на галлё, а сама расчэсваецца шчупаковым грэбенем.

«Чаму яна сядзіць на бабровай хатцы?» — здзівіўся я.

І тут закугакала дзіця. Пачуўшы плач, хлопцы кінуліся ў наш бок. А Расамаха схапіла немаўля і — шабултых! — у ваду.

Прыбеглі хлопцы, пытаюцца, ці плакала тут дзіця. Я прамаўчаў — усё роўна не паверыць, калі раскажу пра Расамаху. Селі мы палуднаваць. Я перахрысціўся, і больш Расамаха нас не трывожыла.

**55. Дамавы заездквае коней**

Зайшоў у карчму Купрэй. Прысеў да мужыкоў і давай жаліцца, што хтосьці заездквае коней.

— Гэта яго работа, — сказаў Мікіта Кульган. — Як прычапіўся летась да маёй кабылы, адна толькі шкура засталася.

— І ў мяне тое самае, — бядуе Купрэй. — Пачуў я ноччу грукат. Падхапіўся, адчыніў хлеў, а коні стаяць у мыле. Мабыць, трэба шукаць знахара, каб нагавор адрабіў...

— Ды плюнь ты, не паможа! — махнуў рукой Мікіта. — У мяне горш было, бо я ні пра што не здагадваўся. Сыплю поўную мерку аўса, а коні — на вачах блажэюць, ледзь ногі перастаўляюць. Малайчына сусед — у час падказаў: «Да цябе ўнадзіўся дамавы...»

Пайшоў я вечарам вартаваць. Залез на вышкі і пазіраю праз шчыліну ў загараду. Спачатку коні стаялі спакойна. Апоўначы — перасталі хрумаць сена. Храпуць, перабіраюць нагамі і ніяк не могуць спыніцца. А потым паваліла з іх пена...

На другую ноч мы ўдвух з суседам заселі на вышках. Запаліў я грамнічную свечку і накрыў зверху гаршком. А сусед адкаркаваў бутэльку свянцонай вады. Роўна ў поўнач страпянуліся, захраплі мае коні. Зняў я гаршчок з грамнічнай свечкі. У хляве стала светла, нібы днём. І што мы ўбачылі? Сядзіць на маладой кабыле дзядок з сівай барадой і паганяе коней бізуном. Сусед пырснуў свянцонай вадой — і дамавы тут жа знік. Назаўтра я павесіў над дзвярамі забітую сароку, бо яна засцерагае ад нячыстай сілы.

**56. Паморак**

Колькі ўсякага ліха на свеце! Бяда на бядзе едзе і бядой паганяе. Пастаіш — бяда нагоніць. Пабяжыш — на бяду наскочыш. І жывеш, быццам заяц: куды ні сунься — воўку ў зубы. То мароз памарозіць сады і гароды, жыта ў полі, траву на сенажаці; то град паб'е ўсё, што ацалела пасля марозу; то наляціць бура і паломіць-пакруціць збажыну; то дождж лье як з вядра, пакуль ураджай не згніе; то смаліць сонца. А дасць Бог добрае лета — наваліцца паморак...

Была вельмі ранняя, дружная вясна. Кожную ноч ішоў цёплы дожджык, а сонейка днём галубіла зямлю, як маці дзіцятка. Здаецца, пасадзі малое ў полі, яно само вырасце, нібы гарбуз на гародзе. Настала лета, усё шчодра зарадзіла, а людзі не радуюцца. Так прывык ужо селянін: лішняе дабро яго палохае. Папаўзлі чуткі — блізка паморак. Ходзяць усе засмучаныя, быццам у ваду апушчаныя.

Нарэшце восенню аб'явіўся паморак. Спачатку ён касіў жывёлу, а потым узяўся за людзей. У адной вёсцы сяляне вырашылі бараніцца. Зрэзалі ў лесе высокую хвойку, зрабілі крыж і паставілі на пагорку. З ясеневых брусоў здабылі агонь, які круглыя суткі трымалі ў хатах. У канцы вуліцы днём і ноччу гарэла вогнішча.

Мінула восень, пачаліся замаразкі. Навокал лютуе паморак, а ў гэтую вёску аніяк не трапіць. Тады ён абярнуўся ў старую бабу. Спаткаў яе на дарозе хлопец.

— Куды ты ідзеш, бабця?

— Туды, дзе няма паморка.

Хлопец адразу здагадаўся, што гэта за старая. Вядома, спалохаўся, але прапанаваў:

— Я пакажу табе дарогу!

Перад вёскай было гразкае балота, а праз балота ляжалі вузкія кладкі.

— Ты ідзі першая, — сказаў хлопец, — але моцна трымайся за мой кій.

Паслухала старая, пасунулася паперадзе. Хлопец выбраў момант і штурхануў паморка ў дрыгву. Утапіўся пракляты ў багне, нават бурбалкі не паказаліся.

Вярнуўся хлопец дахаты і расказаў людзям, каго ён сустрэў па дарозе. Назаўтра паехаў адзін гаспадар забіраць сена. На балоце падышоў да яго аднавокі жабрак з касматай сівай барадой. Лыпнуў крывым вокам і папрасіў падвезці ў вёску.

— Цябе туды не пусцяць, — сказаў гаспадар, — бо людзі баяцца паморка.

— Я апошні бядняк, — засмяяўся стары, — але нясу шчасце, якое ніхто не мае, пакуль жыве на свеце.

— А якое тваё шчасце?

— Яно для ўсіх аднолькавае: і для каралёў, і для мужыкоў...

Пачуўшы гэта, гаспадар здагадаўся, пра што гаворка. Адна смерць не дзеліць людзей на каралёў і мужыкоў.

— Ладна, лезь на воз! — сказаў ён старому. — Але зарыйся з галавой у сена...

Жабрак так і зрабіў. Гаспадар тузануў лейцамі каня, і яны паехалі. Каля вёскі гарэла вогнішча. Гаспадар прыпыніўся, шапнуў хлопцам, хто хаваецца ў сене.

— Што вязеш, дзядзька? — спыталіся вартавыя.

— Дровы.

— Якія дровы? Гэта сена!

— Калі бачыце, чаго прычапіліся?

— А пад сенам што ляжыць?

— Бярвенне.

— Зараз пабачым, што там за бярвенне!

Хлопцы паднатужыліся і перакулілі сена проста ў вогнішча. Шуганула ўгору полымя. А хлопцы не адыходзяць, падварушваюць сена палкамі, каб мацней гарэла. Згарэў паморак жыўцом, нават касцей не засталося. Згарэў паморак, а пасля ажыў. Уцёк ён за высокія горы, за сіняе мора. Зрэдку наведваецца: пакосіць людзей — і ходу назад, каб зноў не падсмажылі.

**57. Ведзьма-жаба**

Жыла на ўскраіне сяла маскоўка-салдатка, гаспадар якой не вярнуўся з вайны. Шаптала маскоўка замовы, загаворнае зелле варыла, а затым пачала вядзьмарыць. Пастухі бачылі, як збірала яна ў дайніцу расу, каб прынадзіць чужых кароў. Потым абярнулася ў жабу і смактала малако проста з вымя. Асабліва ўпадабала вядзьмарка Сымонаву карову.

— Пачакай, ліха тваёй галаве! — раззлаваўся Сымон. — Я пакажу табе, дзе ракі зімуюць.

Вечарам ён загнаў карову ў хлеў, зачыніў дзверы, а да затычкі прыляпіў грамнічную свечку. Назаўтра раніцай убачыў: прыбягала ноччу ведзьма, хацела перагрызці свечку, але зубы завязлі ў воску.

На другую ноч Сымон схаваўся ў хляве. Запаліў грамнічную свечку і сядзеў ціхенька ў кутку. Апоўначы адчыніліся насцеж дзверы. Карова перастала жаваць жуйку, забадала рагамі. Зірнуў Сымон, а пад каровай штосьці мітусіцца. Пакуль ён дабег, ведзьма перакінулася ў жабу.

Злавіў Сымон гадаўку і давай прыпякаць свечкай. Трымае за лапу і смаліць, ажно сала сквірчыць. Круцілася жаба, круцілася — і выкруціла сабе лапу. Сымон выкінуў яе за плот, а сам пайшоў спаць.

Назаўтра ён пачуў ад людзей, што маскоўка вывіхнула нагу і абсмаліла жывот, як свіння перад калядамі. Яна клялася, што гэта загарэўся фартух, калі пякла раніцай бліны. Аднак ніхто не паверыў у ведзьміны адгаворкі.

**58. Прорва**

Каля дрысвяцкіх могілкаў ляжыць балота. Калі пойдзеш напрасткі, патрапіш на глыбокую яму. Тутэйшыя людзі завуць яе Прорвай. Даўней там стаяла рыбнае возера, якое днём і ноччу вартавалі чэрці. Яны шкоднічалі, дурылі рыбакоў: адрывалі на вудах кручкі, заблытвалі ў карчах сеткі...

Аднойчы цыганы прывялі ў Дрысвяты на кірмаш вучонага мядзведзя і барадатага казла з пазалочанымі рагамі. Мядзведзь танцаваў, пацяшаў людзей, а ў жабрацкую торбу, што вісела на казліных рагах, цыганы збіралі плату за прадстаўленне.

Цікаўныя нячысцікі памчаліся ў Дрысвяты, каб падзівіцца на залатыя казліныя рогі. А на балота прыехаў па сена дзядзька. Ён закінуў у возера вуду і да палудня злавіў цэлы воз рыбы. Потым адумаўся: а навошта яму столькі рыбы? Пратухне, калі не завезці на кірмаш.

Прыехаў дзядзька ў Дрысвяты, спыніўся ў цяньку пад ліпай. Сабраліся вакол яго людзі, распытваюць, дзе ён столькі рыбы налавіў.

— У Чортавым возеры, што на балоце! — прызнаўся дзядзька.

Пачулі нячысцікі, што засталіся без рыбы, і ад роспачы кінуліся з Дрысвят наўцёкі. Нават забыліся пра залатыя казліныя рогі!

З таго дня возера пачало зарастаць, а рыба зусім звялася. Цяпер там ляжыць Прорва, у якой няма дна.

**59. Душа, прададзеная змею**

Вёскі Ямнае даўно няма, цяпер там шуміць лес. Толькі здзічэлыя грушы і яблыні сведчаць пра колішнія сядзібы. У Ямным жыў адзін заможны гаспадар. Суседзі дзівіліся: да работы не надта прыткі, а ўсяго мае ўдосталь. Адкуль у яго столькі багацця?

Аднойчы восенню багацей паклікаў малаціць жыта. Работнікаў збеглася шмат, бо ён добра плаціў. З самай раніцы загрукалі цапы. Цэлы дзень не прысядалі малацьбіты. Хутка стала змяркацца, а снапоў у гумне — непачаты край, быццам з усіх палеткаў звезлі. Патаміліся малацьбіты, не ведаюць — ці далей малаціць, ці назаўтра пакінуць.

Потым адзін хлопец зайшоў у гумно, зазірнуў у кожны кут. Анічога ён не ўбачыў, хіба пылу нанюхаўся. А калі выходзіў на двор, кінуў вачыма на кроквы... Пад страхой сядзеў хтосьці чорны, падобны на ката, і трымаў у лапах сноп. Хлопец не разгубіўся — шпурнуў у яго дзеркачом. Незнаёмец умомант знік, нават не мяўкнуў.

Праз паўгадзіны малацьбіты скончылі работу. І пацягнуліся дахаты, ледзь перастаўляючы ад стомы ногі. А назаўтра багацей моцна захварэў. Перад смерцю ён прызнаўся людзям, што ставіў у гумне патэльню з яечняй. За гэта змей прыносіў яму чужыя снапы і прыгаршчы золата.

**60. Дзяўчына і змей**

Закахаўся змей у дачку селяніна. Перакінецца ў віднага кавалера і мілуецца з прыгажуняй. Прыйшоў бацька клікаць дачку грэбці сена, а ў хаце будучы зяць сядзіць. Уздыхнуў ён — і зачыніў дзверы.

— Мабыць, твой бацька злуецца? — спытаўся кавалер.

— Пакуль пагода, трэба сена ўпарадкаваць, — сказала дзяўчына. — Хоць змея кліч на падмогу...

Павуркаталі яны, як галубкі, і развіталіся. Назаўтра дзяўчына пабегла на сенажаць, а іхняе сена складзена ў копы. Успомніла яна ўчарашнюю размову. Адразу сцяміла, што кавалер — змей-пярэварацень. А як пазбавіцца ад нехрысця? Бывалыя людзі парадзілі прыспаць яго каля возера, а ў навальніцу пабудзіць.

Дзяўчына так і зрабіла. Прыспала кавалера на беразе, а калі моцна загрымела, штурханула ў бок. Змей ад страху падскочыў, ударыў каханую па шчацэ і кінуўся ў возера.

Сонечным днём ён вылазіў на бераг. Хлопцы закапалі яго ў глыбокую яму, куды кінулі дванаццаць птушыных чарапоў. Пярэварацень згінуў, а на шчацэ ў дзяўчыны так і застаўся шнар ад кіпцюра.

**61. «Выйдзі, Восіп!..»**

Пакупаліся дзяўчаты ў рэчцы, выбеглі на зялёны беражок і давай хутчэй апранацца. А на сукенцы іх сяброўкі разлёгся вялікі вуж.

— Пойдзеш за мяне замуж, — азваўся ён чалавечым голасам, — тады аддам сукенку...

— Добра, пайду! — згадзілася прыгажуня, абы адчапіўся.

Вуж вільнуў доўгім хвастом і знік у рачной плыні. Расчасаліся дзяўчаты, заспявалі песню. Не спявалася толькі прыгажуні. Вярнулася яна дадому, прысела маркотная да акна.

— Што з табой, дзіцятка? — спыталася матуля.

Расказала дачка, што здарылася каля рэчкі.

— Не бядуй! — засмяялася маці. — Яшчэ не было такога, каб да людзей сваталіся паўзучыя гады.

А назаўтра раніцай каля іхняй хаты сабралася незлічонае мноства гадзюк і вужоў.

— Гэта мой суджаны прыйшоў! — заплакала дзяўчына.

Выбегла маці ў сені, зачыніла дзверы на жалезную засаўку. Вужы і гадзюкі злосна засыкалі паміж сабой, быццам пра штосьці раіліся. А потым разбілі акно, абвіліся вакол нявесты і забралі яе з сабою.

Мінула некалькі гадоў. Ніводнай вестачкі не падала пра сябе дзяўчына. Аднойчы пайшла матуля па ваду, а насустрач ёй — дачка з дзяўчынкай і хлопчыкам. Сталі яны абдымацца ды цалавацца, а калі нацешыліся, матуля спыталася:

— Донечка, дзе ты жывеш?

— У вадзяным царстве.

— А дзе твой муж?

— Мой муж застаўся дома.

— Мабыць, ліхі ён?

— Не, ён вельмі добры, любіць мяне і дзетак.

— Як жа ты вернешся да яго?

— Я прыйду на беражок і крыкну: «Восіп, выйдзі!..» Ён выплыве з рэчкі і забярэ нас.

Доўга яны гаманілі, пакуль дачка не схамянулася:

— Мамачка, нам трэба вяртацца ў вадзяное царства!

— Пабудзь да раніцы! — заплакала матуля. — Дай мне нацешыцца ўнучкамі... — І ўгаварыла дачку пераначаваць у роднай хаце.

А ноччу, калі госці заснулі, схапіўшы сякеру, маці пабегла да рэчкі. Спынілася на беражку і крыкнула:

— Восіп, выйдзі!..

Праз хвіліну з рэчкі паказалася вужыная галава. Замахнулася маці сякерай — умомант сцяла зяцеву галаву. А сама вярнулася дахаты, завалілася спаць.

Назаўтра раніцай прыйшла дачка на беражок, убачыла на белым пяску чырвоную кроў. Адразу пра ўсё здагадалася. Заламала рукі, загаласіла:

— Засталася я ўдавою, а мае дзеткі беднымі сіратамі!

Зачарпнула яна рачной вады, лінула на сябе і на дзяцей. І абярнуліся яны ў птушак. Дзяўчынка — у ластаўку, хлопчык — у салаўя, а сама матуліна дачка — у зязюлю-ўдавіцу, якая несуцешна кувае за вёскай.

**62. Вядзьмак паказвае сілу**

Пагналі хлопцы на начлег коней. Сваволяць, пішчаць, быццам арда татарская. Сустрэўся ім на дарозе Іван Порца, які знаўся з нячыстай сілай.

— Замоўкніце, паскуднікі! — крыкнуў ён сярдзіта.

А хлопцы, наадварот, яшчэ мацней гарцуюць і крыўляюцца. Нават адзін жэўжык хвігу паказаў ведзьмаку.

— Добра, я вас правучу! — прыгразіў Порца.

Прымчаліся хлопцы на балота, спуталі коней, расклалі на грудку вогнішча. Ноч выдалася цёплая. На небе зоркі, як Божыя свечкі, блішчаць, Млечны Шлях зіхаціць, што птушынай дарогай завецца. І такая навокал цішыня, ажно чуваць, як хрумаюць коні траву.

— О-го-го! — крыкнуў хтосьці з хлопцаў.

Далёка на балоце адгукнулася рэха. Давай начлежнікі галёкаць, дражніцца з рэхам. Але як ні галёкалі — перакрычаць рэха не змаглі. Тады яны разбегліся хто куды, махаючы галавешкамі, і па балоце нібыта пакаціліся вогненныя колы.

— О-го-го!.. — хтосьці жудасна зарагатаў.

Вярнуліся хлопцы на грудок, заціхлі, прыслухоўваюцца. А рогат усё мацней і мацней разлягаецца, быццам балота сварыцца з лесам. Спалохаліся начлежнікі, калоцяцца ад дрыжыкаў, ляскаюць зубамі. А нячыстая сіла то свісне, то заенчыць, то закрычыць немым голасам. Калі зусім пагасла вогнішча, стала яшчэ страшней. Лётае нечысць, ледзь не збівае шапку з галавы... На світанні заплакала яна, заскуголіла, але мусіла знікнуць. Вось так насылае вядзьмак нячыстую сілу, што служыць яму, нібыта пану.

**63. Смерць чараўніка**

Жыў у вёсцы стары чараўнік. Прыйшла пара яму паміраць.

— Пакажы, адкуль бяруцца чары! — просіць яго сын.

— Добра, — згадзіўся чараўнік, — залезь на печ і глядзі праз хамут...

Сын так і зрабіў. Бачыць ён — канае бацька. Тут як тут зляцеліся чэрці. Доўга яны мучылі небараку, аж пакуль ён не высалапіў язык. Падзялілі чэрці паміж сабой вантробы, а ў чалавечую скуру залез галоўны чорт.

— Гляньце, што я прыдумаў! Няхай замест мерцвяка мяне хаваюць!

Паклікаў сын на хаўтуры суседзяў. Паставілі кабеты ў печ чыгуны з вадой, каб абмыць нябожчыка перад апошняй дарогай. А самі радуюцца, што памёр чараўнік. Пачакаў сын, пакуль закіпела вада, і схапіў віламі чыгун.

— Што ты робіш! — крычаць кабеты. — Няўжо хочаш бацьку ашпарыць?..

— Гляньце, які гэта бацька! — плюхнуў сын у дамавіну кіпень.

Лопнула на мерцвяку скура. А чорт як сігануў наўцёкі — толькі сажа пасыпалася з коміна.

**64. Чараўнік Грыгалюніс**

У Агарках вам кожны раскажа пра Грыгалюніса, хоць яго даўно няма на свеце. От, бывала, зойдзе ён у хату і проста з парога:

— Здароў, Іване! Ты чаму на печы ляжыш?

— А дзе мне ляжаць?

— Хіба не бачыш, што вады па калена?

Зірне Іван: і праўда — патоп! Якое там ляжанне... Кумільгом з печы. Мац-мац рукой, а гліняны ток сухі. Вось на якія штукарствы быў здатны Грыгалюніс. Або такі выпадак. Сядзяць на бервяне мужчыны. Гамоняць, дымяць цыгаркамі. Падыходзіць Грыгалюніс.

— Хлопцы, хочаце — у адзін канец бервяна залезу, а праз другі вылезу...

Бервяно доўгае: хто пры тоўстым камлі застаўся, хто да вершаліны прыліп. Глядзяць — Грыгалюніс палез. Усё як мае быць: спачатку галава схавалася, потым тулава, ногі... Нарэшце зусім знік! А неўзабаве вылазіць. Цэлы і жывы. І ўсё гэта на вачах у дзесяці чалавек!

Як назваць такое штукарства: замарач? насланнё? Ці, можа, па-цяперашняму, па-сучаснаму — гіпноз?

Не стала Грыгалюніса ўвосень у пачатку вайны. Немцы расстралялі, хоць ён не быў камуністам ці актывістам. За што? А Бог яго ведае. Відаць, што быў не такі, як усе. У Агарках доўга пасля здзіўляліся: чаму ён не ўцёк? чаму не ачмурыў немцаў? Ды, мабыць, ад сваёй смерці — не ўцячэш.

**65. Шурочыў**

Непадалёку ад нашай вёскі быў хутар Дзеркачы. Гаспадарылі там два браты — Уладзік і Олесь. Разам з імі жыла цётка — паненка Стася. Чаму паненка? Ды таму, што гэтай паненцы было пяцьдзесят з гакам, а яна ані разу не была замужам.

Неяк зімой паненка Стася выбралася ў Слуцак. У спадарожнікі да яе напрасіўся начальнік смалакурні Вінэр. Справіла паненка свае клопаты, а ён — свае... Позна вечарам вярнуліся яны ў Вераб'ёў.

— Ну, дык заходзь, пераначуеш у нас, — запрасіў паненку Вінэр.

— Хо! Прыехаўшы ў швой фальварак (паненка моцна шапялявіла), — і не жайсці ў шваю хату...

— Хто яго ведае, — кажа Вінэр, — цёмначы ўсяк здараецца...

Не ўгаварыў, паехала. Ад Вераб'ёў да Дзеркачоў недалёка — тры кіламетры праз балота. Едзе паненка ў брычцы па снезе-шараку. І раптам як хтосьці штурхануў у плечы: «Паглядзі назад!»

Азірнулася яна, а за брычкай чалавек бяжыць. І вось-вось здагоніць! Паненка Стася сцебанула па конях пугай. Мо праз хвіліну другі раз азірнулася. А за спінай ужо не чалавек, а жарабец ляціць.

— О, такі вялікі, гладкі жарабец! — расказвала яна потым. — Я па конях, я па конях! Адной рукою шцябаю лейцамі, а другой жагнаюся, жагнаюся... Коні мае перашкочылі грэбельку, перамахнулі праз ужгорак, вышкачылі на поле і з усяго ходу ў двор! Кінула я лейчы і ў хату. Гляджу праж акно — і жарабец прыляцеў. Олесь пытаецца: «Чаго ты ўшкочыла як апечаная?» Кажу яму: «Глянь, хто на двары штаіць...» Падышоў Олесь да акна — жарабец жнік, як дым рашплыўся. От як шурочыў мяне шмалакур гэты Вінэр!..

**66. Смаляны чорт**

Каля Пагарэльцаў з'явіўся смаляны чорт, напэўна, збіраць смалу для пекла. Тутэйшыя смалакуры яго залагоджвалі. Крый Божа сказаць, што абыдзешся без нячыстага.

Адзін смалакур, каб дабрацца да карча, доўга падкопваў старую хвойку. Нарэшце ён паваліў старадрэвіну. Стаміўся, прысеў пакурыць. З суседняй вёскі якраз ішоў пчаляр. Спыніўся, паглядзеў на выварацень і кажа:

— Хапіла тут чорту работы!

— Мне чорт не памагаты! — адказаў смалакур. — Я з Богам у згодзе жыву.

Пачуўшы гэта, пчаляр закалаціўся ад ліхаманкі, потым спытаўся:

— Што ты будзеш з карчом рабіць?

— Спачатку адрэжу, нашчапаю лучыны...

— А калоду куды падзенеш? Не пакідаць жа караедам.

— На дошкі парэжу.

— Паслухай, браце, мяне, — пачаў раіць пчаляр. — Зрабі ты з гэтай калоды вулей. Сённяшні дзень спрыяльны на пчолак. Калі прыляціць рой, дзякуй мне скажаш...

Падумаў смалакур: і праўда, чаму не разжыцца мёдам? Мёд — не смала, да яго кожны ахвотнік. Калі пчаляр развітаўся, смалакур узяўся дзяўбці калоду. Нават корч забыўся адрэзаць — так захапіўся работай. Калі вулей быў гатовы, раптам пачуўся моцны трэск. Ад камля адлупілася шчэпка, і вулей раскалоўся напалам, а корч зваліўся ў яму. Смалакур забыўся распалавініць стырчавы корань. А калі гэта не зрабіць, дык нячысты абавязкова нашкодзіць.

— Пчаляр вінаваты! — раззлаваўся смалакур. — Навошта нараіў мне рабіць вулей?

Пабег ён у вёску, знайшоў пчаляра, які акурат вячэраў.

— Ах ты, сякі-такі! — напусціўся на яго смалакур. — Я з-за цябе цэлы дзень змарнаваў. І вулей не зрабіў, і корч у зямлю зваліўся.

— Адчапіся ад мяне, чалавеча! — сказаў пчаляр. — Я не быў сёння ў лесе. Калі не верыш, у людзей папытайся.

Успомніў смалакур, як закалаціўся ў лесе пчаляр, пачуўшы Божае імя, і здагадаўся: не абышлася гэтая прыгода без пярэваратня — смалянога чорта.

**67. Калядная ноч**

На святую куццю парабкі вячэралі разам з панамі. Пані-ўдавіца, у якой служыў Юстын, загадала накрыць стол, каб з першай зоркай сесці за стол. Выпілі яны па чарцы, добра паелі, а тады гаспадыня сказала:

— Я паеду на ўсяночную. А ты вартуй маёнтак.

Дарога да касцёла была няблізкая. Юстын хуценька падрыхтаваў сані. Калі гаспадыня паехала, ён абышоў сядзібу. Потым прылёг на запечку і задрамаў. Пабудзіў яго шум. На кухні завіхаліся нейкія маладзіцы.

«Можа, пані запрасіла сяброўкак?» — падумаў Юстын.

Раптам над галавой моцна загрукатала. З коміна выскачыла яшчэ адна паненка.

«Няйнакш нячыстую сілу прынесла!» — спалохаўся Юстын.

А маладзіцы скачуць па кухні, зусім не заўважаюць парабка. Потым залезлі на печ. Адна запрэглася ў саху, а другая пачала араць печ, быццам поле. Узарала, пасеяла проса. Яно мігам вырасла, закаласілася... Паглядзелі ведзьмы, ці выспела проса, схапіліся за сярпы. Адны жнуць, другія малоцяць, трэція пліту распальваюць... Нарэшце зварылі кашу. Яна смачна пахла, ажно ў Юстынавым жываце забурчэла. Пакаштавала кашу старшая ведзьма — і сiганула ў комін. Следам за ёй паляцелі сяброўкі. Злез парабак з цёплага запечка. Не вытрымаў, пакаштаваў кашу — і шуганўў у комін.

Апынуўся Юстын на балоце. Навокал было людносці, як на кірмашы! І ніводнага мужчыны — адны паненкі. Грала музыка, віравалі танцы. Лыпае вачыма парабак, сам сабе не верыць: яго пані таксама тут! Убачыла яна парабка, шапнула:

— Якое ліха цябе прынесла?

Расказаў Юстын, што з ім здарылася.

— Вунь стаіць белы конь, — сказала пані. — Уцякай адсюль, пакуль жывы!

Сеў парабак на белага каня і як бачыш апынуўся ў сваім двары. Прывязаў каня да плота, пабег у панскія пакоі. А насустрач яму — гаспадыня.

— Што з канём рабіць? — спытаўся Юстын.

— З якім канём? — здзівілася пані.

Выйшлі на двор, а замест каня — бярозавае палена прывязана да плота.

**68. Як бабка чарцяня бабіла**

Жыла ў вёсцы бабка-павітуха. Народзіцца дзіцятка — клічуць яе, каб прыняла малое. А потым частуюць, як найлепшую госцю.

— Шмат у каго я была павітухай, — пахвалілася бабка суседцы, — толькі чорт мяне не клікаў...

Назаўтра да павітухі прыехаў нейкі важны пан. Селі яны ў карэту і памчаліся ў палац. Усё абышлося добра: павітуха прыняла панскага ўнучка. Ад радасці гаспадар не ведаў, куды пасадзіць бабку, найлепшымі прысмакамі частаваў. Доўга яна жыла ў палацы, аж пакуль унучак не стаў хадзіць. Убачыла бабка, што пан мажа вочы нейкаю маззю, і таксама памазала адно вока. Зірнула ў міску, а там ляжаць абгрызеныя конскія косці! Завязала бабка вока, давай прасіцца дахаты.

— Чаму ты вока завязала? — пытаецца ўнучак.

— Бо вырасла болька, — зманіла павітуха.

Гаспадар палаца пасадзіў госцю на шасцёрку лепшых коней. На паўдарозе павітуха расплюшчыла памазанае вока і жахнулася. Яна ехала не на конях, а на асінавым чурбаку, які папіхалі чэрці!

Назаўтра прыйшла бабка ў карчму. А там — паўнютка людзей. Адны гамоняць, другія гарэлку жлукцяць, трэція ў бойку лезуць... Каля п’яных унучак завіхаецца. Аднаго ўшчыпне, другога тузане, трэцяму штосьці на вуха шапне...

— Навошта ты зводзіш людзей? — спыталася павітуха.

— Няўжо ты мяне бачыш? — здзівіўся ўнучак.

— Чаму ж не — бачу.

— А якім вокам?

— Вось гэтым! — паказала старая.

— Табе гэта нельга бачыць! — тыцнуў пальцам унучак.

Нарабіла бабка ляманту. Кінуліся людзі лавіць чорта, а яго след прастыў. Так павітуха засталася без вока.

**69. Бардунова пекла**

На Слонімшчыне за польскім часам жыў чараўнік Бардун. Аднойчы ён вяртаўся пешкі дахаты. Па дарозе здагнала яго фурманка, на якой сядзеў Пецечка — зухаваты дзяцюк, штукар і рагатун.

— Сядай, дзядзька, падвязу! — крыкнуў ён Бардуну. — Чэрці па цябе карэту не прышлюць!

Стары прамаўчаў, пачуўшы гэта, але не адмовіўся ад прапановы. Пецечка тузануў за лейцы: «Но, воўчая грыва!» Едзе далей і пасміхаецца, што падкусіў чараўніка. Раптам у фурманцы зляцела кола і пакацілася паперадзе каня.

— Што за халерыя? — здзівіўся дзяцюк. — Такога не было, каб у мяне воз развальваўся.

Паставіў ён кола на месца, сцебануў каня, а ў самога язык аж свярбіць, каб пакпеліць старога.

— Не, дзядзька, я ў нячыстую сілу не веру, прападзі яна пропадам!

І на гэта Бардун змаўчаў. Далёка яны не ад’ехалі: на хаду распрогся конь. Левая аглобля — у адзін бок, правая — у другі, а дуга звалілася ў лужыну.

— Вось дык праява, — пачухаў патыліцу Пецечка. — Напэўна, хамут кепска засупоніў... Гужы аслаблі, таму і зляцела дуга.

Перапрог ён каня, тузануў за лейцы.

— А можа, ёсць нейкая сіла? — азваўся Бардун.

— Лухта ўсё гэта! — адказаў Пецечка. — Пыл у вочы дурным бабам!..

— І праўда, чаго іх прынесла сюды? — паказаў на дарогу чараўнік.

Пецечка зірнуў — і разявіў рот. Па дарозе, як на вяселлі, скакалі бабы. Давай ён сцябаць пугай. А конь падыдзе — і стане, падыдзе — і стане... Калі скокі засталіся ззаду, бабы ўмомант зніклі.

— Ну, а цяпер што скажаш? — спытаўся Бардун.

— Ат, дзядзька! — зморшчыўся хлопец. — Гэтыя бабы па ягады прыйшлі.

— Авой, спыніся! — схапіў яго за плячо стары. — Паглядзі, куды мы едзем!..

Пецечка зніякавеў: на дарозе шугала полымя. Як ратавацца? Куды ўцякаць? А Бардун выкуліўся з фурманкі і крычыць:

— Хутчэй паварочвай на мост, пакуль не згарэў!

Пецечка тузануў за лейцы. Конь рвануўся з месца, але тут жа спыніўся, бо наперадзе ляжаў прыдарожны валун. Полымя на дарозе знікла, а чараўніка і след прастыў.

— Вось як ачмурыў мяне Бардун, — потым расказваў Пецечка. — Ледзь у пекла не загнаў!

**70. Прыгожая дуброва**

У Белавежскай пушчы, каля ўрочышча Прыгожая дуброва, жыў пастушок-сіраціна. Людзі плацілі яму ежай, давалі старое адзенне. Так мінула дзесяць гадоў. Пастушок вырас у прыгожага хлопца. Ён любіў хадзіць на вячоркі, але да дзяўчат не заляцаўся, а распытваў пра зачараваныя скарбы.

Аднойчы летам пастух загнаў кароў у пушчанскія нетры. Каля абымшэлага вываратня ён убачыў вялікі папаратнік, што звісаў да зямлі, нібы казачны вэлюм. Доўга, як зачараваны, дзівіўся хлопец на папаратнік. Потым успомніў, што якраз сёння — купальская ноч.

Вечарам ён прыгнаў статак у вёску, а сам хутчэй пабег назад, у пушчу. Следам за ім увязаўся ляснік, які западозрыў штосьці нядобрае. Спыніўся пастух каля папаратніка, прысеў каля вываратня. А з другога боку вываратня, трымаючы стрэльбу, затаіўся ляснік.

Хлопец сядзеў і не варушыўся, затым пачаў ціхенька насвістваць. Хтосьці яму адклікнуўся вясёлым посвістам. Пастух свіснуў яшчэ колькі разоў, і раптам з папаратніка паднялася гадзюка. Яна абвілася вакол пузатага гаршка, адкуль чырвоным агнём зіхацела золата. Пастух падхапіўся насустрач, каб узяць скарб. І раптам грымнуў стрэл — гэта стрэліў спалоханы ляснік.

У неба шуганула вялізнае полымя. Калі агонь апаў, нікога не засталося: ні гадзюкі, ні пастуха, ні лесніка. З таго часу мінула шмат гадоў. Каля вываратня вырасла прыгожая дуброва. Людзі кажуць, што тут рассыпаўся скарб, які гадзюка прынесла пастуху.

**71. Як з’явіліся грыбы**

Хадзіў па свеце Хрыстос і вучыў, як праўдзіва жыць на свеце. Суправаджаў Настаўніка ў дарозе апостал Пятро. Добрыя людзі ахвотна іх прымалі, а злыя і скважныя — на парог не пускалі.

Аднаго дня ішлі падарожнікі цераз поле. Паўдня мінула, а вёскі няма і няма. Ста-

міўся Пятро, прагаладаўся. Стала муляць яму торба, якую даручыў несці Настаўнік. Нарэшце поле скончылася, пачаўся лес. Не вытрываў Пятро: развязаў торбу, адламаў скарынку хлеба і запхнуў сабе ў рот. Убачыў гэта Хрыстос і спытаўся:

— Парай мне: як накарміць галодных людзей?

Хацеў Пятро адказаць, але не можа, бо ў роце — поўна хлеба. Што заставалася яму рабіць? Выплюнуў ён пажаваны хлеб, і з гэтага мякіша з'явіліся першыя грыбы. Усялякія — і добрыя, і ядавітыя. Напэўна, каб апостал не адшчыкнуў употайкі скарынку, дык мухаморы і паганкі ў лесе не раслі б...

**72. Князь Кук**

У птушак быў князь, звалі яго Кук. Лётаў князь Кук па Беларусі і бараніў птушак ад ворагаў. Добра тады жылося птушкам, ніхто іх не крыўдзіў. А потым здарылася бяда: князь Кук прапаў. Чакалі яго тыдзень — няма; чакалі месяц — не падае пра сябе вестак.

— Хто нас цяпер абароніць? — перапалохаліся птушкі.

Сабраліся яны і сталі раіцца, як далей жыць. Вырашылі знайсці свайго заступніка, але ніхто не згаджаецца выбрацца ў дарогу. У кожнага свой клопат. Адзін гняздзечка ладзіць, другі яйкі наседжвае, трэці птушанят гадуе... Той — стары, а гэты — малы...

Доўга спрачаліся птушкі, каму шукаць князя Кука. Нарэшце выбралі Зязюлю. Спалохалася Зязюля, што трэба ляцець немаведама куды, і знесла яйка.

— А куды я падзену яйка? — спыталася яна.

— Пакладзі ў любое гняздо, — параілі ёй птушкі.

— А хто будзе наседжваць маё яйка?

— Каму пакладзеш, той і парупіцца!

— А хто птушанятка гадаваць будзе? — не супакойвалася Зязюля.

— Хто сваіх будзе гадаваць, той і тваё дагледзіць, — паабяцала птушыная грамада.

Падхапілася Зязюля, паклала яйка ў чужое гняздо і паляцела. З таго часу кліча яна — не дакліччацца:

— Ку-ку! Ку-ку!..

За гэта птушкі гадуюць зязюліных птушанят і цярпліва чакаюць свайго абаронцу — добрага князя Кука.

**73. Жаўрук**

Вандруючы па свеце, Бог убачыў на полі аратага. Конік ледзьве цягне саху, а кашуля на спіне аратага — хоць выкручвай ад поту. Спыніўся Бог, паспачуваў чалавеку.

— Дзе араты плача, там жняя скача, — адказаў яму селянін і запрасіў папалуднаваць.

Хоць які там палудзень! Акрайчык чэрствага хлеба, некалькі горкіх цыбулін ды збанок крынічнай вадзіцы... Аднак праўду кажуць: не дораг абед, а дораг прывет. Падмацаваўся Бог і спытаўся ў аратага, якую ён хацеў бы мець палёгку.

— Не трэба мне палёгкі, — уздыхнуў селянін, — толькі абрыдла слухаць, як грукае каменне аб нарог.

Пагаманілі яны з паўгадзіны, і араты павёў далей баразну. А Бог — шпурнуў у неба каменьчык. І ў паднябессі, быццам званочак, зазвінела маленькая птушка. Весялей пацягнуў саху конік, усміхнуўся сам сабе араты. З таго дня жаўрукі гняздзяцца на полі, яны падобныя на шэрыя каменьчыкі.

**74. Бусел**

Завітаў Бог у наш беларускі край і парадаваўся. Навокал сцяною стаяць пушчы-лясы, шырока раскінуліся палеткі, не злічыць азёраў і рэк, бруістых крыніц. Адно блага — шмат развялося гадаў, няма ад іх жыцця ні людзям, ні жывёле. Узяў Бог торбу і сабраў плюгаўства, ніводнай гадзюкі ці жабы не пакінуў. Потым гукнуў на падмогу касца, які завіхаўся на лузе. Павесіў яму торбу на плячо і папрасіў занесці ў дрыгву.

А касец аказаўся надта цікаўны, схаваўся за куст вербалозу і развязаў торбу. Зірнуў усярэдзіну — абамлеў ад страху. Тым часам гады вылезлі і распаўзліся па зямлі. Не захацеў Бог другі раз пэцкацца: начапіў парожнюю торбу хлапчыне на плячо і загадаў лавіць выпушчаных гадаў. Злавіў касец першую жабку — абярнуўся ў бусла.

З таго часу бусел, нібы касец, дыбае па лугах-балотах. Босы, з чырвонымі нагамі, у белай кашулі і з чорнаю торбай за спінай. Бог злітасціўся над небаракам, паслаў на падмогу жонку-бусліху і дзетак-буслянят. А жыць дазволіў сярод людзей, каб не забыліся, што яны з чалавечага роду. Людзі таксама пра гэта помняць, таму не крыўдзяць буслоў, шануюць іх, як родных братоў.

**75. Страцім-лебедзь**

Даўным-даўно людзі палявалі на лебедзяў. Мяса спажывалі, а беласнежным пухам аздаблялі адзенне. Потым адумаліся, абвясцілі закон: хто пабурыць лебядзінае гняздо ці забярэ яйкі, той будзе моцна пакараны. Аднак не строга чыніўся мудры закон, таму лебедзяў засталося мала. І быў сярод іх прыгожы асілак Страцім-лебедзь.

Потым пачаўся страшны патоп, бо людзі шмат награшылі. Рэкі і азёры павыходзілі з берагоў, паводка заліла палеткі і сенажаці, нават пушчы-лясы праглынула вада. Напэўна, зусім звяліся б на зямлі звяры і птушкі, каб не гаспадарлівы Ной. Ён пабудаваў вялікі карабель, дзе даў прытулак жыўнасці. А горды Страцім-лебедзь сказаў Ною:

— У мяне хопіць сілы, каб самому ўратавацца!

Сорак дзён і начэй не аціхаў дождж. Не ўсім птушкам хапіла месца на караблі. Стаміліся яны лётаць і ўпалі хмарай на Страцім-лебедзя, які плаваў па моры-акіяне. Знясілены асілак апусціў дзюбу, захлынуўся і пайшоў на дно. Калі патоп скончыўся, ад птушак засталіся нашчадкі. Няма толькі адных — Страцімавых.

**76. Кнігаўка**

Надарылася спякотлівае лета. З дня ў дзень смажыла сонца, не сунімаўся вецер-сухавей. Праз месяц — высахлі азёры; праз два — перасохлі рэкі; праз тры — сыпучы пясок праглынуў крыніцы.

Пагаравалі ад сухменю людзі, паўздыхалі, а потым дружнай талакой выкапалі глыбокія калодзежы і здабылі сабе ваду.

Затое птушкам і звярам — хоць уцякай ад смагі на край свету. Сабраліся яны і таксама вырашылі капаць студню. Адна кнігаўка адмовілася дапамагаць.

— Каб напіцца, — сказала яна, — мне хопіць расінкі!

Раззлаваліся птушкі і звяры на гультайку, грозна яе папярэдзілі:

— Ты не зможаш напіцца ні ў рэчцы бягучай, ні ў возеры стаячым, ні ў крыніцы празрыстай. А каб спатоліць смагу, мусіш чакаць дажджу. Інакш ні табе, ні дзецям тваім не будзе месца сярод нас...

Так і збылося. Звяры і птушкі дакапаліся да вады, вярнулі азёры, рэкі і крыніцы. Хапае цяпер вады, толькі кнігаўка не можа напіцца. Лётае над балотам і жаласліва крычыць:

— Піць хачу!.. Піць хачу!..

Зусім блізка вада, а яна баіцца памачыць дзюбу. Не хоча застацца без роднай балацявіны.

**77. Ластаўка**

Быў час, калі над звярамі, птушкамі і дробнай жамярой уладарыла царыца-гадзюка. Аднойчы паклікала яна да сябе лясных жыхароў і спыталася:

— Хто ведае, чыя найсмачнейшая кроў на свеце?

Доўга спрачаліся паміж сабой звяры і птушкі, але ніяк не маглі прыйсці да згоды.

— Няхай тады скажа камар! — загадала гадзюка. — І мы дазнаемся, хто наш найпершы вораг.

А камар, не марудзячы, паляцеў напрасткі ў самую блізкую вёску. Напіўся там чалавечай крыві і падаўся назад у лес. Па дарозе сустрэлася яму ластаўка.

— Камарок доўгі насок, чыя кроў найсмачнейшая? — спыталася яна.

— Людз-дз-дзей! — забзыкаў камар.

— Дай мне пакаштаваць!

Камар высунуў язычок. А ластаўка цапнула яго дзюбай — і адарвала. Вярнуўся камар на паляну. Бзыкае на ўвесь лес, аднак ніхто яго не можа зразумець.

— Калі не скажаш, сам будзеш нашым ворагам! — раззлавалася царыца.

— Б-з-з!.. Б-з-з! — спалохаўся камар і паказаў, што застаўся без языка.

— Хто цябе знявечыў? — спыталася царыца.

Камар тут жа падляцеў да ластаўкі. Гадзюка схапіла птушку за хвосцік, аднак ластаўка вырвалася з пашчы і ўцякла. З таго часу ластаўкі жывуць побач з людзьмі і маюць выскубаны хвосцік. А ўсе звяры і птушкі лічаць камара сваім ворагам. Так яму і трэба!

**78. Наймілейшыя, найпрыгажэйшыя**

У Белавежскай пушчы жылі па суседству сава і куніца. Абедзве ноччу палявалі, а днём хаваліся. Адна ў гняздзе, другая — у дупле. Сустрэліся яны вечарам на ўзлеску. Сава ляцела ў поле мышкаваць, а куніца спяшалася ў лясны буралом.

— Куды ты, кумачка? — спыталася сава.

— На паляванне, — сказала куніца. — Можа, вавёрку злаўлю ці гняздо з птушанятамі знайду.

— Ах, кума! — занепакоілася сава. — Толькі маіх дзетак не чапай!

— Не бойся, не крану, — запэўніла куніца суседку, — скажы толькі, як іх пазнаць...

— Каб маіх дзетак не пазнаць! — абурылася сава. — Яны наймілейшыя і найпрыгажэйшыя ў свеце!

— Ну, тады пазнаю! — пагадзілася куніца.

На тым суседкі развіталіся. Сава паляцела мышкаваць, а куніца падалася ў лясны гушчар. Бегла яна, бегла і ўбачыла на яліне гняздо. У гняздзе — птушаняты сядзяць. Ды такія прыгожыя — вачэй не адарваць!

«Мабыць, гэта дзеці савы, — падумала куніца, — не буду іх чапаць...»

І, не марудзячы, пабегла далей. Неўзабаве зноў патрапіла на гняздо, у якім сядзелі птушаняты. Не надта прыгожыя, але не брыдкія.

«Няхай жывуць, — аблізнулася куніца, — раптам гэта савіныя дзеці...»

Цэлую ноч бегала куніца, зусім прагаладалася. Нарэшце каля свайго дупла трэцяе гняздо знайшла, а ў ім — птушаняты пішчаць. Ды такія лупатыя — глядзець

не хочацца. З’ела куніца птушанят, ніводнага не пакінула. Раптам прыляцела сава. Убачыла яна пустое гняздо, зашчоўкала дзюбай:

— Ах ты, разбойніца! Навошта маіх дзетак з’ела?

— Я тваіх дзяцей, кума, не чапала, — стала апраўдвацца куніца. — Ты казала, што яны — наймілейшыя і найпрыгажэйшыя. А гэтыя былі брыдкія, я ледзь іх праглынула.

— Няпраўда, наймілейшыя і найпрыгажэйшыя! — расшчаперыла кіпцюры сава. — Як з’явяцца ў цябе кацяняты, я таксама павячэраю!

І па сённяшні дзень варагуюць сава і куніца.

### 79. Чмялі і пчолы

Захацелася Богу паласавацца мёдам. Завёў ён сабе чмялёў, а ў чмяліным гняздзе — ні мёду, ні воску. Затое хітры чорт разжыўся пчалінай борцю. Паклікаў у госці Бога і пачаставаў свежым мядком.

— Давай мяняцца, — прапанаваў Бог. — Я табе — вялікіх чмялёў, а ты мне — маленькіх пчол.

Чорт — таксама не дурань, не згадзіўся на абмен. Тады Бог падкаціўся з другога боку.

— Ты найлепшы гаспадар! І добры, і шчодры... Падары мне пчолку.

Задаволены пахвалой, чорт згадзіўся, злавіў адну пчалу. А Бог дзьмухнуў — і яна зрабілася пчалінай маткай, зазвінела каля борці. Пачуўшы маладую матку, рой пакінуў калоду і паляцеў у райскі сад.

Цяпер у Бога хапае ўдосталь і мёду, і воску на свечкі. А дурны чорт застаўся з кукішам.

### 80. Рак

Стварыўшы дзень і ноч, Бог раздаў усім вочы — і людзям, і ўсякай жыўнасці. Апошні па вочы прыпоўз вусаты рак.

— Дзе ты быў? — спытаўся Бог.

— У карчах сядзеў, — прабурчаў рак.

— Лепшыя вочы разабралі, — сказаў Бог, — вазьмі, якія засталіся.

Рак памацаў клюшнямі вочы і шпурнуў іх на зямлю.

— Пакінь сабе гэтыя лупачы! Мне яны не патрэбныя.

— Ах так! — раззлаваўся Бог. — Тады поўзай хвастом наперад, а глядзі заўсёды назад.

Патрымайце рака за клюшню — самі пераканаецеся, што гэта чыстая праўда.

### 81. Вужовы кароль

Вужовы кароль не поўзаў па зямлі, як астатнія вужы. Ён хадзіў па-чалавечы, падпіраючыся хвастом, нібы кійком, а на галаве насіў залатыя рожкі. Сустрэўшы Вужовага караля, трэба разаслаць бялюткі ручнік і пакланіцца да зямлі. У падзяку за гэта кароль скіне свае рожкі. Яны памагаюць адгадваць чужыя думкі, адмыкаць любыя замкі і каморы.

Нашы дзяды і прадзеды спрадвеку шанавалі вужоў. Давалі ім прытулак, кармілі хлебам і малаком, таму ў хаце вуж адчуваў сябе гаспадаром. Сядуць сямейнікі вячэраць — і ён цягнецца да міскі. Бывала, галоднае дзіця «частавала» паўзуна драўлянай лыжкай. Гад пакрыўджана сыкаў, на хвілінку адпаўзаў, а потым зноў цягнуўся да стала.

Людзі непахісна верылі, што вуж прыносіць дастатак і згоду, а калі ён паміраў, рабілі з ягонага тлушчу свечку. Наваліцца бяда-гора — гаспадар запальваў гэтую

свечку і ставіў на падваконне. Яе святло трапляла ў самыя глыбокія норы. Тады ўсе вужы спяшаліся на дапамогу чалавеку. А наперадзе ішоў Вужовы кароль з залатымі рожкамі на галаве.

**82. Рыбін цар**

У нарачанскай вёсцы гулялі вяселле. Нястомныя музыкі не прысядалі, а вясельнікі спявалі і скакалі, аж трэслася хата. Толькі сусед — стары рыбак — баяўся падняцца з лавы. Кульнуўшы лішнюю чарку, ён дзівіўся збоку на гасцей і раптам прыкмеціў, што ў аднаго паніча замест ног — рыбін хвост. Дзядзька шапнуў музыкам граць як найдаўжэй, а сам хутчэй падаўся за дзверы. Заблытаў на вуліцы каня і памчаўся па навакольных вёсках.

— Прачынайцеся, Рыбін цар пакінуў свае ўладанні!

Схапіўшы сеткі, рыбакі пабеглі да Нарачы. Да раніцы яны злавілі цэлыя горы малой і вялікай рыбы. Напэўна, ніводнага хвосціка не пакінулі б, каб музыкі не стаміліся граць.

Вярнуўся з вяселля Рыбін цар. Убачыўшы, які разбой учынілі прагныя рыбакі, заплакаў ён ад жалю. Цэлы тыдзень стагналі азёры і рэкі па ўсёй Беларусі. А сам Рыбін цар знік у нарачанскім прадонні. І больш яго не бачылі.

**83. Мядзведзь**

Калісьці ў дуплах старадрэвін вялося шмат пчаліных раёў. Хто першы знойдзе дупло, таму і належала борць. Гаспадар абвязваў дрэва вяроўкай, каб ніхто не чапаў яго маёмасць.

У адной вёсцы жыў памаўзлівы дзяцюк — найпершы ў ваколіцы гультай. Ён цягаўся па лесе і крадком выдзіраў з чужых борцяў мёд. Ды яшчэ наракаў, маўляў, цяжка лазіць па дрэвах.

Дачуўся гэты ласун, што за сямю лясамі, за сямю балотамі жыве чараўнік. Можа, ён падкажа, як лягчэй здабываць мёд? Пайшоў дзяцюк у госці да чараўніка. Убачыў па дарозе абвязаную сасну. Ускараскаўся, наеўся мёду і падаўся далей. Потым спустошыў яшчэ адну борць... Пад вечар прыцягнуўся ў вёску, дзе жыў чараўнік. Гаспадара дома не аказалася, а каля яго хаты на ліпе гудзелі пчолы. Не вытрымаў дзяцюк, залез на дрэва і пачаў выдзіраць соты. Якраз вяртаўся дамоў чараўнік. Убачыўшы злодзея, ён шапнуў замову:

— З гэтай хвіліны і ты, і твае дзеці, і дзеці тваіх будзеце выдзіраць борці!

І абярнуў гультая-ласуна ў мядзведзя.

**84. Воўк**

Чорт змайстраваў драўлянага ваўка, вялізнага, большага нават за каня. Паказаў Богу і спытаўся:

— Ці добры будзе?

— Не, надта вялікі, — сказаў Бог.

Стругаў чорт, стругаў — выстругаў ваўка памерам з ладнае жарабя.

— І гэты завялікі, — сказаў Бог.

Цэлы дзень стругаў нячысты. І выстругаў ваўка, трохі большага за сабаку.

— Цяпер — у самы раз, — згадзіўся Бог, і воўк адразу ажыў.

— Кусі, воўча, Бога! — гыркнуў чорт.

— Кусі, воўча, чорта! — крыкнуў Бог.

Крутнуўся воўк і кінуўся на нячыстага. Няма куды ўцякаць паскудніку! Падскочыў ён ад страху, схапіўся адразу за дзве алешыны. Гайдануліся алешыны ўбакі — і разарвалі чорта, як жабу.

З таго часу, калі здзярэш на алешыне кару, па камлі разліваецца чырвань. Гэта сочыцца чортава кроў.

**85. Кот і сабака**

За царом Гарохам кожная жывёла мела дакумент, дзе было напісана, у каго яна жыве. Таму жывёлы тады не бадзяліся па свеце.

Жылі-былі кот і сабака. Яны моцна сябравалі: разам елі, разам палявалі, разам клаліся спаць. Кот на цёплым прыпечку, а сабака каля парога. Доўга жылі сябры бясклапотна, пакуль ім не надакучыла.

— Што за жыццё! — заскуголіў сабака. — Нават уволю не пабрэшаш!

— І на чужой печы не паляжыш, — замурлыкаў кот, — чужых каўбас не панюхаеш...

Наракалі яны, наракалі і згаварыліся паглядзець белы свет. Пакінулі гаспадарову хату і падаліся ў белы свет. Дзень ішлі, другі ішлі, а на трэці дзень апынуліся каля вялікай ракі. Для сабакі — гэта не перашкода, бо ён добра плавае. А кот, абмакнуўшы лапу, сказаў:

— Каб я меў боты, дык перайшоў бы, а босым — не магу.

— Не бядуй, я цябе перавязу, — суцешыў яго сабака. — Патрымай мой дакумент, каб не замачыўся.

Залез кот сабаку на спіну, а дакументы схапіў зубамі. Рака аказалася шырокай. Доўга яны плылі моўчкі. Сумна стала сабаку.

— Ці добра табе, браце? — спытаўся ён у сябрука.

Кот хацеў адазвацца, але пабаяўся разявіць рот, каб не выпусціць дакументы.

— Можа, ты задрамаў, седзячы на сухім і цёплым?

Кот і на гэта ніводным словам не абмовіўся.

— Гаў-гаў! — раззлаваўся сабака. — Плыві тады сам, калі такі ганарысты!

— Браточак, не губі! — спалохаўся кот.

А дакументы выпалі з рота і паплылі па рацэ. Убачыў кот, што здарылася бяда, але прамаўчаў, каб самому не апынуцца ў вадзе.

Нарэшце дабраліся яны да берага. Сабака папрасіў вярнуць яго дакументы.

— Прапалі нашы дакументы! — адказаў кот. — Навошта ты прымусіў мяне размаўляць?

Ад злосці сабака вышчарыў зубы. Кот ад страху выпусціў кіпцюры. Сабака хацеў парваць ката на кавалкі, а кот наравіў яму выдраць вочы. З таго часу няма паміж імі згоды. Нездарма кажуць: жывуць як кот з сабакам.

**86. Найлепшы прыяцель**

Заспела чалавека на сенажаці навальніца. Спыніўся ён пад старым дубам, каб перачакаць залеву, а з другога боку да камля прыціснуўся чорт.

— Адыдзі далей, — параіў яму чалавек, — інакш цябе заб’е.

Толькі чорт адышоў — жахнуў пярун, ажно страсянулася зямля. І проста туды, дзе нядаўна стаяў нячысты.

— Ты мяне збавіў ад смерці, — сказаў чорт. — Прыйдзі сюды вечарам з найлепшым прыяцелем, я золата прынясу.

Вярнуўся дахаты чалавек і так разважыў:

«Найлепшы мой прыяцель — жонка, вазьму яе з сабою...»

Прыйшлі яны вечарам да старога дуба. Чалавек прылёг на траву-мураву і адразу заснуў. Апоўначы заявіўся нячысты, пачаў намаўляць жонку:

— Навошта табе гэты дурны мужык! Я з ног да галавы цябе азалачу, калі ты яго заб’еш...

Жонка спачатку не згаджалася, а калі ўбачыла залатыя чырвонцы, хутчэй папрасіла нож. Чорт ператварыў дубовую галінку ў нож і падаў кабеце. Толькі яна замахнулася — пабудзіў чалавека.

— Ты спадзяваўся, што жонка найлепшы прыяцель, — засмяяўся нячысты, — а яна хацела цябе забіць. Знайдзі сапраўднага прыяцеля, тады атрымаеш сваё золата...

Цэлы дзень чалавек думаў, каго з сабою ўзяць. Так і не прыдумаў — пайшоў адзін, а за ім увязаўся сабака. Хацеў гаспадар прагнаць дварняка, а пасля перадумаў: няхай бяжыць — весялей будзе. Прылёг пад старым дубам на траву-мураву і зноў задрамаў. Апоўначы заявіўся чорт. Убачыўшы нячыстага, сабака моцна забрахаў. Падхапіўся чалавек і адразу здагадаўся, хто найлепшы яго прыяцель.

**87. Мякіннік**

Жыў адзін вельмі скупы чалавек. Свіран ломіцца ад прыпасаў, а ён скарынку хлеба не дасць сіраціне. Нават сабе паесці шкадаваў. Натаўчэ варанай бульбы з мякінай, зап’е вадой — вось і папалуднаваў. За гэта празвалі яго Мякіннікам.

Дачуўся Мякіннік ад людзей: калі сарвеш папараць-кветку, станеш самым багатым на свеце. Пабег ён у купальскую ноч за вёску. Доўга блукаў па лясных нетрах. Нарэшце стаміўся, прысеў на трухлявы пень, не ведаючы, куды падацца. Раптам побач як загуло, як затрашчала!.. Азірнуўся Мякіннік — водзяць чэрці карагод у абдымку з ведзьмамі. Спалохаўся жмінда, задрыжаў як асінавы ліст, а потым убачыў, што ў папаратніку нібы зорачкі зіхацяць. Пацягнуўся рукой, каб схапіць адну зорачку, але не паспеў — наляцела нечысць. Рагоча, пішчыць, не падпускае да папараць-кветкі.

«Эх, усё роўна прападаць! — падумаў Мякіннік. — Прадаў бы д’яблу душу, каб добра заплаціў...»

— Я зраблю цябе найпершым багачом, калі прадасі душу! — падскочыў да яго нячысты.

— А ці доўга я буду валодаць багаццем? — спытаўся Мякіннік.

— Людзі аніколі не забудуць, што ўсё належыць табе.

Падпісаў Мякіннік паперку крывёй, а чорт прынёс яму папараць-кветку. З таго дня паплыло да скнары багацце. Столькі ўсяго займеў — самому няма дзе прыткнуцца. Паклікаў нячыстага, каб навучыў, як жыць далей.

— Я звару чароўны камень, які табе дапаможа, — сказаў чорт.

Наліў ён поўны кацёл поту, слёз і людской крыві. Тры дні і тры ночы варыў, нарэшце зварыў золата.

— Аддай мне золата! — папрасіў жмінда.

— Няхай спачатку паходзіць па свеце, — засмяяўся нячысты. — А як збярэ ўсё людское багацце, тады яно вернецца да цябе.

Праз месяц-другі пасыпалася золата Мякінніку. Ніхто не можа зраўняцца з багацеем, адно яго палохае: рана ці позна, а ўсё роўна давядзецца паміраць. Паклікаў Мякіннік знакамітых лекараў, каб выратавалі ад смерці. Кожнаму мяшок золата паабяцаў.

— Ад смерці не адкупішся! — засмяяліся лекары.

Думаў-думаў Мякіннік, але прыдумаў-такі, як абдурыць кашчавую. Насыпаў поўны склеп золата і схаваўся за жалезнымі дзвярамі. Назаўтра пагрукала ў дзверы смерць:

— Няхай стане тым, чым было!

І насыпанае ў склепе золата разлілося потам, слязамі і людскою крывёй. Утапіўся Мякіннік, нават войкнуць не паспеў.

— Да сканчэння свету цябе не забудуць! — зарагатаў чорт. — Бо ты ўсіх дурыў, на поце, слязах і крыві людской жыў!..

**88. Прагны поп**

Вяртаўся з абедні поп, а насустрач яму — жабрак. Зняў шапку і просіць:

— Бацюшка, дай кавалак хлеба, каб з голаду не памерці...

— Ці мала вас, абібокаў, цягаецца? — раззлаваўся поп. — Згінь з маіх вачэй! — І нацкаваў на жабрака сабаку.

А стары махнуў рукой, і навокал сцяною падняўся лес. Каб не заблудзіцца, поп увязаўся за жабраком. Доўга яны блукалі, пакуль выбіліся на балота. Жабрак купіў у пастуха барана. Потым зарэзаў яго, кінуў у кацёл барановаe сэрца і дзве ныркі.

— Як вячэра згатуецца, пабудзіш мяне, — сказаў ён папу, — а пакуль я падрамлю, бо надта стаміўся...

Поп ахвотна згадзіўся. Прысеў бліжэй да вогнішча, а ў самога — поўны рот сліны. І не вытрымаў, з’еў адну недавараную нырку. Пасля заваліўся на бок і захроп на ўсё балота.

— Уставай, пара вячэраць! — раскатурхаў яго жабрак. — Ты не ведаеш, хто нырку з’еў?

— Я згатаваў вячэру і заснуў, — сказаў поп і давай прысягаць, што не вінаваты.

— Хопіць табе! — засмяяўся стары. — Можа, пакуль мы спалі, наведаўся злодзей...

Павячэралі яны і пайшлі сабе далей. Недалёка адышліся — убачылі на дарозе горбу золата.

— Вось дык знаходка! — узрадаваўся жабрак. — Як падзелім золата?

— Як падзеліш, так і будзе, — адказаў поп, а ў самога вочы як галавешкі гараць ад прагнасці.

Падзяліў жабрак золата на тры роўныя долі.

— Гэтая траціна — мне, гэтая траціна — табе, а трэцяя — таму, хто нырку з’еў.

— Дзядзечка, гэта я з’еў! — падскочыў ад радасці поп.

— Навошта ты нагаворваеш на сябе? — не паверыў жабрак.

— Дальбог, я з’еў! — клянецца поп.

— Вось які ты сквапны! — усміхнуўся Бог. — Адразу дзве клятвы даў: адну — што не еў, а другую — што з’еў. Спачатку пакваліўся на барановаю нырку, а цяпер — на золата. — І блаславіў прагнага папа: — Будзеш ты браць з беднага і з багатага, з жывога і з мёртвага. І ўсё роўна — табе будзе мала.

Так яно з таго дня і павялося.

**89. Загубленыя душы**

У Дрысвятах, на скрыжаванні дарог, стаяла хаціна ўдавы, у якой спыняліся падарожнікі. Начавалі яны ў гумне, на капіцы сена. Аднак ніхто не змог там заснуць, бо ўсіх ахопліваў жах.

Аднойчы на начлег папрасіўся малады жаўнер. Апоўначы ў гумно зайшлі два незнаёмцы. Адзін трымаўся за галаву і прасіў, каб яго пагладзілі, а другі спрабаваў зняць у сябе з шыі вяроўку.

Жаўнер перахрысціўся і зрабіў тое, што хацелася незнаёмцам. Калі яны зніклі, служывы заваліўся спаць. Назаўтра ён успомніў пра начное здарэнне. А гаспадыня, заліваючыся слязьмі, расказала пра сваё гора.

Калісьці яна жыла з мужам. На свята завітаў яе брат. Мужчыны моцна выпілі, а потым пасварыліся. Гаспадар ударыў швагра па галаве, і той адразу сканаў. Ад роспачы забойца зачыніўся ў гумне, дзе наклаў на сябе рукі.

Загубленыя душы не мелі спакою, пакуль жаўнер не пазбавіў іх ад пакут.

**90. Давай мяняцца!**

Адзін паляшук надумаўся разжыцца пчоламі. Доўга ён цягаўся ад старадрэвіны да старадрэвіны — ніводнай борці не знайшоў. Тым часам зусім сцямнела, і дзядзька заблудзіўся. Хочаш не хочаш, а мусіш начаваць у лесе. Расклаў ён цяпельца і ўспомніў, што акурат сёння — Купалле. Сыпанулі мурашкі па спіне, аж на галаве кепка паднялася. Нацягнуў паляшук кепку на вушы, прылёг бліжэй да агню і заснуў, як дома на печы.

Пабудзіў яго грукат капытоў. Азірнуўся начлежнік — коней побач няма, у цяпельцы тлеюць апошнія вугельчыкі. Трэба хутчэй падкінуць ламачча. А навокал папарадзь стаіць і дзівосным агнём пераліваецца! Адважыўся паляшук сарваць дзіва-цвет і ледзь вочы не выпараў аб сукі. Схапіў ён хварасціну і кумільгом назад, збіваючы нагамі папаратнік. Бяжыць, а ў лапцях жар-цвет зіхаціць.

Нарэшце апынуўся каля цяпельца. Шпурнуў на вуголле хварасціну і абвёў галавешкай вакол сябе круг. Праз якую хвіліну падышоў незнаёмы панічок у капелюшы і кажа:

— Давай мяняцца! Ты мне — старыя лапці, а я табе — новыя боты. І залаты чырвонец у прыдачу!

Паляшук не доўга думаў — адразу згадзіўся. Аддаў свае лапці, паклаў боты пад галаву і заваліўся спаць далей. Раніцай прачнуўся — замест ботаў пад галавой тырчыць корч, лапці на нагах — згарэлі, а ў руцэ замест чырвонца — разлезлы мухамор.

**91. Дзяўчына з замчышча**

У гэтай рэчцы, што абвілася вакол замчышча, людзі знаходзяць залатыя і сярэбраныя манеты, а на вяршыні ноччу мігцяць нейкія дзівосныя агеньчыкі. Кажуць, што гэта паказваецца зачараваны скарб.

Аднойчы хлопцы прыгналі сюды на начлег коней. Пад раніцу, калі дагарэла вогнішча, да іх падышла дзяўчына.

— Расчашыце мяне! — папрасіла яна. — Расчашыце мяне!

Перапалоханыя начлежнікі паўцякалі ад прыгажуні. Старыя людзі потым казалі, што гэта прасіўся ў рукі зачараваны скарб, але баязліўцы не змаглі ім завалодаць.

**92. Зачараваны Замак**

На возеры Дрысвяты ёсць востраў, які называецца Замак. Калісьці там стаяў замак і быў драўляны касцёл. Потым ворагі замак зруйнавалі, а касцёл спалілі, ацалеў адзін толькі звон.

Людзі пабудавалі ў вёсцы новы касцёл і вырашылі перавезці звон, што застаўся на востраве. Напаўдарозе лодка перавярнулася, і звон апынуўся на дне возера. З таго часу мінула шмат стагоддзяў. Старадаўні звон і па сённяшні дзень звініць пад вадой. Яго можна пачуць, калі на досвітку прыкласці вуха да берага Дрысвят...

А вось што здарылася пару гадоў таму. Два хлопцы касілі на Замку сена. Раптам адзін з іх шаргануў аб штосьці касой. Хлопец адкінуў траву і ўбачыў прыкапаны зямлёй куфар. Ён хацеў падняць века, але не здолеў, таму гукнуў на дапамогу сябра. Удвух яны адчынілі куфар і ўбачылі горбу залатых дукатаў.

Узрадаваныя хлопцы дамовіліся падзяліць скарб. Яны кінулі касіць і вярнуліся дахаты, каб узяць торбы. А вечарам, калі сцямнела, хутчэй пагналіся на востраў. Калі бераг застаўся далёка, у лодку праз шчыліны хлынула вада. Хлопцы ледзь не ўтапіліся, але неяк дабраліся ўплаў да вострава.

Да раніцы яны шукалі куфар, але так і не знайшлі дукаты. Востраў Замак не аддаў зачараваны скарб.

**93. Галубецкія скарбы**

Каля вёскі Галубцова, што ў Гарадоцкім павеце, на беразе возера стаіць гара Галубец. Старажылы кажуць, што там закапаны скарб. Валатоўка насыпана над асілкам, які перамог ворагаў, а потым сканаў ад цяжкіх ран.

Непадалёку ад валатоўкі бруіцца ручай Красінец. Пасля бітвы ў гэтым ручаі тры дні і тры ночы цякла чалавечая кроў, таму ручай так і завецца — Красінец.

На вяршыні Галубца часам з’яўляецца старац, які невядома куды знікае, калі хтосьці да яго набліжаецца. У поўнач на валатоўцы пасецца пара вялікіх белых коней. Людзі вераць, што яны вартуюць зачараваны скарб.

**94. Золата на Кастровіцкіх могілках**

Капалі мы з Лідай бульбу. Падкапалі з лагчыны пад горачку, дзе растуць ядлоўцы. Разагнулася я, каб адпачыць, бо надта забалела спіна. Гляджу на свае Кастровіцкія могілкі і бачу: каля старых бярэзін раптам шуганула полымя. І зараз жа апала на зямлю.

— Ліда, глянь, што на могілках робіцца! — сказала я.

Утаропіліся мы на бярэзіны. Зноў выхапілася полымя — нават вышэй, чым першы раз.

— Ну, бачыла? — пытаюся я.

А яна ў адказ:

— Ніц не бачу.

Як агарнуў мяне страх!

— Хадзем хутчэй палуднаваць!

Прыбегла я дахаты і расказала пра ўсё гэта матулі. І вось што пачула ад яе. У даўніну, калі паміралі дзеці, у дамавіну клалі зачараванае золата. Зрэдчас яно паказваецца агнём. Калі на тое месца, адкуль падняўся агонь, накінеш хустку, лёгка выкапаеш скарб. Па словах маці, яна сама бачыла, як дражнілася золата. А маці маёй маці ледзь не накінула хустку на дзівоснае полымя.

**95. Татарка**

Гэтую мясціну называюць Татаркай, бо тут калісьці жыла разбойніца-татарка. Ідзе па дарозе чалавек — яна перапыніць, адзін раз ударыць — і дух з яго вон.

Вяртаўся дахаты бывалы жаўнер. Добрыя людзі яму падказвалі, што вырабляе Татарка. Жаўнер пасадзіў на каня саламянае пудзіла, а сам пайшоў следам назіркам. Стрэльбу ён зарадзіў сярэбранай куляй, бо звычайная куля нечысць не бярэ. Выскачыла з лесу Татарка — адным махам збіла пудзіла. А служывы злажыўся і пацэліў проста ў сэрца разбойніцы.

— Абхітрыў ты мяне! — закрычала Татарка. — Годзе мне жыць і людзей губіць! — І расцяклася кіпучай смалой.

Аднак нячыстая сіла доўга яшчэ не сунімалася, таму падарожнікі кідалі ў заклятае месца сухое галлё. Там ляжала вялікая горба, пакуль хтосьці ламачча не спаліў. Цяпер Татарка не чапляецца, але ўсё роўна, як ідзеш ноччу адзін, за спіну кіпцюрамі драпае страх.

**96. Галаву складзеш**

Каля рэчкі Ланкі часта паказваўся прывідны агеньчык. Выкаціцца з гушчару пад старыя дубы і круціцца, быццам дзіцячы ваўчок. То хіснецца ўбок, то падскочыць уверх, і ўсё зіхаціць яркімі калёрамі і адценнямі.

— Золата ў заклятым скарбе пераліваецца, — казалі дзяды і перасцерагалі хлопцаў: — Не хадзіце туды, бо жыццём заплаціце...

Прывалокся ў гэтыя мясціны нейкі бадзяга, якога ахоўваў вялізны сабака. Пачуўшы пра закляты скарб, бадзяга хутчэй падаўся да рэчкі. І дапільнаваў-такі дзівосны агеньчык — выкапаў гаршчок. Зняў накрыўку, а на золаце ляжыць паперка:

«Узяўшы мяне, галаву складзеш».

Перасыпаў бадзяга золата ў торбу, паклікаў да сябе сабаку і адсек яму галаву. Потым запхнуў сабачую галаву ў гаршчок, прыкапаў у зямлю. А сам, як на крылах, паляцеў у карчму, каб выпіць чарку гарэлкі. Па дарозе ён трапіў у дрыгву. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі — не можа выбрацца. Хацеў зняць торбу з золатам — не даў рады.

— Ратуйце! — крыкнуў бадзяга і праваліўся ў багну, толькі шапка засталася наверсе.

Праз некалькі гадоў дзеці прынеслі ў вёску гнілую шапку, а касцы знайшлі на балоце сабачыя косці. Цяпер каля рэчкі Ланкі агеньчык не паказваецца, бо дрыгву асушылі і засеялі травой.

**97. Дзе падае цень**

Пры дарозе з вёскі Войшыкі ў вёску Заячкі расла векавая ліпа. Вершаліна дрэва даўно засохла, а ніжнія галіны кучаравіліся дробным лісцем. Людзі кажуць, што ў гэтым месцы адбылася жахлівая бітва. Калі яго войска стала ўцякаць, адзін генерал закапаў пад ліпай казну, каб яна не дасталася ворагам.

Шмат загінула тады салдат, а многія разам з генералам трапілі ў палон. Генерал дажыў на чужыне да глыбокай старасці. Перад смерцю ён пакінуў тастамент, дзе напісаў, што казна закапана там, куды падае цень ад ліпы.

Генералавы спадчыннікі неадкладна прымчаліся ў Войшыкі, каб завалодаць скарбам. Якраз была раніца, і цень ад ліпы падаў вельмі далёка. Яны выкапалі глыбокую яму, але не знайшлі залатых чырвонцаў. Сонца тым часам паднялося вышэй, і цень перасунуўся ў іншае месца. Спадчыннікі выкапалі яшчэ адну яму, аднак і там было пуста...

Капалі яны раніцай, капалі днём і вечарам, а цень з кожнай гадзінай паказваў на іншае месца. Нарэшце, ледзь не падаючы ад стомы, спадчыннікі ўцямілі, што не знойдуць скарб, бо ў тастаменце не сказана, у якую пару года і ў якую гадзіну дня яго закапалі.

Потым ліпа засохла і звалілася на зямлю. Цяпер нават невядома, дзе яна расла.

**98. Бяздоннае багацце**

Жыў у Тураве багаты і мудры князь Яраслаў. Паехаў ён з дружынай на звярыныя ловы. Шмат здабыў дзічыны, хацеў ужо трубіць збор і раптам убачыў вялізнага тура. Пагнаўся князь за турам, але звер уцякаў яшчэ хутчэй. Прышпорыў Яраслаў каня, амаль здагнаў тура, а лясны асілак раптам павярнуўся і рынуўся яму насустрач. Конь, працяты вострымі рагамі, зваліўся на зямлю, падмяўшы пад сябе вершніка. Яшчэ імгненне — і князь развітаўся б з жыццём. Выратаваў яго загоншчык Ранцэвіч, які накінуў на вочы раз'юшанаму туру сваю світку, а затым ударыў рагацінай зверу пад сэрца. Вылез князь з-пад каня і папрасіў загоншчыка прыйсці па ўзнагароду.

Калі Ранцэвіч прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паказаў яму куфар золата.

— Вазьмі гэтае бяздоннае багацце, бо жыццё — даражэй за ўсё на свеце.

А загоншчык, разгарнуўшы кійком золата, пастукаў па дне куфра.

— Гэта не бяздоннае багацце. Дый золата больш патрэбна, княжа, табе, чым селяніну... А ты дай мне скарб, што сапраўды не мае дна!

Задумаўся Яраслаў.

— Нават калі я збяру ўсё золата, яно ўсё роўна мецьме дно.

— Хадзем, я пакажу табе бяздоннае багацце! — засмяяўся загоншчык.

Выйшлі яны ў чыстае поле. Узяў загоншчык меч і загнаў па самую ручку ў зямлю.

— Вось скарб, даражэйшы за ўсё на свеце. Золата могуць украсці, а гэты скарб — аніхто не ўкрадзе.

Спадабалася князю Яраславу мудрасць простага загоншчыка.

— Праўду кажаш, — пагадзіўся ён. — Дык няхай гэтая зямля належыць табе па дзесятае калена!

Вярнуліся яны ў шацёр. Князь Яраслаў напісаў дарчую грамату загоншчыку Ранцэвічу на зямлю каля Вялеміч. І цяпер у Мазырскім павеце жывуць Ранцэвічы. З пакалення ў пакаленне яны перахоўваюць гэтую грамату і расказваюць пра свайго мудрага прашчура.

**99. Чорная дама**

Князёўна Барбара Радзівіл рана выйшла замуж, але ў хуткім часе аўдавела: яе муж загінуў на вайне. У Вільні тады жыў малады княжыч Зыгмунд, пляменнік вялікага князя Літоўскага і польскага караля. Ён усім сэрцам закахаўся ў прыгожую і разумную ўдавіцу. Барбара адказала ўзаемнасцю на заляцанні наследніка трона. Яна марыла стаць жонкай уладара вялікай дзяржавы.

Аднойчы ў месячную ноч Зыгмунд пералез праз агароджу, каб трапіць да каханай. Па загадзе братоў князёўны слугі паднялі вэрхал, што ў пакоях схаваўся злодзей. Княжыч не пажадаў уцякаць, як хлапчук, з палаца. На вачах у Радзівілаў і прыслугі ён папрасіў Барбару выйсці за яго замуж. Назаўтра маладых употайкі абвянчалі ў віленскім касцёле.

Потым Зыгмунд стаў вялікім князем літоўскім і польскім каралём. Палякі спачатку не хацелі прызнаваць Радзівілаўну каралевай, яны жадалі, каб уладаркай стала прынцэса з каралеўскага дома. Аднак Зыгмунд абараніў гонар жонкі, і Барбара надзела карону.

А праз год маладая каралева раптоўна памерла. Хадзілі чуткі, што яе атруцілі найміты-забойцы. Нечаканая смерць любімай жонкі моцна засмуціла Зыгмунда. Ён перастаў цікавіцца дзяржаўнымі справамі і не збіраўся заводзіць новую сям’ю. Занепакоеныя прыдворныя выпісалі з Англіі чарнакніжніка. Яны спадзяваліся, што гэты чарадзей выкліча дух памерлай каралевы, і Барбара параіць Зыгмунду знайсці сабе другую жонку.

І вось аднойчы ў Нясвіжскі палац, дзе гасцяваў кароль, прыехала дама, апранутая ў чорную сукенку і з вуаллю на твары. Убачыўшы яе, Зыгмунд падхапіўся насустрач.

— Гэта мая Басенька!.. — закрычаў ён і схапіў незнаёмку за руку.

Праз імгненне грымнуў пярун, а дама ў чорнай сукенцы немаведама куды знікла. З таго дня Барбарын дух у выглядзе Чорнай дамы назаўсёды застаўся ў Нясвіжскім палацы. Чорная дама з’яўляецца апоўначы, калі свеціць ясная поўня. Яна спрыяе закаханым і апякуецца над бяздзетнымі кабетамі. Каму пашчасціць убачыць Чорную даму, таму абавязкова ўсміхнецца шчасце.

**100. Пане Каханку**

Жыў калісьці ў Нясвіжы князь Радзівіл. Ён быў над панамі пан, але да ўсіх — і да багатых магнатаў, і да бедных сялян — звяртаўся аднолькава пачціва: «Пане каханку». Таму яго і празвалі — Пане Каханку. Аднойчы князь загадаў сабрацца

ў Нясвіжы краўцам. У прызначаны дзень яны прыйшлі да палаца. Дзень чакаюць, другі чакаюць — няма гаспадара. А на трэці дзень зараўлі мядзведзі. Едзе Пане Каханку па дарозе — ажно пыл курыцца. Падкаціў да ганка на чацверыку касалапых, а слугі яму дакладваюць:

— Так і так, васпане, тры дні чакаюць краўцы.

— О, вельмі добра, пане каханку! — узрадаваўся князь. — Я штосьці важнае ім скажу...

Стаяць краўцы, зняўшы шапкі, чакаюць панскай ласкі.

— Дык вы ўсе як адзін краўцы? — перапытаў Пане Каханку.

— Краўцы, дабрадзею! З’явіліся па вашым загадзе!

— Вось што я хацеў вам параіць, пане каханку... Калі будзеце шыць адзенне, не забывайце на канцы ніткі завязаць вузёл. Тады ўсе людзі добрым словам вас памянуць!

Сказаўшы гэта, князь знік у палацы, а бедныя краўцы як мыла з’еўшы пацягнуліся дахаты.

Дачулася пра нясвіжскага дзівака царыца Кацярына. Прыслала да яго з дэпешай генерала, што зімою завітае ў госці. Пане Каханку не стаў чакаць зімы. Загадаў пасыпаць дарогу цукрам і адправіў у Пецярбург сані, запрэжаныя шасцярыком мядзведзяў. Кацярына пабаялася на касалапых. Тады Пане Каханку сам прымчаўся ў Зімні палац — вярхом на ласі! Закахалася царыца ў Радзівіла і падарыла яму залатую табакерку з дыяментам, які зіхацеў нават у цёмную ноч.

Даведаўся пра дзівосны падарунак польскі кароль, запрасіў нясвіжскага дзівака да сябе на банкет. Пане Каханку сеў на васьмярык мядзведзяў і за паўдня апынуўся ў Кракаве. Убачыўшы Кацярынін падарунак, кароль аж закалаціўся:

— Што хочаш прасі, толькі аддай мне табакерку!

— Я шмат не хачу, — сказаў Пане Каханку. — Адпішы тую зямлю, што я за паўдня аб’еду.

— Няхай будзе па-твойму! — не раздумваючы, пагадзіўся кароль.

Памчаўся Пане Каханку на мядзведзях праз лясы і балоты. Паўкаралеўства аб’ехаў — усімі каралеўскімі маёнткамі завалодаў.





*Галіна Загурская нарадзілася ў мястэчку Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя П. М. Машэрава. Жыве ў Полацку. Працавала выкладчыкам у вячэрняй школе, выкладчыкам і метадыстам у медвучылішчы, метадыстам у ГПТВ № 66 будаўнікоў. Друкавалася ў газетах «Міёрскія навіны», «Літаратура і мастацтва», «Краязнаўчай газеце», часопісе «Маладосць».*

Галіна ЗАГУРСКАЯ

# ВА ЎСІМ ГАРМОНІЯ РАЗЛІТА

## ВОСЕНЬ БАЛЮЕ...

Цягне дымамі з кастрышчаў —
Восень спраўляе ігрышча.

Неба заліта блакітам,
І серабрыцца ракіта.

Кружацца галкі без стомы
Ў полі над стогам саломы.

Восеньскі дзень незамглёны,
Барвамі свецяцца клёны.

Кружыцца яркае лісце,
Нібы шукаючы выйсця.

Баль свой спраўляе апошні
Восень на зелені пожні.

Радасна нават вароне
У разнаколернай кроне:
Каркае — птушку хвалюе
Тое, як восень балюе.

## ГАРМОНІЯ

Зара ружовіцца на плёсе:
Тут веліч цішы і спакой.
А побач спелае калоссе
Аб нечым шэпчацца з ракой.

Ва ўсім гармонія разліта.
Лаўлю цудоўны гэты міг.
Глядзім — сама я і ракіта, —
Як сонца шле апошні блік.

Ўсё заварожана спакоем,
Пранік ён у маю душу...
У гэты момант над ракою
Нічога ў долі не прашу.

**ПРЫДУМАНЫ РАМАН**

Закрыла восень далягляды —
Абрынула на ўсё туман.
Здаецца, што сышоў на ляды
І мной прыдуманы раман.

І ён брыдзе-блукае дзесьці,
Не прачытаны шчэ табой,
А ці захочаш ты прыўнесці
Радкі ў яго... хаця б зімой?

**ЗАВЕ ДВАІХ…**

Зноў полаг ночы апусціўся сіні,
Рассыпаўшы зярняты зорак розных.
І ўсё купаецца ў нябеснай плыні,
У пахах кветак, боскіх і дзівосных.

І вабіць посвіст позняй амялушкі,
Што смела свішча пад начной аховай, —
Іграе на сваёй жалейцы птушка,
Спявае пранікнёна і стылёва.

А ноч ужо красуецца ў зеніце,
І бліз сава кугікае са стога,
Заве дваіх прайсці па сцежцы ў жыце,
Паслухаць спеў калосся залатога.

**ЛАСКАВЫ ДОТЫК РУК**

Гарэлі свечкі на каштанах,
З іх кветкі капалі на брук.
Мне ж не прысніўся нечаканы
Ласкавы дотык нашых рук?

І плыў салодкі водар бэзу,
Кружыў-дурманіў думак бег.
Рук абяцанак — тая тэза,
Што стала лепшаю з уцех.

Вясну няхай змяняе лета,
І поры года робяць круг,
Жыць будзе добрая прыкмета —
Ласкавы дотык нашых рук.

* * *

Наіўнасць вечная мая —
Ты і сяброўка, і няўдзяча,
Невырашальная задача,
Але заўсёды ты — свая.

А я з табою — як дзіця,
Мая прывязлівая пані,
З табой у вечным я блуканні
Ад шчырасці да пачуцця...

**КРУМКАЧ**

Крумкач стары, не сегалетак,
Нясмела крумкаў так, паціху:
Магчыма, зваў зляцеўшых дзетак
Ці пахаваў ён крумкачыху.

Сасняк шумеў вакол адчайна —
Як быццам знаў пташыны гора.
Блукала ў кронах гэта тайна
І не магла пакінуць бора.

Я ўсё глядзела-выглядала
І крумкачу сказаць хацела,
Што бед у кожнага нямала,
Што адбаліць душа ці цела...

А ён заціх, і тайна знікла,
Ласкава сонца заіграла.
Куды ж падзеўся птах паніклы?
Ужо малінаўка спявала...

**ЗНОЎ ЖАДАННЕ...**

Званок вячэрні... Голас цёплы
Цячэ здалёку да мяне:
І я ўжо бачу росаў кроплі,
Дзвіну туманную ў паўсне,
І першыя на небе зоры,
Мігценне іхняга святла,
І сосны стромкія ў дазоры
Вакол прыціхлага сяла...

І зноў памкненне, зноў жаданне
Там апынуцца ў гэты час,
Калі ёсць прагі дня адхланне
І вечар туліцца да нас.

Я слухаю матулін голас,
А чую кліч тае зямлі,
Дзе я ўзрасла, як жытні колас
З зярнятка ў восеньскай раллі.




Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

## ГОД ГАСПОДНІ 1410

**КРЫЖАКІ ТРЫВАЮЦЬ ПАРАЗУ АД ПАЛЯКАЎ У ЛЮТАЙ БІТВЕ ЛЯ ГОРАДА КАРОНАВА.**

Крыжакі, якія абклалі аблогай замак Тухолю, даведаліся, што толькі нешматлікае каралеўскае войска прыйшло на ахову горада Каронава і што да таго ж горад пазбаўлены якіх бы там ні было ўмацаванняў. Тым часам крыжакі сабралі моцнае і шматлікае войска з усіх наёмных рыцараў, у ліку якіх быў галоўны начальнік Міхаэль Кухмейстэр, фогт Новай маркі, і шмат рыцараў з прыдворных венгерскага караля Жыгімонта, якія ў значным ліку з'явіліся на дапамогу крыжакам. Атрымаўшы ад крыжакоў досыць добрае ўтрыманне і падахвочваемыя венгерскім каралём Жыгімонтам, яны выступілі паходам для нападу на палякаў. Яны разлічвалі таксама атрымаць дакладную здабычу і перамогу, разумеючы, што іх мноства, а ворагаў мала. Такім чынам, у пятніцу, у дзень святога Гераёна, каралеўскае войска пазнае, што супраць яго ідзе вораг з вялікімі сіламі. Томаша Шэлігу з Ужэсні, герба Ружа, серадзскага падкаморыя, і Мікалая Дзембіцкага, герба Грыф, пасылаюць выведаць колькасць і сілы ворага. Прасунуўшыся неразважна далей, чым было трэба, і затрымаўшыся ў нейкай гразкай багне, гэтыя рыцары трапляюць у палон да ворагаў, якія пераследавалі іх; іх адразу ж падвяргаюць стараннаму допыту: «Якое каралеўскае войска ў горадзе Каронаве і колькі яго?» Рыцары хітра выдумалі, што там знаходзяцца малалікія атрады, неспрактыкаваныя, якія лёгка перамагчы, калі рашуча на іх напасці. Ва ўпэўненасці, што яны сказалі праўду, ворагі вельмі паспешна накіроўваюцца да Каронава, дзе, падышоўшы ўшчыльную, усё злазяць з коней, каб уварвацца ў горад пешым строем. Каралеўскія ж рыцары, заўважыўшы з'яўленне ворагаў, кідаюць пачаты абед, і, падняўшы трывогу, усе збіраюцца ў манастыр, размешчаны пад гарой ля вод ракі Брды. Затым, хутка надзеўшы даспехі, выбіраюцца таемнымі і невядомымі ворагам выхадамі, каб уступіць у бой цесным строем. У моцным спалоху ад іх з'яўлення ворагі хутка зноў садзяцца на коней і сыходзяць назад наколькі могуць паспешна, пакуль іх не захапілі палякі; прычым зваротны шлях на адлегласці цэлай мілі яны прарабілі так па-майстэрску і хітра, што каралеўскі атрад, знаходзячыся далёка ад горада Каронава, не мог бы атрымаць падтрымкі ад пешых рыцараў з горада ў выпадку неабходнасці. Аднак пры гэтым адступе стралкі з каралеўскага войска абсыпаюць ворагаў мноствам стрэл, адцясняюць, раняць і, налятаючы на варожае войска частымі нападамі, забіваюць многіх з іх. Калі ж ворагі спрабавалі абрынуцца на стралкоў, то апошнія, вярнуўшыся пад аба-

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1—8 за 2010 г.*

рону сваіх кліноў, адбівалі варожы націск і зноў адціскалі іх новымі нападамі. Такога роду папярэднія сутычкі паміж варожымі і каралеўскімі войскамі разгортваліся на працягу цэлай мілі. Калі ж ворагам надакучыла адыходзіць далей, яны занялі ўзгорак, які ўзвышаўся над іншымі каля паселішча Каронаўскага манастыра, пад назвай Ланцко, і сталі, гатовыя да бою, чакаць там набліжэння каралеўскага войска, мяркуючы, што дзякуючы выгаднаму месцазнаходжанню яны атрымаюць найлепшыя ўмовы для перамогі. Але каралеўскае войска, не жадаючы ваяваць з ворагам у нявыгадных для сябе ўмовах мясцовасці, ухіляецца ад прамога шляху і адыходзіць да больш адхоннага боку ўзгорка. У абодвух войсках сілы па ліку, якасці людзей і па досведзе ў ваеннай справе былі, відаць, такія, што з імі трэба было лічыцца, і яны з найвялікшай мужнасцю ішлі ў бой. Аднак перш чым войскі сышліся, Конрад Немпч, сілезец, рыцар венгерскага караля Жыгімонта, выступіў са строю, выклікаючы ахвочага на паядынак, і быў пераможаны і скінуты з каня Янам Шчыцкім, польскім рыцарам герба Доліва, які прыняў на сябе гэты гонар. Ён паказаў гэтым, у які бок павернецца шчасце таго і іншага войска. Пасля гэтага войскі сыходзяцца, падняўшы з таго і другога боку гучны крык. Абодва бакі мужна сустракаюць і адбіваюць націск, ваюючы з найвялікай адвагай. Абодва бакі біліся з роўным запалам і з роўнай разлютаванасцю некалькі гадзін, так што даволі доўга зыход бітвы быў сумніўны. Барацьба атрадаў станавілася роўнай дзякуючы якасці людзей, роўнаму ўзбраенню, стойкасці і падрыхтоўцы, бо кожны на сваім месцы, адціскаючы саперніка, ваяваў без перадышкі. І паколькі паміж імі кіпеў люты бой і ні той, ні другі бок не паддаваўся і не адыходзіў, то ўсе настолькі стаміліся ад вялікіх высілкаў у барацьбе, што як бы па дамаўленні ў бітве настае перапынак. І вось у абодвух атрадах раздаюцца крыкі пра прыпыненне ненадоўга бітвы. Абодва войскі прымаюць гэта, і шэрагі разыходзяцца. Яны адпачываюць, пераводзячы дух, абціраючы пот, і распавядаюць адно аднаму пра некаторыя дзеі і рыцарскія подзвігі, як быццам злучаныя зносінамі і сяброўствам. Пасля адпачынку і некаторага перапынку перамір'е спыняецца, і абодва бакі зноў сыходзяцца. З абодвух бакоў трымаецца той жа запал, што і раней, і шмат людзей у тых і ў другіх валяцца ці трапляюць у палон. Калі стомленасць зноў авалодвае сапернікамі, а лёс усё яшчэ не выяўляе, на чый бок упадзе перавага, зноў у абодвух войсках сталі прасіць пра аднаўленне перамір'я. Перамір'е прымаюць, войскі разыходзяцца, і моцныя ваяры аддаюцца новаму супакою, абціраюць пот з сябе і з коней, перавязваюць раны, адпачываюць, гутараць паміж сабой, абменьваюць палонных, вяртаюць адзін аднаму захопленых тым ці іншым бокам коней; для апазнання апошніх можна было падыходзіць да варожага войска. З абодвух атрадаў пасылаюць адзін аднаму віно для здаволення смагі і вязуць з месца бою скінутых у бітве з коней і цяжкапараненых, якія былі не ў сілах падняцца і маглі быць растаптаны; так што недасведчанаму чалавеку яны маглі здацца не варожымі, а самымі дружалюбнымі войскамі. Пасля гэтага, спыніўшы адпачынак і перапынак, яны трэці раз уступаюць у бітву з бязмернай мужнасцю. Памяць не захавала звестак ні пра якую іншую больш лютую бітву паміж двума найслаўнейшымі войскамі, дзе, па нашых звестках, сышліся б такія дасведчаныя і заслужаныя рыцары, якія найвялікшай напругай сіл дамагаліся б перамогі, пакуль не былі паранены ці ўзяты ў палон. Аж да трэцяга сутыкнення барацьба паміж імі ішла з пераменным поспехам, і ход бітвы быў аднолькавы для абодвух бакоў. Але вось каралеўскі рыцар Ян Нашан з Астровіц, герба Тапор, звяргае з каня варожага начальніка і, адняўшы варожы сцяг, згортвае яго і прымацоўвае да сядла. Адразу ж польскае войска стала браць верх, а варожае, ахопленае страхам, са стратай сцяга пачынае саступаць. Тут польскія рыцары, больш рашуча рынуўшыся на застрашаных ворагаў, якія падумвалі ўжо пра ўцёкі, адціскаюць іх у цяжкай сечы. Калі ж усе варожыя часткі

паказалі тыл, палякі асільваюць варожае войска, у якім з Божай дапамогай страх узяў верх над сорамам, і атрымліваюць поўную перамогу над ворагам, зрынуўшы, забіўшы, узяўшы ў палон ці звярнуўшы яго ва ўцёкі. Бо вораг пад такім узмоцненым націскам палякаў падаўся назад, а затым паказаў тыл. А паколькі пераможцы працягвалі адціскаць беглых і праследавалі іх наколькі было сіл праследаваць, а рукі былі здольныя паражаць, то было забіта восем тысяч ворагаў. Без сумневу, калі б магчыма было падоўжыць на некаторы час дзень, то рэдка якая-небудзь бітва зіхацела б больш хвалебнай красой, але наступная ноч атуліла беглых, перашкодзіўшы захапіць іх у палон цалкам. Ворагі былі разагнаны, звернуты ва ўцёкі ці перабіты; усюды на палях чуўся пахавальны спеў пераможцаў. Гэта бітва і перамога з-за рашучай упартасці, выяўленай з абодвух бакоў, лічыліся сярод дасведчаных у ваеннай справе людзей больш выдатнай, больш слаўнай і хвалебнай, чым вялікая бітва пад Грунвальдам у тым жа годзе ў дзень рассейвання апосталаў. Бо гэта бітва была больш разлютаванай, улічваючы лік тых, якія змагаліся; настолькі абодва атрады зацята імкнуліся да перамогі. Сэрцы тых і другіх былі поўныя аднолькавай рашучасці памерці, сустрэўшы смерць лепш у баі, чым ва ўцёках. І гэта меркаванне цалкам грунтоўна, бо на баку тых і другіх былі знатнейшыя рыцары, выпрабаваныя ў шматлікіх бітвах, моцныя целам і дужыя духам. Цяжка было б знайсці ў якой-небудзь іншай бітве роўных ім доблесцю, настолькі ўсе яны гарэлі рашучасцю біцца да апошняй крайнасці. Абодва войскі ваявалі кожнае пад адной харугвай. Што да каралеўскага войска, то яно мела на сцягу падвойны пурпурны крыж, вышыты на белым шоўку. Носьбітам сцяга быў Пётр Рытэрскі, рыцар герба Тапор. Ордэнскае ж войска мела на сваім сцягу белае і чырвонае палі, што датыкаліся з кута ў кут. Сцяганосцам яго быў Генрых, родам франконец, узяты ў палон падчас уцёкаў, за што пасля яго шмат разоў папракалі паплечнікі. Ён лічыўся б зганьбаваным, калі б ад гэтага дакору не атрымаў апраўдання каралеўскім лістом, за якім асабіста з'явіўся да караля. Рэдка на памяці нашага стагоддзя, нават паміж каталікамі і варварамі, адбывалася такая хвалебная бітва, дзе б з такой мужнасцю і ўстойлівасцю байцы абодвух бакоў змагаліся за перамогу. І хоць згаданая каронаўская перамога на справе была менш, чым грунвальдская, але па ступені небяспекі, якой падвяргаліся байцы, па запале і зацятасці бітвы ёй варта аддаць перавагу нават над грунвальдскім лаўрам.

### ДОБРАЗЫЧЛІВАСЦЬ УЛАДЗІСЛАВА, КАРАЛЯ ПОЛЬСКАГА, ДА ПАЛОННЫХ І ДАЛІКАТНАСЦЬ ЯГО СА СВАІМІ РЫЦАРАМІ.

Пры гэтай паразе і ўцёках былі ўзяты ў палон Міхаэль Кухмейстэр, фогт Новай маркі, галоўны начальнік крыжацкага войска, Конрад Немпч з Сілезіі і шмат прыдворных Жыгімонта, караля венгерскага: Конрад Элькінгер, Конрад Труклыпэш, пасля ўведзены ў званне магістра святога Іаана ў Лагове, Балтазар з Глоўна, Гануш Лебель і шмат іншых франконцаў, сілезцаў, саксонцаў і швабаў. Каралеўскае войска моцна ўзбагацілася таксама канямі, зброяй, грашыма і іншай здабычай. Пра гэты бліскучы і шчаслівы поспех каралеўскае войска паклапацілася як мага хутчэй даць знаць Уладзіславу, каралю польскаму, праз рыцара Закліку з Кожкві. Атрымаўшы гэту выдатную навіну, кароль з рыданнем, уздыхамі і слязамі ўзносіць вялікую падзяку Богу, а згаданага Закліку з Кожкві, які прынёс добрыя і шчаслівыя весткі, узнагароджвае пяццюстамі маркамі. У суботу, на наступны дзень пасля бітвы, польскія рыцары, узяўшы з сабой найзнатнейшых палонных, прыбываюць на месца бітвы і, падабраўшы целы сваіх і ворагаў і ўсклаўшы іх на вазы, адвозяць у Каронаўскі манастыр; затым, урачыста зладзіўшы пахавальную службу ў прысутнасці

ўсіх палонных, якія з вялікім лямантам аплаквалі згубу паплечнікаў і сваю паразу, аддаюць загінуўшых ганароваму пахаванню. Сярод загінуўшых быў шляхетны юнак Ульрых Элькінгер[1], настолькі багаты, што за яго выкуп мала было б заплаціць шэсцьдзесят тысяч фларынаў. Смерць яго палонныя аплаквалі з асаблівай скрухай і дамагліся дазволу пахаваць яго ў асобнай магіле.

У нядзелю, перад святам святой Ядвігі, дванаццатага кастрычніка, каралеўскае войска сышло з Каронава, везучы з сабой палонных і здабычу. Па прыбыцці ў Быдгашч, пасля трохдзённага адпачынку там, сталі дзяліць пароўну ваенную здабычу па звычаі ратных людзей. Пасля таго, у сераду, у дзень святой Ядвігі, войска прыбыло да караля ў Юніўладзіславію з вялікім мноствам коней і вазоў. За імі цягнулася доўгая чарада палонных, якія ехалі на шасцідзесяці фурманках, высланых для гэтага каралём, ці на конях, ці ішлі пешшу, як за пераможцамі ў змаганнях. Кароль жа Уладзіслаў загадаў прыгатаваць для палонных пышны абед, лячыць і перавязаць іх раны і прыставіў вызначаных рыцараў для абслугоўвання прысутных за сталом. У тую ж ноч кароль Уладзіслаў уласнай персонай, са свяцільнямі, прыйшоў наведаць усіх сваіх параненых рыцараў у хатах, дзе ім далі начлег. Нікога з іх ён не пакінуў без увагі, надзяляючы ўсіх лекамі, падбадзёрваючы словамі. Можна было падумаць, што гэта не кароль, а просты чалавек, які па звычаі прыватнай асобы нічога не ўпускае, каб здабыць павагу да сябе. І ўсім сваім рыцарам ён з каралеўскай шчодрасцю аддзячыў дарункамі за іх мужныя подзвігі ў згаданай бітве. Акрамя таго, у той жа дзень пасля абеду Уладзіслаў, кароль польскі, у доўгай гаворцы падрабязна выказаў палонным, якая вялікая і відавочная справядлівасць і праўда на баку яго справы і якая вялікія несправядлівасць і няпраўда справы крыжакоў. На папрок яго пасля таго, што яны паступілі няправільна, падняўшы зброю за няправую справу крыжакоў, ён атрымаў ад палонных адказ: калі б яны маглі ведаць пра няправасць Ордэна і пра правасць караля, то ніколі не выступілі б у гэты няшчасны паход і не паднялі б зброі за Ордэн супраць караля.

У чацвер, на наступны дзень пасля свята святой Ядвігі, зрабілі перапіс імёнаў, становішча і званняў палонных, і, прызначыўшы, калі і куды яны павінны з’явіцца, Уладзіслаў, кароль польскі, па набожнай літасці сваёй адпусціў усіх. Выключэнне ён зрабіў для аднаго толькі фогта Новай маркі, Міхаэля Кухмейстэра, якога адправіў у кайданах у Хенцынскі замак. Рыцары ж, якія атрымалі над ворагамі такую хвалебную перамогу, былі, як вядома, наступныя: Сендзівой з Астрарога, ваявода пазнанскі, герба Наленч; Мацей з Лабышына, ваявода брэсцкі, герба Тапор; Пётр з Мядведзя, стараста і начальнік каралеўскага войска, герба Старыконь; Мшчуй са Скшына, герба Лабендзь; Якуб Кабылянскі, герба Гжымаля; Мікалай з Павалы, славуты шматлікімі ранамі; Гневаш з Далевіц, герба Стшэгомя; Ян Фарурэй з Гарбова, герба Суліма; Мікалай Хшанстоўскі, герба Стшэгомя; Пётр Рытэрскі, Ян Нашан з Астровіц, Ян Нос з Дабркова, усе трое герба Тапор; Скарбек з Гур, герба Габданк; Дзік з Кадлуба, Мікалай Бяляўскі, герба Казлярогі; Станіслаў Ялітка, герба Доліва; Барталамей Пламікоўскі, герба Венява; Закліка Кажэквіцкі, герба Сыракомля; Крысцін Магера з Гавожыц, герба Рава; Ян Шчыцкі, герба Доліва; Дабеслаў Алевінскі, герба Астоя; Дабеслаў Оквя, герба Венява; Ян Рэй з Нагловіц, герба Окша; Дамарат Кабыленскі, герба Гжымаля; Альберт Мальскі, герба Наленч; Дабеслаў Пухала з венграў, герба Венява; Томаш Кальскі, герба Ружа; Дзерслаў Властоўскі, герба Окша; Аляксандр Гарайскі, герба Грыф; Канімір з Туховіц, інакш з Кунраціц, герба Зграя; Гжымаля Зерніцкі, Ян Чэлюстка, Марцін з Врацімавіц, герба Палукозы, кра-

[1] Ульрых Элькінгер — брат згаданага Длугашам Конрада Элькінгера.

каўскі харунжы; Енджэй Брахоцкі, герба Азорыя; Святаполк з Завады, герба Ліс; Ян Гжымалка; Будэк з Забожа; Сланка з Рудкі; Мікалай Баравец; Ян Ліён. Я называю іх усіх па імёнах дзеля годнасці і гонару і за іх геройскую доблесць і мужныя подзвігі, каб пра ўсіх і пра кожнага з іх захаваць вядомасць, славу, выбітную адзнаку і неўвядальную хвалу ў сучаснікаў і нашчадкаў і ў сэрцах усіх, хто прачытае гэты наш твор. Гэта бітва, нарэшце, зламала і затупіла ганарыстасць крыжакоў; на іх пачалі наракаць іх жа ўласныя рыцары і гараджане за тое, што яны вядуць беззаконныя войны насуперак складзенай дамове, кажучы, што не будуць крыжакі мець поспеху, калі не вернуць каралеўству Польскаму аднятых абласцей і маёмасці. Пра веліч і славу гэтай бітвы можна асабліва судзіць па тым, што пасля згаданай бітвы крыжакі і іх правадыры ніколі ўжо не адважваліся на працягу многіх гадоў завязваць з палякамі адкрытай бітвы ці станавіцца ў баявы строй, здавольваючыся толькі бязладнымі сутычкамі.

**ЯНУШ БЖАЗАГЛАВЫ, АШУКАНЫ ХІТРАСЦЯМІ ВОРАГАЎ, ЗДАЕ ІМ ЗАМАК ТУХОЛЮ.**

За поспехам пад Каронавам услед прыйшло няшчасце. У суботу, на наступны дзень пасля святога Гераёна, гэта значыць на другі дзень пасля бітвы, крыжакі, якія абложвалі замак Тухолю, прыводзяць і паказваюць Янушу Бжазаглаваму і іншым абложаным у замку Тухолі шмат людзей, апранутых у польскія даспехі і якія ўмелі гаварыць па-польску, і сярод іх нейкага дабжанскага рыцара Навіра, які, пакінуўшы свайго караля, перабег да крыжакоў. Па словах крыжакоў, яны атрымалі пад Каронавам бліскучую перамогу над каралеўскім войскам, і ў доказ перамогі яны прывялі згаданых апранутых у польскія даспехі людзей, нібыта ўзятых там у палон. Акрамя таго, каб надаць больш веры свайму хітраму паведамленню, яны ўпрыгожылі згаданага Навіра, дабжанскага рыцара, круглай сеткай для валасоў, сплеценай з жамчужын, якую палякі завуць panthlik[1]. Гэту сетку падчас бою пад Каронавам быццам бы сарваў з Мікалая Павалы нейкі немец, зваліўшы яго з каня і ледзь не захапіўшы ў палон. Такім чынам, крыжакі паказваюць Янушу Бжазаглаваму згаданага Навіра, упрыгожанага гэтай сеткай і ўбранага ў даспехі, і выдаюць яго за Мікалая Павалу. Але хоць Януш Бжазаглавы прызнаў сетку, якую яму паказвалі, па метцы на ёй, якая належыла Мікалаю Павалу, каралеўскаму рыцару, аднак ён патрабуе ад Навіра, каб той абвясціў, хто ён і які быў зыход бітвы. Той ілжыва сцвярджае, што ён Мікалай Павалу і што каралеўскае войска пабіта крыжакамі, і выклікае ў Януша Бжазаглавага давер да ўсёй выдумкі крыжакоў і вялікі страх. Узрушаны гэтым паведамленнем і не ведаючы пра паразу крыжакоў (бо каралеўскаму начальніку, з прычыны наступлення ночы і ў заклапочанасці іншымі справамі, было цяжка яму пра гэта паведаміць), Януш, уступіўшы ў перамовы, дамаўляецца з ворагамі пра здачу замка Тухолі. Затым, выконваючы дамову, Януш пакідае замак і з усімі сваімі людзьмі, якія разам з ім трывалі аблогу, прыбывае да караля ў Юніўладзіславію. Калі ж Януш даведаўся, што каралеўскае войска атрымала над ворагам бліскучую перамогу, а ён ашуканы хітрасцямі ворагаў, ён зайшоўся плачам і рыданнямі і пачаў ірваць валасы на галаве: так моцна ён мучыўся сорамам і болем, што, быўшы мужам дасведчаным у вайне і дасведчаным у ратнай справе, дазволіў сябе абысці такой гнюснай і спрытнай хітрасцю

[1] Польск. panthlik (pętlik) ад pętla — «пятля».

і аддаць дзякуючы падстаўному чалавеку і падману мацнейшы замак. За ўсё ранейшае і будучае жыццё лёс, які так шчодра адорваў яго поспехамі, не зрываў яго ў такое гнюснае і ганебнае становішча.

**ПАЛЯКІ ПАД ПРАВАДЫРСТВАМ ПЯТРА ШАФРАНЦА РАЗБІВАЮЦЬ І ЗВЯРТАЮЦЬ ВА ЎЦЁКІ АХОВУ ТУХОЛЬСКАГА ЗАМКА.**

Пасля гэтага прускі магістр Генрых фон Плаўэн набраў шмат новых наёмных рыцараў, рознапляменных і разнамоўных. Паміж імі галоўнымі былі Эбергард, біскуп вюрцбургскі[1], і Іаган, князь мюнстэрбергскі, інакш замбіцкі, з Сілезіі. Яны прыбылі па распараджэнні прускага магістра і крыжакоў у Тухольскі замак і, валодаючы мноствам вазоў, бамбард і іншым ваенным рыштункам, спрабавалі ўварвацца праз пазбаўленыя аховы вобласці ў Польскае каралеўства. Пазнаўшы ад разведчыкаў пра гэту новую акалічнасць, Уладзіслаў, кароль польскі, рушыў у паход рыцараў зямель Вялікай Польшчы, а таксама Велюньскай, Пазнанскай, Ленчыцкай, Куяўскай, Серадзскай і Дабжанскай зямель. Сам жа, выступіўшы з Юніўладзіславіі ў нядзелю, перад святам святых Сімяона і Юды, спыніўся на начлег. У панядзелак жа, напярэдадні свята святых Сімяона і Юды, ён прыбыў у Быдгашч, дзе ўжо раней сабраліся атрады яго рыцараў са згаданых зямель. Пасля абмеркавання хуткіх дзеянняў кароль, застаючыся ў Быдгашчы, адпраўляе войска, далучыўшы да яго рыцараў свайго двара, у варожыя землі. Начальнікам і правадыром войска, якое стаяла пад дванаццаццю сцягамі, кароль прызначае Пятра Шафранца, кракаўскага падкаморыя. Такім чынам, у аўторак, у дзень святых Сімяона і Юды, каралеўскае войска, значны атрад вершнікаў і пешых, больш вялікі з выгляду, чым па колькасці, якое на адлегласці паўмілі, з уздыхамі і слязамі, суправаджаў Уладзіслаў, кароль польскі, выступае з Быдгашча, пакінуўшы там усе калёсы і рыштунак, каб зручней было дзейнічаць пры выпадку. Хуткім ходам, спусташаючы і выпальваючы варожыя землі, у той жа дзень яно дасягнула Тухолі. Пётр Шафранец, размясціўшы войска ў месцы, зручным для засады, высылае шэсцьсот балістарыяў, каб раздражніць ворагаў, размешчаных у Тухолі. Калі балістарыі з гэтай мэтай вялі захопленую ў якасці здабычы скаціну, ворагі, мяркуючы, што тых не больш, чым іх было навідавоку, паддаюцца на гэту прынаду. Выйшаўшы з Тухолі хуткім ходам, яны наганяюць шэсцьсот польскіх наймітаў, якія робяць выгляд, што спалоханы, і звяртаюцца ва ўцёкі да самага месца засады. Тады каралеўскае войска, выскачыўшы з засады, з распушчанымі сцягамі спяшаецца ў бой супраць ворагаў. Ворагі ж, хоць і перавышалі іх лікам, нібы застрашаныя з'яўленнем каралеўскага войска, стрымгалоў звяртаюцца ва ўцёкі. Аднак Пётр Шафранец, правадыр каралеўскага войска, нягледзячы на шматразовыя просьбы рыцараў, доўгі час не дазваляў праследаваць бягучых, і сам асцерагаючыся засады, падобнай уладкаванай ім; і толькі бачачы, што ворагі занадта бязладна бягуць у горад, адкінуў асцярогі і даў знак каралеўскаму войску праследаваць беглых. Хоць і са спазненнем, але палка ведучы праслед да самых варот горада Тухолі, палякі многіх перабілі і ўзялі ў палон, у тым ліку нават пяць варожых начальнікаў, а менавіта: Яна Калаўрота з Чарнагуса, Яна Заеца і Генрыка Малоўца, чэхаў, Гедварта Рэйдбурга, сілезца, і Генрыха фон Забена з Лузацыі. Каралеўскае войска, акрамя таго, завалодала варожым лагерам і ўсім яго абозам, які стаяў перад горадам і ніяк не мог быць уведзены ў горад, з прычыны збянтэжанасці і спешкі, што панавалі там, а таксама таму, што замінаў напор беглых. Зной-

[1] Біскупа вюрцбургскага звалі не Эбергард, а Іаан. Быў біскупам вюрцбургскім у 1402—1412 гг.

дзеную там вялікую колькасць здабычы войска разрабавала. Многія дасведчаныя ў ваеннай справе людзі лічылі, што калі б правадыр Пётр Шафранец своечасова даў дазвол пераследаваць беглых, то ўсё варожае войска было б знішчана ў цяжкай сечы і выратаваліся б нямногія. На гэта відовішча глядзелі са сцяны Тухольскага замка Конрад Немпч, каралеўскі рыцар, і Ян Павала-малодшы, крыжак, палонныя і некаторыя іншыя, і Конрад Немпч, кажуць, убачыўшы каралеўскі сцяг з падвойным жоўтым крыжом на нябесна-блакітным полі, сказаў акружаным: «Як толькі ўбачыцца гэты сцяг і гэта палатно[1], якое не ведае, што такое ўцёкі, як адразу ж мы бачым і хвалебную завязку бою». Убачыўшы, аднак, што крыжакі бягуць, не ўступіўшы ў бой, дадаў: «На нас абураюцца за тое, што ў бітве пад Каронавам мы, быўшы ўрэшце пераможаны, патрапілі ў рукі пераможцаў; наколькі ж больш варта абурацца на тых, хто, застрашыўшыся аднаго выгляду ворагаў, без усякай неабходнасці паказалі тыл. Вось мы біліся пад Каронавам, як належыць мужам, і далі годны доказ нашай доблесці, раз, і другі, і трэці сыходзячыся ў баі; гэтыя ж нават не паспрабавалі пачатку бітвы. А тыя, хто выпрабаваў гэта на сабе, могуць адкрыта абвясціць, чаго вартыя меч і рука палякаў». Сярод іншых звярнуліся тады ва ўцёкі князь Іаган Мюнстэрбергскі і ўсе знатнейшыя рыцары. Некаторыя ж, страціўшы надзею патрапіць у горад, пакінулі коней і даверыліся хвалям, дзе мноства іх, захлынуўшыся, загінула. Іх больш загінула ў хвалях, чым ад мяча. Многія, нарэшце, не лічачы сябе ў бяспецы нават у Тухолі, беглі ў Хойніцы як у больш умацаванае месца; але і пры гэтых уцёках траплялі ў палон да пераследуючых іх палякаў.

**ПОЛЬСКАЕ ВОЙСКА АДЫХОДЗІЦЬ АД ТУХОЛІ, І КАРОЛЬ АДПУСКАЕ ПАЛОННЫХ ПАД РЫЦАРСКАЕ СЛОВА.**

З наступленнем ночы каралеўскае войска, якое не мела адпачынку на працягу цэлага дня, стомленае і галоднае, пачало адыходзіць ад Тухолі, каб знайсці дзе-небудзь харч для сябе і для коней. Але, абцяжаранае здабычай і калёсамі і не накіроўваемае правадніком (а ноч была вельмі цёмнай, бо месяца ўсю ноч не было і зоркі не свяцілі), войска кружыла, блукаючы з боку ў бок. Досвіткам жа, выявіўшы, што за ўсю гэту ноч яны прайшлі толькі паўмілі і яшчэ не сышлі з поля зроку Тухольскага замка, яны былі ахоплены моцным страхам, як бы ворагі не адважыліся распачаць штосьці супраць іх, стомленых, змучаных і галодных, і сталі адыходзіць да Быдгашча. Аднак туман, які трымаўся да позняга дня, быў да таго густым, што і зрок стаў бескарысным. Туман рассеяў, аднак, якія-небудзь асцярогі, і пад полагам яго каралеўскае войска цэлым дабралася ў Быдгашч. Тым часам Уладзіслаў, кароль польскі, даведаўся ад рыцара Гневаша з Далевіц, пасланага да яго ад войска, што яго войска пасля хвалебнай перамогі, з прычыны якой ворагі ў страху беглі, збіраецца вярнуцца дахаты з прычыны набліжэння зімовага часу і дзеля здабычы, узятай у варожым лагеры. Сеўшы на каня, кароль хутка адправіўся з Юніўладзіславіі да Лабышына і Шубіна, каб утрымаць войска ад вяртання і накіраваць на аблогу ворагаў, уцёкшых у Тухолю. Але хоць кароль спяшаўся, ён трохі запазніўся; войска ўжо разышлося ў розныя бакі, і ніяк нельга было сабраць яго, бо яно занадта рассеялася. Таму кароль вырашыў вярнуцца туды, адкуль прыбыў, і, папалуднаваўшы ў дзень усіх святых у Шубне і спыніўшыся на начлег у Лабышыне, вярнуўся ў Юніўладзіславію на другі дзень, у нядзелю, на наступны дзень пасля дня ўсіх святых. У панядзелак, пасля свята ўсіх святых, да яго прывялі для агляду ўсё мноства

[1] У Длугаша «plachta» (польск., азначае «хустка», «кавалак палатна»).

палонных, узятых пад Тухоляй. Ім кароль таксама выказаў, што заўсёды абараняе справу самую справядлівую, процілеглы ж бок крыжакоў з'яўляецца вінаватым; і пасля перапісу імёнаў і званняў палонных ён адпусціў іх усіх пад простае рыцарскае слова, прызначыўшы дзень і месца яўкі. Аднаму з іх, Яну Заецу, чэху, ён сказаў: «Ты не можаш адмаўляць, што быў маім прыдворным і набліжаным. Растлумач, як жа ты падняў зброю супраць мяне за маіх ворагаў, крыжакоў, і аспрэч злачынства, якое ты здзейсніў супраць нас». На гэта Заец адказаў: «Не адмаўляю, яснавяльможны кароль, што я прыдворны і слуга тваёй вялікасці. Але калі я, не клапоцячыся пра цябе, перайшоў на бок тваіх ворагаў крыжакоў, то прычынай таму — мая адвага, бо быўшы мужам адважным і бясстрашным, інакш rabk[1], і славячыся такім, я злічыў больш годным перайсці на бок паўшых і зрынутых, бо я чуў пра твае хвалебныя перамогі, шмат разоў здабытыя над Ордэнам крыжакоў. Так што калі б я прыйшоў да цябе на дапамогу, то мая суцяшальніца (ён меў на ўвазе каралеву Сафію, жонку чэшскага караля Венцаслава) абсыпала б мяне папрокамі за тое, што я, асцерагаючыся зыходу бітвы, схіліўся б да цябе, якога дагэтуль суправаджаў поспех. Такім чынам, я пайшоў да тых, у каго справы былі дрэнныя, каб выявіць сваю адвагу, які б ні быў зыход; а паколькі тэўтонцы беглі, я, лічачы ўцёкі ганебнымі, здаўся ў рукі тваіх рыцараў. Такім чынам, паступай са мной як табе заўгодна». Запытаны потым каралём, як ён лічыў бы годным пераможца паступіць з ім, палонным, які быў прыдворным і набліжаным караля, Заец адказаў: «Паступай так, як кажа табе твая літасць, выяўляючы якую да пераможаных, ты, мабыць, абавязваеш перамогу быць добразычлівай да цябе». Усцешаны такім дасціпным адказам, кароль адпусціў Заеца пад рыцарскае абяцанне, як і іншых рыцараў.

### ПОЛЬСКІЯ РЫЦАРЫ І ТУХОЛЬСКАЯ ВАРТА АБМЕНЬВАЮЦЦА ПАСЛАННЯМІ.

Тым часам каралеўскія прыдворныя рыцары, якія нанеслі паразу ворагам пад Тухоляй, шлюць князю Іагану Мюнстэрбергскаму і ўсім наймітам крыжакоў, што дзейнічалі ў Тухолі, пасланне, упрыгожанае моцнымі і красамоўнымі выразамі. Затым яны перадаюць яго праз герольда, прад'яўляючы суровае патрабаванне выдаць, паводле рыцарскага права і звычаю, усе даспехі, коней і ваенныя знакі адрознення, і ў прыватнасці плашчы, якія носяць паверх даспехаў і якія завуцца wappenrokkyn[2], з якімі яны выступілі ў бой, бо гэта належыць ім як пераможцам; бо з таго часу, як яны выйшлі на поле бітвы і без бою пусціліся наўцёкі, яны павінны прызнавацца больш чым пераможанымі. І не ўцекачу належыць насіць зброю, а мужу. Хто вырашыўся выступіць у бой узброеным, той абавязаны па рыцарскім законе ў выпадку ўцёкаў аддаць зброю пераможцу. Ад крыжакоў жа яны атрымалі адказ: яны заўсёды клапаціліся пра свой гонар і не лічаць, што калі-небудзь запэцкалі яго ганьбай якіх-небудзь уцёкаў. Яны будуць па рыцарскім звычаі абараняць свой гонар пры дварах каралёў і князёў і ачысцяцца ад абвінавачванняў і зняслаўлення ўзброенай рукой; і прапанавалі ў сведчанне сваёй невінаватасці бой і паядынкі ў аддаленых месцах. Гэтага можна было чакаць ад тых, якія маглі апраўдваць свае ўцёкі толькі дзёрзкімі і галаслоўнымі заявамі, тады як польскія рыцары выклікалі іх да двароў Аляксандра, вялікага князя літоўскага, а таксама князёў Мазовіі — Зема-

[1] «Rabk» — скажонае чэшскае слова rabiják (ад лацінскага rabies — «шаленства», «лютасць», «апантанасць») — «грубіянскі, суровы чалавек». Тут, відавочна, «апантаны».

[2] «Wappenrokkyn» — нямецк., суч. Waffenrock.

віта, Януша і Баляслава[1], абяцаючы ім поўную бяспеку. Тыя ж, наадварот, называлі польскім рыцарам двары каралёў Францыі, Англіі, абедзвюх Іспаній[2] і Неапаля, каб якімі-небудзь выдумкамі прыкрыць свой сорам. Аднак калі б і здарылася, што польскія рыцары прынялі гэтыя прапановы, то найміты крыжакоў не стрымалі б абяцанні, а парушылі б іх, выставіўшы ў сваё апраўданне новы падман.

### ПАЛЯКІ ЗДАЮЦЬ КРЫЖАКАМ ЗАМКІ ШТУМ І МАРОНГ.

Генрых фон Плаўэн, магістр Прусіі, бачачы, што спробы яго нападу з войскам наёмных і сваіх ваяроў на землі Польскага каралеўства засталіся дарэмнымі з-за мужнага і ўстойлівага супраціўлення палякаў, выводзіць войска з Памераніі і накіроўваецца ў Прусію. Там ён абложвае замак Штум, якім кіруе Енджэй Брахоцкі, каб спыніць вялікае і сталае спусташэнне, якое прычынялі адтуль Марыенбургскаму замку, карыстаючыся яго блізкасцю, каралеўскія войскі сваімі нападамі і варожымі дзеяннямі. Тым часам як магістр трывожыць замак бесперапыннымі прыступамі на працягу шасці тыдняў (а надзеі ніяк не адпавядаюць яго высілкам), раптам (невядома — выпадкова ці з прычыны здрады) згарае вежа большага замка, якая знаходзілася над варотамі, з запасамі пораху, кідальнай зброі, баявых снарадаў і харчу. Ад гэтага сярод абложаных што ні дзень расце роспач. Не маючы магчымасці іншым шляхам пазбегнуць пагрозлівай згубы, яны ўступаюць з магістрам у дамову пра здачу замка, з тым, аднак, што выканаюць яе няйначай як са згоды і па наказе караля. Такім чынам, з дазволу і пад аховай магістра Прусіі яны адпраўляюць каралю ў Юніўладзіславію двух рыцараў: Каніміра і Голы-Яна, якія распавялі, які няшчасны выпадак адбыўся з пажарам вежы і рыштунку і якая небяспека пагражае ім, калі яны будуць зацята супраціўляцца. Па дазволе ж і загадзе караля яны спачатку складаюць дамову пра бяспечнае выйсце з замка з конямі, зброяй і ўсякім дабром, а затым перадаюць магістру і Ордэну не толькі замак Штум, але і замак Маронг, якому пагражала падобная ж небяспека.

### АДБІЎШЫ ПРУСКАГА МАГІСТРА, ЯКІ АБЛОЖВАЎ ЗАМАК РАДЗІН, ПАЛЯКІ БЯРУЦЬ І СПАЛЬВАЮЦЬ ГОРАД.

Авалодаўшы двума замкамі і здабыўшы ад гэтага новую і вялікую рашучасць, прускі магістр Генрых фон Плаўэн абкладае падобнай жа аблогай трэці замак, менавіта Радзін. На працягу шасці тыдняў ён граміць замак бесперапыннай стральбой з бамбард. Але паколькі каралеўскія войскі добра абаранялі гэты замак, магістр быў вымушаны з сорамам паспешна кінуць аблогу, пакінуўшы ў горадзе Радзіне вялікую колькасць параненых на лячэнне. Гэта не магло застацца невядомым каралеўскім рыцарам, якія засцерагалі замак Радзін. Таму ў наступную ж ноч яны накіроўваюць хуткага ганца да другіх каралеўскіх атрадаў, якія неслі абарону замка Бродніцы з просьбай хутчэй прыйсці ім на падмогу; тады, зрабіўшы набег, яны лёгка авалодаюць горадам Радзінам з яго маёмасцю і людзьмі, пакінутымі ў ім крыжакамі для абароны і на лячэнне. Выконваючы іх просьбу, рыцары Бродніцкага замка, а менавіта Альберт Мальскі, Дабеслаў

[1] Баляслаў — князь мазавецкі, брат Земавіта і Януша.

[2] Пад «абедзвюма Іспаніямі» Длугаш мае на ўвазе, відавочна, так званыя «далёкую» (на поўнач ад р. Эбро) і «блізкую» (на поўдзень ад р. Эбро) Іспаніі, што адрозніваліся ў сярэднія вякі.

Пухала і шмат іншых, прыбываюць ва ўмоўлены дзень і час. Даведаўшыся пра іх прыбыццё, рыцары, паспешна выйшаўшы з замка Радзіна, нападаюць на горад Радзін праз вароты, звернутыя да замка; і, злучыўшыся з бродніцкімі рыцарамі, чаргуючы высілкі, разбіваюць і праломваюць вароты горада пры дарэмным супраціўленні гараджан і ордэнскіх ваяроў. У праходзе ж варот была пастаўлена вялікая бамбарда, з якой выпаліў нейкі святар, які ўзяўся не за сваю справу, каб дапамагчы сваім суграмадзянам, што збегліся ў мностве да варот для адбіцця пагрозлівай небяспекі. Бамбарда сваім напорам, адскочыўшы ў натоўп гараджан, задушыла дваццаць чатыры з іх; з каралеўскіх жа ваяроў забіла толькі траіх. Застрашаныя такім няшчасцем, гараджане і ваяры крыжакоў спыняюць абарону, і каралеўскія ваяры займаюць горад і, разрабаваўшы, звяртаюць яго ў попел. Узяўшы ў палон шмат людзей з ліку радзінскіх гараджан і наймітаў крыжакоў, задаволеныя і цэлыя яны вяртаюцца ў свае замкі.

### ТОРУНЬ І ГДАНЬСК, ПАРУШЫЎШЫ ВЕРНАСЦЬ КАРАЛЮ, ДОБРААХВОТНА АДДАЮЦЦА ГАРАДЖАНАМІ МАГІСТРУ ПРУСІІ ПА ЗАКЛЮЧАНАЙ З ІМ РАНЕЙ ДАМОВЕ.

У той час, калі магістр прускі Генрых фон Плаўэн стаяў у аблозе замка Радзіна, ён склаў з гараджанамі Торуня і Гданьска (хоць тыя далі запэўненне ў падпарадкаванні і вернасці каралю) таемную дамову пра здачу яму згаданых гарадоў і пераканаў іх (а яны і самі былі схільныя да гэтага) перадаць яму згаданыя гарады. Такім чынам, зняўшы аблогу замка Радзіна, ён вядзе войска на Торунь, каб авалодаць абодвума гарадамі, як было ўмоўлена. Тым часам торуньскія і гданьскія гараджане, каб прыкрыць свае хітрасці і адступства, адпраўляюць данясенне да Уладзіслава, караля польскага: торуньцы — праз бургамістра Альбрэхта Рота і Пятра Шэлігу, гараджане ж гданьскія — лістом, паведамляючы, што прускі магістр Генрых хутка прыбудзе для аблогі іх горада, і просяць аказаць абарону ім і гарадам. Уладзіслаў, кароль польскі, міласціва ім адказваючы, загадаў ім захоўваць бадзёрасць і ўстойлівы дух і цалкам спадзявацца на яго, адкінуўшы ўсякі страх, абяцаючы своечасова аказаць надзейную дапамогу і абарону абодвум гарадам. «Заставайцеся, — казаў ён, — спакойна ў вашых хатах; мне і маім рыцарам пакіньце толькі вежы і сцены; заўтра я выступлю адгэтуль да вас з пяццю, васьмю, нават дзесяццю тысячамі, колькі я злічу патрэбным, вершнікаў і спешна накіруюся да вас. Паклапаціцеся тым часам пра лодкі для маёй пераправы праз Віслу». Атрымаўшы такі адказ, торуньцы сыходзяць ад караля і, вярнуўшыся да сваіх, дакладваюць пра найлепшыя намеры караля ў адносінах да іх. Кароль жа, выконваючы абяцанне, на наступны дзень прыбывае з усім сваім дваром у Гнеўкаў, куды да яго таксама з'яўляюцца ранейшыя торуньскія паслы. Убачыўшы іх, кароль трывожна стаў іх распытваць, ці гатовыя караблі для яго і для яго войска. Абышоўшы маўчаннем гэта пытанне, яны заяўляюць, што прыйшлі з новым дакладам. Калі ім даецца слова, яны кажуць: «Мы прыходзім да цябе, найсветлы кароль, паведаміць ад імя нашага горада, што мы знаходзімся ў такой крайнасці, што калі ты заўтра да заходу сонца не прынясеш дапамогі нашаму гораду, які бядуе, то ведай, што мы перададзім горад магістру». У адказ на гэту заяву кароль кажа: «Перш чым заўтра зойдзе сонца, я абяцаю, што прыйду на дапамогу вам, калі толькі вы падасце караблі». Тады яны, разумеючы, што больш не могуць хаваць свайго падступства, кажуць: «Мы ўжо ўвайшлі з магістрам у цвёрдую дамову (якую не можам парушыць), што заўтра перададзім яму горад».

Гэтае адкрытае вераломства запаліла б у іншым моцны гнеў, але кароль Уладзіслаў, быццам ім не зачэплены, з добрай пакорнасцю здавольваючыся толькі вымовай, дакарае паслоў: «Вось такая ваша вернасць? — кажа ён, — такая ваша прысяга, такія абяцанні, якімі вы аддаліся пад маю ўладу? Забыўшыся на іх, вы не пасаромеліся скласці дамову з маім ворагам?» Усведамляючы сваё злачынства і не смеючы ні адказаць штосьці, ні наракаць, ужо сваім выглядам і апушчанымі ў зямлю вачамі яны прызнаюць злачынства. І саветнікі ўгаворваюць караля пакараць смерцю торуньскіх паслоў як здраднікаў і парушальнікаў дамовы, каб яны сталі сведчаннем вераломства, не пакінутага бяскарным. Аднак кароль, міласцівы і лагодны, адказвае, што не трэба караць смерцю паслоў, якія даверыліся яму, і заяўляе, што лепш хай торуньцы і гданьцы не будуць вернымі яму, чым ён ім.

З вяртаннем паслоў Торунь і Гданьск перадаюцца пад уладу магістра, хоць ніякая неабходнасць не вымушала да гэтага гараджан; магістр неадкладна абкладае аблогай Торуньскі замак, заняты каралеўскім атрадам. Але паколькі каралеўскія рыцары з мужнай стойкасцю абаранялі яго, робячы частыя вылазкі і разню сярод крыжакоў, магістр ніяк не мог авалодаць ім.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ НАВЕДВАЕ ЦЭРКВЫ ГНЕЗНЕНСКУЮ І ЦЕЛА ХРЫСТОВА ПАД ПОЗНАННЮ І, ЗНОЎ САБРАЎШЫ ВОЙСКА, СПУСТАШАЕ ПАМЕРАНІЮ.

Ашуканы вераломствам гараджан Торуня і Гданьска, Уладзіслаў, кароль польскі, вярнуўся з Гнеўкава ў Юніўладзіславію. У выкананне ж зароку, якім ён перад вялікай бітвай абавязаўся наведаць пазнанскі манастыр у гонар найсвятога таінства, кароль прыбыў з Юніўладзіславіі праз Стшэльна і Квяцішаў у Тшэмешна; адтуль, ідучы ўжо пешшу з глыбокай павагі да Бога і святога Адальберта, прыбыў у Гнезна. З Гнезна ён прыбыў у Пабедзіскі, а адтуль зноў пешшу здзейсніў шлях да Познані ў манастыр Цела Хрыстова. Прыбыўшы туды ў панядзелак, напярэдадні дня святой Кацярыны, і правёўшы там тры дні, кароль выканаў абрады і зарок з вялікай набожнасцю. Затым ён вярнуўся тымі ж месцамі, як і прыйшоў у Юніўладзіславію, каб сваёй прысутнасцю абараняць Польскае каралеўства ад ворагаў, і новым заклікам падняў на прускі паход землі Вялікай Польшчы, а таксама Серадзскую, Ленчыцкую, Куяўскую і Дабжанскую. Калі па яго наказе сабраліся ў Юніўладзіславіі войскі названых зямель, кароль адпраўляе іх у Памеранію, паставіўшы на чале Сендзівоя з Астрарога, пазнанскага ваяводу. Уступіўшы ў яе, войска заваёўвае горад Нове, спусташае і спальвае яго; затым праходзіць уздоўж і ўпоперак усю Памеранію, авалодваючы варожымі, а таксама тымі, якія адпалі, замкамі і гарадамі, спусташаючы яе пажарамі і рабаваннямі, і, перш чым ворагі сабралі сілы для бітвы, нагружаны ўзятай у ворагаў здабычай, цэлым вяртаецца дахаты. Але паколькі абодва бакі, стомленыя вядзеннем вайны ўзімку, прагнулі адпачынку, вырашана было скласці перамір’е. Хоць пасланы для заключэння перамір’я ў Торунь Пётр Шафранец, кракаўскі падкаморый, не мог яго ажыццявіць, аднак ён прызначае і вызначае спатканне караля і магістра для ўсталявання перамір’я ў горадзе Рацёнжы ў дзень зачацця найсвяцейшай панны Марыі.

**СЦЫБОРЫ СА СЦЫБОЖЫЦ, ЗДЗЕЙСНІЎШЫ ЎВАРВАННЕ Ў ПОЛЬШЧУ ПА ЗАГАДЗЕ ВЕНГЕРСКАГА КАРАЛЯ, СПАЛІЎ ГОРАД СТАРЫ САНДЗЕЦ, ПРАДМЕСЦЕ НОВАГА САНДЗЕЦА І НЕКАЛЬКІ ПАСЕЛІШЧАЎ. СТРАЦІЎШЫ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ СВАЙГО ВОЙСКА, ЁН ЛЕДЗЬВЕ ПАСПЯВАЕ ЗБЕГЧЫ Ў ВЕНГРЫЮ.**

У гэты ж час Сцыборы са Сцыбожыц, сяміградскі ваявода, з дванаццаццю харугвамі войскаў Жыгімонта, караля Венгрыі, сабраных з чэхаў, мараваў і аўстрыйцаў (венгерцы ж, памятаючы пра саюз з палякамі, які быў для іх як бы святым і вечным[1], не давалі ні прымусіць, ні ўгаварыць сябе ўзяцца за зброю), уступае ў межы каралеўства Польскага праз Срамовіцы, бо каралеўскія атрады, якія ахоўвалі Новы Сандзец, надакучыўшы доўгай бяздзейнасцю, разышліся па сваіх хатах. Спаліўшы, разрабаваўшы горад Стары Сандзец, а таксама прадмесце Новага Сандзеца з некалькімі паселішчамі, ён хуткім ходам ідзе назад у Венгрыю праз раку Папрот на Мушыну па гарыстай і цяжкай дарозе. Жыгімонт жа, кароль венгерскі, даручыў Сцыборыю зрабіць уварванне ў каралеўства Польскае, каб мець магчымасць заявіць, што за сорак тысяч фларынаў, атрыманых ад магістра і Ордэна, ён выканаў сваё абавязанне пра аб'яўленне вайны каралю і Польскаму каралеўству, а таксама каб паказаць магістру і Ордэну, якія ўзмоцнена падбухторвалі яго да абароны іх і да варожых дзеянняў супраць Польскага каралеўства, што ён выканаў абяцанне, адправіўшы супраць Польскага каралеўства дванаццаць харугваў. Каралеўскае ж войска, пакінутае засцерагаць межы каралеўства, не стрывала гэтай абразы і крыўды; памкнуўшыся, яно стала імкліва праследаваць Сцыборыя і яго войска. У венгерскім войску былі наступныя начальнікі: Сцыборы, біскуп агрыенскі, і яго брат[2]; у каралеўскім жа: Спытэк Яраслаўскі з харугвай уласных рыцараў, Ян Шчакоцкі, каштэлян люблінскі[3], Ян Валах з Хмельніка і іншыя. Нагнаўшы Сцыборыя, калі ён ужо перайшоў Альпы[4], каля Бардзеява, палякі нападаюць на яго і на яго войска, хоць і нашмат за іх мацнейшае. Некаторы час вялася разлютаваная бітва, і паколькі мноства мела перавагу над малалікасцю, то палякі сталі ўжо падумваць пра ўцёкі, аднак Каспар Бахунек і Далібор, якія стаялі на чале атрадаў, аднавіўшы бітву ў некалькіх месцах, утрымалі іх ад ганебных уцёкаў. Такім чынам, пасля аднаўлення бітвы Сцыборы, нягледзячы на тое, што пераўзыходзіў палякаў колькасцю і сілай, быў, урэшце, пабіты і разгромлены і збег у Бардзеяў, а войска яго большай часткай было ўзята ў палон ці перабіта.

**ВЕКАПОМНАЯ ПАРАЗА ЛІВОНСКІХ РЫЦАРАЎ, ЯКІЯ ПРЫЙШЛІ НА ДАПАМОГУ МАГІСТРУ ПРУСІІ.**

У суботу, напярэдадні свята святога апостала Андрэя, Уладзіслаў, кароль польскі, пакінуўшы Юніўладзіславію, у нядзелю прыбыў і ў Брэст[5]. У той час, як ён там знаходзіўся, адбылася другая хвалебная для яго і знакамітая перамога над крыжакамі. Магістр Лівоніі Герман фон Віткіншэнк з моцным і шматлікім войскам, набраным з розных народнасцей, прыбыў у Прусію на дапамогу магістру прускаму. Паслаўшы ўсю сілу свайго войска ў Голуб, каб лягчэй было з блізкай адлегласці нападаць на Дабжанскую зямлю, сам магістр з нямногімі прыбыў у Марыенбург. Даведаўшыся пра гэта, начальнікі каралеўскіх атрадаў, змешчаных для аховы ў Баб-

---

[1] Длугаш мае на ўвазе дамову, заключаную ў 1397 г., тэрмін якой мінаў у 1413 г.

[2] Г. зн. Сцыборы са Сцыбожыц і Томас, біскуп эгерскі, са сваім братам (гл. № 5/2010, 1410 г., ст. 70, заўв. 2).

[3] Ян са Шчакоцын займаў гэту пасаду ў 1410—1432 гг.

[4] Дакладней — Карпаты.

[5] Брэст — пазней Брэст-Куяўскі.

роўніках і Рыпіне, выводзяць рыцараў з абодвух замкаў і збіраюць невялікі атрад. Правадырства і распараджэнне ім прымае на сябе Дабеслаў Пухала, шляхетны рыцар герба Венява, і бясстрашна вядзе яго на Голуб, ведаючы, што там знаходзіцца шмат ворагаў. Па прыбыцці туды Дабеслаў Пухала, размясціўшы засаду ў прыдатным месцы, пасылае атрад рыцараў да гарадскіх варот, каб прычыніць ворагам страты і сагнаць быдла. У той час як палякі зганялі ўвесь статак, які выйшаў з горада на пашу, вырабляючы пры гэтым спусташэнні і падпалы, моцнае лікам і доблесцю войска лівонскіх рыцараў у бліскучых даспехах, выскачыўшы з горада, стала пераследаваць польскі атрад, які зрабіў выгляд, што ён спалоханы і бяжыць, пакуль не дасягнуў самага месца засады. Каралеўскае ж войска, неадкладна выступіўшы з засады і рынуўшыся з тылу, забівае, адціскае і перакульвае ворагаў. Бо варожае войска, ахопленае моцным страхам, не аказвае ніякага супраціўлення, а неадкладна звяртаецца ў бязладныя ўцёкі, спяшаючыся вярнуцца ў горад. Яго па пятах пераследуе каралеўскае войска. Не меншы страх пануе ў горадзе і на сценах, так што гараджане замыкаюць вароты з асцярогі, як бы разам з пераможанымі не ўварваліся ў горад і пераможцы, хоць палова абаронцаў яшчэ не паспела ўвайсці ў горад. Многія з ворагаў валяцца, адціскаемыя палякамі, і сутыкаюцца адзін з адным. У саміх варотах, нарэшце, паднялася яшчэ мацнейшая цісканіна, і паколькі людзі адціскалі адзін аднаго, імкнучыся прайсці раней, тыя ўцёкі ворагаў затрымліваліся і тых, якія зваліліся, гінула ўсё больш; таму большая палова лівонскага войска, адрэзаная ад уваходу ў горад, ахвотна здалася ў палон каралеўскім атрадам, нават молячы пра гэта, хоць па колькасці ў чатыры разы пераўзыходзіла палякаў.

Такім чынам трапляе ў палон шмат братоў Ордэна і шляхетных рыцараў, і каралеўскія рыцары звязанымі адводзяць іх, зняўшы з іх даспехі. Ледзь можна паверыць, што палонных было ў чатыры разы больш, чым тых, якія ўзялі іх у палон. Няшчасце настолькі пазбавіла ахопленых страхам усякага розуму, што яны не змаглі як след распазнаць ні малалікасці ворагаў, ні сваёй шматлікасці.

Ворагі і перад і пасля паразы былі ва ўладзе памылкі, быццам у лясах і гаях хаваецца іншае, галоўнае каралеўскае войска, што суправаджае той атрад, які ўзяў іх у палон. Ашуканыя гэтым, яны і пусціліся наўцёкі і здаваліся па ўласным падахвочванні ў палон. Таму, калі каралеўскія ваяры вялі іх у Рыпін, яны настойліва дапытваліся ў тых, якія іх вялі, дзе знаходзіцца галоўнае каралеўскае войска і ці ідзе яно за імі. Каралеўскія ж ваяры, памятаючы пра небяспеку з боку палонных, калі скажуць праўду, сцвярджалі, што моцнае галоўнае войска ўвесь час суправаджала і суправаджае іх на блізкай адлегласці, але па некаторых падставах яшчэ не паказваецца. Трымаючы палонных у страху такімі выдумкамі, палякі прыводзяць іх у Рыпін. І толькі тады, закаваўшы палонных у кайданы, яны прызнаюцца, што большага каралеўскага войска, чым тое, якое зрабіла ім паразу і прывяло іх звязанымі, не было. Пачуўшы гэта, палонныя заходзяцца жаласнымі рыданнямі і слязамі, гучна заяўляючы, што толькі з-за няправай вайны, на якую яны пайшлі, іх спасцігла такая жаласная доля і што меч Божай кары за ганебныя войны ўразіў іх, калі такая нікчэмная драбніца ўзяла верх над такім іх мноствам; бо можна было яшчэ і ля варот горада Голуба і пасля, калі іх вялі, распазнаўшы сваю шматлікасць і малую колькасць ворагаў, перабіць іх. Затым з Рыпіна ўсіх палонных прывялі ў Брэст на паказ каралю Уладзіславу. Апошні, па здзяйсненні падзяк Богу за падараваную такую вялікую міласць, замкнуў у вежы ўсіх рыцараў і братоў Ордэна, а таксама ўсіх куршаў[1], якія лічыліся людзьмі ненадзейнымі; іншых жа ваенных людзей, абавязаўшы іх клятвай, адпусціў пад простае абяцанне з’явіцца ў тэрмін.

[1] Куршы — у арыгінале «cursones», адно з латышскіх плямёнаў, насельніцтва пазнейшай Курляндыі (суч. Курземе ў Латвіі).

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ПАСЛЯ ПЕРАМОЎ З МАГІСТРАМ ПРУСІІ Ў РАЦЁНЖЫ, СКЛАЎШЫ З ПРУСАКАМІ ПЕРАМІР'Е НА АДЗІН МЕСЯЦ, ПАКІДАЕ ПРУСІЮ.**

Выехаўшы з Брэста ў дзень зачацця найсвяцейшай панны Марыі, Уладзіслаў, кароль польскі, прыбыў у Рацёнж для спаткання з магістрам Прусіі[1]. Калі і магістр Прусіі Генрых фон Плаўэн прыбыў туды ў суправаджэнні Эбергарда, біскупа вюрцбургскага, і вялікай світы графаў і рыцараў, то быў ласкава прыняты Уладзіславам, каралём польскім, запрошаны з усёй сваёй світай на абед і ўшанаваны знатным пачастункам. Падчас абеду згаданы магістр Генрых, перайшоўшы з каралём Уладзіславам на больш адкрытую гаворку, меў з ім наступную гутарку: «Святлейшы кароль, — сказаў ён, — Бог і лёс тройчы запар давалі табе найзручнейшы выпадак, але ты не здолеў ім скарыстацца, калі ты лёгка мог бы захапіць замак Марыенбург і авалодаць назаўжды землямі Ордэна. Першы быў тады, калі ты ў вялікай сечы разбіў майго папярэдніка, магістра Прусіі Ульрыха, і вынішчыў усё яго войска; бо калі б на другі дзень ты паслаў на аблогу Марыенбургскага замка некалькі харугваў, то ён адразу падпарадкаваўся б тваёй уладзе, бо ў ім стаяла вельмі малое, слабое і ненадзейнае войска. Другі выпадак быў, калі б, узяўшы горад Марыенбург, ты распачаў прыступ замка; бо праз пралом з боку Віслы і замка, з прычыны збянтэжанасці яшчэ не заладжаны намі, твае ваяры маглі б уварвацца ў замак. Трэці мог бы мецьмесца, калі б ты працягнуў аблогу замка яшчэ толькі на пятнаццаць дзён; бо мы да такой ступені пакутавалі ад недахопу ежы і ад голаду, што ў нас на ўсё мноства ваяроў, абаронцаў замка, былі толькі два жывыя бараны і тры кумпякі свініны; звыш таго, з-за адсутнасці хлеба мы моцна пакутавалі ад паноснай хваробы, так што былі б не ў стане вынесці аблогі, калі б ты зацята яе працягваў».

Кароль жа Уладзіслаў адказаў: «Нічога не можа здарыцца з людзьмі без пажадання Бога, які кіруе светам па сваім промысле», — і абед скончыўся. Затым, на наступны дзень, вяліся розныя перамовы пра ўсталяванне перамір'я. Але паколькі скласці яго не змаглі, то, спыніўшы спатканне, кароль Уладзіслаў вярнуўся ў Брэст, а магістр Прусіі Генрых — у Торунь. Аднак пасля новых перамоў пры пасрэдніцтве кракаўскага падкаморыя Пятра Шафранца было ўсталявана перамір'е тэрмінам толькі на адзін месяц[2]. Па заключэнні яго Уладзіслаў, кароль польскі, з'ехаў з Брэста і праз Пшэдзец, Ленчыцу і Ловіч прыбыў у Выскіткі, дзе яго сустрэлі і прынялі з вялікай любоўю і пашанай князь Мазовіі Земавіт, яго жонка Аляксандра, сястра караля, з пяццю сынамі: Земавітам, Уладзіславам, Аляксандрам, Трайдэнам і Казімірам.

Праз чатыры дні, якія ён прысвяціў паляванню на звяроў, кароль, выехаўшы з Выскітак праз Асухаў, Бендкаў і Стромец, прыбыў у Едльню і зладзіў там свята Ражаства Хрыстова.

Гэты год быў векапомны вялікай паразай крыжакоў не толькі для палякаў, але і для іх суседзяў, як сяброў, так і ворагаў, бо была ўтаймавана і доблесць іх і ганарыстасць. І дзень славы штогод святкуецца яшчэ і з прычыны шматлікіх іншых перамог, здабытых палякамі над імі ж пад Каронавам, Тухоляй і Блакітным, і над войскам Жыгімонта, караля Венгрыі, пад Бардзеявам.

*Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.*
*Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.*

*Працяг будзе.*

[1] Длугаш памыляецца ў даце з'езду. З'езд адбыўся, відавочна, паміж 10 і 13 снежня.

[2] Па іншых крыніцах, перамовы пра перамір'е пачаліся яшчэ ў лістападзе (Possilge. Chronik, стар. 324), а падпісана яно было 7 снежня. Па ўмовах перамір'я ваенныя дзеянні спыняліся на тэрмін з 14 снежня 1410 па 1 студзеня 1411 г.




# ВЕРАСЕНЬ

**1**
*110 гадоў з дня нараджэння Баранавых Сымона (сапр. Баранаў Сымон Якаўлевіч; 1900—1942), беларускага празаіка.*

**2**
*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Шаўні Анатоля Аляксандравіча, беларускага паэта, перакладчыка, крытыка.*

**3**
*80 гадоў з дня нараджэння Ткачова Паўла Іванавіча (1930—1998), беларускага празаіка, літаратуразнаўца, крытыка, заслужанага работніка вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь.*

**6**
*105 гадоў з дня нараджэння Казлоўскага Віктара Іванавіча (1905—1975), беларускага паэта.*

**7**
*105 гадоў з дня нараджэння Бярозкі Георгія Сяргеевіча (1905—1982), беларускага празаіка, крытыка, літаратуразнаўца, кінакрытыка.*

**12**
*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Стадольніка Івана Канстанцінавіча, беларускага паэта, празаіка.*

**14**
*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Гурыновіча Хведара Хведаравіча, беларускага паэта.*

**17**
*150 гадоў з дня нараджэння Лейкі Кандрата Тодаравіча (1860—1921), беларускага празаіка, паэта, драматурга.*

**17**
*90 гадоў з дня нараджэння Крамко Яўгена Ігнатавіча (1920—1999), беларускага празаіка, публіцыста.*

**17**
*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Карэнды Івана Арсеньевіча, беларускага грамадскага дзеяча, паэта.*

**19**
*105 гадоў з дня нараджэння Туміловіча Янкі (Івана Людвігавіча; 1905—1938), беларускага паэта.*

**25**
*115 гадоў з дня нараджэння Лявіцкай Ванды Антонаўны (па мужу Лёсік; 1895—1968), беларускай паэтэсы, празаіка.*

**26**
*85 гадоў з дня нараджэння Кісліка Навума Зіноўевіча (1925—1998), беларускага паэта, перакладчыка.*

**27**
*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Бусько Міколы (Мікалая Іосіфавіча), беларускага паэта.*

**28**
*80 гадоў з дня нараджэння (1930) Дайліды Віктара Браніслававіча, беларускага празаіка.*

# ПЕРАГУКВАННЕ РОЗНЫХ ЭПОХ

**Н**апрыканцы сёлетняга верасня спаўняецца дзевяноста гадоў з дня ўтварэння Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі і, вядома ж, мы не маглі абмінуць гэтую дату, добра памятаючы пра тое, што шмат гадоў адным з заснавальнікаў нашага часопіса быў Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ. Ды і ўвогуле, у далёкім 1953 годзе наша выданне было створана дзякуючы камсамолу. Ініцыятарам яго стварэння быў Пётр Міронавіч Машэраў, які тым часам узначальваў ЛКСМБ.

«Я — твой трубач, таварыш камсамол!» — напісаў у свой час Паэт, і гэта справядліва гучала ў тую эпоху. Але нічога няма нязменнага. Многае ў жыцці мяняецца, і эпохі — таксама. Цывілізацыя не стаіць на месцы, яна няспынна ўдасканальваецца, шукаючы аптымальны варыянт для развіцця грамадства. Цяперашнія мы — вядома ж, жыхары іншай эпохі. І ўсё, што звязана з камсамолам, стала няхай яшчэ і блізкай, але ўжо гісторыяй. Жывыя, жыццёвыя хіба што толькі ўспаміны. І ў сваіх успамінах я, здараецца, згадваю надзвычай урачысты вечар у мінскім Палацы чыгуначнікаў, дзе калісьці выдатнай беларускай паэтцы Жэні Янішчыц уручалася прэмія Ленінскага камсамола за высокія дасягненні ў галіне літаратуры. А разам з ёю гэтую, такую ганаровую тады, узнагароду атрымлівалі і іншыя маладыя творцы: мастакі, рэжысёры… Падобнае ва ўсе часы — ухвальна: калі ёсць творы, вартыя адзнакі, яны павінны з шырокім розгаласам адзначацца.



*Жэня Янішчыц на Піншчыне ў родным наваколлі.*

І з пісьменніцкага асяродка не толькі Жэня Янішчыц была адзначана гэтай высокай прэміяй. Многія, тады маладыя пісьменнікі, атрымлівалі яе. А яшчэ больш маладых творцаў прымалі ўдзел у Рэспубліканскіх семінарах творчай моладзі, якія наладжваліся Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ. І вось цікавы момант… У мінулым годзе знакаміты гісторык-архівіст Віталь Уладзіміравіч Скалабан прынёс у нашу рэдакцыю копію дакумента, які ён выпадкова знайшоў на нейкіх архіўных паліцах. Гэта справаздача Г. Жабіцкага, сакратара ЦК ЛКСМБ «Аб выніках работы семінара творчай моладзі рэспублікі», адрасаваная ў ЦК КПБ. Мне, ледзь не праз сорак пяць гадоў, было асабліва цікава чытаць гэтую справаздачу, таму што разам са сваёй аднакурсніцай Любай Філімонавай і даволі вядомым ужо ў той час маладым паэтам Міколам Федзюковічам, які таксама быў тады студэнтам маскоўскага Літаратурнага інстытута, прымала ўдзел у тым семінары на возеры Свіцязь, перад якім, зыходзячы з дакумента, ставіліся задачы: «Правесці творчую справаздачу маладых дзеячаў літаратуры



*Нінель Шчасная ў творчай майстэрні.*

і мастацтва напярэдадні знамянальных дат у жыцці рэспублікі і камсамола; скіраваць творчую моладзь на стварэнне новых высокаідэйных твораў пра камсамол і моладзь; павысіць ідэйна-тэарэтычны ўзровень і прафесійнае майстэрства маладых аўтараў; умацаваць сяброўства творчай моладзі з камсамолам для сумеснай працы па ідэйнаму і эстэтычнаму выхаванню моладзі; наладзіць кантакты і ўстанавіць цеснае творчае супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі розных відаў мастацтва; выкарыстаць творчую сустрэчу для папулярызацыі лепшых твораў маладых аўтараў».

Тады сапраўды ішла вельмі актыўная папулярызацыя твораў літаратуры, але строга патрабаваўся і той ідэйны змест, ад якога пісьменнікі нярэдка адыходзілі, што, безумоўна ж, выклікала крытыку. Не абышлося без крытыкі, як бачна з дакумента, і на тым семінары, што хочацца працытаваць: «…Недастаткова кваліфікаванымі былі выступленні па праблемах маладой беларускай прозы і паэзіі… У выніку з гэтым абмеркаванне пытанняў літаратуры кінематаграфісты павярнулі на размову пра кінадраматургію і далі адмоўную адзнаку працы сцэнарнай калегіі. Па іх словах Саюз пісьменнікаў БССР аддаў рашэнне сцэнарнай праблемы А. Кучару і інш.

…Акрамя дня літаратуры не ўдалося арганізаваць дзейсную працу секцый архітэктараў, кампазітараў і кінематаграфістаў.

Падчас семінара асобныя ўдзельнікі імкнуліся правесці суб'ектыўную лінію ў абмеркаванні пытанняў літаратуры і мастацтва, навязаць іншым сваю думку, заснаваную парою на неглыбокім веданні пытання. Пры гэтым часам прыбягалі да бестактоўнасці і нават абраз.

Б. Сачанка падчас выступлення на семінары выказаў такія «парады»: «Слухайце ўсіх, а рабіце па-свойму… Мы самі суддзі сваіх твораў… Нас мае права крытыкаваць нават бухгалтар…»

Асобныя пісьменнікі і паэты (Мікалай Гілевіч, Пётр Макаль) пытанні далейшага развіцця беларускай літаратуры і мастацтва імкнуліся звесці да праблем беларускай мовы. Гэта праявілася ў рэпліках падчас выступленняў, запісках. Некаторыя дазвалялі сабе прад'яўляць прэтэнзіі кампазітарам, архітэктарам і іншым удзельнікам семінара, чаму яны не размаўляюць на беларускай мове. Мікалай Гілевіч нават заявіў архітэктару А. Цямновай: «Калі вы не ведаеце беларускай мовы, вам няма чаго рабіць тут, на семінары».

Думаю, што гэтыя вытрымкі са справаздачы цікава чытаць нашым чытачам. З іх бачна, што ёсць праблемы, якія тычацца нават розных эпох. Для беларускіх пісьменнікаў і сёння вельмі балючым пытаннем застаецца становішча з беларускай мовай. Хацелася б большага патрыятызму ў адносінах да яе, каб беларус, які лічыць сябе беларусам і роднай мовай называе беларускую мову (а гэта, як паказаў апошні перапіс насельніцтва, вялікая колькасць людзей), умеў ці хацеў і размаўляць на ёй паўсядзённа. Але вярнуся да справаздачы Г. Жабіцкага, у якой ёсць не толькі крытыка, а, скажам, і такія радкі: «…У цэлым семінар, у параўнанні з папярэднімі, прайшоў на больш высокім узроўні.

На наш погляд, семінар даў магчымасць бліжэй пазнаёміць творчую моладзь з праблемамі развіцця беларускага сучаснага мастацтва і літаратуры, з пошукамі маладых літаратараў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў. Ён будзе садзейнічаць далейшаму развіццю творчасці маладых, стварэнню імі новых твораў.

Акрамя гэтага, семінар садзейнічаў умацаванню творчай дружбы маладых дзеячаў літаратуры і мастацтва з камсамолам, дапамог усталяваць сяброўскія сувязі і дзелавыя кантакты з рабочымі, калгаснікамі, інтэлігенцыяй Гродзеншчыны…

…Творчая моладзь падчас сустрэч, гутарак атрымала магчымасць пабачыць бліжэй тых, хто стварае народнае багацце, паба-

чыла працэсы, якія характарызуюць няўхільнае павышэнне культуры сяла. І многія не хавалі свайго здзіўлення, радасці, захаплення. Хораша пра гэта сказала ўдзельніца семінара Н. Шчасная: «Я адчула тут пах зямлі…»

Як я ўжо адзначала напачатку, справаздача пісалася для разгляду ў ЦК КПБ і, вядома ж, там яе разгледзелі і далі сваё рэзюмэ. Яно на тытульным лісце справаздачы за подпісам Пятра Міронавіча Машэрава: «Я за тое, каб у далейшым падобныя семінары інакш рыхтаваць і праводзіць. Увогуле, работу з маладымі трэба будаваць на інакшай, больш шырокай і дзелавой аснове, роўна як і правядзенне падобных семінараў і збораў. Паўсямернае далучэнне маладых да спраў і жыцця вытворчых калектываў, пастаянная дапамога маладым у вывучэнні і правільным разуменні важнейшых працэсаў і з'яў, што адбываюцца ў нашай краіне і за яе межамі, — такая адна з важнейшых задач ЦК камсамола ў рабоце з творчай моладдзю».



*Іван Мележ сярод рабочых саўгаса «Спадарожнік».*

Як бачым, вельмі коратка — і пажаданні, і рэкамендацыі, але за гэтым стаяла шырокая дарога, як, дарэчы, і пільная ўвага да творчасці маладых, чые зоркі загараліся і разгараліся вельмі хутка. З таго самага семінара маладых творцаў у беларускай літаратуры і мастацтве засталося не адно імя, якое ўпісалася, можна сказаць, у залаты фонд: паэт Мікола Федзюковіч, мастачка Нінель Шчасная, кампазітары Андрэй Мдзівані і Рыгор Сурус… І колькі было такіх семінараў, дзе запальваліся свае зоркі!

Нашымі днямі пераемнікам камсамола стаў БРСМ, дзе па-свойму ў новым часе ладзіцца праца і з творчай моладдзю, і з навуковай. Але, безумоўна ж, самую істотную падтрымку наша творчая моладзь атрымлівае праз Спецыяльны фонд Прэзідэнта нашай краіны па падтрымцы таленавітай моладзі. І гэта не дзясяткі, а сотні і сотні маладых людзей, якія дзякуючы гэтай падтрымцы могуць як мага больш поўна і ярка раскрыць свае творчыя магчымасці. Цяпер узначальвае Спецыяльны фонд Прэзідэнта старшыня Пастаяннай Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Ніна Мікалаеўна Мазай. Рэдакцыя «Маладосці» ў бліжэйшых нумарах мяркуе надрукаваць гутарку з шаноўнай Нінай Мікалаеўнай, з якой можна будзе вынесці ўяўленне пра сучасную таленавітую моладзь, якая, магчыма, у нечым і пераўзыходзіць сваіх папярэднікаў — моладзь шасцідзесятых-семідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. І ўсё ж асабіста мне хацелася б, каб і ў іх былі падобныя семінары, што толькі б адлюстроўвала поўную і шматгранную палітру творчасці маладых.

І яшчэ пра адно хочацца сказаць у гэтым невялічкім артыкуле. Рыхтуючы яго, я натрапіла на здымак 1975 года: Іван Мележ сярод рабочых саўгаса «Спадарожнік» Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Вядомыя беларускія пісьменнікі былі жаданымі гасцямі на самых розных прадпрыемствах, што не адрывала ад жыцця і разам з тым спрыяла папулярызацыі літаратуры. Гэта тычылася і творчай моладзі, з якой маглі наладжвацца сустрэчы і ў заводскім цэху, і на зерневым таку… Думаю, не памылюся, калі скажу, што падобную практыку трэба было б аднавіць. Гэта толькі дапамагло б творчай моладзі не з экрана тэлевізара, а ўвачавідкі сустрэцца і, можа, нават адкрыць для сябе новую сучасную Беларусь.

***Раіса БАРАВІКОВА***

Ірына КЛІМКОВІЧ

# КАЛІ ЗАПАЛЬВАЮЦЬ ЗОРКІ...

**Новыя імёны ў мастацтве, новыя творчыя сілы. Што можа быць цікавей? Толькі працяг і далейшы ўзлёт. Пошук новых талентаў запатрабаваны ў нашай краіне: як подых свежага паветра, як глыток крынічнай вады. Маладым і таленавітым адкрываць новыя далягляды, напаўняць рэальнасцю свае рамантычныя мары. Паспрабуем жа не ашукаць давер тых, хто прапанаваў свету свае творчыя працы. Падтрымаем іх новыя ідэі і прывабныя пачынанні.**

**Сёння ў нас ёсць магчымасць пазнаёміць чытачоў «Маладосці» з двума самабытнымі і непаўторнымі мастацкімі талентамі — студэнткамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, пераможцамі рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў «Зорка ўзышла над Беларуссю» ў намінацыі «Жывапіс і графіка» — Вольгай МЕЛЬНІК і Ганнай КОНАНАВАЙ.**

### *ДАВЕДАЧНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ*

***Творчы конкурс «Зорка ўзышла над Беларуссю» прайшоў у краіне цягам аднаго навучальнага года — з лістапада 2009 па май 2010-га. Гэта было самае маштабнае культурнае мерапрыемства — і па колькасці ўдзельнікаў, і па геаграфіі. У конкурсе ўзялі ўдзел больш за чатыры тысячы маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 31 года з усіх 118 раёнаў краіны. Творчыя спаборніцтвы, якія праходзілі на раённым, абласным і заключным — рэспубліканскім узроўнях, увабралі рэкордную колькасць намінацый — дванаццаць: «Аўтарская песня», «Размоўны жанр», «Рэжысура масавых свят, тэатралізаваных прадстаўленняў і шоу-праграм», «Эстрадныя спевы», «Сучасны танец», «Сацыяльная рэклама», «Народныя спевы», «Дызайн», «Жывапіс і графіка», «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва», «Скульптура», «Фатаграфія».***

***Сярод арганізатараў конкурсу выступілі Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі, Дзяржтэлерадыёкампанія. Ініцыятар конкурсу — Адміністрацыя Прэзідэнта. Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў фіналістаў рэспубліканскага конкурсу «Зорка ўзышла над Беларуссю» з яго паспяховым завяршэннем. Ён адзначыў, што палітыка беларускай дзяржавы накіравана на тое, каб адораныя прадстаўнікі новых пакаленняў раскрываліся як асобы, маглі рэалізоўваць свае ідэі, захоўвалі і працягвалі нацыянальныя культурныя традыцыі.***

## І МАНУМЕНТАЛЬНАСЦЬ, І ПАЭЗІЯ

Манументальны жывапіс — найстаражытнейшы від мастацтва. Ён вядомы яшчэ з палеаліту: узгадайце роспісы пячор Альтаміра, Ляско... Дзякуючы стацыянарнасці і даўгавечнасці творы манументальнага жывапісу, а гэта і пано, і роспіс, і мазаіка, і вітражы, засталіся практычна ад усіх культур мінулага, якія стварылі развітую архітэктуру. Нярэдка манументальны жывапіс з'яўляецца адзіным мастацкім сведчаннем побыту той ці іншай эпохі.

Студэнтка шостага курса Акадэміі мастацтваў аддзялення манументальнага і дэкаратыўнага жывапісу Вольга Мельнік у сваім дзяцінстве нават не спадзявалася, што будзе ў дарослым жыцці размалёўваць сцэны

дамоў, фасады і парканы. Па-першае, паходзіць яна з сям'і інжынераў-электрыкаў. Толькі яе родны дзядзька вызначыўся ў мастацтве — ён архітэктар. І калі бацькі заўважылі здольнасці сваіх дачок (у Вольгі ёсць сястра Юля, таксама мастачка-керамістка, навучаецца ва ўніверсітэце культуры) да малявання, яны без ваганняў аддалі іх у мазырскую мастацкую школу, дзе сёстры і правучыліся дзевяць гадоў. Па-другое, Вольгу ўвесь час вабіў станковы жывапіс. Але на чацвёртым курсе гомельскага мастацкага вучылішча падчас аднаго з рэспубліканскіх конкурсаў сярод сярэдніх спецыяльных мастацкіх навучальных устаноў дзяўчынка атрымала Гран-пры. Пасля конкурсу да Вольгі падышоў загадчык кафедры манументальнага жывапісу Уладзімір Зянкевіч і прапанаваў ёй пайсці да яго вучыцца. Вольга пачала наведваць у Акадэміі прагляды прац мастакоў-манументалістаў. Памеры твораў і матэрыялы, з якіх яны рабіліся, а гэта ў асноўным цэмент і шкло, моцна яе ўразілі. Яна вырашыла, што для дзяўчыны такі занятак па сваёй фізічнай цяжкасці недасяжны і яна ніколі ў жыцці не здолее стаць манументалістам. Але ў дзень падачы дакументаў яна знерухомела на акадэмічнай лесвіцы — як быць? Атрымаць бы падказку, нейкі знак звыш! Раніца, нікога ў Акадэміі яшчэ няма. І тут раптам ёй насустрач па лесвіцы ідзе Зянкевіч. Гэта і вызначыла яе лёс.



*Вольга Мельнік*

Цяпер яна аддае шмат сіл і часу свайму любімаму занятку — стварэнню манументальных прац. Хаця для гэтага даводзіцца і цэмент цягаць, і шкло рэзаць на вітражы, і мець справу з гарачым воскам... Тым не менш сёння Вольга не ўяўляе свайго жыцця без такой цяжкай, але такой цікавай працы. Да таго ж ёй дапамагаюць аднакурснікі. Усіх студэнтаў-манументалістаў на курсе восем — чатыры дзяўчыны і чацвёра юнакоў. Таму падчас выканання вялікіх заказаў працуюць усім курсам — зладжанай камандай сяброў і аднадумцаў.



*«Рыцар». Вітраж,1764×2877.*

У сваім нядоўгім мастацкім жыцці мастачка паспела зрабіць нямала. Апроч прыватных інтэр'ераў два гады таму ў маленькім гарадку Крынічны Гомельскай вобласці яна распісвала з сярэдзіны царкву. На адной сцяне — «Вяртанне блуднага сына», на супрацьлеглай — «Уваскрашэнне Лазара». На яе рахунку роспіс інтэр'ераў адной з мінскіх музычных школ, сцэнаграфіі да спектакляў: у Тэатры юнага гледача «Каралеўства крывых люстэркаў» і на малой сцэне Палаца рэспублікі — «45 хвілін». Давялося папрацаваць і падчас другога адборачнага і трэцяга — заключнага — этапаў конкурсу «Зорка ўзышла над Беларуссю». У паскораным тэмпе і ў экстрэмальных умовах конкурсу яна разам з іншымі дваццаццю ўдзельнікамі мастацкага факультэта выконвала заданні па малюнку, натурных пастаноўках, жывапісе і кампазіцыі. У выніку мастачка атрымала дыплом II ступені і стала пераможцам знакамітага конкурсу.

У творчасці Вольгі Мельнік гарманічна злучаюцца і жывапіс, і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, і... паэзія. Крыніцай для натхнення мастачкі з'яўляецца ўсё тое, што акаляе яе ў паўсядзённым жыцці. Творчая манера Вольгі — імкненне да каларытнай і фактурнай дэкаратыўнасці. Для ўсіх яе прац характэрна адчуванне часу як зменлівай рэальнасці. У іх спалучаюцца матэматычна вывераная кампазіцыя і трапяткое пачуццё колеру. Як прызнаецца сама Вольга, яе марай застаецца стварэнне ў будучым не нейкага грандыёзнага вонкавага роспісу, а, наадварот, па-інтымнаму зачыненай, камернай прасторы. Хай і невялікага аб'ёму, але каб звычайныя рэчы ў спалучэнні з фарбамі і лініямі яе мастацкіх вобразаў набылі новае існаванне, ператварыліся ў іншыя знакавыя аблічча і сімвалы.

## СПРАВА МАСТАКА — НАРАДЖАЦЬ РАДАСЦЬ

Гэтыя словы пакладзены ў аснову творчасці маладой, але вельмі таленавітай мастачкі, студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Ганны Конанавай. Ганна навучаецца майстэрству станковага жывапісу. За ўдзел у конкурсе дзяўчына ўзнагароджана дыпломам III ступені. Паходзіць яна з дынастыі мастакоў. Вучылася маляваць з дзяцінства. Бацькі Ганны — магілёўскія мастакі: жывапісец Галіна Конанава і скульптар Уладзімір Конанаў. Першыя ўспаміны дзяцінства — яна сядзіць пад мальбертам і, узняўшы голаў, назірае за працай маці. І нават сама спрабуе выводзіць нейкія, як ёй здаецца сёння, «калякі-малякі». Але і цяпер яна са здзіўленнем узгадвае пра тое, як сябры яе бацькоў, таксама мастакі, якія прыходзілі да іх у майстэрню, угледзелі ў крэмзаннях малой парасткі будучага таленту.



*Ганна Конанава*



*«Вясновы дворык».*
*Палатно, алей, 40×60.*

Ва ўзросце дзесяці гадоў дзяўчынка ўжо вучылася ў рэспубліканскім каледжы імя Ахрэмчыка. Там яна прайшла каласальную школу жыцця, зведала шмат дзіцячых і проста чалавечых перажыванняў, якія дапамаглі ёй зрабіцца псіхалагічна сталай і творчай асобай. У сувязі з гэтым Ганна з удзячнасцю ўзгадвае педагогаў таго часу: Наталлю Сяргееўну Варламаву і Галіну Пятроўну Крываблоцкую. І хаця будучую мастачку ўвесь час вабіў толькі чысты жывапіс, на апошнім годзе навучання ў каледжы, у 12-м класе, яна адчула сапраўдную любоў да тэатра. Рэч у тым, што ў гэты час там праводзіў свае майстар-класы па сцэнаграфіі знакаміты Вітаўтас Альгердас Грыгалюнас — рэжысёр сталічнага тэатра імя Горкага. Ён вадзіў сваіх вучняў у тэатр, знаёміў іх з мастацтвам сцэны: тлумачыў, як рабіць тыя ці іншыя дэкарацыі, як распрацоўваць эскізы касцюмаў. Пасля гэтага пачынаючыя сцэнографы самі зрабілі свае макеты, эскізы і выставілі іх у Тэатры-лабараторыі беларускай драматургіі.

З таго часу Ганна захапілася майстэрствам сцэнаграфіі і вырашыла прысвяціць сваё жыццё менавіта тэатру. Яна проста марыла аб ім. Да таго ж ёй пашчасціла ў 2003 годзе выставіць у Тэатры юнага гледача сваю ідэю макета дэкарацый і эскізаў касцюмаў да спектакля «Рамэа і Джульета». Арыгінальныя і з асабістымі творчымі прыўнясеннямі працы. Але лёс перайначыў яе планы. Здарылася так, што ў 2005 годзе, калі яна паступала ў Акадэмію, на сцэнаграфію набору не было. Трэба было чакаць наступнага года. Губляць час Ганне не выпадала, і яна пайшла на жывапіс. Цяпер яна вучыцца ў Мая Вольфавіча Данцыга і зусім не шкадуе пра такі выбар, а сваім творчым шляхам лічыць менавіта станковы жывапіс. Ён цяпер у яе жыцці на першым месцы. Ва ўсе часы такі жывапіс сагравае душу і сэрца кожнага чалавека, нікога не пакідае абыякавым. А тэатр? Любоў да яго захавалася ў Ганны і дагэтуль, і яна не сумняваецца, што ў будучым абавязкова з ім судакранецца.

Адпаведна прыродзе свайго мастацкага даравання Ганна піша і партрэты, і родную магілёўскую ратушу, і нясвіжскі пейзаж, і выспу Святога Стэфана ў Чарнагорыі... Паўсюль мастачка дорыць людзям свой радасны і сонечны настрой. Лёгкая, быццам паветраная, палітра фарбаў, тонкая лінія малюнка надаюць яе працам празрыстасць і хісткасць, што яшчэ больш узмацняе эмацыянальнае ўздзеянне на гледача, дапамагае яму праз светлыя пачуцці і вобразы адчуць рэчаіснасць. Надзвычайныя па сваёй тонкасці і эстэтызму працы.

Дар'я ГУШТЫН

# ВОДСВЕТ І ДОСВЕД ПАДЗЕЙ ДАЎНІХ

## *(Фестываль рыцарства і нацыянальнай культуры ў Навагрудку)*

**Л**ета 2010 года багатае на культурныя падзеі. Прайшоў Фестываль нацыянальных культур у Гродне, «Вераніцынскі фэст» у Гарадку, упершыню святкавалі «Цукеркавы фэст» у Івянцы… І фестываль «Наваградскі замак-2010», што адбыўся напрыканцы чэрвеня, безумоўна, запомніцца як адна з самых яркіх і незабыўных падзей, якія ўваходзяць у скарбніцу беларускай культуры.



*Пачатак урачыстага шэсця.*

На гэтае свята завітала больш за тысячу гасцей, 400 удзельнікаў рыцарскіх клубаў з Беларусі, Украіны, Літвы, Чэхіі, Расіі і Польшчы. На адкрыцці фестывалю прысутнічала шмат чыноўнікаў і дыпламатаў. У Навагрудак прыехалі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра, старшыня Гродзенскага абласнога савета дэпутатаў Андрэй Навумовіч. Літву на Грунвальдскім фэсце прадстаўляў пасол Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас, Польшчу — часовы паверанны польскага дыппрадстаўніцтва Вітольд Юраш. Былі таксама прадстаўнікі міністэрстваў культуры Латвіі і Расіі.

Сёлетні фэст адрозніваўся ад мінулых шэрагам навінак. Гэтым разам на плошчы гучала не толькі сярэднявечная музыка. На фэст запрасілі калектывы народнай музыкі. Для многіх сюрпрызам стала выступленне дуэта «Аляксандра і Канстанцін». А колькасць мерапрыемстваў прыемна здзівіла самых патрабавальных гледачоў. Былі арганізаваны выставы фотаздымкаў і карцін, прэзентавана нацыянальная кухня, рыцары прайшлі шэсцем па ўсім горадзе, а таксама прадэманстравалі сваю гатоўнасць да бою. Распачаўся ж фестываль грунтоўнай размовай, якая прайшла ў цэнтральнай раённай бібліятэцы, пра значэнне Грунвальдскай бітвы для Беларусі.

### «ГРУНВАЛЬД У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»

Перамога над Тэўтонскім ордэнам — гонар кожнага беларуса. У канцы XIV стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае і Рускае (як яно афіцыйна называлася да сярэдзіны XV стагоддзя, калі было дададзена і Жамойцкае) з’яўлялася агромністай дзяржавай. Асаблівасцю ВКЛ было тое, што дзве трэці насельніцтва ўжо ў часы праўлення вялікага князя Гедыміна складала беларуская народнасць. З пашырэннем тэрыторыі ўдзельная вага яе павялічылася. Да гэтага трэба дадаць насельніцтва тагачасных украінскіх зямель (за выключэннем Галіцкай зямлі).



*Прадстаўленне тэатра-батлейкі: гучыць музыка з мінулага.*

гэтых народаў праблема захавання была вырашана. Цяпер ім не пагражала фізічнае знішчэнне альбо анямечванне. У эканамічным жыцці ВКЛ таксама наступіў пералом. Былі адкрыты шляхі праз Балтыйскае мора да еўрапейскіх гандлёвых гарадоў, што паўплывала на гаспадарчае развіццё тэрыторый, блізкіх да Балтыйскага мора. Пасля Грунвальда пачаўся палітычны ўпадак Тэўтонскага ордэна, які ўжо не здолеў займаць такое міжнароднае становішча, як раней.

Знешняя палітыка дзяржавы адпавядала інтарэсам як літоўскіх, так і рускіх, а потым — украінскіх феадалаў. Яны выступалі ў паход адзіным войскам. Абарона сваіх зямель была для іх агульнай справай. Асабліва такое адзінства інтарэсаў феадалаў, ды і ўсяго насельніцтва, праяўлялася падчас знішчальных войнаў і пагрозы існаванню дзяржавы, а то і саміх народаў, якія жылі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

Вельмі важнае значэнне для Вялікага Княства Літоўскага мелі ягоныя адносіны да Тэўтонскага ордэна, працяглая барацьба з ім. Рашаючай кампаніяй «вялікай вайны» была летняя кампанія 1410 года. У гэтых баталіях удзельнічала галоўная армія пад камандаваннем галавы Ордэна вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена. Яна складалася з 51 харугвы. Агульным лікам гэта 21 тысяча конных рыцараў, 6 тысяч пехацінцаў і артылерыстаў, а таксама каля 5 тысяч чэлядзі ў абозе. Армія крыжакоў была лепш узброена і мела баявы вопыт. У яе прыбылі рыцары і наёмнікі з Германіі, Англіі, Францыі, Швейцарыі і іншых краін Еўропы.

Палітычнае значэнне Грунвальдскай бітвы вельмі вялікае — знікла пагроза агрэсіі крыжакоў на Польшчу, Беларусь і Літву. Набегі нямецкіх рыцараў на беларускія і літоўскія землі фактычна спыніліся. Для

Адкрываючы фэст, Сямён Шапіра адзначыў, што 600 год таму беларусы супольна з суседзямі «надоўга адвучылі крыжакоў рабіць наезды на нашыя землі». Павел Латушка прыгадаў прарочыя словы пра тое, што народ, які не памятае сваю гісторыю, не мае будучыні. Міністр падкрэсліў, што беларусы памятаюць усе свае перамогі — і 600-гадовай даўніны, і 65-гадовай.

## МУЗЫКУ МЫ ЧУЛІ АДУСЮЛЬ

Падчас фестывалю склалася ўражанне, што музыкай напоўнены ўвесь горад, бо куды ні павернеш, паўсюль чуліся спевы, гучалі музычныя інструменты. На галоўнай плошчы горада размясціліся рок-гурты. Багата было старадаўняй музыкі, якую многія палюбілі ў Наваградку. Музыкі прысутнічалі паўсюль — і ў парку, і ў горадзе майстроў. Мясцовым жыхарам дый гасцям горада такая музыка, відавочна, даспадобы. Гэта заўважна па вялікіх натоўпах, што збіраюць самадзейныя музыкі ў горадзе. А вось у Фарным касцёле і Свята-Мікалаеўскім саборы прайшла прэм’ера фантазіі Ганны Кароткінай для аргана і ўдарных інструментаў духавой музыкі і праваслаўных песнапенняў пад назвай «Грунвальд». Народную музыку прэзентаваў аркестр

народных інструментаў «Гумарэска» Навагрудскай дзіцячай школы мастацтваў. Арганізатары фестывалю таксама запрасілі выступіць зорак — расійскі ансамбль «Drolls»; сярод беларускіх выканаўцаў былі вядомыя «Gloria», «Нагуаль», «Яварына», «Аляксандра і Канстанцін», «Палац». На фестывалі таксама выступіў Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.



*Рыцарскі паядынак.*

## РЫЦАРЫ ПРАДЭМАНСТРАВАЛІ СВАЮ МОЦ

Галоўнымі героямі свята, вядома ж, былі рыцары. Іх выступленні можна назваць найбольш яркімі. З аднолькавай цікавасцю за імі сачылі і дзеці, і дарослыя.

На Замкавай гары разгарнулася рысталішча рыцараў: удзельнікі паказвалі свае здольнасці ў сярэднявечных танцах, музыцы, ладзілі майстар-класы па самаабароне і гістарычным фехтаванні, прадэманстравалі інсцэніроўкі невялікіх бітваў. Гледачы маглі пазнаёміцца з побытам рыцараў і жыхароў сярэднявечных гарадоў. Так, у гісторыка-патрыятычным клубе «Крон» з Гродна ёсць рыцары, рамеснікі, святар і нават простыя мірныя жыхары.

Па словах кіраўніка клуба, той, хто жадае ўступіць у яго, павінен уласнаручна пашыць сабе адзенне і абутак (пры гэтым ручной працы мусяць быць і швы, і гузікі), а таксама паказаць веды па гісторыі Сярэднявечча (напісаць рэферат на зададзеную тэму). Каб стаць ваяром, трэба прайсці падрыхтоўку па гістарычным фехтаванні і працяглыя трэніроўкі. Клуб займаецца рэканструкцыяй залатога перыяду кіравання князя Вітаўта — з 1382 па 1410 год. Акрамя таго, на фэсце было прадстаўлена адзенне, зброя, ежа людзей таго часу — бігус з капусты і пяці гатункаў мяса, вараная рэпа, грэчка. «Галоўнае — ніякай бульбачкі», — адзначылі ўдзельнікі клуба.

Падчас фестывалю ў Навагрудку прайшлі таксама спаборніцтвы беларускага этапу адкрытага Кубка Еўропы па гістарычным фехтаванні. Незвычайным стала і выступленне прыдворнага балета «Cracovia Danza». Праграма фестывалю ўключала і відовішчнае фаер-шоу, дзе былі прадстаўлены беларускія тэатры «Elemental» і «Крада». Удзел у вогненным шоу таксама прыняў літоўскі клуб «Viduramziu pasiuntiniai».

Свята адчувалася паўсюль. Рыхтавацца да яго пачалі загадзя. Сёлета для гасцей арганізавалі намётавы гарадок усяго за 1,5 кіламетра ад горада. Аўтобус курсіраваў туды ўвесь час. Мясцовыя жыхары былі рады распавядаць гасцям пра свой горад, дапамагалі знайсці правільную дарогу, некаторыя здавалі жыллё, каб усе жадаючыя змаглі размясціцца. Навагрудак — вельмі ўтульны і еўрапейскі горад — заўсёды пакідае добрыя і цёплыя ўспаміны пра сябе. Гэтым разам, калі былі аб’яднаныя дзве падзеі — фестываль «Наваградскі замак» і святкаванне 600-годдзя перамогі пад Грунвальдам, ён набыў веліч, яркія фарбы і шмат пазітыўных эмоцый, якія гледачы атрымалі тут і запомняць назаўсёды.

***Фота аўтара.***

Міхась КЕНЬКА

# СТАЛІ СКУЛЬПТУРАМІ І НАБЫЛІ АБРЫСЫ

***У розных краінах шмат увасобленых у скульптурных вобразах персанажаў мастацкай літаратуры і фальклору. І задумваешся, чаму тыя помнікі з'явіліся, чаму сталі папулярнымі… Перш чым так сталася, трэба было, каб яны ажылі пад пяром пісьменніка, запалі ў сэрцы мільёнаў чытачоў… А чытачам пажадалася, каб прыдуманыя кніжныя персанажы набылі рэальныя рысы, каб іх можна было ўбачыць, аддаць ім даніну памяці за тое, што яны ў пэўную жыццёвую часіну ўвайшлі ў душы, абудзілі светлыя пачуцці і пакінулі ўспамін.***

***Такіх персанажаў шмат, ёсць яны ва ўсіх літаратурах свету. Лічыцца, што першым помнікам кніжнаму персанажу была «Русалачка» ў Капенгагене, тая самая, што стала вядомай дзякуючы казцы дацкага пісьменніка Ганса Хрысціяна Андэрсена. Здаўна вядомы і скульптурныя выявы барона Мюнхгаўзена ў Германіі, Тома Соера і Гека Фіна ў ЗША, д'Артаньяна ў Францыі. Слава гэтых літаратурных персанажаў перасягнула нацыянальныя межы, стала сусветнай. Тое самае можна сказаць і пра многіх іншых герояў папулярных кніг. Не дзіўна, што некаторыя скульптурныя выявы з'явіліся не толькі на іх радзіме, але і ў іншых месцах. Так, апроч Даніі помнік андэрсенаўскай Русалачцы ёсць і на Украіне, у Расіі, шэкспіраўскім Рамэа і Джульеце — у Італіі і ЗША, Гамлету — у Англіі і Даніі.***

***Беларусы таксама могуць пахваліцца тым, што яны багаты на свае помнікі літаратурным і фальклорным персанажам. Будзем спадзявацца, з часам іх стане болей. Першымі літаратурнымі героямі, адлітымі ў бронзе, сталі персанажы твораў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Гісторыя іх з'яўлення звязана са святкаваннем 90-годдзя з дня нараджэння нашых народных паэтаў.***

## «…ПАД ЗВОН-ПЕСНЮ ЖЫВУЧЫХ ГУСЛЯРАВЫХ СТРУН…»

Дзвесце гадоў таму месца, дзе цяпер стаіць помнік Янку Купалу, было прадмесцем, якое называлася Плябанія. Там стаялі драўляныя дамы, якія ўвесну падтапляла Свіслач. Плябаніі Свята-Троіцкага (Залатагорскага) касцёла належаў пабудаваны ў гэтым месцы яшчэ ў XVIII стагоддзі драўляны млын. Сама Плябанія месцілася ад вуліцы Захар'еўскай (цяпер праспект Незалежнасці) да Шырокай (вуліца В. Куйбышава) і ад Паліцэйскай (вуліца Я. Купалы) да Садовай (бераг Свіслачы каля парку).

У адным з тых драўляных домікаў Плябаніі ў 1927 годзе пасяліўся Янка Купала з сям'ёй. Прадмесце славілася мноствам садоў. Вайна знішчыла пасёлак. Ад Купалавай сядзібы не засталося нават падмурка. Фашысцкая бомба патрапіла ў хату 3 ліпеня 1941 г. Пасля вызвалення на месцы Плябаніі вырашана было разбіць парк. Яго праект быў распрацаваны архітэктарам Ігарам Рудэнка. На добраўпарадкаванні працавала шмат студэнтаў, прычым не толькі з Мінска. Яны і прывезлі з розных куткоў Беларусі саджанцы, у тым ліку дубоў. Упершыню паспрабавалі перасаджваць дваццаціпяцігадовыя дубкі, і, на дзіва, яны прыжыліся! Пасадзілі больш чым чатыры тысячы дрэў. Былая Плябанія стала цяністым паркам, які быў першапачаткова названы ў гонар 30-годдзя БССР. Ад галоўнага ўвахода, дзе быў устаноўлены бюст двойчы Героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца, праз парк наўскос ішла алея, у цэнтры якой струменіў фантан. У 1959 годзе ў парку, непадалёк ад таго месца, дзе стаяла хата Янкі Купалы, пабудавалі літаратурны музей паэта. Праз тры гады і парк назвалі імем паэта.

Карэнную рэканструкцыю парку правялі ў юбілейным 1972 годзе, напярэдадні 90-годдзя з дня нараджэння Купалы. Помнік Сяргею Грыцаўцу перанеслі ў сквер каля ГУМа. Цэнтральную алею парку падоўжылі да Свіслачы, зрабілі прыгожы спуск да вады, а берагі закавалі ў бетон, пашырылі набярэжную з 20 да 120 метраў. Непадалёк ад будынка музея ўстанавілі помнік Янку Купалу работы скульптараў Анатоля Анікейчыка і Льва Гумілеўскага, архітэктараў Юрыя Градава і Леаніда Левіна. Цяпер пры ўваходзе ў парк наведвальнікі бачаць народнага паэта, які нібы спыніўся між дрэў на гранітным брылі. Між іншым, пляцоўку каля помніка хацелі спачатку пакрыць асфальтам, але Анікейчык настаяў на тым, каб яна была брукаванай. «Купала хадзіў па бруку, а не па асфальце», — даводзіў ён. І сапраўды, многія шляхі і вуліцы нашай радзімы раней былі пакрыты брукам.

Каля ног паэта квітнее апетая ім у вершах папараць-кветка, якая, паводле народнага падання, прыносіць шчасце тым, хто знойдзе яе ў купальскую ноч. Гэты паэтычны сімвал народнага ўяўлення пра шчасце неаднаразова сустракаецца ў творах Купалы. Памятаеце: «…Пад звон-песню жывучых гуслявых струн // Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць…» Тут дарэчы будзе ўспомніць пра валошкі ў руцэ Максіма Багдановіча на помніку, які стаіць каля тэатра оперы і балета. З першага погляду іх можна і не заўважыць. А між тым скульптар Сяргей Вакар уклаў у гэтую дэталь адсылку на адзін з улюбёных паэтычных вобразаў Багдановіча, на радкі з верша «Слуцкія ткачыхі»: «…І тчэ, забыўшыся, рука, // заміж персідскага узора // цвяток радзімы васілька…»

Савецкай скульптуры былі ўласцівыя маштабнасць і нават гігантаманія. Але выявілася, што гэта якраз надзвычай удалае рашэнне для вобраза Купалы. Паводле першага варыянта праекта, ад выявы папараць-кветкі, з падножжа кургана мусіла бруіць крынічка. Але для гэтага давялося б знесці фантан, які ўжо быў у парку. Таму яго вырашылі пакінуць, толькі дапоўнілі скульптурнымі фігурамі дзяўчат, якія варожаць на Купалле: пускаюць па вадзе вянкі, а вакол іх струменіць фантан, у пырсках якога ў сонечны дзень зіхаціць вясёлка. Над скульптурамі працавалі Анатоль Анікейчык, Андрэй Заспіцкі и Леў Гумілеўскі. Купалінкі — таксама з вершаў паэта, з імі звязаны і яго літаратурны псеўданім, бо нарадзіўся ён якраз на Купалле. Але не менш важным для стваральнікаў паркавага ансамбля было адлюстраваць уплыў вуснай народнай творчасці на песняра. Максім Гарэцкі адным з першых звярнуў на гэта ўвагу: «Тое, што Купала пачаў шукаць тэмы для сваіх твораў у багатай народнай творчасці, у беларускіх легендах, у старых гутарках, мела для яго дужа станоўчае значэнне, бо развівала ў яго паэтычным слове нацыянальны элемент. Пераймаючы народную легенду, Купала даваў яе вобразам зусім новае значэнне, смела і паэтычна карыстаў для народнай ідэі…» — пісаў ён у сваёй кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры». Вось таму Купалінкі і сімвалізуюць тую лучнасць з творчасцю народа, яны з народных песень і паданняў. Фантан, аздоблены скульптурамі, таксама стаў своеасаблівым помнікам як мастацкім творам, так і фальклорным. Гэта першы ў Беларусі помнік, прысвечаны літаратурным персанажам. Ён выступае яшчэ і сімвалам чысціні, юнацтва, кахання. Гледзячы на яго, успамінаеш радкі з верша Купалы:



*«Маладую дзявочу красу не змалюеш, не спішаш пяром...»*

«Маладую дзявочу красу // Не змалюеш, не спішаш пяром…»

Помнік Янку Купалу быў урачыста адкрыты 30 чэрвеня 1972 года. Ад той пары пачалася традыцыя ў дзень нараджэння паэта ладзіць святочную сустрэчу паэтаў з чытачамі. Праз дзесяць год, напярэдадні святкавання стагоддзя з дня нараджэння Янкі Купалы па прапанове Саюза мастакоў быў наладжаны скульптурны пленэр. Скульптары натхняліся вобразамі з твораў паэта. Створаныя ў час пленэру работы паставілі ў парку каля ўвахода і на цэнтральнай алеі. Той, хто добра ведае творчасць Купалы, можа ўбачыць у скульптурных выявах матывы з вершаў Купалы «Жняя», «Над калыскай», «Аб дзяўчыне», паэмы «На куццю» і іншых…

У самым канцы цэнтральнай алеі, пад елкамі, стаіць помнік першадрукару, паэту, асветніку Францыску Скарыне работы скульптара Барыса Лазарэвіча. Чаму ён апынуўся там? Экскурсаводы тлумачаць гэта сімвалам пераемнасці літаратурнай творчасці ад даўнейшых часоў. Са Скарыны пачыналася наша краснае пісьменства. Першадрукар і паэт Скарына нібы з далёкай мінуўшчыны бласлаўляе Купалу на служэнне Беларушчыне. На жаль, пра гэты помнік і яго аўтара нідзе ў аповедах пра парк не згадваецца. А каменны Скарына таксама быў створаны ў час пленэру і ўваходзіць у комплекс паркавых скульптур, што аздабляюць алеі. Цікава ўспомніць, што на месцы, дзе цяпер высіцца постаць Ф. Скарыны, пасля вайны таксама была скульптура — адна з тыповых для савецкага часу: мужчына трымае на руках дзяўчынку, якая выпускае ў палёт птушку. Падобная скульптура і сёння вянчае франтон Палаца прафсаюзаў.

У 2008 годзе па прапанове Саюза мастакоў было вырашана распрацаваць канцэпцыю рэканструкцыі парку Янкі Купалы, паводле матываў творчасці паэта. Неўзабаве было прапанавана некалькі праектаў і макеты скульптур. Адбылося абмеркаванне двух праектаў. Першы прадставіў скульптар Васіль Дубовік — размясціць у парку шэраг пластычных работ, выкананых ва ўмоўнай манеры. Другі — праект скульптара Льва Гумілеўскага і архітэктараў Юрыя Градава і Леаніда Левіна — прадугледжваў стварыць штучную крыніцу, якая далей ручаём разальецца па цэнтральнай алеі ў бок Свіслачы, а па берагах размесцяцца валуны, на якіх будуць высечаны радкі з вершаў Янкі Купалы. Таксама прапанавалі паставіць на алеях парку скульптурныя выявы персанажаў з твораў паэта. Былі паказаны эскізы скульптурных груп паводле паэм «Яна і я», «На куццю», «Гусляр». Але Савет па манументальнай прапагандзе Міністэрства культуры Беларусі вырашыў прадоўжыць работу па выпрацоўцы канцэпцыі рэканструкцыі парку. Не выключана, што сярод новых работ будуць і самыя вядомыя персанажы Купалавых твораў: Паўлінка, Бандароўна, Гусляр, Хлопчык і Лётчык, Жняя…

## «…І ВЫХАДУ ШУКАЎ АДБІТАК РОДНЫХ З'ЯЎ…»

У тым жа 1972 годзе адзначаўся і юбілей Якуба Коласа. Да гэтай падзеі ў Мінску быў створаны мемарыяльны ансамбль на плошчы, якая носіць імя паэта. Раней плошча называлася Камароўскай. Паколькі помнік Якубу Коласу арганічна ўпісваецца ў комплекс пабудоў плошчы, то нельга не згадаць, як ён ствараўся, забудоўваўся. Сёння раён Камароўкі — цэнтр горада. Старажылы ж гавораць, што былая Камароўка — колішняя ўскраіна, балоцістая, закінутая. Некалі яна прасціралася ад Траецкай гары, дзе цяпер тэатр оперы і балета, да парку Чалюскінцаў. Сёння гэта раён плошчы Якуба Коласа, вуліц Веры Харужай, Леэн Кульман, Якуба Коласа, Мікалая Гікала. Даўней тут была вёсачка Камароўка — уладанне магнатаў Радзівілаў. Пасля вайны 1812 года вёска і навакольныя землі перайшлі да мінскага памешчыка Станіслава Ваньковіча.

У канцы XIX стагоддзя вёска ўвайшла ў межы горада і была адной з самых занядбаных ускраін Мінска. Паколькі мясцовасць была нізінная, то пасля дажджоў вуліцы затапляліся. Сто гадоў таму мінская газета пісала: «Цяжка сабе ўявіць нешта больш жахлівае, чым наша Захар'еўская вуліца, якая носіць за Залатой горкай назву Камароўкі… Гэта вуліца ўяўляе сабой суцэльнае ліпкае балота, перайсці праз якое ніяк немагчыма…»

Воблік Камароўкі пачаў істотна змяняцца ў XX стагоддзі. У 1925 годзе балота асушылі. У 1929 годзе трамвайная лінія злучыла Камароўку з Таварнай станцыяй. У 50-х гадах пусцілі тралейбус, пачалі зносіць ста-

рыя драўляныя дамы, на іх месцы пабудавалі Дом мэблі, рынак, названы Камароўскім.

Цікава таксама, як рэканструявалася і забудоўвалася тая частка былой Камароўкі, якая атачае помнік і носіць цяпер назву плошчы Якуба Коласа. Яшчэ ў 20-я гады тут стаяла некалькі драўляных жылых дамоў. У 1939 годзе па праекце архітэктараў Авеля Брэгмана, Аляксандра Воінава і Валянціна Мураўёва быў пабудаваны корпус Інстытута фізкультуры. У 50-я гады з таго боку, дзе пачынаецца вуліца В. Харужай, пабудавалі карпусы завода вылічальных машын і паліграфічнага камбіната, якому пазней, у 1956 годзе, прысвоілі імя Якуба Коласа. У 1957 годзе насупраць Інстытута фізкультуры пабудавалі васьміпавярховы жылы дом, на першым паверсе яго з боку плошчы — рэстаран «На ростанях». Назва напамінае пра трылогію Якуба Коласа. З другога боку праспекта ў 1963 годзе адкрылася Вялікая зала Белдзяржфілармоніі, узведзеная па праекце архітэктара Георгія Бенядзіктава, праз год — ЦУМ. Вось у гэтай архітэктурнай прасторы і было вырашана размясціць мемарыяльны ансамбль у гонар Якуба Коласа.

Помнік яму стварылі скульптар Заір Азгур і архітэктары Юрый Градаў, Георгій Заборскі і Леанід Левін. Першапачаткова праект помніка планавалася ўзвесці на высокім кургане пасярод шырокага, у 45 метраў, штучнага возера, на беразе між чаратовых зараснікаў. Там месціліся б і героі літаратурных твораў — дзед Талаш з Панасам і Сымон з Ганнай. У выніку ад возера засталіся толькі два невялікія вадаёмы, з якіх б'юць невысокія фантаны ў форме каласоў. А вось усе фігуры скульптар павялічыў у памеры, інакш яны б не выдзяляліся на вялікай прасторы плошчы. Хаця потым скульптара абвінавачвалі ў гігантаманіі, але сёння можна ўпэўнена сцвярджаць — Азгур цудоўна ўяўляў, як будзе ўпісвацца помнік у прастору плошчы.

Скульптар быў добра знаёмы з прататыпам галоўнага героя «Дрыгвы» — палескім селянінам Васілём Ісакавічам Талашом, пра подзвігі якога праўдзіва расказваў Якуб Колас у сваёй аповесці. У 1943 годзе дзед Талаш быў вывезены на самалёце з партызанскай зоны на Вялікую зямлю, у Маскве ён неаднаразова выступаў з гутаркамі пра партызанскі рух на Беларусі, заклікаў да барацьбы з ворагам. Якраз тады Заір Азгур і вылепіў эскіз скульптурнага партрэта Васіля Талаша, гіпсавы адбітак з якога цяпер захоўваецца ў музеі скульптара. Паводле ўспамінаў З. Азгура, дзед Талаш хацеў быць вылепленым на кані і з шабляй у руцэ. Але першы раз скульптар увасобіў воблік дзеда Талаша ў скульптурным партрэце, высечаным з граніту, пазней перадаў яго ў Гродзенскі мастацкі музей. Ад партрэта і пралёг шлях да стварэння вобліку дзеда Талаша ў той скульптурнай групе, дзе ён побач з сынам. А вось Панас — гэта проста абагулены воблік хлопца. Сын дзеда Талаша, насамрэч яго звалі Дзмітрыем, ведаў, што ён увасоблены ў бронзе. Па запрашэнні супрацоўнікаў музея Якуба Коласа ён пабываў у Мінску, агледзеў помнік, зазначыў, што бацька вельмі падобны. Дзмітрый Васільевіч неаднаразова выступаў з успамінамі пра бацьку. Жыў ён у колішняй бацькавай хаце, памёр у 1977 годзе. У Петрыкаве таксама ўстаноўлены бронзавы бюст дзеда Талаша работы З. Азгура.

Урачыстае адкрыццё помніка адбылося 3 лістапада 1972 года.

Скульптурныя групы каля помніка Якубу Коласу — не адзіныя ўвасабленні ягоных герояў у манументальнай пластыцы. На радзіме паэта, там, дзе ён правёў дзяцінства, існуе з 1992 года скульптурны комплекс «Шлях Коласа». Яго задума ўзнікла напярэдадні святкавання стогадовага юбілею паэта. Загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатоль Грэкаў даўно руплiва апякуецца захаваннем і ўшанаваннем усяго, што звязана з Якубам Коласам на Стаўбцоўшчыне. Ён пабываў у складзе беларускай дэлегацыі на Львоўшчыне, дзе яго ўвагу прыцягнула «Камянярава сцежка» — комплекс драўляных скульптур па шляху да музея ўкраінскага паэта Івана Франко. Пазней А. Грэкаў пазнаёміўся з другой падобнай задумай: у Літве ёсць «Дарога Чурлёніса» з мястэчка Варэна да Друскенікаў. Анатоль Васільевіч падзяліўся сваёй ідэяй — стварыць на радзіме паэта комплекс драўляных скульптур — з дырэктарам музея Якуба Коласа Зінаідай Камароўскай, сынам паэта Данілам Міцкевічам. Яны падтрымалі ідэю энтузіяста. Знайшла падтрымку гэтая ідэя і ў Міністэрстве культуры.

Скульптуры выканала група самадзейных мастакоў — Анатоль Магулін, Сяргей Кляшчук, Міхаіл Корабаў, Ігар Канавалюк,



*«Ён іграў аб родным доме...»*

Віктар Парашчанка, Генадзь Дзялендзік, Іван Супрунчык. «Шлях Коласа» цяпер складаецца з кампазіцый «Дарога дзядзькі Якуба», «Сцяжына малазямельцаў», «Песняй вітаю я вас!» — групы драўляных скульптур стаяць уздоўж дарогі са Стаўбцоў да Мікалаеўшчыны і на той лясной сцяжыне, што вядзе да леснічоўкі Альбуць. Большасць скульптур на «Шляху новазямельцаў» прысвечана персанажам паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Тым, хто пабываў на экскурсіі па гэтых месцах, назаўсёды запомняцца гэтыя скульптуры.

## БАТЛЕЙКА

А цяпер звернемся да іншых твораў манументальнай пластыкі, звязаных з вуснай і пісьмовай творчасцю. Яшчэ задоўга да таго, як усталявалася аўтарская літаратура, у народзе перадаваліся з пакалення ў пакаленне і паэзія, і проза, быў і народны вандроўны лялечны тэатр, які называўся батлейкай. Папулярнасць ён меў надзвычайную, бо вандроўныя батлеечнікі ў лялечных спектаклях закраналі надзённыя праблемы, высмейвалі прыгнятальнікаў, за што часта караліся ўладамі. У нашы дні робяцца спробы адрадзіць батлейку. Апроч таго, пра яе напісаў п’есу Францішак Аляхновіч, на АНТ пастаўлены музычны фільм «Батлейка» па байках Кандрата Крапівы. Так што персанажы батлейкі згадваюцца і ў аўтарскіх творах.

Каля тэатра музычнай камедыі ў 1982 годзе ўстаноўлена дэкаратыўная бронзавая скульптурная кампазіцыя «Батлейка» скульптара Леаніда Зільбера. Яна ўключае найбольш характэрных персанажаў беларускай батлейкі. Сёння такі тэатр хаця і адраджаецца ў дзейнасці асобных творчых калектываў, але ўсё ж не вядомы шырокаму колу гледачоў. Таму будзе дарэчы нагадаць, што ён уяўляў сабой у даўнейшыя часы. Батлейка — вандроўны лялечны тэатр. Лялечнікі-батлеечнікі насілі з сабой скрыню з двума ярусамі. На верхнім, які сімвалізаваў «неба», звычайна граліся сцэнкі рэлігійнага зместу, найчасцей пра нараджэнне Хрыста ў Віфлееме, ад лацінскага наймення якога (Betleem) і паходзіць назва тэатра. Персанажамі тут выступалі дзева Марыя, Іосіф, Ісус, Адам і Ева. Таксама быў папулярным сюжэт пра цара Ірада. На ніжнім — «зямля» — ставіліся сатырычныя сцэнкі з народнага побыту. Дзеючымі асобамі тут былі Цыган, Яўрэйкарчмар, Смерць, Мацей і Улляна, Антон з Казой, Антаніха, Чорт, Казак. Якраз апошніх з названых лялечных герояў і паказаў у сваёй скульптурнай групе Леанід Зільбер. Ён разумеў, што з-за рэлігійнага зместу верхняй часткі яму не будзе дазволена паказаць абодва ярусы батлейкі, і адлюстраваў толькі прадстаўнікоў «зямлі», найбольш тыповых для гэтай часткі батлеечнага спектакля. Скульптар па-свойму выявіў казачную прыроду батлеечнага дзейства, выканаўшы фігуры «акцёраў» у народнай гратэскавай манеры.

Годам раней скульптар стварыў для тэатра скульптурную кампазіцыю «Музы», якая ўпрыгожвае фасад. Праўда, скульптуры атрымалі ўмоўныя назвы — «Паэзія», «Музыка», «Сцэнаграфія», «Тэатр», «Танец» — як віды мастацкай творчасці, што маюць дачыненне да аперэты. З успамінаў Л. Зільбера: «Пасля мантажу «муз» пачалася работа над «Батлейкай». Збор матэрыялу ў архівах, пошукі кампазіцыі і зноў… бясконцая чарада ўзгадненняў. Калі я здаваў «Батлейку», многія напаўсур’ёзна дапытваліся: Антаніха з бізуном — ці не партыя гэта, якая мучыць народ у асобе Антона з Казой? Але жарты скончыліся, калі неўзабаве пасля ўстаноўкі

маёй работы мне пазванілі сябры і сказалі, што рабочыя высякаюць дэталі з маёй кампазіцыі… Я прыехаў на месца і ўбачыў вялікую чорную пляму на тым месцы, дзе быў падсвечнік з трыма свечкамі. Гэта было на левай дзверцы. Я напісаў абуральны ліст у ЦК КПБ і сказаў усё, што пра іх думаю. Праз некаторы час мяне запрасілі нібыта да галоўнага архітэктара горада. Але там мяне чакаў зусім іншы чалавек. Яму было даручана правесці са мной тлумачальную гутарку. Ён сказаў, што там, наверсе, мяне вельмі паважаюць, але я павінен разумець, што ідзе ідэалагічная барацьба і мы павінны быць пільнымі. Ён дастаў з шуфляды тоўсты альбом, у якім былі фотаздымкі маёй «Батлейкі» і многіх архітэктурных аб’ектаў вельмі вядомых архітэктараў. Як мне растлумачылі, у кожным з іх быў які-небудзь элемент, што выклікаў падазрэнне ў партыйных ідэолагаў (вось чаму скульптары так неахвотна браліся за працу над паркавай скульптурай!)».

## НАВЕЯНАЕ МІФАЛОГІЯЙ І ФАЛЬКЛОРАМ

Сапраўды, арыгінальных паркавых скульптур у савецкім Мінску амаль не было. Першай з іх, якая мела дачыненне да фальклору, была «Купава» на вуліцы Я. Купалы ў скверыку перад рэстаранам «Журавінка». Выява гожай дзяўчыны ў вянку, устаноўленая ў 1970 годзе і зробленая з глазураванага шамоту, паступова разбурылася і была не так даўно знесена.

Да 1982 года адносіцца комплекс скульптур, спалучаных з фантанамі на праспекце Пераможцаў, перад Домам кнігі. Усе яны, паводле матываў фальклорных свят, чатыры поры года. «Зіма. Каляды» Валянціна Занковіча, «Вясна. Гуканне вясны» Аляксандра Шатэрніка, «Лета. Купалле» Леаніда Давідзенкі, «Восень. Свята ўраджаю» Юрыя Палякова. Назвы гавораць самі за сябе — скульптуры нагадваюць пра найбольш шырока распаўсюджаныя фальклорныя абрады, мэта якіх была не столькі забаўляльная, колькі практычная — паспрыяць таму, каб добра жылося, працавалася.

А вось яшчэ адну скульптуру Зільбера, навеяную фальклорнымі матывамі — «Музыкі» — практычна не бачылі, таму і не ведаюць у большасці нават жыхары Мінска. Тое тычыцца і касцёла Святога Роха. Прычына простая. Касцёл і цвінтар-могілкі перад ім цяпер адгароджаныя высокімі дамамі ад праспекта Незалежнасці і вуліцы Казлова. А даўней гэтае месца — Залатая горка — было ўскраінай горада… У 1861 годзе на месцы, дзе, паводле падання, была цудам знойдзена статуя Святога Роха, пабудавалі касцёл. Сама назва «Залатая горка» таксама звязана з паданнямі.

На Залатой горцы каля касцёла можна ўбачыць шэраг скульптур. Сярод іх і работа Л. Зільбера — хлопец з жалейкай і дзяўчына са скрыпачкай — вандроўныя музыкі даўнейшых часоў, выканаўцы народных мелодый. Дарэчы, побач з гэтай скульптурай устаноўлены па-мастацку выкананы флюгер у выглядзе Пегаса, які прывозіць паэтаў на гару Парнас, дзе жывуць бог мастацтваў Апалон і музы — апякункі розных відаў творчасці.

Яшчэ адзін флюгер, звязаны з антычнай міфалогіяй — бог Меркурый — высіцца на стэле каля Нацыянальнага выставачнага цэнтра БелЭкспа ў Мінску. Меркурый у рымскай міфалогіі лічыўся богам гандлю і прыбытку, апекуном мастацтваў і рамёстваў. Знізу скульптура здаецца маленькай, але насамрэч яе вышыня каля двух метраў. На стэле таксама ўмацаваны гадзіннік. Калі прыгледзецца, то можна ўбачыць, як у факел, які трымае Меркурый, нібы ўплецены савецкі сімвал — серп і молат. Не дзіва — цэнтр быў адкрыты яшчэ ў часы панавання камуністычнай ідэалогіі, у 1988 годзе. Толькі вось ідэолагі не ўлічылі таго, што Меркурый быў богам гандлю па рымскай міфалогіі, а па грэчаскай ён насіў імя Гермес і апекаваўся яшчэ і злодзеямі, а таксама праводзіў душы памерлых у падземнае царства. На жаль, аўтара скульптуры пакуль што не ўдалося ўстанавіць.

Нядаўна ў час рамонту будынка цяперашняга МУС на праспекце Незалежнасці, помніка архітэктуры пачатку XX стагоддзя, аднаго з нямногіх будынкаў, якія захаваліся пасля апошняй вайны, выявілі за кладкай на парапеце даху рэшткі скульптуры. Пасля прагляду даўнейшых фотаздымкаў мастацтвазнаўцы высветлілі, што да рэвалюцыі верх дома ўпрыгожвала скульптурная група: жанчына, а каля яе — хлопчык і дзяўчынка. Кампазіцыю вянчаюць сноп і

паходня — сімвалы старажытнагрэчаскай багіні ўрадлівасці і земляробства Дэметры. Скульптар, імя якога засталося невядомым, паказаў Дэметру з сынам Плутасам, які пазней зрабіўся богам багацця, і дачкой Персефонай, якую выкраў бог Аід. Гэты дом, пабудаваны ў 1915 годзе, займала Мінскае земляробчае таварыства, і скульптура над ім якраз і павінна была сімвалізаваць урадлівасць зямлі, багацце, якое яна дорыць людзям. Дом пазбавіўся скульптуры недзе ў 50-я гады XX ст., відаць, пасля рамонту. Рэстаўрыраваць знаходку ўзяліся скульптары Павел Лук і Аляксандр Дранец. Пасля аднаўлення скульптурная група вышынёй два з паловай метры і шырынёй чатыры з паловай зноў аздабляе старадаўні будынак.

Вобразы антычнай міфалогіі натхнялі і натхняюць беларускіх скульптараў. Каля Мінскага музычнага вучылішча ў 1979 годзе ўстаноўлены «Арфей» Валянціна Занковіча. Яшчэ адна скульптурная выява Арфея працы Барыса Маркава стаяла ў скверы на Чыгуначнай вуліцы з 1979 года, але нядаўна была дэманціравана. Цяпер на тым месцы помнік маршалу Георгію Жукаву. Ігар Засімовіч — аўтар скульптурнай кампазіцыі «Выкраданне Еўропы», таксама створанай паводле антычнага міфа. Алег Купрыянаў увасобіў у скульптуры біблейскую Еву. «Натхненне» (1985), скульптурная група перад Гродзенскім абласным драматычным тэатрам, таксама звязана з антычнай міфалогіяй. Крылаты конь Пегас нясе пад крыламі муз тэатра і музыкі. Гэтую работу таксама стварыў скульптар Л. Зільбер.

А зусім нядаўна пасля рэканструкцыі Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета на франтоне будынка, узведзенага яшчэ да вайны па праекце славутага архітэктара Лангбарда, з'явіліся выявы Апалона і чатырох муз — танца, тэатра, харэаграфіі і паэзіі. На адным з эскізаў Лангбарда мастацтвазнаўцы УП «Белрэстаўрацыя» выявілі скульптуры муз у нішах другога яруса. Было вырашана ажыццявіць нязДзейсненую задуму. Дзве музы — работы скульптара Генадзя Буралкіна. У скульптуры жанчыны, якая трымае тры тэатральныя маскі, пазнаецца Мельпамена, муза тэатральнага мастацтва. Другая — Палігімнія — апякунка музыкі, яна трымае ў руцэ ліру. Паводле міфа, менавіта яна прыдумала гэты музычны інструмент. Выявы яшчэ дзвюх муз выкананы Аляксандрам Фінскім: Каліопа — муза эпічнай паэзіі — і Тэрпсіхора — муза танца. Кожная муза вышынёй каля пяці метраў і важыць амаль пяць тон. Гледзячы на Каліопу знізу, нельга разабраць, што напісана на аркушы паперы, які трымае ў руцэ муза паэзіі. А там — крылаты выраз з вершаванага трактата «Аб мастацтве паэзіі» Гарацыя на лацінскай мове: «Mediocribus esse poetis non hominess, non di, non concessere columnae». Вось як ён гучыць у перакладзе: «Паэту пасрэдных радкоў не даруюць ні людзі, ні багі, ні кніжныя крамы».

Над цэнтральным уваходам у тэатр оперы і балета стаіць скульптура Апалона — бога мастацтваў. Пятнаццаць праектаў яго выявы было прадстаўлена на конкурс. Быў там Апалон і ў калясніцы, і на кані, але ўрэшцэ абралі праект скульптараў Генадзя Буралкіна, Аляксандра Фінскага і Міхаіла Шкробата, дзе Апалон дае дзвюм німфам вянкі, што карануюць оперу і балет. Цэнтральныя фігуры ў вышыню пяць метраў. Бронзавы Апалон важыць восем тон. Каб бронза не зелянела і не акіслялася на паветры, усе статуі таніраваны па адмысловай тэхналогіі. Над уваходам у тэатр развінуты дзве стужкі з нотным станам, ноты на іх узнаўляюць фрагменты музыкі да першых оперных і балетных спектакляў беларускіх кампазітараў, пастаўленых у тэатры: оперы «У пушчах Палесся» Анатоля Багатырова і балета «Тыль Уленшпігель» Яўгена Глебава.

## І НЕ ТОЛЬКІ Ў МІНСКУ

Скульптуры, навеяныя міфалогіяй і фальклорам, ёсць не толькі ў Мінску. Яшчэ ў другой палове XIX ст. на парапеце даху палаца Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі было ўстаноўлена шэсць скульптур антычных багоў. У бурныя гады войнаў і рэвалюцый яны былі страчаны. Але з 2006 года яны зноў упрыгожваюць палац. Гэта скульптуры славутага антычнага драматурга Еўрыпіда, багіні прыгажосці Афрадыты, багіні вайны, а таксама апякункі мастацтваў і ведаў Афіны, бога вайны Арэса (у рымскай міфалогіі ён Марс), німфы і бога вінаробства Бахуса. Вышынёй два з паловай метры

і вагой трохі больш за тону скульптуры былі адлітыя з мармуровай крошкі, белага цэменту і кварцавага пяску. Па старых фотаздымках іх аднавіў скульптар Віктар Смоляр. І гэта была не першая яго сустрэча з антычнасцю. Раней ён ужо стварыў скульптуру «Праметэй», якая ўстаноўлена пры ўездзе ў Светлагорск.

А нядаўна ў гомельскім парку Пушкіна была пабудавана альтанка для закаханых. А дзе каханне, там павінен быць і яго сімвал — Купідон, ён жа яшчэ і Амур, Эрот, Эрас, — бог кахання, памочнік багіні закаханых Венеры. Ці не ўсе чатыры ўвасабленні бога якраз і сядзяць на даху альтанкі, так і названай скульптарам Леанідам Яшэнкам — «Купідон».

Пра свае нацыянальныя легенды, звязаныя з мясцовымі назвамі, гавораць устаноўленыя каля зліцця рэк скульптурныя кампазіцыі. Сярод іх «Тры ракі» ў Віцебску на плошчы Свабоды, скульптурная група з фантанам, якая сімвалізуе зліццё Заходняй Дзвіны, Віцьбы і Лучосы. Яе аўтары — скульптар Азат Тарасян і архітэктар Віктар Андаралаў. А яшчэ ёсць «Днепр і Дубравенка» Сяргея Возісава ў Магілёве, «Муха і Вец» Аляксея Паўлючыка ў Пружанах. Яны звязаны з мясцовымі паданнямі, якія тлумачаць назвы рэк і іх прытокаў.

Распачата ўжо і добрая завядзёнка ставіць скульптурныя помнікі заснавальнікам гарадоў. Сярод іх ёсць рэальныя персанажы — князі, магнаты, вандроўнікі, якія шукалі прыдатнае месца, дзе можна было б пасяліцца. Ужо ўстаноўлены помнікі князям: Барысу ў Барысаве, працы Анатоля Арцімовіча і Ігара Марозава; Давыду ў Давыд-Гарадку — Аляксандра Дранца; Усяславу Чарадзею ў Полацку — Аляксандра Прохарава. Усе яны — гістарычныя асобы, але ў той жа час і персанажы старадаўніх летапісаў. Пра старажытнага ўладара полацкай зямлі Усяслава Чарадзея апавядаецца ў «Слове пра паход Ігаравы»: «Всеслав князь людям суд судил, князьям волости делил, а сам волком рыскал в ночи». Тут жа згадаем, што і скульптурная кампазіцыя Уладзіміра Піпіна для горада Оршы названа «Прысвячэнне Усяславу Чарадзею».

У жніўні 2008 года, якраз на 45-годдзе горада, у Светлагорску адбыўся III Рэспубліканскі скульптурны пленэр. Некалькі ўдзельнікаў пленэру, выпускнікоў Акадэміі мастацтваў, абралі фальклорна-міфалагічныя тэмы. Сярод іх работ, высечаных у граніце, «Нараджэнне Афрадыты» Валерыя Калясінскага, «Птушка Сірын» Аляксандра Навасёлава, «Цмок» Валерыя Малахава, «Радавое гняздо» Міхася Місаўца. Прынята рашэнне ўстанавіць усе гэтыя работы ў горадзе.



*«Дзяўчына-хваля».*

Добра, што ўжо робяцца захады, каб узвесці помнік самаму першаму беларускаму літаратурнаму герою — палясоўшчыку Тарасу з вядомай паэмы «Тарас на Парнасе». Дзякуючы пошукам Генадзя Кісялёва мы ўжо ведаем, што напісаў гэтую вясёлую парадыйную паэму ўраджэнец вёскі Астраўляны, што ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці, Канстанцін Вераніцын. Якраз землякі паэта і клапоцяцца ўвекавечыць на яго радзіме памяць пра яго самога і пра героя твора. У Астраўлянах і Гарадку пастаўлены памятныя камяні-валуны, а на помнік Тарасу аб'яўлены збор ахвяраванняў.

Нельга не ўспомніць, што ў 2002 годзе ў Оршы адбыўся пленэр па скульптуры

«Абуджэнне», прысвечаны Уладзіміру Караткевічу. У выніку ў аршанцаў ёсць цяпер скульптуры «Дзікае паляванне караля Стаха» Аляксандра Цімошчанкі, «Маманцяня», «Плачка» і «Камень-следавік» Валерыя Калясінскага, навеяныя творамі Уладзіміра Караткевіча. Уладзімір Конанаў назваў сваю скульптурную кампазіцыю, устаноўленую ў Магілёве, «Песня пра зубра» ў гонар паэмы Міколы Гусоўскага.

Цікава, што шэраг скульптур на тэмы міфалогіі і літаратуры беларускія майстры манументальнага мастацтва стварылі для гарадоў блізкага і далёкага замежжа. Вось некаторыя з іх: Аляксей Ткачук. «Багіня вады». Вільня, Літва; Уладзімір Слабодчыкаў. «Язычніцкі матыў ці адчуванне часу». Фучжоў, Кітай; Аляксандр Батвінёнак. «Афрадыта». Муле, Турцыя; Аляксандр Батвінёнак. Венера. Анкара, Турцыя; Мікалай Байрачны. «Муму». Анфлёр, Францыя.

## СІМВАЛЫ ГАРАДОЎ, МЯСТЭЧАК, ПАСЕЛІШЧАЎ

Але ёсць ужо і помнікі, звязаныя з фальклорнымі паданнямі, якія тлумачаць назву паселішча.

Зусім нядаўна ў Гомелі з’явілася скульптура «Лодачнік» Вячаслава Долгава. У лодцы стаіць чалавек з калчанам і стрэламі, каля яго ног рысь — сімвал Гомеля. Адна з легенд апавядае, што нібыта некалі па Сожы плыў чалавек, і яго лодка села на мель. Каб папярэдзіць тых, хто плыў услед за ім, ён пачаў крычаць: «Го-го! Мель!» У месцы, дзе гэта здарылася, было заснавана паселішча, якое назвалі Гомель. Скульптура пастаўлена ў маляўнічым кутку горада, на Кіеўскім спуску каля берага Сожа.

У цэнтры Светлагорска адкрыты помнік легендарнаму заснавальніку паселішча Шацілкі, якое стала пазней горадам Светлагорскам, Раману Шацілу. Двухметровую выяву стварыў скульптар Эдуард Астаф’еў.

У Гародні непадалёк ад зліцця рэчкі Гараднічанкі з Нёманам у 2008 годзе пастаўлена скульптура «Дзяўчына-хваля». Яе аўтары — скульптар Уладзімір Панцялееў і архітэктар Аляксандр Штэрн — увасобілі ў бронзе дзяўчыну — Гараднічанку, з якой звязана легенда аб паходжанні назвы горада.

На галоўнай вуліцы ў Ашмянах стаіць камень. На ім выразана аблічча чалавека, які нібы намагаецца выкараскацца з валуна. Гэта работа скульптара В. Калясінскага, якая, паводле яго слоў, тлумачыць назву горада. Быццам ішла некалі тутэйшымі мясцінамі надзвычай прыгожая дзяўчына. Мінаючы вялікі камень, яна палашчыла яго, і ён ажыў, стаў прыгожым, дужым і разумным хлопцам Ашмянам.

Легендамі пра нашых старажытных продкаў навеяны дзве скульптурныя групы «Крывічы» Аляксандра Шатэрніка. Адна з іх устаноўлена ў Полацку, другая ўпрыгожвае фантан у мікрараёне Паўднёвы Захад Мінска. Скульптурную групу «Купалле», па-майстэрску выразаную з дрэва, турысты бачаць у дварышчы перад Цэнтрам рамёстваў пры Івянецкім музеі традыцыйнай культуры. Такую самую назву мае скульптура, якая ў 2007 годзе ўстаноўлена перад галоўным уваходам у Віцебскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт. Віцебскай «Купалінкай» асабліва ганарацца студэнты, бо яе аўтар — выпускнік мастацка-графічнага факультэта іх універсітэта Вадзім Мінчукоў.



*Гомельскі «Лодачнік».*



*Нясвіжская «Русалачка».*

Ва ўсім свеце скульптараў асабліва прываблiваюць вобразы русалак. У Беларусі таксама ёсць свае русалачкі. Адна з іх, работы скульптара Л. Гумілеўскага 1990 года, сустракае тых, хто заходзіць у парк каля палаца Радзівілаў у Нясвіжы. Русалка з дрэва — адна з групы казачных персанажаў — стаіць на беразе Васькаўскага вадасховішча непадалёк ад гасцініцы, што належыць РУП «Мінскэнерга» (Мінская вобласць). Па дарозе на Ліду пасярод сажалкі таксама можна бачыць выяву русалкі з гіпсу, размаляваную яркімі фарбамі. Ды і ў Мінску каля Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках, што на вуліцы Карла Маркса, устанавілі гіпсавую фігурку русалкі.

Ужо два гады ў возеры Свіцязь каля санаторыя плешчацца ў хвалях Свіцязянка — тая самая, з мясцовай легенды, якую Адам Міцкевіч уславіў у сваіх баладах. Праўда, Свіцязянка не русалка, але яе вобраз таксама звязаны з легендамі пра дзяўчат, якія сталі своеасаблівымі духамі вады. Аўтар скульптуры Свіцязянкі — Уладзімір Церабун.

## ЛЭНД-АРТ

У пачатку XXI стагоддзя ва ўсім свеце стаў надзвычай папулярны від гарадской скульптуры, які назвалі «лэнд-арт» — манументальная пластыка з элементамі гумару, жарту. Сярод іх нямала помнікаў героям вядомых гумарыстычных і сатырычных літаратурных твораў, кінафільмаў, казак. Аўтар папулярных у Мінску скульптур «лэнд-арта» Уладзімір Жбанаў аддаў належнае і гэтаму віду работ. Для Бабруйска ён зрабіў праект скульптуры персанажа вядомых сатырычных аповесцей Ільі Ільфа і Яўгена Пятрова «Дванаццаць крэслаў» і «Залатое цяля» — Шуры Балаганава. Вядома, што Балаганаў вельмі высока ставіў гэты горад, у ягоным уяўленні Бабруйск лічыўся «цудоўным, высокакультурным месцам».

Была ў Жбанава задума зрабіць для Віцебска скульптуру вясёлага фальклорнага персанажа Несцеркі, які родам, паводле ягоных слоў, «з-пад Вітэбска, дзе жывуць някепска». Але гэтую работу ўзяліся выканаць мясцовыя скульптары. Несцерку ведаюць у Віцебску і як літаратурнага героя з аднайменнай п’есы Віталя Вольскага, ёю абласны драматычны тэатр штогод адкрывае сцэнічны сезон. У Віцебску мяркуюць паставіць помнік яшчэ і галоўнаму персанажу адной з любімых дзіцячых кніг — «Стары Хатабыч» Лазара Лагіна. Лазар Лагін, сапраўднае прозвішча Гінзбург, жыў у Віцебску ў дзяцінстве, з 1903 па 1908 гады. А ў Оршы ўжо ёсць скульптурная група паводле «Старога Хатабыча». У аршанскім парку ёсць яшчэ і Гулівер, які трымае на далоні ліліпута, Ліса і Журавель з байкі Крылова, Кот у ботах, кракадзіл Гена, Чырвоны Каптурок. На жаль, не ўдалося знайсці больш падрабязных матэрыялаў пра аршанскі парк і аўтараў скульптур, якія радуюць дзяцей.

Скульптурная група — героі вясёлай аповесці рускага пісьменніка Аляксея Талстога сустракаюць гледачоў Гомельскага тэатра лялек. Іх стварыў у 2007 годзе скульптар Валерый Кандрацeнка. Па яго волі да тэатра падкацiла шыкоўная Мальвіна. Яе экіпаж паважна даставіў Артэмон. Прысеў каля адной з калон змарнаваны ад шпаркай хады Карабас-Барабас. Чаго ён чакае? На што спадзяецца? Адказ — з другога боку ад уваxода. Там каля калоны гарэзлівы хлопчык у драўляных боціках і кароткіх штоніках дражніць яго. Ён прыставіў руку да свайго доўгага носа, а ў другой трымае запаветны залаты ключык ад тэатра. Кажуць, што тэатр пачынаецца з шатні. У Гомелі ён пачынаецца яшчэ на пло-




*Помнік ваўчыцы ў Ваўкавыску.*
*Скульптар Уладзімір ПАНЦЯЛЕЕЎ.*

шчы — каля помніка героям казкі — акцёрам, якія змагаліся за свае правы і стварылі новы лялечны тэатр. У Гомелі, таксама на беразе Сожа, у зялёнай зоне дзяцей і дарослых радуе сталёвы велікан Гулівер ростам у сем з паловай метраў, побач з якім людзі сапраўды выглядаюць ліліпутамі. Аўтар — вядомы гомельскі скульптар Тамара Дзмітрыева.

***Шкада ўсё ж, што скульптары нячаста звяртаюцца да нацыянальных фальклорных і літаратурных персанажаў. Хай сабе і Балаганаў будзе, і Бураціна, і Гулівер, але ж і ў нас ёсць усім вядомыя персанажы — і вясёлыя героі Купалавых «Паўлінкі» і «Прымакоў», і смелы ваяка Мішка са сваімі слаўнымі таварышамі Жуком і Барадатым з аповесці Міхася Лынькова, і ягоны ж Міколка-паравоз — крэўны брат французскага Гаўроша, і Самсон Самасуй Андрэя Мрыя, і дапытлівыя хлопцы Мірон і Віктар з «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра, і сатырычныя тыпажы баек Кандрата Крапівы — лічыць і не злічыць. А колькі яшчэ выдатных, любімых і агульнавядомых персанажаў у беларускай літаратуры! Чаму б не стварыць скульптурныя кампазіцыі, у якіх можна ўпісаць Коласавых Лабановіча і Ядвісю, Купалавых Паўлінку і Якіма, Мележавых Васіля і Ганну, куляшоўскую Алесю разам з закаханым у яе лірычным героем, — усе яны добра вядомыя па творах, з якімі чытачы знаёмяцца пачынаючы з дзіцячага садка, школы. Сярод праектаў культурнага асваення парку, які прылягае да Нацыянальнай бібліятэкі, якраз і быў такі, што мог увасобіць падобную ідэю. Ужо меркавалася абвясціць конкурс на распрацоўку помнікаў беларускім літаратурным персанажам, якія можна было б потым размясціць на яго алеях. А думкі праектантаў сягалі і далей: а чаму б не далучыць да іх і самых папулярных герояў кніг увогуле з усёй сусветнай літаратуры? Аднак высокі палёт фантазіі пакуль што стрымліваюць матэрыяльныя прычыны — грошы, грошы, грошы… Толькі ж не заўсёды так будзе. І да добрых ідэй час дойдзе, будуць і ў нас увасоблены ў бронзе любімыя героі нашых кніг. Нам вядома, што некаторыя з іх ужо матэрыялізаваліся пад дбайнымі рукамі скульптараў, але пакуль што не ўстаноўлены, знаходзяцца ў майстэрнях. Безумоўна, вычарпальна апавядаць пра ўсе скульптурныя работы, прысвечаныя героям фальклору і літаратуры, немагчыма, некаторыя з іх створаны зусім нядаўна. Калі вы, шаноўныя чытачы, ведаеце пра якія-небудзь помнікі літаратурным і фальклорным героям, пра якія не было расказана ў нашым артыкуле, паведамляйце нам.***

*P.S. Пакуль гэты артыкул пісаўся, у друку з’явілася паведамленне, што да Дня беларускага пісьменства ў гарадскім парку Хойнікаў будзе ўстаноўлена скульптурная кампазіцыя Валерыя Кандрацэнкі, у якой увасоблены воблік Івана Мележа і персанажаў яго «Палескай хронікі» — Ганны Чарнушкі, Васіля Дзятла, яго маці і малодшага брата.*

***Фота аўтара.***








Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН

# ПАЛЁТ ДУШЫ, або САКРЭТЫ ТАНЦАВАЛЬНАГА МАЙСТЭРСТВА

***Ёсць творчыя прафесіі, падрыхтоўка да якіх пачынаецца з дзяцінства, а ўдасканальванне прафесійных навыкаў працягваецца ўсё творчае жыццё. Адна з іх звязана з танцавальным, або харэаграфічным, мастацтвам. Пра тое, як стаць прафесійным танцорам, артыстам балета, дзе можна набыць такую прафесію, і пойдзе гаворка.***

## МОВА ТАНЦА

У шматмоўі свету асаблівае месца займае мова танца. Яна спалучае міміку, жэсты, пластычную выразнасць, рухі, яна не патрабуе перакладаў і зразумелая ўсім. Каб станцаваць, да прыкладу, любімы танец грэкаў «Сіртакі», усяго толькі і патрэбна пакласці рукі на плечы тым, хто стаіць з бакоў, і рухацца ў рытме музыкі.

«Маўклівая» мова танца звяртаецца да нас праз тысячагоддзі. Так, на фрэсках Кноскага палаца з вострава Крыт ужо ёсць выявы прафесійных танцоўшчыкаў. Іх можна ўбачыць і на старажытнагрэчаскіх вазах.

Ва ўсе часы партнёрам танца з’яўляецца музыка. Яны іншым разам спрачаюцца, імкнучыся падпарадкаваць адно аднаго, але нарэшце ўтвараюць парытэтны саюз. Танец заўсёды развіваў сваю мову, рухаўся ўслед за музычнымі адкрыццямі ў саюзе з тэатрам — драмай, а потым і кінамастацтвам, захоўваў і развіваў уласныя выяўленчыя магчымасці.

Класічны танец як увасобленую паэзію і музыку, як своеасаблівую мову харэаграфіі, у якой пануе незалежная самадастатковая пластычная кампазіцыя, адшліфавала і зрабіла дасканалым XIX стагоддзе. За шматвяковую гісторыю фарміравання балет увабраў у сябе элементы шматлікіх народных і бытавых танцаў розных нацыянальнасцей, стаў менавіта тым падмуркам, на якім пачалося фарміраванне і развіццё сучаснай харэаграфічнай мовы.

## АЙЧЫННЫЯ ПРЫТУЛКІ ТЭРПСІХОРЫ

Яркую старонку ў фарміраванні харэаграфічнага мастацтва на Беларусі вызначыла дзейнасць *прыватнаўласніцкіх тэатраў,* што ствараліся ў 2-й пал. XVIII ст. пры дварах магнатаў: Радзівілаў, Сапегаў, Зорычаў, Агінскага, Тызенгаўза, і балетных школ Нясвіжа, Слуцка, Слоніма, Гродна, Шклова. Артыстаў для тэатральных выступленняў набіралі з дзяцей прыгонных сялян і рыхтавалі пераважна італьянскія і французскія балетмайстры. У Слуцкай балетнай школе быў падрыхтаваны і першы беларускі балетмайстар Антон Лойка, які пазней працаваў у Нясвіжскай балетнай школе. Навучэнцамі

Шклоўскай балетнай школы былі і кадэты Шклоўскага корпуса. А ў Гродзенскай музычна-тэатральнай школе навучалі не толькі танцоўшчыкаў, але і спевакоў, і выканаўцаў-інструменталістаў.

Высокі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі нават дазваляў некаторым тэатрам ладзіць гастрольныя выступленні. Па сведчаннях сучаснікаў, слонімскі балет не саступаў Каралеўскаму балету ў Варшаве. Выпускнікі Слонімскай, Гродзенскай і Пастаўскай балетных школ сталі яго салістамі. А 15 лепшых танцоўшчыкаў Шклоўскага тэатра былі вывезены вядомым рускім балетмайстрам Іванам Вальберхам у Санкт-Пецярбург і перададзены ў распараджэнне дырэкцыі імператарскіх тэатраў.



*Мастацкі кіраўнік каледжа Аляксандр Калядэнка.*

Звесткі ж пра балетнае мастацтва Беларусі ў XIX ст. вельмі скупыя. Так, некалькі гадоў у Віцебску існавала трупа польскага балетмайстра і тэатральнага дзеяча Марыса Піёна, у якой працавалі і беларускія артысты. Але кірункі развіцця музычнага тэатра ў гэты час вызначалі шматлікія антрэпрызы — прыватныя камерцыйныя трупы, у рэпертуары якіх пераважалі оперы і аперэты. Таму новы этап у развіцці харэаграфічнага мастацтва і харэаграфічнай адукацыі на Беларусі пачынаецца ў савецкі час.

### ПАЧЫНАЛЬНІКІ

Яшчэ ў 1928 г. пры Мінскім музычным тэхнікуме быў адкрыты *харэаграфічны клас*, на аснове якога пачала працаваць Беларуская студыя оперы і балета, а потым і балетная школа пры тэатры оперы і балета. Амаль праз дзесяць гадоў у Мінскім тэатральным вучылішчы адкрылася *харэаграфічнае аддзяленне*, а ў 1941 г. напярэдадні вайны адбыўся першы выпуск прафесійных танцораў — артыстаў балета. Так складалася перадгісторыя легендарнага Беларускага дзяржаўнага *харэаграфічнага вучылішча*, якое пачало функцыяніраваць з 1945 г.

Мастацкі кіраўнік цяпер ужо Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі **Аляксандр Іванавіч Калядэнка**, які сустрэў вайну ў Мінску ў сямігадовым узросце, у 1944 г., кажа, што трапіў у балетную школу, якая знаходзілася ў будынку Тэатра оперы і балета, выпадкова. Але ж тое, што яго прынялі, стала лёсавызначальным.

— *Клопат савецкага ўрада і дзяржавы пра артыстаў балета і нават вучняў балетнай школы ў тыя цяжкія гады — гэта было прадбачліва. Мы атрымлівалі рабочую прадуктовую картачку! А вучні харэаграфічных вучылішч Масквы і Ленінграда, да прыкладу, — картачку навуковага супрацоўніка, як кандыдаты навук! Мая маці, выкладчыца, зарабляла менш, чым я, вучань харэаграфічнай школы,* — успамінае Аляксандр Іванавіч.

У справе станаўлення харэаграфічнай адукацыі ў Беларусі нельга перабольшыць значнасць ініцыятывы і намаганняў народнай артысткі рэспублікі **Зінаіды Анатольеўны Васільевай** — беларускай і расійскай артысткі балета, якая была не толькі салісткай Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, але адначасова і педагогам арганізаванага ёю харэаграфічнага аддзялення ў тэатральным вучылішчы, потым — першым мастацкім кіраўніком харэаграфічнага вучылішча.

— *Вучаніца знакамітай Агрыпіны Якаўлеўны Ваганавай Зінаіда Васільева пасля заканчэння Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча была салісткай Тэатра оперы і балета імя Кірава, Малога опернага тэатра ў Ленінградзе, Вялікага тэатра ў Маскве. Напярэдадні вайны яна прыехала ў Мінск і адразу ж адчула, зразумела, што будучага нацыянальнага балета без школы, без прафесійных кадраў не можа быць,* — гаворыць Аляксандр Іванавіч.

*Яна была вельмі патрабавальным і строгім педагогам, працягвала лепшыя традыцыі Санкт-Пецярбургскай (ленінградскай) школы. У яе кватэры была зала, дзе яна праглядала і адбірала вучняў,* — *нешта*

*накшталт папярэдняга іспыту. Першы набор склалі таленавітыя дзеці, якіх Зінаіда Васільева прыгледзела ў дзіцячых дамах. І ўжо ў 1940 г. яны бралі ўдзел у Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. Пасля вайны першыя выпускнікі ўжо працавалі ў тэатры.*

А вось Аляксандр Калядэнка вырашыў працягваць прафесійную адукацыю ў Ленінградскім харэаграфічным вучылішчы, дзе трапіў у клас Аляксандра Іванавіча Пушкіна, вучнямі якога ў свой час былі знакамітыя Аскольд Макараў, Юрый Грыгаровіч, Мікіта Далгушын, Рудольф Нурыеў, Міхаіл Барышнікаў. Па ўспамінах, ён быў цярплівым, заўсёды меў ціхія, спакойныя зносіны з вучнямі, вучыў бачыць танец з уласнага пункта гледжання, адказваць за свае думкі і за сваё цела, кіраваць ім, вучыў танцаваць, а не выбудоўваць свой танец. Ён быў спакойным і надзвычай ураўнаважаным педагогам, да таго ж лепшым у СССР па мужчынскім танцы. Ён вучыўся ў Мікалая Легата, пераемніка Марыуса Пеціпа, таму захоўваў лепшыя традыцыі класічнага танца, яго чысціню.

Потым Аляксандр Калядэнка скончыў Інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве як тэатразнаўца. Вярнуўся ў Мінск, працаваў артыстам балета і адначасова займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. У пачатку 1960-х быў прызначаны мастацкім кіраўніком харэаграфічнага вучылішча, якое доўгі час тулілася ў невялікім будынку побач з тэатрам, па вул. Чычэрына, 2. Але нарэшце ў 1992 г. вучылішча атрымала новы адрас: вул. Прытыцкага, 35 (цяпер каля ст. метро «Спартыўная»).

У сучасным будынку размешчаны вялікі вучэбны корпус і інтэрнат на 60 месцаў, вучэбны тэатр, сцэна са спецыяльным балетным пакрыццём, што вельмі важна для танцораў. Таксама 10 балетных залаў розных памераў, абавязковымі атрыбутамі якіх з'яўляюцца люстэркі і раяль, музычныя і агульнаадукацыйныя класы, спецыяльна абсталяваная спартзала. Маюцца вялікая бібліятэка, утульная сталовая на 120 месцаў, нарэшце, медыцынскі блок: ізалятар, фізіятэрапеўтычны і стаматалагічны кабінеты, тут працуюць таксама траўматолаг і масажыст. І самае таямнічае месца, там адбываецца пераўвасабленне вучня ў артыста, — грымёрныя. У адну з іх, што належыць дзяўчатам, я і зазірнула. Па перыметры пакоя размешчаны шэраг індывідуальных месцаў, дакладна азначаных асабістымі рэчамі, якія шмат што могуць расказаць пра іх уладальніц. У цэнтры вісяць касцюмы, а праз бакавыя дзверы можна трапіць у душ.



*Балетны клас. Урок.*

Сапраўдным гонарам каледжа з'яўляецца музей харэаграфічнага мастацтва, які даглядае **Ала Аляксандраўна Пякарская**. Шматлікія фатаграфіі, афішы, дыпломы і іншыя ўзнагароды, памятныя падарункі, балетныя атрыбуты расказваюць пра гісторыю вучылішча, пра яго выкладчыкаў і праслаўленых выпускнікоў, пра гастрольныя паездкі, сустрэчы з артыстамі і вядомымі грамадскімі дзеячамі розных краін.

Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж — адзіная ў рэспубліцы навучальная ўстанова па падрыхтоўцы артыстаў балета. Яго выпускнікі працуюць не толькі ў Нацыянальным акадэмічным вялікім тэатры балета, але і ў іншых харэаграфічных калектывах рэспублікі. Размеркаванне здзяйсняецца таксама ў балетную трупу музычнага тэатра, у Дзяржаўны ансамбль танца, у харэаграфічную трупу хору імя Цітовіча, у ансамбль «Харошкі», у Акадэмічны ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Каледж з'яўляецца метадычнай базай для іншых вучэбных устаноў, для харэаграфічных школ, для школ і гімназій, дзе маюцца харэаграфічныя класы. Штогод тут праводзяцца майстар-класы для маладых харэографаў і выкладчыкаў танца, якія праходзяць курсы павышэння кваліфікацыі. Сюды запрашаюцца і майстры танца з іншых

краін: з Францыі, Германіі, Швейцарыі, якія не толькі праводзяць кансультацыі, перш за ўсё па сучасным танцы, але іншым разам ставяць балетныя спектаклі. На базе Акадэміі рускага балета імя А. Ваганавай і Маскоўскай дзяржаўнай акадэміі харэаграфіі ладзяцца курсы павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў.

## СУЧАСНАСЦЬ І ТРАДЫЦЫІ

Грунтоўную і падрабязную прэзентацыю вучылішча здзейсніла яго дырэктар **Зорыя Пятроўна Дусенка**, якая працуе на гэтай пасадзе каля дзесяці гадоў:



*Дырэктар каледжа Зорыя Дусенка.*

— *Адукацыйная сістэма нашай установы вельмі зладжаная, яна акумулюе і каардынуе праграмы трох цыклаў. Гэта агульнаадукацыйныя прадметы, музычныя і цыкл спецыяльных: класічны, народнасцэнічны танец, гісторыка-бытавы, сучасны, дуэтна-класічны, майстэрства акцёра, урокі гімнастыкі, сцэнічны грым. Працяг такой праграмы — сцэнічная практыка. Сёлета гэта выхад на сцэну вучэбнага тэатра ў двухактовым варыянце балета Л. Мінкуса «Дон Кіхот», з якім нас запрасілі ў Германію. Там у розных гарадах ён быў паказаны 18 разоў! Удзел у спектаклях Нацыянальнага тэатра балета, сцэнічная практыка ў музычным тэатры ці ў Дзяржаўным ансамблі танца. Таксама ўдзел вучняў у міжнародных харэаграфічных форумах, конкурсах, фестывалях, гастрольныя выступленні. Летась — у Кеніі і Паўднёвай Карэі, сёлета — у Польшчы і Германіі. Гэта менавіта тое, што робіць нашых вучняў артыстамі.*

*З канцэртнай праграмай «Малады балет Беларусі» нашы вучні выступалі таксама ў Італіі, Японіі, В'етнаме, Кітаі, на Філіпінах, Тайвані, у Алжыры і ЗША. У традыцыях каледжа святочныя канцэрты для жыхароў горада, для школ і дамоў-інтэрнатаў, гастрольныя выступленні па Беларусі, удзел ва ўрадавых канцэртах і г. д.*

*Ужо пяць гадоў выхаванцы нашага каледжа бяруць удзел у каляднай дабрачыннай акцыі «Дзеці дзецям». Для ветэранаў падрыхтавана спецыяльная канцэртная праграма «Сагрэем далоні, сагрэем сэрцы». Многія навучэнцы займаюцца пастановачнай дзейнасцю. Яны ставяць харэаграфічныя мініяцюры, а потым дэманструюць свае работы ў канцэртах. Магчыма, гэта будучыя балетмайстры!*

Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж наследуе і захоўвае лепшыя традыцыі балетных школ: Санкт-Пецярбургскай і Маскоўскай. Іх пераемнасць у розныя гады забяспечвалі выдатныя артысты балета, выкладчыкі, майстры сваёй справы заслужаная артыстка рэспублікі, некалі выдатная балерына Марыінскага тэатра **Ніна Фёдараўна Младзінская**, народныя артысткі рэспублікі **Аляксандра Васільеўна Нікалаева, Ірына Мікалаеўна Савельева**, вучаніца ваганаўскай школы заслужаная артыстка Латвіі **Вера Мікалаеўна Швяцова**, выпускніцы Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча народная артыстка Беларусі **Ніна Сцяпанаўна Давыдзенка** і заслужаная артыстка Беларусі **Марына Уладзіміраўна Пятрова**. Таксама заслужаная артыстка Расіі, народная артыстка Беларусі **Клара Мікалаеўна Малышава**, якая 14 гадоў была мастацкім кіраўніком харэаграфічнага вучылішча.

## ПАЙСЦІ, КАБ ВЯРНУЦЦА

Выкладчыкамі ў харэаграфічны каледж вяртаюцца і многія яго выпускнікі — **Вольга Лапо, Віктар Саркісьян, Леанід Чахоўскі, Уладзімір Камкоў, Людміла Бржазоўская, Інэса Душкевіч, Уладзімір Давыдаў**. Вядома ж, не кожны артыст балета паспяхова ўпісваецца ў педагагічную дзейнасць, але ж пасля заканчэння каледжа кожнаму з выпускнікоў прысвойваецца і педагагічная кваліфікацыя.

*— Нашы выкладчыкі — энтузіясты, гатовыя працаваць цэлымі суткамі. Ад выкладчыка шмат што залежыць. Ён павінен і прымусіць, але галоўнае — навучыць любіць прыгажосць. Тут патрэбны не толькі веды, але цярплівасць і патрабавальнасць, бо без выцягнутых ног, выпрастаных каленяў, адпрацоўкі пэўных кідкоў у балеце не абысціся. Вучань, зрэшты, павінен адчуць, што танец — гэта прыгожа, зразумець, што праз усе намаганні, пот нараджаюцца танцавальныя рухі, а праз іх — цудоўнае і чароўнае мастацтва,* — гаворыць Аляксандр Іванавіч Калядэнка.

Цяпер з колішніх выдатных балетных танцораў тут працуюць **Сяргей Пясцехін, Аляксандр Фурман, Таццяна Шаметавец**, маладыя артысты **Ганна Гурыновіч, Канстанцін Кузняцоў**, якія сумяшчаюць сцэнічную і педагагічную практыку. Сярод былых навучэнцаў — народны артыст Беларусі **Юрый Траян**, саліст балетнага тэатра Беларусі ў 1968—1988 гг., пастаноўшчык балета «Крылы памяці» У. Кандрусевіча, у 1988—1989 гг. дырэктар харэаграфічнага вучылішча, пасля намеснік дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета, цяпер яго мастацкі кіраўнік.

У свой час выпускніцай вучылішча была і **Юлія Міхайлаўна Чурко**, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, выкладчык і загадчык кафедры харэаграфіі Беларускага універсітэта культуры, потым Беларускай акадэміі музыкі. Гэта вядомы даследчык балетнага мастацтва, аўтар дзесятка кніг па харэаграфіі, сярод якіх манаграфіі пра беларускі балет і беларускі харэаграфічны фальклор, лібрэтыст і сааўтар пастаноўкі балета «Кругаверць» А. Залётнева, стваральнік лібрэта «Мефіста» У. Кандрусевіча, сцэнарыяў дакументальных фільмаў, літаратурна-мастацкіх твораў.

Праца выкладчыкаў харэаграфічнага каледжа арганічна спалучае адукацыйны і выхаваўчы працэсы, скіравана на прафесійную падрыхтоўку ўсебакова развітай асобы. Пра гэта асабліва клапоціцца яго дырэктар. Пытанням узроставай і педагагічнай псіхалогіі прысвечаны навукова-метадычныя распрацоўкі, выступленні на канферэнцыях, публікацыі Зорыі Пятроўны. У цэнтры ўвагі праблемы выхавання адораных дзяцей, дыягностыка творчых здольнасцей асобы, вывучэнне псіхалагічных асноў падрыхтоўкі выпускнікоў харэаграфічнага каледжа.

### ПА ЗАКОНАХ ПРЫГАЖОСЦІ

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце, кандыдат псіхалагічных навук **Кацярына Андрэеўна Архіпава** сцвярджае, што без спецыяльных псіхолага-педагагічных навуковых даследаванняў і распрацовак не абысціся. Гэта назіранні, абагульненні, дыягностыка, на якіх грунтуецца вучэбна-выхаваўчы працэс.

*— Намі распрацавана спецыяльная праграма «Сістэма выхавання этычнай культуры вучняў», якая ў цэлым скіравана на выхаванне па законах прыгажосці. Яна прадугледжвае паступовае метадычнае прышчэпліванне любові да сваёй прафесіі, забяспечвае прафесійнае развіццё, гарманізацыю творчай асобы ў грамадстве.*

Шматлікія навучэнцы ўстановы, калі праходзілі побач, віталіся са мной — з незнаёмай, можна сказаць, выпадковай наведвальніцай. Адчувалася, што тут выхоўваюцца сапраўдныя артысты, творчыя асобы. Выхоўваюцца ў незвычайнай, асаблівай атмасферы. І гэта зразумела, бо тут разам з Тэрпсіхорай утульна размясціліся іншыя музы мастацтваў, якіх ахоўвае вечна юны прамяністы Апалон.

На ўроках фартэпіяна будучыя артысты балета па спецыяльна распрацаванай праграме спасцігаюць музычную грамату, вывучаюць музычную літаратуру. На працягу чатырох гадоў у 5—8 класах яны набываюць навыкі ігры, а потым здаюць выніковы іспыт. Старшыня цыклавой камісіі фартэпіяна **Таццяна Паўлаўна Петухова** зазначыла, што некаторыя вучні паспяхова засвойваюць праграму, адпаведную ўзроўню музычнай школы, хаця спецыфіка безумоўна мае месца. У пацвярджэнне Арцём Ставер, які пад кіраўніцтвам **Алены Аляксандраўны Салдаценкавай** вывучае фартэпіяна толькі другі год, бездакорна выканаў невялікую п'есу. У харэаграфічны каледж ён трапіў пасля прагляду ў школе, бацькі не былі супраць, нават купілі музычны інструмент.

У старэйшых класах вывучаюць гісторыю выяўленчага мастацтва, гісторыю тэатра і балета. У сценах каледжа размешчаны калекцыя малюнкаў нямецкай мастачкі Інгрыд Шаар, выявы балерын, у холах — роспісы французскага мастака П'ера Шарэ, на вокнах вітражныя партрэты знакамітых балетмайстраў і кампазітараў…



*Сцэна з балета «Дон Кіхот».*

ранага дворыка каледжа, бо навучэнцам, якія жывуць у інтэрнаце, гэта проста неабходна.

### ШЛЯХ ДА ВЯРШЫНІ

— *Галоўная задача, якая была пастаўлена перад выкладчыкамі вучылішча ад пачатку яго існавання,* — гаворыць Аляксандр Іванавіч Калядэнка, — *сфарміраваць нацыянальную трупу балета, выпускаць годных артыстаў, якія б маглі танцаваць не толькі ў кардэбалеце, але і выконваць вядучыя сольныя партыі. І вельмі хутка задача была выканана. Сёння наша харэаграфічная школа прызнаная ва ўсім свеце. Да нас прыязджаюць вучыцца з замежжа. А выхаванцы нашага каледжа працуюць у Бразіліі, Германіі, ЗША, Польшчы, Расіі, Францыі, Швецыі, Японіі.*

Вось некалькі прыкладаў. Іван Урбан — прэм’ер Гамбургскай трупы сусветна вядомага балетмайстра Джона Наймаера, Андрэй Леановіч — адзін з вядучых салістаў Каралеўскай оперы ў Стакгольме, Ірына Цымбал — салістка Венскай оперы, Аляксей Авечкін танцуе на сцэне Латвійскай оперы, Ігар Сядзько — у Афінах, Ігар Колб — заслужаны артыст Расіі, вядучы саліст Марыінскага тэатра, Іван Васільеў — знакаміты прэм’ер Маскоўскага Вялікага тэатра, Ірына Лаўронава была салісткай Варшаўскага балета, сёння танцуе ў шведскай Каралеўскай оперы, Таццяна Ерахавец выступае ў Іспаніі, Таццяна Беранава — у ЗША.

Роскві выканальніцкага майстэрства артыстаў балета, прадстаўнікоў айчыннай харэаграфічнай школы і прафесійная сталасць нацыянальнага балетнага тэатра, якую зацвердзілі шматлікія таленавітыя выканаўцы: Ніна Паўлава, Людміла Бржазоўская, Іна Душкевіч, Натэла Дадышкіліяні, Уладзімір Іваноў, Уладзімір Камкоў, Алег Карзянкоў, Віктар Саркісьян, Юрый Траян, Веніямін Захараў, Аляксандр Мінін, Ніна Філіпава, Жанна Лебедзева, Таццяна Шаметавец —

Дарэчы, з П’ерам Шарэ мне давялося асабіста пазнаёміцца ў 1995 г. падчас правядзення Пятага міжнароднага фестывалю «Я люблю балет». Харэаграфічны каледж святкаваў сваё 50-годдзе. На вучэбнай сцэне былі паказаны «Паланез» М. К. Агінскага і «Прывал кавалерыі» І. Армсгеймера, а ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета ладзіўся святочны канцэрт навучэнцаў каледжа. У вучылішчы праводзіліся навукова-практычная канферэнцыя, дыскусіі, абмеркаванні з удзелам вядомых балетных крытыкаў, балетазнаўцаў, журналістаў. Запомнілася і прэзентацыя выставы малюнкаў П’ера Шарэ, які шчыра вітаў усіх прысутных і дарыў некаторым свае работы. Адна з іх цяпер захоўваецца і ў маёй калекцыі...

— *Жыццё ў мастацтве з ранняга дзяцінства ўплывае не толькі на прафесійныя якасці будучага артыста, але і на развіццё асобы. Усе нашы навучэнцы,* — з гонарам гаворыць Зорыя Пятроўна, — *адораныя дзеці. Цудоўна малююць, пішуць вершы, ёсць такія, што добра спяваюць. Яны самадастатковыя, інтэлігентныя, разняволеныя. Ім нічога немагчыма навязаць. Яны самі арганізоўваюць і праводзяць вечары адпачынку, дыскатэкі, ладзяць конкурсы малюнкаў, музычна-паэтычныя вечары, робяць капуснікі, рыхтуюць сустрэчы выпускнікоў, здзяйсняюць паказы ўласных пастановак.*

Апроч клопатаў па бягучым рамонце вучэбнага корпуса Зорыя Пятроўна плануе ў бліжэйшы час уладкаваць тэрыторыю ўнут-

вядома ж, заслуга харэаграфічнага каледжа, які сёлета святкуе сваё 65-годдзе. За гэты час у навучальнай установе падрыхтавана каля дзвюх тысяч артыстаў. З іх 27 сталі заслужанымі і 12 — народнымі. Больш за 20 навучэнцаў з'яўляюцца стыпендыятамі Спецыяльнага прэзідэнцкага фонду Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Сярод значных дасягненняў вучняў каледжа, удзельнікаў шматлікіх міжнародных конкурсаў і фестываляў толькі з 2006 г. — два залатыя, тры сярэбраныя і тры бронзавыя медалі.

## АД ПОТУ ДА ПАЛЁТУ

Бацькі ці іншым разам бабулі і дзядулі першапачаткова ўплываюць на выбар прафесіі сваіх дзяцей-унукаў і прыводзяць іх у навучальную ўстанову. Але бывае і так: 9-10-гадовыя дзеці ўжо добра ведаюць, што будуць танцаваць менавіта ў балеце. Дзевяць гадоў навучання — працяглы адрэзак жыцця, калі адбываецца фізіялагічны і псіхалагічны пераход ад дзяцінства да юнацтва.

— *З навучэнцамі адбываюцца натуральныя фізіялагічныя змены,* — гаворыць Зорыя Пятроўна, — *іншым разам сутнасна мяняецца фігура, прапорцыі цела. У дзіцячым узросце некаторыя перамены немагчыма прадбачыць у перспектыве. Таму на пэўным этапе аказваецца маральная падтрымка, карэкціраванне педагогам самаацэнкі вучня. У такім выпадку вельмі важная псіхалагічная абарона артыста.*

Да таго ж, як сцвярджае Аляксандр Іванавіч Калядэнка, вучань павінен быць мэтанакіраваным, мець вялікую працаздольнасць, ісці на самаабмежаванні, бо фізічныя нагрузкі балетнага артыста прыраўноўваюцца да працы шахцёра! Кожны дзень каля станка ў балетнай зале, штодзённы «клас» па некалькі гадзін. І такі рэжым доўжыцца ўсе 20 гадоў працоўнай дзейнасці танцоўшчыка. Вядома ж, не ўсе вытрымліваюць.

— *Галоўная мэта нашай навучальнай установы — выхаваць зорку. Бывае, дзеці прыходзяць у каледж і амаль што нічога не ведаюць пра прафесію артыста балета. Калектыў педагогаў усіх блокаў, уключаючы і канцэртмайстраў, з дня ў дзень, з месяца ў месяц развівае ці нават выпрацоўвае матывацыю да навучання. І гэта архіважна!* — зазначае Зорыя Пятроўна.

*Творчая асоба развіваецца арганічна, калі яе разумна нагружаць. Перагрузкі могуць падарваць веру ва ўласныя сілы. Гэтую танюткую грань павінен адчуваць педагог у дачыненні да кожнага вучня. Індывідуальны падыход у нашай навучальнай установе прыярытэтны!*

Штогод у каледж залічваюць 10-11-гадовых хлопчыкаў і дзяўчынак пасля 4 класа агульнаадукацыйнай школы, якія прайшлі адборачныя туры ўступных іспытаў. На І туры выяўляецца наяўнасць фізічных дадзеных — прапарцыянальнасць фігуры, крок, скачок, гнуткасць, вываратнасць, каардынацыя. На ІІ туры — наяўнасць музычных і танцавальных здольнасцей. ІІІ тур — медкамісія. Пошук адораных і здольных да навучання дзяцей пачынаецца загадзя.

— *Мы праглядаем каля трох тысяч вучняў штогод. Гэта каля 100 мінскіх школ. Выкладчыкі выязджаюць у іншыя гарады. Мы адкрылі падрыхтоўчыя курсы. Вось ужо чацвёрты год набіраем першакласнікаў. А год таму набралі групу 4-гадовых дзетак, з якімі працуе* ***Юлія Кацельнікава,*** — працягвае размову Зорыя Пятроўна. *Сёння ў каледжы 263 навучэнцы, 28 замежнікаў, гэтым разам з Украіны, Літвы, Расіі, Туркменістана, Кеніі, Японіі, Францыі, якія навучаюцца за ўласны кошт. Сёлета выпускаем 14 артыстаў балета і 11 артыстаў ансамбля народнага танца, і ўсе запатрабаваныя. На некаторых з іх прыходзяць па некалькі запрашэнняў з тэатраў ці танцавальных калектываў.*

Менавіта на прафесійнай сцэне да артыста прыходзіць разуменне, што з асобных рухаў, якія шматкроць паўтараюцца каля станка, з пралітага поту нараджаецца танец і «души исполненный полет». А сцэна робіцца прыцягальнай настолькі, што без гэтых поту і палёту ўжо немагчыма ўявіць сваё жыццё.

— *Найвышэйшая ступень прафесійнага майстэрства артыста балета,* — гаворыць Зорыя Пятроўна, — *атрымліваць задавальненне ад танца, разумець, што цяжкая праца дае магчымасць дарыць людзям свет прыгажосці і гармоніі. Стома адчуваецца, але яна ў радасць. Чым глыбей спасцігаеш сакрэты майстэрства, сакрэты харэаграфічнага мастацтва, мову танца, тым мацней адчуваеш палёт душы, і яна ўзнімаецца пад нябёсы.*

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ПАЯДНАНАСЦЬ ЗЯМНОГА І ВЕЧНАГА

## ПІСАЎ ДЛЯ ІНШЫХ, АЛЕ ПІСАЎ І ДЛЯ СЯБЕ

Прыемна зайсці ў касцёл Успення Дзевы Марыі, які знаходзіцца ў Пінску. І не толькі таму, што тут, як і ў кожным храме, незалежна ад таго, каталік ты ці праваслаўны, апаноўвае цябе дзіўнае адчуванне, якое магчыма толькі тады, калі з'яўляецца мажлівасць адысці ад зямнога тлуму, на нейкі час пазбавіцца штодзённых клопатаў і дробязных памкненняў і паяднацца ў гэты момант з самім Госпадам, зразумеўшы, наколькі мімалётнае тое, у што акунаемся мы дзень за днём, і якое недасягальна высокае і адначасова вабнае, прыцягальнае ўсё, што трапляе пад вызначэнне Вечнасць, а за ёю паўстае сам Бог як адзіны Тварэц Сусвету і Чалавека.

Прыемна зайсці ў гэты касцёл яшчэ і па іншай прычыне. Нямала славутых храмаў на беларускай зямлі, якія вызначаюцца дасканаласцю і вытанчанасцю свайго ўбранства, але нават з самых знакамітых далёка не ўсе могуць пахваліцца сваімі арыгінальнымі маляўнічымі роспісамі. Іх жа тут настолькі шмат, што ажно вочы разбягаюцца, а ўспрыманне знаёмых біблейскіх сюжэтаў ператвараецца ў тое сузіранне прыгожага, за якім — паяднанасць зямнога і вечнага, бо і вечнае таксама пачынаецца на зямлі, калі чалавек, падуладны яго моцнаму і нястомнаму поклічу, стараецца быць лепшым, дабрэйшым, шчадрэйшым.

Асабліва звяртае на сябе ўвагу «Пінская Мадонна». На першы погляд, перад намі звычайная маладая жанчына, якая пасапраўднаму адчула радасць мацярынства. У блакітнай накідцы, поўная замілавання, яна пяшчотна прыціскае да сябе дзіця, якое трымае на руках. Ягоная галоўка прытулілася да матчынай шчакі і абодва — матуля і немаўля — зліліся ў тым парыве еднасці, калі ўжо нішто і ніхто не зможа іх разлучыць. Але, уважліва прыгледзеўшыся да выявы жанчыны, разумееш, што гэта не проста маці, а Мадонна: шырокі і надзіва выразны прамень святла, які падае зверху — здаецца, з самога неба, — высвечвае над галавой яе ледзь прыкметны німб, што і сведчыць аб незямным паходжанні гэтай прадаўжальніцы чалавечага роду.

«Пінскай» згаданую Мадонну назвалі самі пінчукі. Неўзабаве пасля таго, як яна была напісана, а гэта ўжо больш як сто гадоў назад. Сам жа аўтар яе, Альфрэд Ромер, над назвай і не задумваўся. Яму неаднойчы даводзілася распісваць каталіцкія і праваслаўныя храмы, і, узнаўляючы той ці іншы сюжэт, часта рабіў гэта інтуітыўна, асабліва не клапоцячыся пра тое, як вырашыць пэўную кампазіцыю.

Аднак у гэтым праяўлялася не звычайнае рамесніцтва, калі, нараджаючыся лёгка, сюжэты пачынаюць паўтарацца, дасягаючы тым не менш высокай ступені мастакоўскага асэнсавання. За ўсім стаяў вялікі прафесіяналізм, што паядноўваў у сабе талент і тое майстэрства, якое прыйшло з гадамі. А яшчэ паўставала неадольнае жаданне таго ж самага далучэння да вечнасці, дзеля чаго і браўся Альфрэд Эдвардавіч за асэнсаванне біблейскіх сюжэтаў.

Пісаў для іншых, але пісаў і для сябе. У тым сэнсе, што ў гэтым бачыў душэўную патрэбу, і чым больш давала пра сябе знаць старасць, тым часцей з'яўлялася падобнае жаданне. Таму і апошняй яго значнай работай стала вялікая карціна з выявай Хрыста для касцёла ў Камаях, непадалёку ад Каралінава, дзе знаходзіўся маёнтак жонкі Ромера і дзе яму асабліва плённа працавалася.

## ПА ЎЛАСНАЙ ВОЛІ Ў... ВЫГНАННЕ

Тады гэта быў Свянцянскі павет, а сёння — Пастаўскі раён на Віцебшчыне. Да смерці Альфрэду Эдвардавічу заставаліся ўсяго нейкія два-тры месяцы. Аднак пра смерць ён не думаў, бо з гадамі не растраціў жыццялюбства, аптымізму і любіў жыццё — так любіў, як захапляецца ім здатны чалавек, які не проста шмат пражыў, а перажыў, і якога жыццёвыя выпрабаванні не зламалі, а загартавалі, а нягоды і страты не прымусілі расчаравацца ў людзях, бо даўно ўпэўніўся, што добрых сярод іх куды болей, чым благіх, а кожная чарговая здрада абавязкова будзе кампенсавана нейкім набыткам. У прадчуванні, чаканні яго і хацелася жыць далей, каб напоўніцу адчуць задавальненне ад кожнага дня.

Жыццё ж яго не песціла змалку (нарадзіўся 16 красавіка 1832 года ў Вільні), хоць, здавалася, адкуль тым нягодам узяцца. Быў жа прадстаўніком шляхецкага роду, які меў нямецкае паходжанне і карані якога пачыналіся ў XV стагоддзі. Асабліва скардзіцца Ромерам на жыццё не даводзілася, дый яны, трэба сказаць, стараліся жыць так, каб людзям не сорамна было ў вочы глядзець. Аднак імкненне да сумленнасці, незалежнасці ў паводзінах не ўсім падабалася. На гэтай глебе і з уладамі непаразуменні ўзнікалі. А чаго гэта каштуе, калі трапляеш да іх у няміласць, добра ўпэўніўся Альфрэдаў бацька.

Эдвард Ян Ромер быў літаратар, перакладчык, мастак-аматар і ніколі не стаяў у баку ад грамадскага жыцця, а ў час паўстання 1830—1831 гадоў з'яўляўся членам Віленскага паўстанцкага камітэта. Арыштаваны ў 1833-м, быў прыгавораны да пажыццёвай ссылкі ў Волагду. Праўда, праз год атрымаў дазвол вярнуцца ў Вільню.

Але па-ранейшаму не збіраўся адседжвацца ў цішы, працягваў кантакты з тымі, каго, як і яго самога, не задавальняла становішча ў краіне, а таму ў ліпені 1838 года зноў быў арыштаваны, гэтым разам па справе Шымона Канарскага. А што з'яўляўся далёка не радавым супрацоўнікам царскага рэжыму, сведчыць самы суровы прысуд. І ўсё ж, бадай, быў анёл, які пастаянна клапаціўся пра яго. Смяротнае пакаранне замянілі новай ссылкай у Волагду.

Чалавек высокаадукаваны (скончыў Віленскі ўніверсітэт) і захоплены літаратурай, мастацтвам (браў урокі жывапісу ў Яна Рустэма), Эдвард Ян Ромер дбаў аб тым, каб яго сын, які рана праявіў задаткі да малявання, змог атрымаць у гэтым накірунку належную падрыхтоўку. Аднак вырашыў не аддаваць яго ў якую-небудзь навучальную ўстанову, а дома стварыў штосьці накшталт «жывапіснай акадэміі». У якасці выкладчыка выбар спыніў на жывапісцу і педагогу Кануту Русецкаму, якога добра ведаў.

Канут Іванавіч, будучы не толькі высокім прафесіяналам, а і вопытным настаўнікам, шмат даў Альфрэду ў авалодванні творчымі сакрэтамі, спрыяў выхаванню ў яго належнага мастакоўскага густу. І быў задаволены, што ягоны вучань апраўдвае самыя лепшыя спадзяванні, многае схоплівае на ляту.

Толькі і ў самога настаўніка, а тым больш у ягонага вучня, было цяжка на душы ад усведамлення таго, што Эдвард Ян не можа парадавацца поспехам, бо знаходзіцца ў выгнанні. Альфрэду ж станавілася балюча яшчэ і па іншай прычыне: памерла маці, і ён з братам Яўгенам выхоўваўся ў свайго дзядзькі Міхала Юзафа Ромера. Той ставіўся да пляменнікаў з цеплынёй, ды нішто не магло замяніць ім самых блізкіх людзей. Найбольш перажываў Рустэм, як больш эмацыянальны, а значыць і лёгка ранімы. Пачуццё адзіноты для яго нават у дзядзькавым доме было настолькі моцным, што ў 1850 годзе вырашыў развітацца з Вільняй і падацца ў Волагду, каб знаходзіцца поруч з бацькам.

Жыць там давялося два гады: у 1852 годзе тэрмін ссылкі ў Эдварда Яна скончыўся, і ён разам з Альфрэдам вярнуўся на радзіму, дзе, праўда, апынуўся пад наглядам паліцыі. Тэрмін знаходжання ў Волагдзе, безумоўна, быў невялікі, але і гэтага часу хапіла для таго, каб Альфрэд прайшоў там школу грамадзянскага сталення і мужання.

Дагэтуль ён захапляўся стойкасцю, цяпер жа змог упэўніцца, што тых, хто не згодны з існуючымі парадкамі, у краіне шмат. І яны таксама не нейкія там «дзяржаўныя злачынцы», як спрабавалі падаваць іх улады, а сумленныя людзі, якія не аб сабе дбаюць, а пра лепшую будучыню свайго краю.

Альфрэд выканаў партрэты некаторых з іх, зрабіў і шэраг калектыўных замалёвак, але яны згубіліся. Некаторыя падарыў сваім «персанажам», нешта прапала ў час вобыску, а тое нямногае, што ўсё ж удалося пры-

везці ў Вільню, таксама амаль не дайшло да нашых дзён. Аднак напісанае ў Волагдзе нямала паспрыяла ягонаму творчаму станаўленню, выпрацоўцы ўласнага мастакоўскага стылю, а таксама «набіццю рукі» ў жанры партрэта, у якім Ромер пазней стане працаваць шмат.

## ШЛЯХ, ВЫБРАНЫ СВЯДОМА

Па вяртанні на радзіму жыў у Вільні, а потым перабраўся ў маёнтак Крэўна (цяпер Уценскі павет Літвы), дзе не толькі шмат маляваў, а і займаўся па гаспадарцы, атрымліваючы ад гэтага не меншае задавальненне, чым ад творчасці, хоць і яна часам паглынала яго цалкам. Занатоўваў архітэктурныя помнікі даўніны, рабіў замалёўкі мясцовага побыту, адсылаючы пасля графічныя аркушы ў Варшаву, Кракаў і, вядома ж, у Вільню, супрацоўнічаючы з ілюстраванымі часопісамі «Wisla» і «Tygodnik ilustrowany». І не здагадваўся, што пройдзе яшчэ колькі часу, і абодва гэтыя заняткі — праца па гаспадарцы і маляванне — на некаторы час пададуцца не вартымі ўвагі, бо яго захопіць тое ж самае, што перад гэтым прымушала забываць аб уласнай бяспецы бацьку.

Грамадства зноў стала наэлектрызаваным, і ўсё больш з'яўлялася людзей, схільных меркаваць, што толькі са зброяй у руках можна дамагчыся свабоды. Такой думкі прытрымліваўся і Альфрэд Ромер, а той, хто шукае, абавязкова знаходзіць, таму ён хутка апынуўся ў шэрагу тых, хто рыхтаваў паўстанне.

Калі ж яно пачалося, пакінуў свой маёнтак і пайшоў у лес, разам з іншымі пераносячы цяжар паходнага жыцця, дзелячы радасць ад удалых баёў і перажываючы за паражэнні. Апошніх станавілася больш і больш, а гэта з'яўлялася трывожным напамінкам, што трэба змірыцца з думкай аб немінучасці. Ён жа якраз пагадзіцца і не мог. А таму, хоць і меў падобную магчымасць, не збіраўся ўцякаць за мяжу. Меркаваў, што паўстанцам яшчэ ўдасца сабрацца з сіламі, уратаваць сітуацыю.

Пад следствам праходзіў разам з групай курляндскіх шляхціцаў, якіх абвінавачвалі ў прыхільнасці да паўстання. Але падзяляць погляды бунтаўшчыкоў, спачуваць ім не значыць самому ваяваць. Апошняе і ўсяляла ў яго спадзяванне, што пакаранне не будзе асабліва строгім. Гэтага спадзявання пабольшала, калі па ходзе следства ўпэўніўся, што якіх-небудзь неабвержных улік супраць яго няма. Таму, знаходзячыся ў Дынабургскай крэпасці (цяпер горад Даўгаўпілс у Латвіі), не толькі не падаў духам, а і шмат маляваў.

Паступова нарадзіўся свайго роду альбом-дзённік з 43 аркушаў. Магчыма, іх было і больш, але менавіта ў такім выглядзе гэты ўнікальны мастацкі помнік быў перададзены ў 1945 годзе дачкой Альфрэда Эдвардавіча Геленай Ромер-Ахянкоўскай, якая тады жыла ў Вільні, у Нацыянальны музей у Варшаве, дзе ён і захоўваецца па сённяшні дзень. Датуецца ж гэты дзённік 1867 годам.

## «АЛЬБОМ», НАРОДЖАНЫ ЗА КРАТАМІ

Адкрываецца ж альбом застаўкай з выявай анёла, які трымае скрутак, што быццам сімвалізуе сабой напластаванні дзён і месяцаў, праведзеных Ромерам у зняволенні, з якіх і складваецца няпросты жыццяпіс. «Разгортваецца» гэты скрутак, і няспешна ўзнаўляецца тое, што Альфрэд Эдвардавіч перажыў, чаму быў сведкам, што назаўсёды засталося ў ягонай памяці.

Адлюстраваны турэмныя казематы, іх інтэр'еры, але асноўнае месца займаюць партрэты тых, з кім ён дзяліў нявольніцкія будні. Аднак перш чым намаляваць гэтых людзей, праявіў пачуццё гумару (а як без яго, калі дні гэтак падобныя між сабой) і занатаваў выявы дзвюх мышэй, якія старанна грызуць скарынку хлеба, што засталася ад сняданку вязняў, а мо і спецыяльна была пакінута імі для гэтых хвастатых насельнікаў. Ды і як жа інакш, калі подпіс пад малюнкам красамоўна сведчыць аб стаўленні да гэтых істот: «Першыя таварышы».

Дзённік да 1867 года адносіў сам мастак, але пад выявай анёла пазначана канкрэтней: «15 сакавіка 1867 года». Атрымліваецца, што гэты альбом-дзённік ствараўся ім на працягу ўсяго часу, звязанага са зняволеннем, таму і ўвайшлі ў яго малюнкі, выкананыя алоўкам, акварэллю, вугалем, пастэллю ў розныя гады, а завяршаюць яго ўклейкі асобных турэмных дакументаў, а таксама карта Кастрамской губерні і схема астрога,

што знаходзіўся ў Волагдзе, дзе адбываў пакаранне бацька Альфрэда Эдвардавіча. Апроч таго, змешчаны фотаздымкі некаторых ужытковых рэчаў, зробленых з дрэва, абразка Божай Маці, у аўтарстве якіх сумнявацца не даводзіцца, бо на асобных пазначана: «Для бацькі», «Для мамы», «Для дзядзькі». А мамай ён называў сваю цётку, родную сястру маці, якая затым стала другой жонкай ягонага бацькі.

Відаць, знаходзячыся ў астрозе, Ромер карыстаўся не толькі павагай сярод таварышаў, а паважліва ставілася да яго і турэмнае начальства. Інакш наўрад ці адважыліся б некаторыя прадстаўнікі пазіраваць, а так яны ішлі на гэта ахвотна. У альбоме ёсць і партрэт, які падпісаны: «Афіцэр Вяткаўскага палка пяхоты Аляксандр Кудчык». Увасобіў Ромер і воблікі некаторых ахоўнікаў, а таксама звычайных мужыкоў, якія, працуючы пры крэпасці, хоць неяк стараліся паправіць сваё цяжкае матэрыяльнае становішча. Дый сам зняволены, прымаючы пад увагу, што ён адлюстраваў тых, на каго б, здавалася, мусіў крыўдзіцца, не карыкатурна, а праўдзіва, лёгка знаходзіў з імі паразуменне.

Ствараючы свой дзённік менавіта ў такім выглядзе, Альфрэд Эдвардавіч як бы перагортваў старонкі ўласнай выгнанніцкай біяграфіі, адначасова клапоцячыся, каб не прайшло бясследна і нішто з перажытага людзьмі, з якімі звязаў яго лёс. Танальнасць гэтых твораў розная: ад змрочнай, навеянай нярадаснымі думкамі, да такой, што відавочны праблескі святла.

Гэта бачна і па тварах зняволеных, якія адбылі пакаранне («Вызваленыя»). Яны, праўда, не могуць яшчэ цалкам пазбавіцца таго гнятлівага, што на душы, але ўжо відавочна спадзяванне на лепшае. Найперш увагу прыцягвае малады барацьбіт, які вылучаецца сярод сваіх таварышаў тым, што глядзіць прама перад сабой. Ягоны позірк адухоўлены, быццам звернуты і да нас, нашчадкаў. Гэты юнак не шкадуе, што яго напаткаў менавіта такі лёс, бо інакш і быць не магло, паколькі ён свядома стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы і з гэтага шляху ніколі не збочыць, бо турма не зламала яго, а яшчэ больш загартавала, пераканала ў правільнасці выбару.

Як і самога Ромера, які ў рэшце рэшт быў выпушчаны пад залог. Аднак аб спакойным жыцці заставалася толькі марыць. У маёнтку, з якім яго столькі звязвала, жыць далей не мог, а мусіў, паводле загаду ўлад, Крэўна прымусова прадаць. Праўда, гэта палепшыла матэрыяльнае становішча, таму ў 1869 годзе падаўся за мяжу, каб удасканаліць сваё прафесіянальнае майстэрства.

## МЯЖА — ДАСКАНАЛАСЦІ НЕ МЯЖА

Спачатку браў урокі ў Парыжы, а потым пераехаў у Мюнхен, паступіў у Акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся да 1874 года, шмат малюючы з натуры. Спрабаваў свае сілы ў розных жанрах графікі і жывапісу, дасягаючы немалога поспеху. І знаходзячы сваіх прыхільнікаў. Іншы, прымаючы гэта пад увагу, магчыма, і застаўся б у тым жа Мюнхене надалей, ды жыццё на чужыне Альфрэда Эдвардавіча не вабіла. А яшчэ цягнула на радзіму таму, што перад паездкай за мяжу паспеў пазнаёміцца з маладой гаспадыняй маёнтка Каралінава Вандай Суліструўскай, якая захаплялася жывапісам. Гэта, безумоўна, нямала паспрыяла іхняму збліжэнню, а перапісваючыся, абодва пераканаліся, што далей адно без аднаго не могуць жыць.

Ромер ажаніўся з Сулістроўскай і пасяліўся ў Каралінаве, дзе і знаходзіўся да самай сваёй смерці, якая напаткала яго 24 студзеня 1897 года. Вядома, часам адлучаўся з маёнтка, наведваўся ў гарады, дзе засталіся сябры, а з 1884 года па 1893-і жыў у Кракаве, але Каралінава па-ранейшаму цягнула да сябе, бо менавіта там быў яго дом, жылі жонка, родзічы, з'явіліся новыя знаёмыя, якія няхай і не вызначаліся вытанчанасцю эстэтычных густаў, але прываблівалі сваёй шчодрасцю і душэўнай дабрынёй.

Калі хацелася свежых уражанняў, спяшаўся ў Камаі, дзе жылі Вяльбуты. У Сарачанах заўсёды знаходзіў паразуменне ў сям'і Канткоўскіх. Як роднага сустракалі яго Карловічы з Вішнева. У Шымітоўшчыне заўсёды былі рады яму, а таксама ягонай жонцы Скірмунтавыя. Клікалі да сябе Свентаржыцкія з Задзем'я. А ў Камароўшчыне хораша было бавіць вольны час з Беніслаўскімі. Калі ж завітваў у Альшэва, адразу спяшаўся да Хамінскіх.

Гэтыя людзі прыцягвалі яго і як багатыя тыпажы, калі браўся за напісанне сваіх чар-

говых твораў, а ў Каралінаве яму працавалася як ніколі плённа. Рабіў і замалёўкі непасрэдна з вясковага побыту, адлюстроўваючы воблікі тых, каго добра ведаў, але часцей ствараў абагульненыя індывідуальныя ці калектыўныя партрэты, даючы свабоду палёту творчай думкі, пераходзячы да абагульненняў, калі рысы асобных канкрэтных людзей, кладучыся адна на адну, стваралі выявы тыповых прадстаўнікоў вёскі.

## КАРАЛІНАВА І НЕ ТОЛЬКІ...

Гэта не значыць, што Ромер у сваёй творчасці быў прывязаны толькі да Каралінава і навакольных населеных пунктаў. Як нельга і сказаць, што яго цікавіла толькі тое, што дазваляла паказаць вясковае жыццё ў яго, так сказаць, пазітыўным успрыманні. Любячы свой народ, захапляючыся яго жыццястойкасцю, Альфрэд Эдвардавіч не мог не бачыць, што палітыка царскага ўрада накіравана на падаўленне любога праяўлення нацыянальнай адметнасці, а немагчымасць простаму люду вучыцца, тое гаротнае становішча, у якім апынуўся ён, часам прыводзяць да маральнай дэградацыі асобы, да праяўлення ўсяго нізкага, а нярэдка і пачварнага ў сваёй сутнасці, што несумяшчальна з высокімі маральнымі нормамі і крытэрыямі.

Ад усведамлення гэтага станавілася не па сабе, хацелася выкрываць зло ў самых розных яго праяўленнях, не баючыся, што могуць з'явіцца ахвочыя папракнуць, што ён скіроўвае творчасць на тое, пра што, як некаторым падавалася, у тым ліку і ў мастакоўскім асяродку, лепей прамаўчаць.

Таму і нарадзіліся ў яго такія творы, як «Бойка мужыкоў», «Згвалтаванне дзяўчыны». Ярка выражаная сацыяльная скіраванасць іх — сведчанне выразнай грамадзянскай пазіцыі Ромера, ягонага непрымання ўсяго таго, што падаўляе чалавека ў чалавеку, спустошвае яго душу, забірае нават самыя малыя радасці, падараваныя яму жыццём.

Каралінаўскі перыяд у яго творчасці — гэта і работы, што нясуць у сабе і адбітак пэўнай фатаграфічнасці, якая, аднак, праяўлялася не ў тым, што мастак слепа капіраваў натуру, а ў набліжэнні да рэалій, сведкам якіх ён пастаянна быў, ва ўменні стварыць надзіва выразныя замалёўкі вясковага ці местачковага жыцця.

Назвы гэтых работ не прэтэндуюць на нейкую арыгінальнасць (як і ўвогуле ці не ўсё, што пісалася Ромерам, бо для яго галоўным з'яўлялася жаданне быць як мага больш дакладным у спасціжэнні таго, што прываблівала), але зместам сваім гавораць вельмі шмат.

Знаёмішся, напрыклад, з малюнкамі «Стары касцёл у Кабыльніках. Свянцянскі павет», «Сялянская хата», «Сялянскі падворак» і іншымі адпаведнага напаўнення, і быццам убіраеш у сябе тую паэзію паўсядзённасці, якую можна адчуць толькі тады, калі прасякнуцца сапраўдным замілаваннем да «вобразаў мілых роднага краю».

Узяць той жа «Касцёл у Кабыльніках». На першым плане людзі, якія прыйшлі да храма, а сам ён — на другім. Знешне някідкі (дый малюнак ёсць малюнак, нават пры ўсім майстэрстве немагчыма «пераступіць» праз жанр), ён тым не менш прыцягвае да сябе, ствараючы адпаведны настрой.

Гэткая ж простая кампазіцыйная пабудова і малюнка «Сялянскі падворак», але ён таксама «працуе». І адбываецца гэта дзякуючы таму, што на пярэднім плане стаіць хлапчук. Нягледзячы на сваю статычнасць (нібы спецыяльна пазіруе, што і магло быць у сапраўднасці), ён прымушае да роздуму, навейваючы думкі, якія зводзяцца да ўсведамлення нязменнай трываласці вясковага жыцця, сялянскага ўкладу. Хлапчук выступае як бы прадаўжальнікам яго, і менавіта яму працягваць тую спаконвечную працу і справу, што стала звыклай для ягоных бацькоў. А значыць, і вёсцы жыць, пераадольваючы бязвыхаднасць свайго існавання.

У Каралінаве былі створаны і асобныя работы, у якіх Альфрэд Эдвардавіч паўстае чалавекам, здатным на ўсмешку, гумар. Такім быў ён і ў паўсядзённым жыцці. Любіў слухаць цікавыя гісторыі, звязаныя з нечаканымі эпізодамі, і сам любіў расказваць пра тое, як даводзілася трапляць у камічныя сітуацыі. Але ў гумарыстычных творах ішоў не столькі ад таго, што мела месца ў сапраўднасці, а як бы мадэліраваў сітуацыі, перадаючы тое, што магло быць.

Народжанае фантазіяй не надта адыходзіла ад рэальнага, дый творы былі не што іншае, як сяброўскія шаржы. Хіба што

больш сюжэтна разгорнутыя, з алегарычнымі вобразамі, як «Конь брыкаецца на мастака з блакнотам», «На ўлонні прыроды!.. Б. Лапацінскі, А. Ромер», «Кабета запіхвае ў коўш для бруднай бялізны свавольных амураў», «Мастак Антоній Р. ідзе ў Акадэмію ў суправаджэнні сабак і варон». Сузіраючы гэтыя малюнкі, нельга не ўсміхацца, яны нясуць той задор бадзёрасці, без якога жыццё становіцца куды больш аднастайным і сумным.

Ствараючы жывапісныя партрэты сваіх сучаснікаў, Ромер карыстаўся рознай тэхнікай. Яны напісаны алеем, акварэлю, пастэллю. Некаторыя з’явіліся ў Каралінаве, іншыя — падчас жыцця ў Кракаве, а разам узятыя ствараюць цэлую галерэю людзей, якія мастаку былі чымсьці блізкія. Не прамінуў Альфрэд Эдвардавіч увасобіць і сваякоў.

«Партрэт жонкі М. Ромера» — гэта выява маладой жанчыны, пададзеная ў фас. У ёй усё запыняе ўвагу: і высокая прычоска, і надзіва ўважлівыя шэрыя вочы, але асабліва — просты беларускі сарафан, што сведчыць аб цесных сувязях, якія лучаць яе з роднай зямлёй, з простым народам. Яна, спакойная і ўраўнаважаная, ведае сабе цану, аднак не з людзей, гатовых без дай прычыны падкрэсліваць сваю выключнасць, адметнасць. Умелае выкарыстанне колераў, калі спалучаюцца светлыя з блакітнавата-шэрымі тонамі, спрацоўвае на карысць таго, што партрэт набывае лірычную прасветленасць і прывабнасць.

І наколькі кантрасна, у супастаўленні з гэтай работай, успрымаецца «Партрэт паўстанца 1863 года», выкананы ў тэхніцы «сухой іголкі».

## ШТО НІ ЧАЛАВЕК — ХАРАКТАР

Вядомы беларускі мастацтвазнаўца Леанід Дробаў, які некалі і вярнуў імя Ромера з небыцця, упісаўшы яго творчасць у кантэкст гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва, засведчыў, што «гэта — партрэт-біяграфія». Даследчык, праўда, не ўдакладніў, што меў на ўвазе, даючы падобнае азначэнне. Але відавочна і тое, што ўжо немалады беларускі шляхціц, адлюстраваны на партрэце, — вобраз збіральны. Хутчэй за ўсё, яго Ромер пісаў з канкрэтнага чалавека, але перад ягоным позіркам паўставалі і дзясяткі воблікаў тых, з кім некалі знаходзіўся ў турме. Толькі не маладымі яны выглядалі пры гэтым, а састарэлымі.

Альфрэд Эдвардавіч як бы прымерваўся і да самога сябе, спрабаваў глянуць збоку. Аднак не дзеля таго, каб дакладна схапіць пэўныя ўласныя рысы. Ставілася іншая мэта: спасцігуць унутраны стан учарашніх барацьбітоў з царызмам, тое, што вызначала іх калісьці і з чым лепшыя з лепшых не развіталіся на працягу ўсяго жыцця.

Быццам увачавідкі бачыш, наколькі рэзкі паварот галавы паўстанца; сціснутыя вусны — да таго моцна, што, здаецца, яшчэ імгненне — і пачуеш скрыгатанне зубоў... Гэта і сведчыць аб тым, што колішні паўстанец па-ранейшаму застаўся гордым і нават на схіле свайго веку не растраціў пачуцця годнасці, упэўненасці ў той справе, дзеля якой у маладосці добраахвотна перажыў суровыя выпрабаванні. Была б магчымасць, ён і цяпер пайшоў бы бараніць праўду, змагацца за вызваленне сваёй Айчыны ад царскага прыгнёту.

Адметныя пастэльныя і акварэльныя выявы сучаснікаў мастака: «Партрэт Уладзіслава Лушчкевіча», «Партрэт Мейштовіча», «Партрэт Заячкоўскага», «Партрэт жывапісца Швайніцкага», а таксама аўтапартрэты: адзін — таго перыяду, калі яго аўтару было гадоў сорак, другі — больш позняга часу. Мастацтвазнаўца Уладзімір Рынкевіч схільны меркаваць, што «увогуле партрэтныя творы (графічныя. — **А. М.**) А. Ромера, без дэталёвай надакучлівасці, скупымі графічнымі сродкамі ствараюць вобразы, у якіх акумулююцца тыповыя рысы прадстаўніка інтэлігенцыі XIX ст. — інтэлектуала, мысляра, творцы».

Рынкевіч першым уважліва прааналізаваў графіку Ромера, адзначыўшы, што «да 1-й сусветнай вайны захоўвалася больш за 200 малюнкаў і акварэляў, альбомы, шматлікія папкі з замалёўкамі, асобныя графічныя аркушы, выкананыя ў тэхніцы літаграфіі, афорта, дрэварыта. У Кракаве была арганізавана прыжыццёвая выстаўка графічных прац мастака», але «да сёння дайшла толькі невялікая частка яго графікі (у асноўным зберагаецца ў нацыянальных музеях у Варшаве і Кракаве)».

## ВАРТЫ ЎДЗЯЧНАЙ ПАМЯЦІ

Гэтым талент Альфрэда Эдвардавіча не абмяжоўваўся. Народжаны, узгадаваны сярод віленскіх муроў і на віленскім бруку, ён шчодра расквітнеў, калі мастак апынуўся на ўлонні беларускай прыроды. У Каралінаве Ромер па-сапраўднаму зацікавіўся народна-прыкладным мастацтвам і актыўна пачаў даследаваць ягоную гісторыю. Нават падрыхтаваў навуковую публікацыю аб знакамітых слуцкіх паясах, якая па сённяшні дзень уяўляе сабой цікавасць.

Звярнуўшы ўвагу на вырабы беларускіх сталяроў і ганчароў, і сам захацеў паспрабаваць свае творчыя сілы ў гэтым накірунку. І не беспаспяхова.

Размалёўваючы посуд, дабіваўся арыгінальнасці і непаўторнасці малюнка.

Распрацоўваючы праекты мэблі, хутка знайшоў сваіх заказчыкаў, якія ведалі сапраўдную цану таму, што робіцца ў адзінкавых асобніках.

А вазкі, сані атрымліваліся настолькі прыгожымі, зграбнымі, што ніхто ў наваколлі не мог зрабіць такіх.

Прывабілі Альфрэда Эдвардавіча і старадрукі, а таму, калі бачыў іх у некаторых памешчыкаў, упрошваў гаспадароў прадаць. Ды не сабе пакідаў, а перасылаў набытае ў музеі Львова, Кракава. Гэтаксама рабіў і тады, калі ўдавалася штосьці прыдбаць з твораў народнага мастацтва.

А пра Ромера ў культурных цэнтрах добра ведалі і памяталі, таму ахвотна прымалі ў розныя грамадскія таварыствы. Дый сам Альфрэд Эдвардавіч ніколі не адчуваў сябе правінцыялам. Няхай і ненадоўга, за выключэннем пражывання ў Кракаве, адлучаўся з Каралінава, аднак у творчым асяроддзі паводзіў сябе ўпэўнена, пры гэтым праяўляў кіпучую дзейнасць. Быў стваральнікам клубаў жывапісцаў і скульптараў, з'яўляўся членам дырэкцыі мастацтва Нацыянальнага музея ў Кракаве, уваходзіў у склад журы конкурсу, аб'яўленага на распрацоўку помніка Адаму Міцкевічу.

І з усё большым жаданнем, што пераходзіла ў апантанасць, распісваў касцёлы і храмы. Нібыта прадчуваў, што многае са зробленага ім бясследна знікне, а гэтае харaство, паяднанае з вечнасцю, застанецца. Дый, бадай, і спадзяваўся: быць таго не можа, каб пра яго не ўспомнілі.



# ТРОЙЧЫ ГЕОРГІЕЎСКІ КАВАЛЕР

Можна толькі здагадвацца, колькі яшчэ імёнаў ураджэнцаў Беларусі знойдзецца па-за старонкамі «Беларускай Энцыклапедыі» ці «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Вось і расійскі і савецкі военачальнік Мікалай Сямёнавіч Трыкоўскі, які 6 снежня 1864 года нарадзіўся ў Мінскай губерні, — па-за межамі гістарычнай і краязнаўчай зацікаўленасці ў Беларусі.


*Мікалай Сямёнавіч Трыкоўскі*

Першую адукацыю Мікалай Трыкоўскі атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі (4 класы). Вядома, што маці яго, Надзея Трыкоўская, была прасфірніцай Сіняўскай царквы Слуцкага павета. Цяпер Сіняўка — вёска ў Клецкім раёне, радзіма вядомага расійскага краязнаўца Сяргея Сергеля. Наступная прыступка ў адукацыі — ужо вайсковая: Мікалай заканчвае Рыжскае пяхотнае юнкерскае вучылішча. Першае месца афіцэрскай службы — 117-ы пяхотны Яраслаўскі полк. 1 верасня 1884 года Мікалаю Трыкоўскаму прысвойваюць званне падпаручык. Дарэчы, наступную зорачку наш зямляк атрымаў толькі праз шэсць гадоў. Паручыкам Трыкоўскі стаў 1 верасня 1890 года. У 1898 годзе афіцэра пераводзяць на службу ў Віленскае пяхотнае юнкерскае вучылішча. Спярша — малодшы афіцэр. У сакавіку 1899 — новае званне. А праз некаторы час штабс-капітан становіцца ад’ютантам, затым — справаводцам вучылішча. Болей як 4 гады камандуе юнкерскай ротай. І яшчэ тры гады — батальёнам. У маі 1900 года Мікалаю Сямёнавічу прысвойваюць званне капітана.

Калі забегчы крыху наперад, то можна заўважыць, што ў грамадзянскую вайну ў 21-23 гады Валерый Прымакоў камандуе дывізіяй, корпусам. Васіль Блюхер камандуе дывізіяй у 29 гадоў. Альберт Лапін — у 20. Вальдэмар Розе камандуе дывізіяй у 22 гады. Мікалай Тухачэўскі ўзначальвае армію ў 25 гадоў, а камандуючым фронтам становіцца ў 27...

З сапраўднымі баявымі дзеяннямі капітан Мікалай Трыкоўскі сутыкнуўся з пачаткам руска-японскай вайны 1904—1905 гадоў. Ваяваць пачаў у складзе 4-га Усходне-Сібірскага стралковага палка. У 1905 годзе ўжо падпалкоўніка Трыкоўскага адзначылі Залатой зброяй і ордэнам Святога Георгія 4-й ступені.

Настрой у расійскай арміі пасля вайны з Японіяй быў, як вядома, не з лепшых. І кар’ера баявога падпалкоўніка ізноўку як быццам спынілася. З 1905 па 1909 год — усё на адной пасадзе камандзіра асобнага батальёна. Праўда, у 1907 Мікалаю Сямёнавічу прысвоілі званне палкоўніка.



*Першая Сусветная... Галоўныя баі — яшчэ наперадзе.*
Паштоўка з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава.

торы шлях вядомага генерала.

Разам з 104-м Усцюжскім у складзе 26-й пяхотнай дывізіі і ўступіў палкоўнік Трыкоўскі ў Першую Сусветную. У жніўні-верасні 1914 года ўдзельнічае ў паходзе ва Усходнюю Прусію. У хуткім часе Мікалаю Сямёнавічу прысвойваюць званне генерал-маёра. З 9 лютага 1915 ён камандуе брыгадай 3-й Сібірскай стралковай дывізіі. У баі 14 лютага 1915 года, камандуючы правым баявым участкам, пад моцным агнём праціўніка заняў вышыню. Гэта істотна аблегчыла становішча Гродзенскай крэпасці і ўсёй арміі. Агульная даўжыня абарончых збудаванняў складала 14 км. Праўда, ніводзін з фортаў, новае будаўніцтва якіх пачалося ў кастрычніку 1912 года, не быў даведзены да ладу. Усе планы па заканчэнні работ меркавалі завершыць у 1917 годзе. Збіраліся выдзеліць пад гэта 16 млн. рублёў — суму па тым часе неверагодную. Ды ўжо ў верасні 1915 года ў Гродне і крэпасці гаспадарылі немцы.

Яшчэ ў красавіку 1915 Мікалай Сямёнавіч быў узнагароджаны ордэнам

Толькі 16 сакавіка 1909 года 44-гадовага афіцэра прызначаюць камандзірам 104-га пяхотнага Усцюжскага генерала князя Багратыёна палка. Вайсковая часць мела легендарную гісторыю. Полк быў створаны 13 жніўня 1863 года на базе Вялікалуцкага пяхотнага палка, які ў сваю чаргу адлік сваёй гісторыі вёў ад 1797 года. За ўдзел у ваеннай кампаніі часць узнагародзілі Палкавым Георгіеўскім Сцягам «За адзнаку ў Турэцкую вайну 1877—1878 гг.». Сярод камандзіраў Усцюжскага палка ў розныя гады былі генерал-маёр Георгій Фёдаравіч Эйхе, генерал-лейтэнант Аляксандр Якаўлевіч Ельшын, генерал ад інфантэрыі Аляксандр Прохаравіч Шаўцоў. Дарэчы, з апошнімі наш зямляк ледзьве не сутыкнуўся па службе ў Віленскім вучылішчы, якім Шаўцоў камандаваў да 1897 года. А ў Вільню Трыкоўскі патрапіў у жніўні 1898 года. «Парадкі Шаўцова», яго патрабавальнасць былі яшчэ ў памяці ўсяго воінскага калектыву. Не ведаў тады Мікалай, што давядзецца паўтарыць нека-



*Першая Сусветная... На перадавой.*
Паштоўка з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава.

Святога Георгія 3-й ступені. Адзнака — яшчэ за камандаванне 104-м пяхотным Усцюжскім палком на самым пачатку вайны. У кастрычніку 1915 года генерала Трыкоўскага прызначаюць камандуючым 3-й Сібірскай стралковай дывізіяй. І ў гэтай пасадзе наш зямляк знаходзіўся да красавіка 1917 года. 4 красавіка Мікалаю Сямёнавічу прысвоілі званне генерал-лейтэнанта. А 6 красавіка ён прызначаецца камандзірам 2-га Сібірскага армейскага корпуса.



*Артылерыйскія пазіцыі каля Гродна.*
Паштоўка з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава.

Новыя падзеі набіралі разгон. І нават генералу з усім яго палітычным, дзяржаўным кругаглядам цяжка было ва ўсім разабрацца. І ўсё ж трэба было прыняць рашэнне. Мікалай Сямёнавіч добраахвотна пераходзіць на службу ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію. Пра гэты яго крок адзін з паплечнікаў — камандзір 3-га асобнага Сібірскага корпуса генерал-маёр Малчанаў — заўважыў наступнае: «Гэты стары ваяка верыў, што Расія адужаецца, армія адновіцца і працы будзе шмат для кожнага, хто любіць Радзіму».

У лютым-сакавіку 1918 года «ваенспец» Мікалай Трыкоўскі — ваенны кіраўнік Стара-Рускага атрада. Пазней наш зямляк пачынае выкладаць на курсах чырвоных камандзіраў «Выстрал», становіцца рэдактарам спецыялізаванага часопіса «Выстрел».

Памёр военачальнік у 1926 годзе. Пахаваны ў Маскве. На Новадзявочых могілках і зараз ёсць яго магіла — першы ўчастак, дзявяты рад, нумар дзесяць. Сляды не губляюцца.

***Мікола БЕРЛЕЖ***



# ТАК ВУЧЫЛА СВЯТЛАНА

**Сёлета 26 жніўня пісьменніцы Святлане КЛІМКОВІЧ споўнілася б 75 гадоў**

Ёсць пісьменнікі, якія абстаўляюць сваю творчасць, як свяшчэннадзейства. Калі яны садзяцца за пісьмовы стол, іх сямейнікі ходзяць на дыбачках і размаўляюць шэптам. Святлана ж звычайна пісала паўлежачы на канапе, прыкрыўшы ногі футрам. За пісьмовым сталом я бачыў яе толькі ў рэдакцыях, дзе яна працавала: у «Голасе Радзімы», «ЛіМе», «Тэатральным Мінску», на тэлебачанні, у «Пачатковай школе».



*Святлана Клімковіч падчас працы ў газеце «Голас Радзімы».*

Святлана пісала вершы для дзяцей, казкі, п'есы для лялечных тэатраў, тэлевізійныя сцэнарыі, оперныя лібрэта. Але рабіла гэта не так, як большасць пісьменнікаў. Яна ніколі не імкнулася паўтарыць ранейшы поспех, не стварала «клоны» сваіх твораў. Калі атрымлівалася казка, то следам за ёй пісалася зусім іншая па сюжэце п'еса.

Святлана ніколі спецыяльна не вучыла мяне чаму-небудзь у жыцці ці творчасці, але я шмат чаму навучыўся ад яе. Проста жыццёвы прыклад, прамоўленая фраза, што западзе ў памяць. У пэўным сэнсе я нават абавязаны ёй сваім жыццём.

* * *

Калі наспеў час і маю маці завезлі ў радзільны дом, то я ніяк не мог нарадзіцца. Маё сэрца ўжо ледзь-ледзь праслухоўвалася, і медыкі паклікалі да сябе бацьку. Яны гарантавалі, што змогуць уратаваць жыццё маці, але ж тады дзіцёнка, то бок мяне, не будзе. Калі ж рабіць кесарава сячэнне, то, магчыма, не ўратуюць і маці. На роздум далі дзесяць хвілін. Бацька ў роспачы сеў на ганку радзільні. Цяжкі выбар. Мая цётка Святлана літаральна ўзяла яго за руку і не расціскала пальцаў, пакуль ён не падпісаў дазвол на аперацыю. Так нарадзіўся я, і гэта быў першы жыццёвы ўрок, атрыманы мной ад Святланы.

Першая казка, якую напісала Святлана Клімковіч — «Лалі-Лаль». Яна пра каханне дзяўчынкі да таямнічага хлопчыка, які падчас шторму з'яўляецца на беразе мора і згарае на скале, каб сваім святлом уратаваць маракоў. Добрая рамантычная казка, чытаючы якую, адразу ж прыгадваеш герояў Сент-Экзюперы, Януша Корчака, нашага земляка Аляксандра Грына.

Святлана вельмі любіла мора, вандроўкі. Проста ляжаць на пляжы — гэта было не для яе. Яна брала нас, дзяцей, і мы прабіраліся некалькі кіламетраў кактэбельскім узбярэжжам. Караскаліся па скалах, скакалі з каменя на камень, каб апынуцца нарэшце ў амаль пустэльнай затоцы, дзе вада такая празрыстая, што паўсюль праглядаецца дно. А ўвечары выпраўляліся ў горы, штодня новым маршрутам. І ўсё гэта пад размовы пра літаратуру і гісторыю, пра жыццё. Пад канец адпачынку Святлана паспявала скінуць лішнія кілаграмы і ў апошні вечар нязменна надзявала сукню, якую насіла, калі ёй было васямнаццаць гадоў. Вось тады мы ішлі на праменад.

Тады Святлана працавала на тэлебачанні ў рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм. Гэта ад яе я пачуў: «Выглядаць і паводзіць

сябе трэба так, каб цябе ў любы момант можна было паказаць па тэлевізары».

Неяк нам у школе задалі напісаць сачыненне на тэму «Канфлікт пакаленняў у дарэвалюцыйны час і ў цяперашні». Вядома ж, мелася на ўвазе, што сачыненне па рускай літаратуры будзе грунтавацца на рамане «Бацькі і дзеці». Калі Святлана даведалася, над чым я ламлю галаву, то падказала: «Канфлікту пакаленняў не існуе. Ёсць толькі канфлікт паміж разумнымі людзьмі і дурнямі. І не мае розніцы, колькі каму гадоў, у які час людзі жывуць». Калі ж наша «русіца» за сачыненне, напісанае па такім рэцэпце, паставіла мне «двойку», я канчаткова пераканаўся ў яго слушнасці.

Беларускія оперы можна пералічыць па пальцах. І толькі адна з іх на сённяшні дзень ідзе на сцэне — «Дзікае паляванне караля Стаха». Музыку напісаў Уладзімір Солтан, а лібрэта паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча — Святлана. Цётка ўвогуле абагаўляла оперу. Яна ў 80-я гады, калі працавала ў Доме акцёра, нават арганізавала там «Клуб аматараў оперы». Практычна тады ў яго рамках і пачалі адбывацца ў Мінску першыя оперныя канцэрты.

Менавіта Святлана навучыла мяне падзяляць знаёмых на тых, каго можна сустрэць у оперы, і на тых, каго там ніколі не ўбачыш. Гэта не азначае, што першыя лепшыя, а другія — горшыя. Гітлер, напрыклад, любіў слухаць Вагнера, ды сустрэцца з ім мне не хацелася б. Але, скажам, падзяляем жа мы знаёмых на тых, хто п’е, і на тых, хто не п’е, і бачым у гэтым канкрэтны сэнс.

Першы раз я пакаштаваў віно пасля заканчэння пятага класа, на вакацыях. І спрычынілася да гэтага Святлана. У Кактэбелі ўвечары дарослыя сабралі на стол. Цэнтральным аб’ектам сервіроўкі, вядома ж, быў трохлітровы слоік белага сухога віна. Ну, а мы, дзеці, нават пад’еўшы, круціліся побач, як нас ні ўшчувалі. Цікава ж паслухаць размовы старэйшых. Святлана вырашыла праблему радыкальна. Яна плесканула кожнаму з нас у шклянкі на два пальцы віна і папярэдзіла, што мы вольныя выпіць яго адразу або расцягнуць на цэлы вечар. Рашэнне за намі. Адна ўмова — не падыходзіць да стала, пакуль не паклічуць. Зрэшты, нічога страшнага, калі палічыць, то «тратылавы эквівалент» пяцідзесяці грамаў маладога віна адпавядае літру квасу. Я і мае сёстры, стараючыся адно перад адным, расцягнулі пачастунак на колькі гадзін. Ужо значна пазней, гадоў праз дваццаць, калі сядзелі са Святланай за адным сталом, яна даводзіла мне, што большасць мужчын не ўмеюць піць: «Яны куляюць чарку адразу. А моцнае спіртное трэба піць дробнымі глыточкамі, каб пастаянна кантраляваць свой стан. Наколькі працверазееў, столькі ж і выпіў. Так увесь вечар можна падтрымліваць баланс і не сп’янець». Дагэтуль з мяне дзівяцца ў кампаніях, калі я пакрысе смакую гарэлку, а не п’ю яе нагбом.

Святлана сябравала, літаральна сябравала, са знакамітым у савецкія часы бардам Юрыем Кукіным. Калі аўтар «...а я еду за туманом...» прыязджаў у Мінск, то звычайна спыняўся ў нас. Памятаю брызентавы чахол яго гітары. Зверху красаваліся, стракацелі старанна вышытыя жаночыя імёны. Так прыхільніцы пакідалі Кукіну згадку пра сябе. На адваротным баку чахла было няроўна вышыта, мяркую, рукой самога барда: «Все бабы дуры». Дакладна ведаю, Святлана ані крыжыкам, ані гладдзю ніколі не вышывала.

Мы стаялі з маёй стрыечнай сястрой Алесяй у рытуальнай зале, прыехалі забраць цела Святланы дахаты. І тут каля труны ўзнік хударлявы, патрапаны жыццём мужчына са скрыпкай. Маўляў, ён гатовы сыграць штонебудзь шчымлівае, за грошы, вядома. Як па мне, то музыка дарэчы адно на пахаванні вайскоўцаў. Калі ж скрыпач даведаўся, хто нябожчыца, што яе ўлюбёны кампазітар Вердзі, то вызваўся сыграць у памяць памерлай без аніякай узнагароды. Сказаў, што сам некалі граў у сімфанічным аркестры. Пранізліва-шчымлівыя гукі скрыпкі луналі ў моргу, біліся паміж сценамі, абкладзенымі белай медыцынскай пліткай...

Познім жнівеньскім вечарам я стаяў на Вайсковых могілках і, як бывае ў такія моманты, у думках звяртаўся да нябожчыкаў. Сябра, з якім мы па дарозе з гасцей завіталі сюды, моўчкі паліў у мяне за спінай. Над старымі дрэвамі ў начным сталічным небе ледзь праглядаліся зоры. Па Даўгабродскай вуліцы прагрукацеў трамвай. Я на імгненне адвёў позірк, а калі зноў паглядзеў на магілу, то на агароджы, за якой пахаваныя мой дзед, бабуля і цётка Святлана, палымнелі тры невялікія агеньчыкі, як ад свечак. Яны былі такія ж рэальныя, як і ўсё навокал, пераліваліся, мігцелі, але ж бачыў іх толькі я. Сябра, калі зразумеў, што адбываецца, ціха прамовіў:

— Добра, што *ты* іх бачыш.

Ужо ад могілкавай брамы, перад самай вуліцай я азірнуўся. За помнікамі, за камлямі дрэў усё яшчэ мігцелі тыя самыя агеньчыкі.

***Максім КЛІМКОВІЧ***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## КРУПСКІ РАЁН

**Вёска Купленка** Ухвальскага сельсавета

**Макарэвіча Васіля** (н. 15.7.1939), паэта, празаіка, крытыка, журналіста, радзіма. Бацька, калгаснік-лесаруб, загінуў у 1941 г. на вайне. Закончыў Ухвальскую СШ, аддзяленне журналістыкі БДУ. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё. Друкуецца з 1956 г. Аўтар зборнікаў вершаў і паэм «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Везувій» (1993), «Квадратура круга» (2000), «Пяро і бліскавіца» (2001), «Даміно» (2005) і інш., кніг нарысаў «Палын і медуніца» (1976, напісана на матэрыяле роднай вёскі), «Зямное сузор'е» (1980), «Старт у будучыню» (1982), вершаванай казкі «Лясныя вандраванні» (1967). Лаўрэат прэміі імя Аркадзя Куляшова за кнігу паэзіі «Везувій» (1994).

**Вёска Майск (Майскае)** Крупскага сельсавета (цэнтр у в. Худаўцы)

**Барадача Аляксандра** (н. 10.5.1946), рускага паэта, радзіма. Член Саюза рускіх пісьменнікаў (2002). Бацька вярнуўся з фронту цяжкапараненым і неўзабаве памёр. Нягледзячы на цяжкае, напаўгалоднае дзяцінства, у 1963 г. скончыў Крупскую сярэднюю школу. Працаваў слесарам на аўтабазе, у райкаме камсамола. Завочна закончыў Харкаўскі юрыдычны інстытут. Працаваў у пракуратурах Лагойскага, Уздзенскага і Слуцкага раёнаў, старшынёй Смалявіцкага народнага суда, у Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дырэктарам Дзяржаўнага фонду службы садзейнічання занятасці. Паэзію любіў з дзяцінства, але пісаць пачаў позна, толькі пайшоўшы ў 1999 г. у адстаўку. Аўтар зборнікаў «Вершы» (2001), «Меланхолія» (2002), «Відушчасць».

**Вёска Мачулішчы** Халопеніцкага сельсавета

**Зуёнка Васіля** (н. 3.6.1935), паэта, перакладчыка, радзіма. Скончыў БДУ (1959). У 1966—1972 гг. намеснік, у 1978—1982 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Бярозка», у 1982—1989 гг. — сакратар, у 1990—1998 гг. — старшыня СП Беларусі. Друкуецца з 1952 г. Выдаў зборнікі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973, прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, 1974), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980, Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы, 1982), «Час вяртання» (1981), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам'е» (1984), «Жніўны дзень» (1985), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992), «Пісьмы з гэтага свету» (1995) і інш. Аўтар кніг гумару «Качан на п'едэстале» (1973), нарысаў, літаратурна-крытычных артыкулаў. Піша для дзяцей (зборнікі вершаў «Вясёлы калаўрот», 1965; «Жылі-былі пад вадой», 1969; «Сонечны клубочак», 1972; «Будзем сілы набірацца», 1974 і інш.). У 1996—1998 гг. выйшлі ў свет выбраныя творы ў 2 тамах.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7 за 2010 г.

**Вёска Новыя Шчаўры** Хацюхоўскага сельсавета

Месца прабывання **Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта.** Побач былі Старыя Шчаўры — ад іх засталося толькі панскае гумно.

**Вёска Селішча**, не існуе. Выселена да вайны, бо побач быў артпалігон.

Тут у дзяцінстве жыў пісьменнік **Калачынскі Міхась,** ураджэнец г. п. *Крупкі* гэтага ж р-на. Пра гэтыя мясціны ёсць яго вершы «Селішча», «Змітраўскі лес», «На Еленцы».

**Гарадскі пасёлак Халопенічы**, цэнтр пассавета

Вуліцы **Горкага Максіма, Лермантава Міхаіла, Астроўскага Мікалая**.

**Багдановіча Адама** (20.3.1862—16.4.1940, г. Яраслаўль), этнографа, фальклярыста, бацькі паэта **Багдановіча Максіма**, радзіма. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1882). З 1885 г. загадчык гарадскога пачатковага вучылішча ў Мінску. Удзельнічаў у рэвалюцыйным руху, адзін з кіраўнікоў мінскіх нарадавольцаў. З 1892 г. працаваў у сялянскім зямельным банку ў Гродне. Выдаў гістарычны нарыс «Пра паншчыну» (1894), этнаграфічную працу «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895). Зрабіў шмат запісаў беларускага фальклору, частка іх надрукавана ў працы П. В. Шэйна. У 1896 г. пераехаў у Ніжні Ноўгарад (быў у сваяцкіх і сяброўскіх адносінах з Максімам Горкім), у 1907 г. — у Яраслаўль. Асноўная праца А. Багдановіча — «Мова зямлі. Утварэнне водарачных імёнаў і што ад іх паходзяць» (т. 1-2). У 1930-я гады напісаў «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх» («Этнічны склад беларускага народа», засталіся ў рукапісах), «Мова зямлі. Насельніцтва Верхняга Паволжа, Акі і Камы» (апубл. 1966). Аўтар прац «Рэвалюцыйны рух у г. Мінску і губерні ў 80-х і пачатку 90-х гг.», «Да гісторыі партыі «Народнай волі» ў Мінску і Беларусі, 1880—1892 гг.», успамінаў пра Горкага М., Шаляпіна Ф., сына Максіма, пра жыццё беларускага сялянства («Мае ўспаміны», т. 1-2). Рукапісы Багдановіча захоўваюцца ў Інстытуце мовы і літаратуры НАН Беларусі. Сярод іх — нарыс «З мінулага мястэчка Халопенічы, многа матэрыялаў, у т. л. казкі, паданні, легенды, запісы ў Халопенічах ад бабкі Разаліі Казіміраўны Асмак. Пра сваё роднае мястэчка расказвае ў працах «Мае ўспаміны», «Пра паншчыну». У пасёлку сярэдняя школа носіць імя **Багдановіча Максіма**, імем паэта названа вуліца.

**Грышановіча Валерыя** (псеўд. Дзедаў Валерый, Баркоўскі-Дзедаў Валерый; 3.3.1947—20.5.2007), паэта, публіцыста, радзіма. Пісаў на рускай і беларускай мовах. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1973). З 1969 г. — на камсамольскай, з 1983 г. — на партыйнай рабоце. У 1987—1993 гг. — дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1968 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Стронцый у кроплі расы» (1990), паэм «Вока бездані» (1989), «“Пагоня” вяртаецца на Беларусь» (1992), «Беларусь, Хрыстос і маланка» (1993), «Святое прычасце» (1994), кінасцэнарыя (з М. Кацюшэнкам) «Хроніка знаходжання на Зямлі» пра лётчыка-касманаўта У. Кавалёнка (паст. 1980).

**Вёска Хацюхова**, цэнтр сельсавета

У мясцовай СШ 15.11.1979 г. быў адкрыты музей **Клімковіча Міхася**, пісьменніка, крытыка, ураджэнца в. *Сялітранка* Барысаўскага р-на. У 1917—1918 гг. ён настаўнічаў у вёсцы.

**Вёска Чарняўка** Бобрскага пассавета

**Камянецкага Гірша** (15.12.1895—25.4.1957, пахаваны ў Барысаве), яўрэйскага паэта, радзіма. Да 1916 г. вучыўся ў яўрэйскіх рэлігійных школах — хедэры і ешыбоце. Працаваў цырульнікам у Барысаве (1916—1919, 1921—1928). Служыў у Чырвонай Арміі (1919—1921). Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ (1928—1930). З 1930 г. на творчай рабоце. У 1937—1941 гг. — адказны сакратар яўрэйскай секцыі СП БССР. У Вялікую Айчынную вайну працаваў цырульнікам у г. Бугуруслан. Пасля вайны — рэдактар мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР (1948—1949). У 1950 г. быў незаконна асуджаны

да лагерных работ, да 1956 г. знаходзіўся ў лагерах Іркуцкай вобл. Рэабілітаваны і адноўлены ў правах члена Саюза пісьменнікаў у 1956 г. Друкаваўся з 1924 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Простай дарогай» (1933), «Заказ на маладосць» (1940), «Мацней за жалеза», «Вершы» (абодва 1948). У 1960 г. у перакладзе на беларускую мову выйшлі яго «Выбраныя вершы».

**Вёска Шынкі** Дзянісавіцкага сельсавета

**Макарэвіча Пятра** (н. 15.4.1938), паэта, радзіма. Скончыў Шынкоўскую сямігодку і Бобрскую СШ, у 1964 г. — Мінскі педагагічны інстытут імя Максіма Горкага. Загадваў раённай бібліятэкай у Лідзе (1964—1965), працаваў інструктарам райкама партыі (1965—1966), аперупаўнаважаным Лідскага аддзела КДБ (1966—1971), ст. апаратчыкам-лакаварам на лакафарбавым заводзе (1971—1972), супрацоўнікам газеты «Уперад» і на Лідскім радыё (1972—1998). Першы верш надрукаваў у 1962 г. у газеце «Знамя юности». Выпусціў зборнік вершаў «Слиток-Злітак» (1997).

**Пас. Язбы** Акцябрскага сельсавета

**Марозава Змітрака** (н. 2.1.1954), паэта, празаіка, публіцыста, радзіма. Бацька — саўгасны цясляр, маці — настаўніца. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1975). З 1979 г. на камсамольскай рабоце ў г. п. Бялынічы і ў Мінску. З 1986 г. у Дзяржаграпраме Беларусі. Друкуецца з 1976 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Пад небам бусліным» (1982), «Хлеб і памяць», «Хлебны верасень» (абодва 1988, за апошні — прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, 1988), «Ачышчэнне сяўбой» (1992), «Сын чалавечы» (1993), «Баліць душа па Беларусі» (1996), «Святло рамонкаў палявых» (1997), «Гронкі зорных суквеццяў» (2000), «Я ўсё часцей жадаю слухаць неба» (2002), «Вяртанне цішыні» (2006, рэспубліканская прэмія «Залаты купідон» за лепшую кнігу года) і інш. Аўтар зборнікаў вершаў для дзяцей «Азбука агранома Валошкі» (1989), «Пра гарох і буракі, бульбу, жыта, агуркі» (1995; 1999), «Агародніна» (1996), «Гэта праўда ці мана...» (1997), зборніка публіцыстычных нарысаў «І скажуць унукі» (1994). Аўтар першага ў еўрапейскай паэзіі вянка вянкоў санетаў — зборніка «Апакаліпсіс душы» (1991; 1997; рускі пераклад А. Цяўлоўскага — 2006).

## ЛАГОЙСКІ РАЁН

**Вуліцы Горкага Максіма, Купалы Янкі.**

**Вуліца Надзеі Харчанка, 3. Цэнтральная раённая бібліятэка**

У бібліятэцы збіраюцца кнігі пісьменнікаў-землякоў. Існуе аддзел краязнаўства.

**Вуліца Надзеі Харчанка, 3. Лагойскі гісторыка-краязнаўчы музей імя братоў Тышкевічаў.**

У тым жа будынку Лагойскага дома культуры адна з залаў прысвечана спадчыне Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў, вучоных і літаратараў. Маюцца іх кнігі.

**Вуліца Пралетарская, 7. Сярэдняя школа № 1**

У кастрычніку 1985 г. дзякуючы намаганням настаўніцы Веры Саўрыцкай у СШ № 1 быў створаны музей «Літаратурная Лагойшчына». Спецыяльныя раздзелы прысвечаны **Бядулю Змітраку, Гілевічу Нілу, Гілю Міколу, Каржанеўскай Галіне, Карпаву Уладзіміру, Купалу Янку, Нядзведскаму Уладзіславу, Пташнікаву Івану, Родзевічу Леапольду, Ядвігіну Ш.**

* * *

**Лагойскі музей старажытнасцей**

Адзін з першых у Беларусі гісторыка-археалагічных музеяў. Заснаваны ў 1842 г. братамі **Тышкевічамі Канстанцінам і Яўстафіем** у радавым маёнтку ў Лагойску. Размяшчаўся

ў іх двухпавярховым палацы. Яго аснову складалі археалагічныя знаходкі Тышкевічаў пры даследаванні курганоў, гарадзішчаў, замчышчаў Мінскай губерні. Паводле звестак П. Шпілеўскага, у калекцыі музея было тры тысячы кніг, з якіх каля 500 — помнікі айчыннага кнігадрукавання. Захоўваліся старажытныя рукапісы, карты. У 1855 г. на базе экспанатаў музея быў створаны Віленскі музей старажытнасцей. Палац быў спалены ў 1944 г. немцамі.

* * *

**Салавей Алесь** (сапр. Радзюк Альфрэд), паэт, ураджэнец в. *Крысава* Дзяржынскага р-на, з 1940 г. да пачатку вайны працаваў намеснікам адказнага рэдактара Лагойскай раённай газеты.

**Сматрыцкі Мялецій,** грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст, ураджэнец мяст. Смотрыч (цяпер Дунаявецкі р-н Хмяльніцкай вобл., Украіна), у пачатку XVII стагоддзя жыў і працаваў у Лагойску.

**Тышкевіча Канстанціна** (17.2.1806—13.7.1868), археолага, гісторыка, этнографа, фалькларыста, радзіма. Скончыў Віленскі ўніверсітэт (1828). У 1828—1831 гг. працаваў у міністэрстве фінансаў у Варшаве. Удзельнік вызваленчага паўстання 1830—1831 гг. З 1836 г. жыў у Лагойску. Даследаваў каля 200 курганоў і гарадзішчаў жалезнага веку, замчышчаў ранняга сярэднявечча ў Мінскай губерні. Вынікі даследаванняў публікаваў у польскім штотыднёвіку «Przyjaciel Ludu» («Сябра народа»), у газеце «Новое время», якую выдаваў у Пецярбургу ў 1868—1871 гг. А. Кіркор. Аўтар працы «Гістарычныя звесткі пра старажытныя замкі, гарадзішчы і курганы ў Літве і Літоўскай Русі», этнаграфічнага даследавання «Вілія і яе берагі» (1871).

**Тышкевіча Яўстафія** (18.4.1814—8.9.1873), археолага, гісторыка, этнографа, краязнаўца, музеязнаўца, радзіма. З 1824 г. вучыўся ў Віленскай гімназіі, затым перавёўся ў Мінскую гімназію, якую скончыў у 1831 г. Потым амаль два гады вучыўся самастойна, займаўся ў пецярбургскіх бібліятэках. З 1833 г. служыў у Ордэнскім капітуле канцыляры віленскага, потым кракаўскага генерал-губернатара. З 1840 г. ён — ганаровы апякун школ, маршалак шляхты Барысаўскага павета, на свае сродкі пабудаваў у Барысаве павятовае вучылішча; у 1848—1854 гг. — куратар Мінскай гімназіі. Праводзіў археалагічныя даследаванні. У 1842 г. выдаў кнігу «Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі...». У 1843 г. быў на стажыроўцы ў Даніі, Фінляндыі, Швецыі. Вынікам падарожжа стала кніга «Лісты пра Швецыю» (т. 1-2, 1846). Аўтар даследаванняў «Апісанне Барысаўскага павета...» (1847), «Узоры хатняга сумеснага жыцця ў Літве» (1844, дапрацаваны варыянт у 1864), «Археалагічныя даследаванні помнікаў мастацкіх рамёстваў і да т. п. у старажытнай Літве і Літоўскай Русі» (1850). З 1847 г. працаваў у Мінску як член камісіі па зборы і выданні старажытных актаў, грамат і прывілеяў XVI—XVIII стст. гарадоў Мінскай губерні. У 1855 г. арганізаваў і ўзначаліў Віленскую археалагічную камісію. У 1855 г. заснаваў прыватны музей у Вільні з часткі сваёй лагойскай калекцыі. Музей быў афіцыйна забаронены ў 1864 г. Пакінуў Вільню ў 1865 г. У канцы жыцця стварыў альбом «Магілы сямейства Тышкевічаў» (Вільня, 1873). З літаратурных твораў захаваліся вершы, стылізаваныя пад фальклор, аповесць «Наш край», успаміны пра В. Ваньковіча, Я. Рустэма, І. Ходзьку і інш. У рукапісах засталіся яго працы «Зельнік барысаўскіх ваколіц», «Матэрыялы да нашай гісторыі», асобныя матэрыялы па археалогіі, збор дакументаў і інш.

* * *

**Карпаў Уладзімір,** пісьменнік, ураджэнец г. Хвалынск Саратаўскай вобл. (Расія), у пасляваенныя гады настаўнічаў на Лагойшчыне.

**Мурашка Рыгор,** пісьменнік, ураджэнец в. Бязверхавічы Слуцкага р-на Мінскай вобл., загінуў у красавіку 1944 г. падчас прарыву нямецка-фашысцкай блакады партызан на Лагойшчыне.

**Фальварак Акопы** (не існуе, быў каля цяперашняй в. Жукаўка).

Брама з надпісам «Акопы». На лугавіне — адноўлены падмурак дома, будынкаў, калодзеж-журавель.

У канцы 1909 г. маці **Купалы Янкі** Бянігна Луцэвіч узяла ў арэнду Акопы, якія належалі памешчыцы Жалігоўскай. Пасля Кастрычніцкага перавароту фальварак перайшоў ва ўласнасць маці і сясцёр паэта. Ён часта прыязджаў сюды працаваць і адпачываць: у 1911 г. правёў тут канікулы, у чэрвені 1912 г. завяршыў камедыю Паўлінка», летам 1913 г. напісаў паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», п’есы «Прымакі», «Раскіданае гняздо». У Акопах Купала бываў таксама ў 1915, 1919, 1921 (завяршыў вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым»), 1922 (закончыў п’есу «Тутэйшыя») і 1926 гг. Усяго тут напісана больш за 80 вершаў.

Штуршком да стварэння шэрага яркіх вобразаў паслужылі мясцовыя прататыпы герояў: у «Паўлінцы» — Пранціся Пустарэвіча — Францішак Аблачынскі з Харужанцаў, Паўлінкі — Ядвіга Аўлачынская з засценка Рубеж, Сцяпана Крыніцкага — яе бацька Гіляры Аўлачынскі, Адольфа Быкоўскага — Павэлак Ваяводскі з Калдукоўкі, Якіма Сарокі — настаўнік Мечыслаў Багдановіч з хутара Верацейкі.

Сядзіба ў Акопах знаходзілася на пагорку, чатырма вокнамі і ганкам выходзіла на захад. Падворак з усходу пераходзіў адхон яра, за якім і цяпер можна ўбачыць вялізны валун (4 м у даўжыню, 3 м у шырыню, 1,5 м у вышыню), на якім, паводле легенды, любіў пісаць Купала. З Акопаў Купала хадзіў у суседнюю Карпілаўку да **Ядвігіна Ш.** Сюды прыязджалі да паэта **Грыневіч А., Колас Якуб, Бядуля Змітрок.**

Акопы праіснавалі аж да часоў калектывізацыі (1929).

**Купалы Янкі літаратурнага музея філіял «Акопы»**

Заснаваны 5.9.1989 г. Цэнтр у в. Харужанцы. Адкрыты 29.8.1992 г. Агульная плошча 6,64 га. Складаецца з літаратурна-мастацкай (в. Харужанцы) і мемарыяльнай (былы хутар Акопы) частак. Цяпер на месцы хутара засталіся толькі рэшткі падмуркаў і 2 скляпы, рэшткі калодзежа, некалькі старых дрэў, камень, на якім любіў адпачываць Купала. Да валуна ў 1982 г. прымацаваны мемарыяльны знак са словамі з верша «З кутка жаданняў»:

Песню стварыць ясну, як неба,
У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём —
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём.

У 2000 г. філіял «Акопы» стаў цэнтрам Рэспубліканскага ландшафтнага заказніка «Купалаўскі».

На падыходзе да музейнага будынка — скульптура «Малады Купала» (аўтары — А. Заспіцкі і Г. Мурамцаў).

**Дашкевіч Вячаслаў** прысвяціў фальварку верш «Акопы» (гл. яго кн.: Нашчадкі. — Мн., 1979, с. 258), **Емяльянаў Алесь** — «Акоп у Акопах» («Звязда». — 1988. — 24 ліпеня), **Лялько Хрысціна** — «З паездкі ў Акопы» («Звязда» — 1982. — 9 ліпеня).

Больш падрабязныя звесткі гл.: Бурбоўская Алена. Акопы — творчая калыска Янкі Купалы (Полымя, 2008. № 12). У артыкуле гаворыцца: «Акопы для Янкі Купалы — гэта як Міхайлаўскае для Пушкіна».

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***